# МАКСІМ ГАРЭЦКІ



Спадчына выдатнага беларускага пісьменніка, аднаго з пачынальнікаў беларускай мастацкай прозы, таленавітага вучонага і літаратурнага крытыка, збіральніка і прапагандыста вуснай народнай творчасці Максіма Гарэцкага трывала ўвайшла ў класічны фонд беларускай літаратуры.

*успаміны / артыкулы / дакумент*

«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»

ББК 83.3Бел7
Г20

Складальнікі
А. С. ЛІС і І. У. САЛАМЕВІЧ

Бібліяграфічны паказальнік і каментарыі
І. У. САЛАМЕВІЧА

Рэцэнзент
кандыдат філалагічных навук
Д. Я. БУГАЁЎ

## АД СКЛАДАЛЬНІКАЎ

Максім Гарэцкі ўвайшоў у літаратуру ўслед за Янкам Купалам і Якубам Коласам. Ён быў адным з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры. Ужо першы зборнік апавяданняў «Рунь», філасофска-публіцыстычныя эсэ «Наш тэатр», «Развагі і думкі», драматызаваная аповесць «Антон» сведчылі, што на духоўную ніву беларускага народа прыйшоў пісьменнік яркага мастацкага дару, чалавек, які глыбока разумеў высокую місію літаратуры ў жыцці і палітычным усведамленні народа. Менавіта гэты шырокі падыход, асаблівасць таленту, грамадзянскага тэмпераменту пісьменніка абумовілі шматграннасць дзейнасці М. Гарэцкага. Ён працуе як журналіст у газеце «Известия Смоленского Совета рабочих, солдатских и крестьянских депутатов», у рэдакцыі газеты «Звязда», сам рэдагуе ў Заходняй Беларусі, у Вільні, газеты «Наша думка» і «Беларускія ведамасці», займаецца педагагічнай працай, піша першую гісторыю беларускай літаратуры, складае хрэстаматыі, слоўнікі, збірае, публікуе і вывучае фальклор, выступае як крытык.

Эпоха вызваленчага руху, сацыялістычнай рэвалюцыі, імперыялістычнай і грамадзянскай войнаў фармавалі Максіма Гарэцкага як мастака эпічнага складу, з глыбокай увагай да чалавека, яго духоўнага свету. Даследуючы чалавека, народ, пісьменнік надае прынцыповае значэнне асэнсаванню гісторыі і з'яўляецца фактычна пачынальнікам гістарычнага жанру ў беларускай літаратуры. Майстар навелы, апавядання, ён стварае буйныя палотны: аповесць «Ціхая плынь», дакументальную кнігу «На імперыялістычнай вайне»,

драматычныя творы «Мутэрка», «Жартаўлівы Пісарэвіч», «Чырвоныя ружы», раман «Віленскія камунары» і «Камароўскую хроніку».

Безумоўна, творчасць М. Гарэцкага неабходна ўспрымаць у кантэксце таго няпростага часу, у якім ён жыў і працаваў. Аднак яна не толькі тагачасная, яна — вялікая мастацкая з'ява і цяперашняга часу, якая прыцягвае ўсё большую і большую ўвагу даследчыкаў беларускай літаратуры і чытачоў.

Так склаўся жыццёвы і творчы шлях Максіма Гарэцкага, што не ўся яшчэ спадчына яго сабрана і выдадзена, не створана навуковай біяграфіі пісьменніка. Кніга ўспамінаў, малавядомых твораў М. Гарэцкага, яго лістоў, якая прапануецца ўвазе чытача, мае на мэце садзейнічаць шырэйшаму пазнанню, паўнейшаму навуковаму асэнсаванню спадчыны класіка беларускай літаратуры, выдатнага савецкага пісьменніка.

# *Гаўрыла Гарэцкі*

## СЛОВА ПРА БРАТА І НАСТАЎНІКА [1]

### Успаміны пра брата



ой брат, Максім Гарэцкі, нарадзіўся 18 лютага (6 лютага старога стылю) 1893 года ў глухім кутку Беларусі — у маленькай, на 20 двароў, вёсцы Малая Багацькаўка (па-ранейшаму Меншая Багацькаўка) Мсціслаўскага павета, закінутай паміж дрымоткіх панскіх лясоў Цёмналессся, за 90 кіламетраў ад бліжэйшае чыгуначнае станцыі Орша.

Вялікая сялянская сям'я бацькі [2] і дзядзькі Якава [3] складалася з 12 душ, жыла ў адной цеснай хаце з замшэлай саламянай страхою, з земляною падлогаю і маленькімі акенцамі на адну шыбу. Асвятлялася хата лучынаю.

Жылі бедна, кожная луста хлеба, кожная лыжка былі на ўліку. Працавалі многа і цяжка. Часта хварэлі.

Але ў гэтай хаце маленькі Максімка быў на ўсё жыццё зачараваны дзівоснымі казкамі дзядзіны Хрысцёны [4], ціхімі песнямі сваёй матулі — Ахрасінні [5], у казках і песнях пазнаваў ён цяжкую гісторыю сацыяльна і нацыянальна прыняволенага беларускага народа.

Трэба было шукаць паратунку ад цёмнага, згрызотнага жыцця. Бацька з маладых гадоў пайшоў «у свет» — служыць панам Іванскім, а потым пану Цэкерту, у маёнтак Лонніцу, каля станцыі Краснóе, за 80 кіламетраў ад Смаленска, дзе і праслужыў звыш 30 гадоў кухарам.

Узяў бацька да сябе і Максіма, захацеў «вывесці ў людзі» і першага з усёй сям'і (старэйшы брат Іван [6]

і малодшы Парфір [7] далей пачатковай школы не вучыліся) аддаў у навуку, у Альшанскае[8] двухкласнае вучылішча.

Максім вучыўся выдатна, многа чытаў, пад уплывам свайго настаўніка Кцітарава палюбіў мастацкую літаратуру, навучыўся спяваць і добра іграць на скрыпцы.

На канікулы Максім заўсёды прыязджаў у Багацькаўку. Вось калі было свята і для Максіма, і для ўсіх родных, асабліва для яго меншых братоў ды сястрычкі Ганначкі [9]. Яшчэ раней да старой хаты прыбудавалі новую, светлую, хоць у ёй, для эканоміі апалу, жылі зрэдку. У гэтай хаце Максім натхнёна іграў сваім меншым на скрыпцы і дудках-жалейках ды апавядаў найцікавейшыя гісторыі-імправізацыі, часам такія страшныя, жудасныя, што малыя аж крычалі і хапаліся за апавядальніка. Можа, у гэтых імправізацыях і нараджаўся мастак слова.

У 1909 годзе Максім па вялікаму конкурсу паступіў у Горы-Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча, якое скончыў у 1913 годзе. Вучыўся на стыпендыю, жыў у інтэрнаце, дзе стварылася невялічкае вучнёўскае таварыства аматараў маладой беларускай літаратуры. Выпісвалі «Нашу ніву», захапляліся беларускім фальклорам, «Тарасам на Парнасе», творамі Францішка Багушэвіча, Янкі Лучыны, Цёткі, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі. Найбольш актыўныя ўдзельнікі таварыства друкавалі допісы і апавяданні ў «Нашай ніве» [10].

На канікулы Максім пехатою прыходзіў за 33 кіламетры ў родную Багацькаўку і памагаў у сельскагаспадарчай і хатняй працы, наведваў усіх родных і знаёмых, бываў на вечарынках, ігрышчах, вадзіў карагоды, запісваў народныя казкі, паданні, прыказкі, песні, цікавыя і рэдкія словы, гаманіў пра тагачаснае сялянскае жыццё. А было яно цяжкае, складанае і супярэчлівае. Рэвалюцыйны выбух 1905 года захапіў і багацькаўцаў. Сяляне пачалі секчы панскі лес, захопліваць панскую зямлю пад пашу, выцярэбліваць і засяваць лядыі. Курманаўскія [11] паны-абшарнікі, якія мелі звыш 5 тысяч дзесяцін зямлі, выклікалі казакоў, паставілі конную варту з бізунамі. На полі адбылася сапраўдная бойка, і сяляне з косамі і коламі прагналі казакоў і стражнікаў. Але стыхійны бунт быў заду-

шаны, прыйшла рэакцыя. Аграрна перанаселеная беларуская вёска кінулася ў высяленне на сібірскія лясныя прасторы і ў далёкую Амерыку, звыш мільёна з чвэрткаю чалавек пакінула родныя хаты. Многімі дзесяткамі тысяч пайшлі беларускія сяляне ў шахцёры, на земляныя работы, у сезонныя батракі, у лесарубы і плытагоны, на руднікі і фабрыкі, на чорную работу ў гарадах.

Паны пачалі прадаваць лес на суцэльнае высяканне, адбылося нечуванае драпежніцкае знішчэнне лясных багаццяў Беларусі. Аголеную ад лесу зямлю паны прадавалі маленькімі і буйнымі кавалкамі. Набыццё зямлі зрабілася запаветнай мэтай заможнага і сярэдняга сялянства. Каб здабыць грошы на куплю зямлі, селянін ішоў на жорсткую эксплуатацыю сям'і, на інтэнсіфікацыю сельскай гаспадаркі і павелічэнне яе таварнасці.

Класавае распластаванне беларускай вёскі павялічвалася: узрасталі групы кулакоў і бядняцтва за кошт змяншэння групы сярэдняга сялянства.

Гэтаму асабліва спрыяла сталыпінская сістэма землеўпарадкавання — хутарызацыя. Маленькія хутарскія гаспадаркі, у 2—3 гектары, занепадалі, і іх землі набывалі кулакі, а самі дробныя хутарцы рабіліся батракамі і выгнаннікамі. Такіх дробных і занялалых хутаркоў многа бачыў Максім па дарозе з Гопак у Багацькаўку, каля Лебедзева і Гор.

Сацыяльны прыгнёт беднага і значнай часткі сярэдняга сялянства Беларусі спалучаўся з нацыянальным. Беларуская мова была забаронена, з яе здзекаваліся паны, чыноўнікі, папы, гандляры, буржуазная інтэлігенцыя. Стыхійным носьбітам беларускай культуры рабілася бяднейшая частка сялянства і гарадскога насельніцтва.

Максім вельмі добра дэкламаваў нам вершы Янкі Купалы з «Жалейкі», «Гусляра» і «Шляхам жыцця», вершы Якуба Коласа са зборніка «Песні-жальбы», Цёткі — «Хрэст на свабоду». Гэта былі незабыўныя, самыя шчаслівыя гадзіны нашага жыцця.

Прыгадваю прагалінку ў светлым бярозавым гаі ля Багацькаўкі ў пачатку лета: усё поўна сонейкам, росквітам, дзеці заварожана слухаюць Максімава чытанне. Гучыць неўміручая музыка купалаўскіх і коласаўскіх слоў:

Грай, мая жалейка, пей, як салавейка!
Апявай нядолю, апявай няволю
І грымі свабодна, што жыве край родны!..

Край наш бедны, край наш родны!
Лес, балоты і пясок...
Чуць дзе крыху луг прыгодны...
Хвойнік, мох ды верасок.

Мой родны кут, як ты мне мілы,
Забыць цябе не маю сілы...

Паміж пустак, балот беларускай зямлі,
На ўзбярэжжы ракі шумнацечнай,
Дрэмле памятка дзён, што ў нябыт уцяклі,
Ўдзірванелы курган векавечны...

Гэтыя словы, вобразы, пачуцці заўладалі нашымі сэрцамі на ўсё жыццё.

Максім любіў рускую літаратуру: Пушкіна, Лермантава, Гогаля, Талстога, Дастаеўскага, Буніна. Вельмі падабаліся яму творы Шаўчэнкі, Кацюбінскага, Міцкевіча, Ажэшкі — ён чытаў іх у арыгіналах.

Багацькаўскі перыяд жыцця Максіма (1893—1913), гады дзяцінства і юнацтва, непасрэдна спалучаныя з жыццём і бытам беларускай дарэвалюцыйнай вёскі, вызначылі творчы шлях майго брата як пісьменніка на доўгі час.

Рэалістычныя малюнкі сялянскага жыцця, усяго глыбока перажытага, бачанага на ўласныя вочы, па-даны ў многіх творах і зборніках Максіма: «Рунь» (1914), «За што?» (1918), «Антон» (1919), «Досвіткі» (1926), «Ціхія песні» (1926), «Ціхая плынь» (1930) і іншыя.

У 1913 годзе Максіма накіравалі на працу каморнікам у Літву. Бываючы ў Вільні, Максім пазнаёміўся і пасябраваў з Янкам Купалам, Змітраком Бядулем [12], Лявонам Гмыраком [13].

У пачатку першай імперыялістычнай вайны Максім у арміі, пад Сталупененам яго параніла. Пасля лячэння ў віленскім шпіталі брат прыехаў у Багацькаўку. Колькі было радасці, доўгіх гамонак! Супрацьваенныя настроі Максіма адбіліся ў творах «За што?», «Літоўскі хутарок», «На імперыялістычнай вайне» і ў сцэнічным абразку «Жартаўлівы Пісарэвіч». Максім прадчуваў надыход рэвалюцыйных падзей, чакаў іх у бліжэйшы час. У падручніку па гісторыі Расіі, які быў у 1915 годзе ў нашай хаце (здаецца, Плато-

нава), у храналагічнай табліцы, якая змяшчалася ў канцы кнігі, пасля слоў «Мікалай II» брат напісаў: «1916 год. Рэвалюцыя».

Скончыўшы Паўлаўскае ваеннае вучылішча ў Петраградзе, Максім, ужо як прапаршчык, паехаў у Іркуцк на фарміраванне часці. Сібір, якая зрабілася другою радзімаю для соцень тысяч беларусаў, уразіла брата неабсяжнымі прасторамі, суровасцю і прыгажосцю, асабліва Прыбайкалля.

Вялікі Кастрычнік сяляне Цёмналесся, у тым ліку і багацькаўцы, адзначылі поўным знішчэннем ненавіснага котлішча курманаўскіх паноў-абшарнікаў. Полымем панскага палаца выбухнула стыхійная помста прыгнятальнікам.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі Максім адразу пайшоў на савецкую службу: рэквізоўваў у 1918 годзе лішкі кватэрнай плошчы ў буржуазіі ў Смаленску, быў супрацоўнікам газеты «Звязда», у рэдакцыі якой тады працаваў В. Кнорын [14] (з ім брат быў добра знаёмы).

Брат склаў і выдаў у Смаленску невялічкі руска-беларускі слоўнік *; я дапамагаў яму, працуючы ў той час стэнаграфістам абласнога Саўнаргаса.

У 1918 годзе ў Смаленску жыў Янка Купала. Максім досыць часта наведваў яго, беручы і мяне з сабою. Уладзіслава Францаўна [15] гасцінна нас частавала. Янка Купала і брат гутарылі пра беларускую літаратуру, пра мінулае Беларусі, разглядалі кнігі па гісторыі Смаленска і Мсціслаўля, нумізматычную калекцыю і кнігі па нумізматыцы. Частку сваёй калекцыі і некалькі кніг па нумізматыцы Купала падараваў нам.

Часам мы разам гулялі або гаспадары праводзілі нас. І Янка Купала, і цёця Уладзя, і Максім былі тады такія маладыя, прыгожыя, жыццярадасныя, жартаўлівыя! Якія далёкія ўжо часы!.. Чаму не застэнаграфаваў я ў той час гутаркі дарагіх людзей? А памяць не здольна ўжо аднавіць іх цяпер...

Актыўна працавалі ў 1918 годзе беларускія бальшавікі: Смаленск наведваў Алесь Чарвякоў [16], рыхтавалася вялікая гістарычная падзея — абвяшчэнне Беларускай Савецкай Рэспублікі.

---

* Браты М. і Г. Гарэцкія. Руска-беларускі слоўнік. Смаленск, 1918 г.

З пераездам рэдакцыі «Звязды» ў Вільню туды пераехаў у 1919 годзе і Максім. Пры раптоўным захопе Вільні белапольскім войскам брат не мог уцячы.

Максім пабраўся ў Вільні з пісьменніцай Леанілай Чарняўскай [17]. Працаваў настаўнікам у Беларускай гімназіі і ў рэдакцыі прагрэсіўнай газеты «Беларускія ведамасці» [18].

Асветніцкая дзейнасць не спыніла літаратурнай працы Максіма. Захапіла думка паказаць неўміручасць працоўных мас беларускага народа, іх мужнасць у часы самых жорсткіх гістарычных выпрабаванняў, няскоранасць іх пад жудасным уціскам паншчыны.

Тэматычная накіраванасць літаратурнай творчасці Максіма ў віленскі перыяд не была выпадковая: яна сцвярджала, што беларускі народ, перажыўшы жудасці прыгону, выйдзе пераможцам і ў змаганні з новай паншчынай, створанай на зямлі Заходняй Беларусі літоўскім буржуазным урадам і панска-фашысцкай пілсудчынай.

Улетку 1920 года па камандзіроўцы Народнага Камісарыята асветы РСФСР, за подпісам М. Пакроўскага [19], я павёз беларускую савецкую літаратуру ў Вільню. Вёз я поўны камплект газеты «Дзянніца» [20], якую рэдагаваў Цішка Гартны (Змітрок Жылуновіч) [21], брашуры «Павукі і мухі» [22], «Хто чым жыве» [23], кнігу «Курс беларусазнаўства» [24] і іншыя выданні.

Чыгункаю даехаў я да станцыі Солы, а далей рушыў у Вільню пехатою, несучы літаратуру на плячах у скрутку шыняля-паліто. Ішоў разам з двума вясковымі дзядкамі, мо таму і не затрымаў нас конны белалітоўскі патруль. А ўвечары я пастукаў у дзверы братавай кватэры ў доме, побач з якім змяшчалася Беларуская гімназія.

Прабыў я ў брата чатыры дні; ён паказаў мне прыгожы горад, поўны помнікаў мінуўшчыны, расказаў пра сваю працу і літаратурныя задумы.

З'явіўся ў Максіма намер напісаць хроніку адной сям'і, некалькіх яе пакаленняў, пачынаючы ад прыгону і да нашых дзён. У гісторыі гэтай сям'і сродкамі мастацкага слова павінны былі адлюстравацца асноўныя змены ўсяго ладу жыцця Беларусі, гаспадарчага, палітычнага, ідэалагічнага, культурнага, бытавога.

Жанр сямейнай хронікі дазваляў ахапіць вялікія прасторы і многія сацыяльныя з'явы на працягу доўгага часу, спалучыць гэтыя з'явы праз асабістае ўспрыманне аўтара хранікальных запісаў, надаць ім лірыка-псіхалагічную афарбоўку, асаблівую шчырасць.

Апавяданні з часоў паншчыны, напісаныя ў віленскі перыяд Максімавага жыцця, фактычна складалі першы падмурак сямейнай «Камароўскай хронікі», мадэллю іх з'яўляюцца і «Віленскія камунары», гісторыя Мацея Мышкі [25].

Максім і Леаніла Усцінаўна ўспаміналі пазней пра частыя пагромныя акцыі польскага і літоўскага буржуазных урадаў супраць беларускай працоўнай інтэлігенцыі (якую яны лічылі савецкай агентурай), пра арышт Максіма і зняволенне яго ў турме на Лукішках.

На ўскраіне Вільні стаялі тры вялікія крыжы з белага мармуру. Аднойчы, гуляючы з Максімам і Лёляю, калі людзей паблізу не было, я зрабіў алоўкам надпіс на сярэднім крыжы, на мове эсперанта і па-беларуску: «Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!», «Няхай жыве Савецкая Беларусь!»

Выйшаў я з Вільні пехатою, жнівеньскім ранкам. Сонейка залаціла маляўнічы горад і яго зялёныя ваколіцы, на далёкім небасхіле паўставалі сілуэты прыгожых узгоркаў. Максім правёў мяне далёка за горад. Развітанне было не сумнае: будучыня здавалася такой шчаслівою і для роднай краіны і для нас, так вабіла наперад, дзе столькі новага, цікавага. Максім падараваў мне сваю качарэжачку і доўга стаяў на ўзгорку, пакуль я не адышоў далёка па ашмянскай дарозе і не схаваўся з вачэй.

Не адчувалі мы, што чакае нас вялікае гора: 19 верасня 1922 года трагічна загінула ў Маскве, трапіўшы пад трамвай, наша любая, адзіная сястра Ганначка, дваццацігадовая студэнтка...

Зноў сустрэліся мы з Максімам у Мінску, куды брат пераехаў з сям'ёй ў 1923 годзе. Максім працаваў у Інстытуце беларускай культуры і на рабфаку Беларускага дзяржаўнага універсітэта, дзе выкладаў гісторыю беларускай літаратуры. У 1926—1928 гадах брат працаваў у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках загадчыкам кафедры беларускай мовы

і літаратуры, а потым да 1930 года ў Беларускай акадэміі навук старэйшым навуковым супрацоўнікам.

У мінска-горацкі перыяд Максімавага жыцця, калі так многа часу забірала выкладчыцкая і літаратуразнаўчая работа, не было спрыяльных умоў для яго літаратурнай творчасці.

Літаратуразнаўчая дзейнасць, перапрацоўка «Гісторыі беларускае літаратуры» (1924—1926), складанне літаратурна-крытычных аглядаў творчасці маладнякоўцаў і пісьменнікаў старэйшага пакалення павялічылі ў Максіма патрабавальнасць і да ўласных твораў. Брат перагледзеў значную частку сваіх ранніх твораў, перарабіў іх і выдаў у асобных кніжках: «Досвіткі» (1926), «Ціхія песні» (1926), «У чым яго крыўда?» (1926), «На імперыялістычнай вайне» (1926), «Жартаўлівы Пісарэвіч» (1928), «Ціхая плынь» (1930).

Час ад часу Максім наведваў сваіх старэнькіх бацькоў, родных і знаёмых у любай Багацькаўцы, і яны прыязджалі то ў Горкі, то ў Мінск. Наша маці ведала многа песень, мелодыі звыш 100 песень запісаў ад яе А. Ягораў, 20 песень — М. Аладаў [26], а словы 318 песень — Максім. Ён выдаў матчыны песні асобным зборнікам (1928) [27].

Увесь свой вольны час, якога мала аставалася пасля службовых заняткаў і літаратуразнаўчай працы, Максім прысвяціў збіранню матэрыялаў да «Камароўскай хронікі» і «Віленскіх камунараў». У якасці першакрыніц былі вусныя ўспаміны родных, успаміны старых багацькаўцаў, гісторыі многіх двароў-родаў Багацькаўкі, найбольш значныя падзеі ў Цёмналессі, шматлікія лісты за многія гады, уласныя ўспаміны.

Максім настолькі захапляўся збіраннем матэрыялаў да «Камароўскай хронікі», што зрабіў у 1926 годзе адмысловае падарожжа ў Сібір, бо туды вялі жыццёвыя шляхі некаторых герояў. З вялікай колькасці кароткіх апавяданняў сібірскага цыклу ў той час надрукавана было менш дзесяці. Але яны маюць важнае значэнне для гісторыі літаратурнай творчасці Максіма як кавалачкі будучай хранікальнай эпапеі.

З больш значных сваіх твораў ранняга часу Максім не перарабіў вялікай аповесці «Дзве душы» (1919).

У 1931 годзе брат вымушаны быў асесці на пяць гадоў у горадзе Кіраве (былой Вятцы).

Цяжкія гады, вялікія матэрыяльныя цяжкасці (з выпадковай працай не па спецыяльнасці) і маральная прыгнечанасць не скрушылі, аднак, Максімавага духу і не згасілі прагнасці да літаратурнай творчасці. Упарта працягвалася апрацоўка матэрыялаў да «Камароўскай хронікі», пісаўся раман «Віленскія камунары».

Вельмі шкадаваў брат, што не давялося яму пабачыць апошні раз пакутніцы-маці: памерла яна 4 сакавіка 1935 года.

У 1935 годзе Максім з сям'ёю пераехаў у горад Кіраў (былая Пясочня) цяпер Калужскай вобласці, бліжэй да Беларусі. Там працаваў выкладчыкам рускай літаратуры ў сярэдняй школе.

Прыехалі мы з жонкай у адведкі да брата ўвосень 1936 года. Гэта была асабліва светлая сустрэча. Разам былі мы на вучнёўскім вечары, і Максім нават танцаваў. Не забыліся мы наведаць і лазню кіраўскіх рабочых, з гарачай парай і бярозавым венікам, такую ж прыемную, як і лазня ў Багацькаўцы, некалі красамоўна апісаная Максімам («У лазні»). Максім жыў надзеяй вярнуцца на родную Беларусь.

У брата роілася многа думак пра стварэнне манументальнай «Камароўскай хронікі», пра яе будову, асноўныя раздзелы, пра галоўных герояў, перамогу творчага пачатку, пра апафеоз новага жыцця.

Максім памёр 20 сакавіка 1939 года.

## Некалькі малюнкаў з дзіцячага і юнацкага жыцця Максіма Гарэцкага [28]

Радзіма і ўвесь свет пачынаюцца для кожнага чалавека, асабліва пісьменніка, з роднае хаты, з роднага кутка,— ці то вёска, ці горад. Адгэтуль бяруць вытокі і «Дзяды» Адама Міцкевіча, і «Новая зямля» Я. Коласа, і раманы-апавяданні пра цімкаўцаў Кузьмы Чорнага, і «Птушкі і гнёзды» Янкі Брыля...

Адсюль мусіла выйсці і «Камароўская хроніка» Максіма Гарэцкага, вялікі раман-эпапея пра чатыры пакаленні беларускай вёскі.

Дык якая ж была хата, дзе нарадзіўся Максім, дзе прабеглі яго дзіцячыя гады? Пабудаваў яе дзед Кузьма на месцы сваёй курнай хаты з часоў прыгону. Падлога ў нашай хаце была земляная, халодная, няроўная. Пры ўваходзе налева — вялікая печ. Ад печы, усцяж левае сцяны, праз усю хату цягнуўся пол — суцэльныя нары, агульны сямейны ложак,— улюбёны прытулак для дзяцей. Над палом, амаль пад самай столлю, былі зроблены шырокія палаці, дзе спалі хлопцы і куды так любілі запаўзаць дзеткі, каб пагрэцца і пагалузаць.

Каля печы быў шырокі запечак, дзе сядзелі старэйшыя жанчыны, пралі, шылі, гаманілі ў доўгія вечары, а да іх туліліся дзеці. Гэта — сямейны клубны куток. Ад печы, амаль на ўзроўні палацей, праз усю хату была перакінута бэлька, курчына, якая здавалася малым вузенькай кладкай над бяздоннем, перапаўзці якую было найвялікшай спакусай і праявай геройскай смеласці.

У куце віселі цёмныя абразы, стаяў вялікі і адзіны стол, з доўгімі лаўкамі ўздоўж сцен.

Пад палом у познюю восень і ўзімку хаваліся ад халадоў ягняткі, цялёначак, парсючкі, а часам і авечкі, сяброўства з якімі было самай прыемнай пацехай для малечы.

У хаце было тры невялікіх акны, з аднымі рамамі і мутнаватымі шыбамі. Самае вясёлае акно было ў левай сцяне, над палом, бо ў яго найчасцей свяціла сонейка, і тады ад акна ішлі сонечныя сцяжынкі, у якіх мітусіліся, штурхаліся, беглі навыперадкі мільёны пылінак. Дзеткі любілі трапляць на гэтыя сонечныя сцяжынкі, якія, здавалася, бягуць да самага сонца, у далёкае неба, лавіць залатыя пылінкі маленькімі ручаняткамі.

У халодных сенцах была невялічкая баковачка-чуланчык, дзе стаяла маміна скрыня, поўная таямнічай прывабнасці,— мама зрэдку дазваляла дзецям зазірнуць у гэтую скрыню і тады частавала цукеркамі, якія купляла па сем штук на капейку.

Знадворку хата наша здавалася зачараваным палацам, дзякуючы маляўнічай замшэлай страсе. Мох на страсе быў густа-зялёны, роўны, аксамітны, нейкі ўрачысты. Узімку хата заносілася снегам пад самыя вокны.

Многа спазнаў Максім у гэтай хаце людской гаркаты і радасці, сапраўднага дзіцячага і юнацкага шчасця. Успамінаю такія малюнкі.

Зіма. Максім прыехаў з Вольшы на каляды. Мама сядзіць на палку, ля акна, праз якое прабіваецца струменьчык сонца. Мама, маладая, прыгожая, шые і пяе. На запечку сядзіць дзядзіна Хрысцёна і прадзе. Максім, Парфір, Ганначка і я прымасціліся каля мамы, слухаем яе песні, нам так добра...

А потым пачынаюцца доўгія гамонкі. Максім распытваецца ў мамы пра ўсіх родных, пра ўсе багацькаўскія сем'і, іх гісторыю, пра прыгон і падзеі пасля прыгону, пра панскіх казакоў і стражнікаў, бойкі з імі, падзеі 1905 г.

Зімовыя дні кароткія. І вось ужо вечар. На запечку сядзяць мама і дзядзіна Хрысцёна, прадуць. На палку каля іх уладкаваліся Максім, Ганначка, Парфір і я. Дзядзіна Хрысцёна расказвае нам казкі, адна цікавей за другую. А мама пяе песні, пераважна сумныя, але і весялейшыя. Многа прыгожых песень ведала мама. Гарыць лучына, устаўленая ў светач. Бегаюць па сухой лучынцы вясёлыя зайчыкі агню, адвальваюцца адгарэлыя кавалкі лучынкі на земляную падлогу і ў адмыслова падстаўлены цэбар, шыпяць у вадзе, кадзяць.

Парфір старанна сочыць за агнём, каб спрытна ўставіць у светач новую лучынку замест дагарэлай.

І ўзрастае шчасце ў дзіцячых істотах ад матчынай і дзядзінавай ласкі, ад пазнання свету, ад гарэзлівага агеньчыка на лучынках, ад крышталёвай паэзіі беларускіх песень і казак.

У Максіма была вельмі добрая музычная памяць; ад мамы ён пераняў многія песні. І казак многа запомніў Максім. Любіў Максім выдумляць нешта сваё, імправізаваць. Часта расказваў ён нам, меншым, казкі, страшныя апавяданні, пераважна выдуманыя самім. Слухалі мы старэйшага брата з найвялікшай цікавасцю, ды часта нам надта страшна рабілася, асабліва Ганначцы. Тады мы туліліся да Максіма, каб абараніў нас ад усяго страшнага і злога.

Сангвінічны характар Максіма праяўляўся і ў тыя гады, калі быў ён яшчэ хлопчыкам 11—12 гадоў. Лічыўся ён слухмяным, ціхім, ды і быў такім, але часам

пачынаў выраблянца, гарэзіць, лазіць на руках па курчыне галавою ўніз, дражніцца з малымі, крыху злосна жартаваць.

Аднак і тады, як і праз усё жыццё, Максім умеў утаймаваць сябе, суцішыць раптоўныя палкія парыванні, супакоіцца... Успамінаюцца і такія малюнкі, з больш позняга часу, калі Максім быў ужо юнаком, вучыўся ў Горы-Горацкім каморніцка-агранамічным вучылішчы. На калядныя вакацыі Максім дабіраўся да хаты пехатою або прыязджаў на санях, прывосячы з сабой весялосць, радасць і шчасце для ўсёй сям'і. Максіма ўсе мы вельмі любілі, асабліва мама.

Любілі Максіма і аднавяскоўцы. У навейшай хаце збіралася ў нас багацькаўская моладзь, дзяўчаты і хлопцы.

Гулялі ў розныя гульні, вадзілі карагод. Максім часта сам вёў карагод, стоячы наперадзе з чапялою ў руках і стукаючы ёю аб падлогу, запяваючы карагодныя песні.

Гамонкі Максіма з мамаю былі доўгія, ласкавыя, задушэўныя. Цяпер Максім пачаў запісваць маміны песні і казкі, а таксама апавяданні пра жыццё родных і знаёмых. Часта чытаў ён маме і нам, меншым, вершы Янкі Купалы, Якуба Коласа, газету «Наша ніва», свае першыя беларускія допісы.

Максім часта іграў на скрыпцы і дудках-жалейках, хараша іграў. З вялікім захапленнем слухала ўся сям'я, асабліва мама, як пела і галасіла Максімава скрыпка.

Максім паказваў нам рэвалюцыйныя ілюстраваныя выданні 1904—1906 гадоў, чырвонае і чорнае, з карыкатурамі на цара, міністраў, генералаў, якіх білі японцы ў Манчжурыі. Максім з нянавісцю ставіўся да царскіх чыноўнікаў-русіфікатараў, чарнасоценцаў, паноў-абшарнікаў, папоў; не хадзіў у царкву, быў атэістам.

Максім наведваў у часы прыезду на вакацыі свайго дзядзьку Якава (Тужыка), сям'я якога аддзялілася і жыла ў новай хаце на другім баку вуліцы. Максім «жалеў і любіў старых — дзядзьку, і дзядзіну, і цётку, і Тарасу *— сіраце спачуваў. У Адаркі ма-

---

* Прататыпы: Тараса — Панас, Адаркі — Гапка, Палуты — Праскоўя, Лявона — Максім.

ленькія дзеці ўміралі, і ўсё ля палка люлька вісела з хворым дзіцянём. Адарка кашляла і курыла.

[...] А цётка Палута тулялася ля печы, ля парога, як і ўсё сваё жыццё. Тукалі на яе... Толькі пры Лявоне не тукалі. Хворая яна была» («Камароўская хроніка», стар. 116).

Наведваў Максім сем'і многіх багацькаўцаў, распытваў пра жыццё, паглядаў і запомніў многа чаго на доўгія гады.

Дык не дзіва, што амаль праз дваццаць год, у далёкай ад Багацькаўкі Вятцы, Максім пісаў «Камароўскую хроніку» з выключнай дакументальнай дакладнасцю, шчырай праўдай.

Сама манера апавядання ў «Камароўскай хроніцы» нагадвае просты расказ мамы, дзядзіны Хрысцёны, звычайнага багацькаўца. За гэтай прастатой хаваецца вялікае веданне жыцця, праўда яго, як у «Баркулабаўскім летапісе», які так любіў Максім.

Уся творчасць Максіма жывілася здаровымі, роднымі карэннямі, якія ішлі з саміх глыбінь жыцця, з дзіцячых і юнацкіх уражанняў пісьменніка.

## Сацыяльны аптымізм Максіма Гарэцкага [29]

Мінулася 34 гады з часу смерці майго брата Максіма і толькі 10 год з часу выдрукавання ў часопісе «Полымя» рамана-хронікі «Віленскія камунары».

З часу выдання «Віленскіх камунараў» [30] пачалася паласа больш шырокага прызнання Максіма Гарэцкага як пісьменніка, як бы з'яўленне яго нанова ў беларускай літаратуры, быццам другое нараджэнне.

Хачу выказаць некалькі меркаванняў пра самую істотную асаблівасць жыцця і творчасці Максіма — пра яго сацыяльны аптымізм.

Мой брат Максім пражыў нядоўгае,— толькі 46 год,— складанае і нялёгкае жыццё.

І ўсё ж Максім пераадолеў усе перашкоды, мужна перамог усе выпрабаванні лёсу, захаваў вялікую працаздольнасць: напісаў «Віленскія камунары», упарадкаваў матэрыялы да велічнай эпапеі — «Камароўскай хронікі».

У чым была прычына такой нязломнасці характару і духу, такога нязгаснага сацыяльнага аптымізму, такой непараўнальнай жыццяздольнасці?

Прычына гэта — тыя родныя карэнні творчасці Максіма, што глыбока ідуць у перадрэвалюцыйнае мінулае беларускага народа, якое наглядаў мой брат у свае маладыя гады, пра якое чуў ад старэйшых.

Гэта перш-наперш жудаснае жыццё бяспраўнага беларускага селяніна ў часы прыгоннай залежнасці, прыгону, мастацкаму адлюстраванню якога Максім прысвяціў нямала апавяданняў.

Потым гэта — не менш жудаснае жыццё беларускай вёскі пры капіталізме, ад прыгону да рэвалюцыі. Максім сам перажыў і бачыў на ўласныя вочы ўсе праявы «ідыятызму вясковага жыцця», самыя дзікія формы сацыяльнага і нацыянальнага прыгнечання Беларусі самаўладным царызмам, жорсткія праявы класавай барацьбы, жахі і знішчэнні імперыялістычнай вайны, пакуты соцень тысяч уцекачоў-бежанцаў.

Сацыяльны аптымізм майго брата нараджаўся ў гэты час ад усведамлення нетрываласці існаваўшага палітычнага ладу, непазбежнасці і набліжэння рэвалюцыі, якая павінна прынесці беларускаму народу сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, адраджэнне беларускай культуры. Сацыяльны аптымізм Максіма жывіўся непарыўнай сувяззю яго з простым народам, глыбокім дэмакратызмам і гуманізмам.

Максім бачыў у простым, непісьменным працаўніку беларускай вёскі перш-наперш чалавека, з яго цяжкай працай, поўнай не толькі фізічнага стамлення, але і творчай радасці, чалавека, які мае свой светапогляд, сваю вусную культуру, захаваную ў роднай мове, у песнях, казках, апавяданнях, прыказках, танцах, звычаях, вопратцы, мастацкіх вырабах, матэрыяльнай культуры, архітэктуры і інш. Фальклор для Максіма быў шырэйшым за этнаграфію; у беларускім фальклоры змяшчалася ўся беларуская гісторыя і культура, доказы неўміручасці беларускай нацыі, крыніца маладой беларускай літаратуры.

Мой брат быў пэвен, што праз рэвалюцыю прыгнечаныя масы беларускага народа прыйдуць да новага шчаслівага жыцця. Адлюстраваць у літаратуры складаны шлях беларускага народа і яго інтэлігенцыі ад прыгону да Вялікага Кастрычніка было запаветнай марай Максіма.

У апошнія гады жыцця брата гэта мара перарасла ў палкае жаданне дапісаць вялікі раман-хроніку пра

жыццё некалькіх пакаленняў беларускага народа. А жыццёвыя ўмовы былі такія неспрыяльныя. Трэба было спяшацца. А каб хоць часткова здзейсніць сваю велічную літаратурную задуму, Максім напісаў «Віленскія камунары» як бы мадэль задуманага раманаэпапеі. Толькі вялікі сацыяльны аптымізм, непахісная вера ў новае жыццё, у светлую будучыню дапамаглі Максіму гераічна выканаць у найцяжэйшых умовах свой святы абавязак перад Радзімай.

# *Галіна Гарэцкая*

## НАША СЯМ'Я [31]
## 1919—1923 гг.



ругі віленскі перыяд жыцця бацькі майго Максіма Гарэцкага прыпадае на 1919—1923 гады. Як сказана ў яго «Працоўным спіску» [32], да 19 красавіка 1919 г. быў ён у Вільні супрацоўнікам газеты «Звезда», а праз месяцы два, улетку, стаў выкладчыкам беларускай мовы і літаратуры ў 1-й Віленскай беларускай гімназіі і адначасова на настаўніцкіх курсах. Працаваў і ў Беларускай школьнай радзе.

Яшчэ ў пачатку 1919 года, хутка пасля прыезду ў Вільню, пачуў бацька, што настаўніца Леаніла Чарняўская рыхтуе да друку сваю першую чытанку «Родны край», прыйшоў пазнаёміцца. Маці ўспаміхала, як насіў ён потым ёй ружы, не зважаючы на тое, што пасвіствалі на вуліцы і ў яе двары кулі. У той неспакойны ў Вільні час абвянчаліся яны 16 ліпеня 1919 г. у віленскім Прачысценскім саборы. Пасля шлюбу бацька перайшоў з Базыльянскіх муроў, дзе жыў, на кватэру жонкі, у дом, што прымыкаў да будынка беларускай гімназіі на Вастрабрамскай вуліцы (цяпер Максіма Горкага).

Многа працавалі. Маці выкладала ў пачатковых класах беларускай гімназіі, рыхтавала адну за другой чытанкі «Родны край» для 1—4 гадоў навучання. У 1919 годзе надрукавалі яе зборнічак «Дзяціныя гульні», а першае апавяданне «Мікітка» — у 1921 г.[33] Бацька спалучаў выкладчыцкую працу з літаратурнай і выдавецкай. У 1919—1923 гадах выходзяць яго «Гісторыя беларускае літаратуры», «Хрэстаматыя беларускае літаратуры. XI век — 1905 г.», аповесць

«Дзве душы», драматызаваная аповесць «Антон», п'еса «Мутэрка», напісаны і часткова надрукаваны больш трыццаці апавяданняў і драматычных абразкоў. Быў ён рэдактарам і выдаўцом газеты «Беларускія ведамасці» (1921—1922). Выдаў у 1921 годзе «Дэкламатар» — літаратурны і гістарычны матэрыял з «Беларускіх ведамасцяў». Збіраў звесткі пра віленскіх камунараў.

Усё жыццё бацька занатоўваў цікавыя яму гамонкі, успаміны родных і знаёмых, зберагаў лісты, дзённікавыя запісы. З ваенных часоў была ў яго прадаўгаватая скрынка, трохі больш за паўметра даўжыні, сантыметраў трыццаць пяць шырыні і з паўметра вышыні, абітая шэрага колеру матэрыяй, з тоўстымі дном і сценкамі, з тоўстым плоскім вечкам. У ёй трымаў свае рукапісы, перапіску, некаторыя каштоўныя кніжкі, дзённік і падручнікі трагічна загінуўшай сястры яго Ганны, прыгожа вышыты з абодвух канцоў чырваначорнымі кветкамі ручнік яе і іншыя дарагія яму рэчы. З цягам часу жыццёвыя абставіны прымушалі зберагаць толькі самыя патрэбныя яму запісы. Рабіў кароткія выпіскі, выразкі з ранейшых рукапісаў, лістоў. Засталіся і такія вузенькія кавалачкі паперы, дзе ўсяго па некалькі радкоў, накшталт: «1926. Чачот памёр 1846 (у маёй кнізе — 1847). Сказаў мне гэта прафесар Галомбак[34], на тэй падставе, што бачыў яго надгробак». Ці ад пазнейшага часу:

«Ты — сасуд мнагацэнны, што скарбы таямнічыя ў сабе змяшчае...

Спяшайся перахаваць іх навекі, пакуль сасуд не разбіўся,— спяшайся, блазенны!

Ведай важнае і няважнае. Мерай разумна і бязлітасна меры цела свайго».

І ў канцы гэтага невялічкага лісточка: «Друкавальная машынка будзе табе тукаць аглушліва ўвушшу, а ты ўдода пачуеш у лесе, як скрозь далёкі-далёкі шум і туман».

1922 год быў памятны сям'і нашай: праследаваўся белапольскімі ўладамі бацька (сядзеў у турме на Лукішках, потым выслалі ў Коўна, жыў нейкі час у Дзвінску), памерла ў Маскве адзіная сястра яго Ганна (ёй прысвеціць «Хрэстаматыю беларускае літаратуры»: «Яе дарагому вобразу як памятку на магілку

ў чужыне»). Ад цяжкіх дзён арышту застаўся на памяць шматок грубай абгортачнай паперы, на ім нашкрабана нечым вострым некалькі слоў, у канцы: «Падаў пракурору просьбу, каб скарэй дапрос». Перадатчыца ў Лукішскай турме панна Кастуся папярэдзіла маму па-польску: «Паглядзіце, ці ўсё ў парадку Вам вярнулі». Знайшлася гэтая запіска.

У Дзвінску бацька выкладаў на Беларускіх настаўніцкіх курсах. Напісаў там драматычныя сцэнкі: «Чырвоныя ружы», «Не адной веры», «Свецкі чалавек», «Салдат і яго жонка», «Каменацёс» і іншыя творы. Вярнуўся ў Вільню ў ліпені 1922 года, пачаў клапаціцца, каб выехаць з сям'ёю ў Савецкі Саюз.

Была ў 1922 годзе і радасная падзея: 15 ліпеня нарадзіўся брат мой Лёня, (я — 13 сакавіка 1921 года). Бацькі мае былі атэістамі, але, мусіць, па тых віленскіх парадках трэба было і вянчацца і дзяцей хрысціць. Хроснай маці Лёні стала Алена Кірылаўна Сакалова-Лекант [35], настаўніца беларускай гімназіі, добрая сяброўка мамы.

Часам жыла з намі ў Вільні Эмілія Антонаўна, мая бабуля з боку маці. Ведаю, што дапамагала яна бацькам маім гадаваць дзяцей, падтрымлівала сям'ю нашу дарамі з вёскі. Памерла Эмілія Антонаўна ў 1928 годзе ад катара кішок. А дзед мой, Усцін Усцінавіч Чарняўскі, памёр яшчэ ў 1912 годзе ад рака лёгкіх.

У кастрычніку 1923 года выехаў бацька з сям'ёю на сваю радзіму, а маці назаўсёды развіталася з роднымі сваімі, паехала за ім без надзеі вярнуцца. Рассталіся з віленскімі сябрамі: з сям'ёю Рака-Міхайлоўскага [36], Браніславам Тарашкевічам [37]; з добрымі знаёмымі: адвакатам Урублеўскім [38], мастаком Язэпам Драздовічам [39].

## Мінск. 1923—1925 гг.

У канцы кастрычніка 1923 года пасяліліся мы ў Мінску на Савецкай вуліцы насупраць гарадскога сквера. Жылі ў невялікай камунальнай кватэры на трэцім паверсе. Два пакоі мелі. Бацьку было трыццаць гадоў, маме — крыху меней (нарадзілася 16 лістапада 1893 года). За сцяною нашага меншага пакоя жылі настаўнікі Пратасевічы з дзвюма малымі

дачушкамі. Абедзве сям'і пасябравалі. Аднойчы дзяўчынкі Пратасевічаў запэўнілі мяне, што яны і ўсе навокал — людзі, а я лялька, купленая ў магазіне, і спружынкі ўнутры ёсць. Пабегла ад іх, устрывожаная, да мамы. У нас нікога не аказалася. Стаяла, прыклаўшы ручкі да рэбраў, баялася адчуць спружынкі. Супакоілася ад не зусім яшчэ зразумелага малой адчування роднасці з бацькамі і развагі, што я ўсё ж сапраўдная дачка. Калі б так не папалохалася тады, пэўна, ад гэтага ўзросту нічога ў памяці не засталося б.

Другі ўспамін: падвечар трывожна загудзелі за акном адзін за другім гудкі, на вуліцы пуста, злева ў скверы чамусьці палохае мяне шэрая вадакачка. Гудкі ўсё не змаўкаюць... Агляпулася ад акна ў большым пакоі: мама, высокая і тонкая, стаіць засмучаная каля белай кафельнай печы. Сказала мне, што хаваюць Леніна...

Бацька ў той сумны дзень ехаў дамоў з Віцебска, прачытаў там некалькі лекцый па фальклору. У Мінску выкладаў ён беларускую мову і літаратуру на рабфаку БДУ, у Камуністычным універсітэце БССР (з верасня 1925 года да студзеня 1926 года як асноўная праца) і нейкі час у ветэрынарным тэхнікуме. Многа, як і заўсёды, працаваў. Апрача выкладання, выконваў яшчэ ў 1925 годзе абавязкі навуковага сакратара Літаратурнай камісіі Інбелкульта (да 10.VI. 1925 г.), адначасова быў яго праўдзейным членам. Рыхтаваў да перавыдання «Гісторыю беларускае літаратуры». Апрацоўваў дзённікавыя запісы ваенных гадоў для выдання кніжкі «На імперыялістычнай вайне» і другія рукапісы. Збіраў матэрыял для будучых сваіх твораў — «Віленскіх камунараў» і «Камароўскай хронікі».

Прыязджала да нас у госці Ефрасіння Міхайлаўна, бацькава маці, любая наша баба багацькаўская. У канцы лістапада 1923 года вазіў яе тата мой у Маскву паведаць магілу сястры яго Ганны. У «Камароўскай хроніцы» на старонцы 315: «Сустрэлі іх на вакзале Лаўрык і Дубок. Першы ўбачыў іх Дубок і ўгадаў, хоць ніколі раней не бачыў». Бацька яшчэ ў Вільні «хросным» Дубка (Уладзіміра Дубоўкі) стаў: дапамог выдаць у 1923 годзе першы зборнік — «Строму».

У пачатку лютага 1925 года кампазітар М. Аладаў запісаў ад Ефрасінні Міхайлаўны мелодыі дваццаці народных песень. Выбраў найбольш яму цікавыя: «А ў катле медзяное дно», «А ў горадзе на рынку п'ець худоба гарэлку», «Няма міру ўдовінаму сыну», «Ай харошае дзераўца свідзіна», «Як прыехаў джанджура» і інш., а ў канцы 1925 года сто дваццаць шэсць з праспяваных ёю песень паклаў на ноты А. Ягараў. І мая маці многім песням ад свекрыві навучылася, добры голас мела — лірычнае сапрана. А. Ягараў прапанаваў ёй паехаць у турнэ па Беларусі выконваць беларускія песні, але яна не захацела, дый бацька,— казала маці,— не дужа згаджаўся.

У Мінску маці працягвала працу над перакладамі з рускай на беларускую мову, пісала свае творы. Яшчэ ў Вільні пераклала яна для «Роднага краю» (3—4 гады навучання) урыўкі з некаторых твораў Гаршына, Серафімовіча, Чэхава, Маміна-Сібірака, Тургенева, Караленкі, а з польскай мовы — «Рэха» Э. Ажэшкі, з французскай — «Астатнюю лекцыю» А. Дадэ. Праз многа-многа год Уладзіслава Францаўна, жонка Янкі Купалы, падаруе маёй маці адно з перавыданняў гэтай чытанкі «Родны край» (за 1927 год), а ў нас папросіць сваю, як сказала, найлепшую фатаграфію, падараваную бацьку майму 16 сакавіка 1918 года ў Смаленску.

Прыходзілі да бацькоў Змітрок Бядуля, Янка Купала, Алесь Якімовіч [40], Уладзімір Дубоўка [41]. Чула аб гэтым ад маці. Яна ж расказвала, як у лістападаўскі вечар 1923 года прыйшоў да нас упершыню Якуб Колас, пазнаёміўся з мамай, запрасіў яе і бацьку ў тэатр на «Машэку» Е. Міровіча [42].

Прыязджалі родныя з Малой Багацькаўкі, Слаўнава [43]. Помню, як збіралася да фатографа Ефрасіння Міхайлаўна. Фатограф зрабіў тады, у 1925 годзе, вельмі харошы яе партрэт (змесцілі потым у зборніку «Народныя песні» пад рэдакцыяй М. Гарэцкага і А. Ягарава).

## Горкі. 1926—1928 гг.

З першага лютага 1926 года бацька стаў загадчыкам кафедры беларускай мовы і літаратуры ў сельскагаспадарчай акадэміі ў горадзе Горкі Аршанскай акругі.

Наш драўляны дом, двухпавярховы, жаўтаваты, стаяў каля хімічнага корпуса акадэміі, бліжэй к дарозе, за якой спускаўся луг да рэчкі. Высокі ганак у бок дарогі, многа прыступак. Сем добрых кватэр было, з вялікімі кухнямі, водаправодам. Унізе жылі Мышкіны, Макаравы, Лайковы, Кісляковы. Уверсе — Гарэцкія, Шкатэлавы [44], Колакалавы. Малыя дзеці былі толькі ў нашай сям'і. Бацькі строга наказвалі, каб не перашкаджалі нікому, асабліва калі ўнізе, пад намі, доўга хварэў прафесар-фізік Мышкін. Я ўсё ж, ад вялікай цікаўнасці, пабывала ва ўсіх кватэрах, нават у строгага прафесара-хіміка У. В. Шкатэлава, і ўсюды мела да сябе, малой, ласкавую ўвагу, асабліва ў Надзеі Георгіеўны Кісляковай, да якой хадзіла не раз. Добра запомніла з тых часоў і Гаўрука Юрыя Паўлавіча [45], бо ён, як і Якуб Колас, любіў прыносіць дзецям цацкі, кніжкі.

За рэчкай — дэндралагічны парк. Сюды тата хадзіў з дзецьмі. Гаманіў, паказваў што цікавае, частаваліся кісленькай заячай капустай. Пасадзіць Лёню трыці мяне на карак (а высока ад зямлі!), загадае: «Трымайся за вушы!» Ды яшчэ пабяжыць, а сам трымае моцна за ногі. А маці любіла вадзіць нас да невялікага возера за грачыным гаем. Яна радзілася ў азёрным Віцебскім краі каля Докшыц.

У трохпакаёвай кватэры нашай заўсёды, як і ў Мінску, гасцяваў хто-небудзь з радні. Прыязджалі з Малой Багацькаўкі, Слаўнава, Шумякіна [46]. Бацька дапамагаў усім, чым мог. Пасылаў у Малую Багацькаўку грошы бацькам, братам: на пабудову хаты, на куплю каня, малатарні, хатніх рэчаў і іншыя справы. Часта бывала ў нас Ефрасіння Міхайлаўна. Распытваў у яе тата пра іх род у сяле Слаўнае. Крэпкімі былі продкі. Бацькаў дзед Кузьма Гарэцкі пражыў сто гадоў, французскую вайну добра памятаў. А слаўнаўскі яго прапрадзед, былы прыгонны пастух, памёр на сто пятнаццатым годзе жыцця.

У зборніку «Народныя песні», што выйшаў у 1928 годзе з тым добрым мінскім партрэтам Ефрасінні Міхайлаўны, змешчаны болей трохсот запісаных ад яе народных песень. Так складзены зборнік, што паўстаюць, як жывыя, Ганначка, Мар'ічка (Марютычка), Хадоска, Маланка, Васілька і многа другіх людзей (каля сарака імён), бацькі іх і злыя мачыхі,

братухны і сястрыцы, кумы і кумачкі. Жыццё людское за многія гады адбілася ў гэтых песнях. Уяўляеш, і як «прыміж гумён, прыміж гародаў рана свет засвітаіць...» і як «кукавала зязюля ў садочку, прыклаўшы галоўку к лісточку...».

Многа прыйшлося папрацаваць бацьку, каб перадаць уласцівае для яго родных мясцін вымаўленне слоў:

Ны рыцэ, рыцэ вуцяніца плувець,
Вышы берігa галовычку нясець...
Пры мяне младу бісславіца ідзець,
Быццым молыда любіла каго...

Увайшлі ў зборнік дванаццаць дзіцячых песень. Любіла Ефрасіння Міхайлаўна пяяць песні «Сіўкаваронка, дылі-гойда!», «А было ў бабкі чатыры валы». Падабаліся дзецям валы: «рябы напашыць на гряды», «чорны накуець жорны», «буры намоніць куры», а «лысы намыіць місы». Амаль усе дзіцячыя песні з гэтага зборніка пяяла нам і маці. Казак цікавых наслухаліся мы з Лёнем у дзяцінстве. Тата яшчэ і купляў кніжкі казак рускіх, беларускіх ці з іншых моў перакладзеных.

У Горках прасіла мяне Ефрасіння Міхайлаўна, каб чытала ёй некаторыя старонкі з «Выпісаў з беларускае літаратуры». Яна і дзед мой Іван Кузьміч былі непісьменныя. Я толькі-толькі чытаць навучылася, старалася. Чытала «Аб Галубінай кнізе», «Пра святую Барбару» і інш. Баба ўважліва слухала. Хадзіла яна ў царкву, пасцілася. Але бацька лічыў,— казала мне маці мая,— што моц духоўную ў цяжкім жыцці прыдавала Ефрасінні Міхайлаўне не вера ў бога, а паэтычнасць яе душы, веданне столькіх песень, народных абрадаў, здольнасць адчуваць хараство іх і хараство прыроды.

Яшчэ ўспамін: таксама ў Горках чытае тата мне, хворай, апавяданне Шолама-Алейхема [47] «Ножык». Нейкія людзі ў пакоі разам са мною слухаюць. Чытаў з захапленнем, па-майстэрску. Потым у сям'і нашай, калі хто хварэў, любілі паўтараць з «Ножыка»: «Он чихнул семь раз и восстал из мертвых». Некаторыя творы Шолама-Алейхема ўголас чытаў і пазней. Любіў апавяданне «Немец», смяяўся, чытаючы. Узяў з яго словы для эпіграфа да 12-га раздзела 2-й часткі «Віленскіх камунараў».

Запомніліся Горкі мноствам кветак. Адзін раз хадзілі з бацькам туды, дзе было іх цэлае мора, чырвона-барвовае (пэўна, вопытны ўчастак сельскагаспадарчай акадэміі). Каля дома нашага, як выйсці, ад ганка справа і далей за дом — вялікі кветнік быў. Луг насупраць дома бываў ружовы ад маргарытак, і ў летні ясны ранак я ўлоўлівала ў паветры над імі ледзь чутную дзівосную музыку. Можа, гэта праз расчыненыя вокны ў прафесара Мышкіна даносілася мелодыя ад радыёпрыёмніка? Тата таксама меў чатырохлямпавы прыёмнік, але той стаяў у пакоі з вокнамі на двор і хімкорпус.

У 1926 годзе ў час летняга адпачынку паехаў бацька ў Сібір і на Далёкі Усход пазнаёміцца з жыццём беларусаў-перасяленцаў. У архіве яго засталіся ад паездак у Сібір (1916, 1926) цесна спісаныя кавалачкі паперы, выразкі з газет, дзе друкаваліся некаторыя апавяданні з сібірскага цыкла, выразкі з часопіса «Беларускі піянер» № 11 за 1928 год з апавяданнем «Малы рызыкант». На ўсіх тэкстах папраўкі, пераробкі. Невядома, як скампанаваў бы ўсё, калі б паспеў падрыхтаваць кніжку пад назвай «Сібірскія абразкі». Склалі потым мы з маці гэтыя тэксты па геаграфічным прызнаку: ад Масквы да Благавешчанска і назад.

Захавалася выразка з газеты «Красноярский рабочий» за 4/VII 1926 года — «Живой музей». Зацікавіўся бацька, хоць, мусіць, аднёсся скептычна да «сообщения», што ў глыбокай тайзе знайшлося «городище», дзе «бояре» і іншыя жыхары жылі, як і трыста гадоў назад, не мелі сувязі са знешнім светам.

Вярнуўся тата з Сібіры цяжка хворы, з моцнымі болямі ў жываце. Доктар у Горках дапамог: залячыў апендыцыт. І маці даглядам сваім выхадзіла.

14—21 лістапада 1926 года быў бацька ў Мінску, выступаў на Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе правапісу і азбукі з дакладам «Нашаніўскі перыяд у беларускай літаратуры». Сказаў коратка і пра паслякастрычніцкі перыяд.

У красавіку 1927 года наведаў Горкі Якуб Колас. У акадэмічным клубе была яму добрая сустрэча. На адной з вечарын спяяла мама Якубу Коласу дзве песні: «Не жаніўся я» і «Зара мая вячэрняя». Прыемна было ёй успомніць праз многа год аб гэтым.

Жанчыны, што бывалі ў нас і сфатаграфаваліся разам з Якубам Коласам у той яго прыезд, любілі спяваць.

Казала маці, што спявалі, займаючыся вышываннем ці якім іншым рукадзеллем. Мама надзвычайна добра вышывала. Умела стварыць на палатне кветкі ці што іншае з найпрыгажэйшымі, тонкімі адценнямі. Хадзілі ў вышытым ёю адзенні дарослыя і дзеці, яе вышыўкі ўпрыгожвалі кватэру. І кветкі дужа любіла, знала, як вырошчваць іх. Не толькі каля дома, а і ў кожным пакоі нашым былі на вокнах кветкі. Некаторыя «засыналі» на ноч, складвалі лісточкі. Мы з Лёпем усё цікавалі гэты міг. Пішу такое, бо і бацька ж на ўсё гэта глядзеў, песні тыя слухаў і, можа, успамінаў потым...

Запомніўся мітынг у Верхнім парку ў памяць Сака і Ванцэці [48], якія загінулі 23 жніўня 1927 года. Прыцішаныя, стаім побач з бацькам, адчуваем трывогу і сум дарослых.

Вось ідзём з татам на першамайскую дэманстрацыю. Дзень хмурны, але зазелянела навокал, і можна пажаваць лісточкі барбарысу. Гамонім з бацькам аб усім, што ў галаву дзіцячую прыходзіць.

Улетку 1928 года вырашыў бацька палячыцца ў Крыме, набрацца сілы. Свой дарожны і крымскі дзённік пазней, у Вятцы, знішчыў. Выпісаў з яго толькі некаторыя занатоўкі. Імёны, прозвішчы, геаграфічныя назвы замяніў выдуманымі. Рэктара Смаленскага універсітэта называе Энеідзкім, бо той «казаў, што даводзіцца блізкай раднёю аўтару балотнае «Энеіды» і мае аб ім матэрыялы». Не было паперы, дык парэзаў на чатыры часткі машынапісныя лісты ад ранейшых твораў, выйшла восемдзесят дзве старoначкі. Назву даў «Кіпарысы», дату пакінуў старую — 1928 год.

Па дарозе ў Крым спыніўся бацька спачатку ў Смаленску. Быў у музеі, наведаў рэктара Смаленскага універсітэта, схадзіў на старую кватэру, дзе жыў дзесяць год назад, выпадкова аказаўся на вечары выпускнікоў педфака. Шукаў радню аднаго этнографа (называе Калматым) ці хоць тых, хто ведаў вучонага пры жыцці. «Пайшоў па тых адрасах, па вуліцах і завулках...» Так пачаўся адпачынак.

Далей — Масква. Сустрэчы з Уладзімірам Дубоўкам. Ён працаваў у беларускім прадстаўніцтве. Сфатаграфаваліся яны разам. З гэтай карткі зроблена фотакопія для рускага выдання «Віленскіх камунараў». Такім тата і ў жыцці тады быў: маладжавы, добры твар.

На магіле сястры Ганны пабыў. На фотакартачцы відзён надпіс на левай грані каменя-помніка: «Студэнтка Ганна Гарэцкая з Малой Багацькаўкі на Мсціслаўшчыне. 11.9.1902 — 19.9.1922».

Прабыў у Маскве дні тры. У трамваі «едучы, дзівіўся на горад, яго чыстату, шматлюднасць і шум». У тэатры паглядзеў «Дні Былых» («Дні Турбіных»)[49], заўважыў, што і беларускі тэатр меў бы ў Маскве значны поспех.

Доктару паказаўся. Кніжак накупіў, у тым ліку і па радыё, паслаў іх у Пячуркі (Горкі). Чытаць у дарозе пакінуў «Жыццё ў кветках» А. Франса[50] і «Вучня» П. Буржэ[51].

У Харкаве папрацаваў некалькі дзён у бібліятэцы ў пошуках цікавага яму матэрыялу. Украінскія пісьменнікі гасцінна аднесліся да бацькі.

У Крыме імкнуўся пабыць усюды, як можна болей убачыць, на ўсё паглядзецца. Спадабалася Севастопальская панарама. У Геркуланум, на раскопкі, з'ездзіць не ўдалося.

Гледзячы на сінюю бухту, пра Максіма Багдановіча думаў: «Божа мой, усё ж, як, пэўна, сумаваў ён, паміраючы. І ніякая зязюля шэрая не закукуе яму сумным гукам у бары...» Магілу яго наведаў. «Вее вецер з-за гор, з балота. На магілцы маладзенькі кіпарысік боўтаецца, калыхаецца дзесяць убогіх каласкоў жыта (васілёчкаў няма) і шэсць кусцікаў касаціка...» «Я пасядзеў, мімаволі слёзы выступілі на вачох. І ні красак, нічога не прынёс я яму».

Хутка па доме, па рабоце пісьменніцкай сваёй занудзіўся: «Працу гэтую ўсё больш люблю, усё больш цаню і ўвесь бліжэйшы час хачу аддаць ёй...»

З многімі людзьмі пагаманіў у гэтым падарожжы. Усе яны: мужчыны і жанчыны, дзеці,— змесціліся свабодна ў яго невялікім дзённіку. Усе ў руху, у кожнага свае турботы, перажыванні. У Крыме, у пансіёне, доктар-хірург апавядаў бацьку пра сваё жыццё.

Мора бацьку спадабалася: «I плылі мы па дзіўнай сіні,— сіняй, вольнай, светлай. Як лёгка, як добра, як прыемна!».

Вярнуўся дамоў, мусіць, у пачатку жніўня.

У час нашага жыцця ў Горках выйшлі ў свет асобнымі кніжкамі бацькавы «Ціхія песні», «Досвіткі», «На імперыялістычнай вайне», «У чым яго крыўда?», у «Маладняку» № 4 за 1928 год — артыкул «Беларуская літаратура пасля «Нашае Нівы» (Агульны агляд)», «Маладняку» № 6 за 1928 год — драматычны абразок «Не адной веры» і артыкул «Колькі слоў аб творах і мове М. Лынькова», у «Аршанскім маладняку» № 7 за 1928 год — «Хоцімка» (з цыкла «Сібірскія абразкі») і артыкул «Бядуля пасля Кастрычніка. Гісторыка-літаратурныя нататкі» і інш.

Выйшаў у 1928 годзе асобнай кніжачкай «Жартаўлівы Пісарэвіч». Бацька,— знаю ад маці,— вельмі любіў гэты твор. Ёсць у Пісарэвіча і яго рысы: вялікае разуменне людзей, дабрата, цярплівасць, здольнасць жартаваць нават у сумныя, цяжкія хвіліны жыцця.

Надрукаваны былі творы маці: «Бяздзетуха» (Маладняк, 1926, № 6), «Веснавыя хмаркі» (Чырвоны сейбіт, 1928, № 3), апавяданне «Петручок» (Беларускі піянер, 1927, № 3—4), кніжачка «Варка» (1928); пераклад з рускага тэксту кніг «Бупт Моці-Гёджа» Р. Кіплінга [52] (1927), «Гісторыя аднаго мядзведзя» Сетана-Томпсана [53] (з цудоўнымі малюнкамі мастака Г. Змудзінскага [54], 1927). Удваіх з бацькам працавала яна ў Горках над перакладамі твораў Уладзіміра Ільіча Леніна і кнігі Е. Яраслаўскага [55] «Падручнік для антырэлігійных рабочых гурткоў».

З цікавых падзей хацелася б адзначыць гастролі артыстаў БДТ-1. Яны ж і ў нас дома гасцявалі. Але мала што помню. Засталася падараваная бацьку артыстам Уладзімірам Язэпавічам Уладамірскім [56] фотакартачка, дзе ён у ролі Блазна з «Каваля-Ваяводы» Е. Міровіча. Датавана: «4.V.1928 год. Горкі».

## Мінск. 1928—1932 гг.

К першаму верасню 1928 года вярнуліся мы ў Мінск. На Шпітальнай вуліцы зняў бацька ў гаспадара Гольцмана палову невялікага дома, з асобным

уваходам. У двары, каля нашага і гаспадарова ганкаў, раслі высокімі купамі розных колераў вяргіні. Глухая сцяна нашай кватэры амаль прымыкала да агароджы саду, дзе ў сярэдзіне стаяў дом, у якім з сям'ёю жыў паэт і вучоны Міхайла Грамыка [57]. У садзе дазвалялася падоўгу нюхаць, прыгнуўшыся да зямлі, пармскія фіялкі, што раслі там-сям пад дрэвамі, а на пясчанай пляцоўцы каля дома дарослыя часам гулялі ў кракет. З высокага старога каштана, што рос за агароджай, шпокаліся і к нам зялёныя калючыя плады, і з іх вылузваліся прыгожыя каштанчыкі.

Бацька меў цяпер асобны пакойчык-кабінет. Як увайсці, насупраць дзвярэй, на ўсю сцяну паліцы з кнігамі. Злева, у другой сценцы,— акно на двор. Стол пісьмовы перад ім. На стале на высокай ножцы лямпа электрычная ў шырокім зялёным шкляным каўпаку і круглая пляскатая чарніліца. Каля супрацьлеглай ад акна сценкі — карычневая канапа з драўлянай рамкай ля спінкі. Над ёю на сцяне нейкі час была тканая рашотачкай посцілка з блакітных і светла-сініх стружак, тонкіх і вузкіх. Між канапай і дзвярыма, у кутку, печка кафельная крыху выступала. Адзін раз, нядоўга, вісеў каля яе, у бок дзвярэй, невялікі звязак тканых паясоў з кутасамі. У кожнага пояса (сантыметраў шэсць-сем шырыні) свой прыгожы ўзор і свой колер з багатымі адценнямі. Тата любіў тканыя паясы (успамінаецца яго апавяданне «Паясок» з «Сібірскіх абразкоў»).

Купляў бацька кнігі. Цікавіўся старадаўнімі. Маці ўспаміналa, што ў Вільні ён прыносіў чытаць дамоў «Літоўскі статут», «Ай-Кітаб» і іншыя рэдкія выданні.

Частку кніг з Вільні прывезлі, многа набралася за першыя гады жыцця ў Мінску, потым у Горках. На паліцах добрыя выданні тоўстых аднатомнікаў Пушкіна, Гогаля, Лермантава, кнігі А. Міцкевіча (на польскай мове «Дзяды», «Пан Тадэвуш»), Шолама-Алейхема, М. Горкага, беларускіх пісьменнікаў. Былі з даравальнымі надпісамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, маладых пісьменнікаў, былі падараваныя ўкраінцамі. З заходніх — творы Гётэ [58], Гейнэ [59], А. Франса, Г. Флабэра [60], А. Дацэ [61], Марка Твэна [62], «Тыль Уленшпігель» Шарля дэ Кастэра [63],

добрае выданне «Дэкамерона» Бакачыо[64], «Каспар Гаўзер» Якаба Васармана[65] і многа іншых. Сярод зборнікаў казак асабліва прыгожым было выданне «Армянскіх казак». Захаваліся цікавыя «Сказки и рассказы белоруссов-полешуков» Сержпутоўскага[66], 1911 год. Унізе на паліцах — тамы Савецкай Энцыклапедыі, розныя часопісы. Гэта тое, што я добра помню, бо чытала ці разглядала і пазней. Казала маці, што былі і Дастаеўскі, Караленка, Леў Талстой, Чэхаў, Шэкспір... Былі, вядома, кніжкі для дзяцей, на беларускай і рускай мовах.

Тут, у пакойчыку, чытаў свае творы Якуб Колас. Помню маладых Адама Бабарэку[67], Уладзіміра Дубоўку. Прыязджалі аднойчы ўкраінскія пісьменнікі.

Бацька і Якуб Колас былі ў шчырых адносінах, хадзілі адзін да другога ў госці, чыталі свае творы, даравалі кніжкі. Сяброўскія адносіны былі ў бацькі з Уладзімірам Дубоўкам, у Горках — з Юркам Гаўруком.

Любіў бацька моладзь пісьменніцкую. Максім Лужанін[68] успамінае ў лісце да нас 15.I.63 года: «Ніколі не забуду, што ён ні разу не прайшоў паўз мяне не павітаўшыся. Не! Спыніцца і абавязкова падхваліць (каб падахвоціць) і павучыць».

З тымі, нямногімі, хто не падабаўся яму, бацька ніякіх адносін не меў. Да апошніх дзён гэтай рысе свайго характару не здрадзіў. Людзей шанаваў, добра адносіўся да ўсіх, з кім прыходзілася жыць, працаваць, сустракацца.

Любіў дзяцей. З якой любасцю піша ў «Кіпарысах»: «Плаваюць у чаўнах па моры піянеры ў белым і пяюць дружную песню, вясёлыя, жывыя». Дзяцей у яго творах многа. Іх шкадаваў, да іх прыглядаўся, любіў пачаставаць. У Малую Багацькаўку заўсёды прывозіў цукеркі для вясковых дзяцей. («Быўшы ў Камароўцы я хадзіў з малымі дзецьмі ў лес, у расцяробы. Дзяўчаткі пяялі мне песні. Грызлі лазу, шукаючы, якая адсачала на дудку».— Камароўская хроніка, 1928, с. 338).

У Мінску на Шпітальнай быў бацька яшчэ вельмі жартаўлівым. Як прыводзіў у парадак вокны, што выходзілі на вуліцу, падпяразваў мамін фартух і павязваў на галаву вялікімі рожкамі пад падбародкам яе хустку ў буйныя чырвоныя кветкі. Няхай людзі

думаюць, што гэта маладзіца! Я і Лёня аж клаліся каля яго ад смеху, бо ўсё жартаваў з намі.

У 1928—1930 гг. вучылася я ў 1—2 класах у маладога настаўніка Мікалая Мікалаевіча Пігулеўскага, потым вядомага опернага спевака. Школа была на Савецкай вуліцы, недалёка ад моста праз Свіслач (дзе цяперашняя вуліца Янкі Купалы). Лёня пайшоў у падрыхтоўчы клас у другую школу, вучыўся ў жонкі М. М. Пігулеўскага. Мама ў абедзвюх школах была ў бацькоўскім камітэце.

Педалогія тады ўсё яшчэ набірала моцы. Павінен быў настаўнік вадзіць нас у педалагічны кабінет, дзе правяраліся нашы здольнасці і маральныя якасці. У першы ж прыход загадала мне важная цёця-педолаг выбраць, добра падумаўшы, з некалькіх паказаных карцінак адну. Вельмі зацікавіла тая, дзе хлопец з дзяўчынай цалуюцца, аднак я ўжо разумела, што лепей назваць малюнак, на якім дзяўчынка дапамагае матцы мыць бялізну. Мае сяброўкі-аднакласніцы разважылі гэтаксама.

Тата часам садзіў мяне за свой пісьмовы стол практыкавацца ў чыстапісанні. Разумеў, што мне тут не сядзіцца, стараўся падвесяліць. Адзін раз увайшоў з часопісам у руцэ, чытаючы ўголас з «Песні пра Гаявату» Лангфела[69]. З насалодаю чытаў. Пазней вучыў, як трэба падціснуць ніжнюю губу, каб голас стаў зусім, як у старэнькай бабулькі. Трэба было пры чытанні песню перадаць — пяяў.

У 1928 годзе 2 кастрычніка бацька быў прызначаны вучоным спецыялістам інстытута навуковай мовы Інбелкульта. У студзені 1929 года пасля рэарганізацыі Інбелкульта ў Беларускую акадэмію навук пакінулі яго на той жа самай пасадзе. У 1928 годзе выйшла яго кніжка «Маладняк» за пяць гадоў. 1923—1928». У 1929 годзе працаваў ён над цыклам апавяданняў «Люстрадзён» (апавяданне «Напад белагвардзейцаў» надрукавана ў «Маладняку», кніга І, студзень 1930 г.).

30 лістапада 1929 года — «здаў «Антона». Падрыхтаваў у новай рэдакцыі, друкаваць адмовіліся.

Кожнае лета адзін ці з сям'ёю бываў бацька ў Малой Багацькаўцы. Гасцяваў у бацькоў сваіх, што жылі з сям'ёю брата яго Парфіра. На другой вуліцы той жа вёскі жыў старэйшы яго брат Іван з жонкай

і шасцю дзяцьмі (Іван Іванавіч Гарэцкі памёр у 1939 годзе ў Ленінградзе). Наведваў бацька родных у Большай Багацькаўцы (у «Камароўскай хроніцы» — Палянка), у Слаўнаве (Харошае), Галалобаўцы (Лысалогава), Шумякіне (Калюжнае).

Працаваў ён у гэтыя гады над перакладамі: «Разгром» А. Фадзеева, «Тыдзень», «Камісары» Ю. Лібядзінскага[70], кніжкай апавяданняў Максіма Горкага («Зброднік. Канавалаў. Чалкаш»).

Цікавая даведка захавалася ад 11 чэрвеня 1930 года. Сведчыць бацька, што жонка яго Леаніла Чарняўская прымала сталы ўдзел у сумеснай літаратурнай рабоце з ім «як у тэхнічнай часці (перапіска, падчытка і да т. п.), так і ў стыльрэдакцыі тых перакладных і арыгінальных прац і пераробак для Белдзяржвыдавецтва, якімі я займаўся на даму (слоўнікі, хрэстаматыі, «Падручнік для антырэлігійных рабочых гурткоў» пад рэд. Яраслаўскага, «У нетрах Усурыйскага краю» Арсеньева[71], «Маладняк» за пяць гадоў» М. Гарэцкага і інш.)».

У 1929 годзе выйшла кніжачка Леанілы Чарняўскай «Кот Знайдзён». Падрыхтавала да друку апавяданні для дарослых: «Валуй, камісар часоў Керантчыны», «Падарожніца», «Папова батрачка».

Радаваўся бацька ўсяму новаму ў сацыялістычным будаўніцтве. 28 жніўня 1927 года паставіў ён у сваёй хаце першае радыё ў Малой Багацькаўцы. Слухалі многія вяскоўцы, па чарзе, праз навушнікі. Увосень 1929 года ўволю пакатаў нас тата на першым у Мінску трамваі.

А жыццё наша станавілася неспакойным. У «Камароўскай хронікі»: «Я маляваў бацькам светлыя вобразы жыцця ў калгасах. Бацька казаў задумліва і ўхільна: «Як людзі, так і мы». І запытаўся ў мяне: «А што гэта пра цябе ў газетах пісалі? Людзі казалі: «Во ўжо і Батура папаўся». «Ды так, гэта нічога... Самакрытыка» (с. 355).

Улетку 1930 года Гольцман прадаў некаму дом. 13 чэрвеня 1930 года пераехалі мы на Заслаўскую вуліцу ў дом № 5 на Людаманце (потым быў пад № 7, а ў 1974 годзе яго зруйнавалі, і месца гэтае пакуль што прыкрылася пустазеллем). У тое лета тата лячыўся ў Еўпаторыі, жыў там на вуліцы Пляханава ў санаторыі «Джаліта».

Ехаў з Крыма бацька, марыў хадзіць з сынам купацца. Вярнуўся к 15 ліпеня, дню нараджэння Лёні. Хадзіў па справах у Дом пісьменніка. Мяне, як часта бывала, з сабою ўзяў. Там настойліва папрасілі ўдакладніць новы адрас (як дабрацца ў тэрміновым выпадку). А праз некалькі дзён давялося нам развітацца з бацькам.

Якуб Колас, даведаўшыся ад мамы ў 1931 годзе, што бацька наш паедзе на пяць гадоў у горад Вятку, стараўся суцяшаць, наведваў нас. Прыходзілі жонка яго Марыя Дзмітрыеўна [72] і брат яе Аляксандр Дзмітрыевіч, Ванда Лёсік (Лявіцкая) [73], Надзея Георгіеўна Кіслякова (яе сям'я таксама пераехала з Горак у Мінск), Дамініка Іванаўна Пратасевіч, Васіль Шашалевіч [74]. Бываў дзядзька наш Парфір (ён вучыўся тады ў Мінску), забягала праведаць, пачаставаць дзяцей бацькава зямлячка Маня Іваноўская [75] (яна працавала на фабрыцы «Камунарка», мела дабавачны «салодкі» паёк, дзялілася ім з намі). Прывёз аднойчы добрыя гасцінцы з вёскі наш дзядзька Іван, хоць і ў самога былі малыя дзеці.

У выдавецтве не адвярнуліся ад маці Янка Маўр [76], Алесь Якімовіч, Міхась Лынькоў [77], Алесь Пальчэўскі [78]. У Мінску яна, хоць і ўладкавалася спачатку лабаранткай, а потым статыстыкам, творчай працы не пакідала. Мела пераклады, пісала сама. У 1930 годзе надрукавалі асобнай кніжкай яе «Андрэйку», у 1932 — «Перамогу» і зборнік «Лявонка», у 1933 — «Сталёвага каня». Выйшлі ў 1930 годзе асобнымі кніжачкамі апавяданні яе для дарослых: «Валуй, камісар часоў Керанщчыны», «Бяздзетуха», «Падарожніца», зборнік «Апавяданні» («Папова батрачка», «Веснавыя хмаркі»). З 1929 года была маці сталай супрацоўніцай часопіса «Іскры Ільіча», а перакладчыцай у Белдзяржвыдавецтве яшчэ з 1925 года.

Пісала ў Вятку мама: «Кланяецца табе Жыта і ўсе краскі палявыя». Жыта — Якуб Колас. Канстанцін Міхайлавіч прыносіў нам яблыкі з свайго саду, чытаў маме «Адшчапенца».

Першы ліст з Вяткі бацька прыслаў нам улетку 1931 года. «25/VI—31 г. 17 1/2 гадзін. ...Пішу на пошце, кватэры яшчэ не маю». А ў адзіным, амаль

поўнасцю перакрэсленым і выкінутым ім (маці захавала) чарнавіку «Лявоніуса Задумекуса» напіша: «І выйдзеш ты з муру на сонца, на вольнае паветра, на ясны свет. Зялёныя дрэвы зашумяць табе лесам. Прыгожыя кветкі зацвітуць табе лугам. Ступіш ты крокаў пяць. І раптам усміхнешся... Гэта — рэфлекс. Так і птушка, калі вылеціць на волю, дык сядзе на першым суку і цілікне ад радасці, як дурная. Не дзівіся смеху радасці, блазенны! Не называй яго дурным». Бацька так і не вернецца да «Лявоніуса Задумекуса». Пасля душэўнага разладу (заняцца толькі тэхнікай, пакінуць літаратуру?) ён ужо ў восень 1931 года пачне пісаць «Віленскіх камунараў». Марыць напісаць «Камароўскую хроніку». Маці паступова перасылала яму рукапісныя матэрыялы да гэтых твораў. «Будзеш на выспе Патмос — і палягчэе табе...» — скажа бацька. Выспай Патмос называў ён творчасць. «Выспа Патмос сэрца мацуе...» — казаў.

У Вятцы працаваў бацька спачатку землякопам. Будавалі вялікі стадыён. Некаторы час капаў і вазіў пясок на пабудове лазні ў другім канцы горада. З 17 жніўня 1931 года ён стаў чарцёжнікам на ФУПе (фабрика учебных пособий). З 1 сакавіка 1932 года пачаў працаваць там тэхнікам-каштарыснікам.

Улетку 1931 года маці ездзіла ў Вятку пабачыцца з бацькам. Лёня і я былі ў Малой Багацькаўцы, грэліся там каля сваіх дзеда і бабы.

У 1931—1932 гг. гадавала мама яшчэ і старэйшага сына Гаўрылы Іванавіча (дзядзькі нашага) — Славіка [79]. Утрох хадзілі мы ў школу на Ракаўку. Лёня, хоць і меншы, самы спакойны быў, любіў маляваць, майстраваць што-небудзь. З дадаткаў да «Мурзилки» зрабіў аўтамабільчыкі. «Чытаў Нёманскага «Над кручаю», бо ўсе дзіцячыя кніжкі перачытаў»,— адзначыць бацька. Пісаў бацьку лісты ў Вятку, пасылаў малюнкі. А тата рупіўся: «Ты, Лёня, мусіць, і цяпер увесь вольны час праседжваеш над малюнкамі? Раю табе болей гуляць, яшчэ паспееш навучыцца маляваць. Ліст твой напісан добра і цікава. Толькі дужа кароценькі. Пішы мне болей, пра ўсё. Пішы, як умееш. Як думаеш і гаворыш, так і пішы,— і будзе добра. Але не прымушай сябе, а як

захочаш — напішы» (ліст ад 16.12.31 г.). Уцешна было бацьку, што вучыліся мы старанна. І прэміі мелі, і на чырвонай дошцы былі, і ўдарнікамі. Лёня і далей вельмі добра вучыўся, а я няроўна.

Лёня смелым хлапчуком быў. З ліста маці да бацькі: «І ён ездзіў з высокай гары на лыжах, аж дух замірае».

Дом наш на Заслаўскай стаяў сярод садоў, агародаў. Гаспадар Шпілеўскі жыў недалёка ў другім, таксама ўласным доме, а гэты пабудаваў для старэйшай дачкі і спачатку ўвесь здаваў нам. За домам нашым у канцы вялікага гаспадаровага агарода была сінагога, наўскоса праз вуліцу, за які квартал управа,— мячэць. Жылі на Людаманце татары беларускія, яўрэі, беларусы, палякі. Лёня сябраваў з пляменніцай гаспадароў малой Манюсяй. Яна гаварыла толькі па-польску. Не помню, каб сярод знаёмых дзяцей хто каго зняважаў ці крыўдзіў. Гулялі ўлетку ў «Казакоў-разбойнікаў», у «чырвоных» і «белых». Мелі драўляныя шаблі. Лукі рабілі і стрэлы з калчанамі, вучыліся страляць метка. Елі-жавалі смалу з вішань і чарэшань. Лёня на Свіслач хадзіў рыбак бутэлькай лавіць.

Бацька адмаўляў сабе ва ўсім і пасылаў з Вяткі грошы нам і бацькам у вёску, хоць мама і прасіла не трывожыцца за нас. Заўсёды, усё жыццё мае бацька і маці абмяжоўвалі свой уласны дабрабыт, дзяліліся, чым маглі, з другімі, бескарысліва і шчодра. Было гэта іх адметнай рысай. Ды яшчэ была заўсёдная гатоўнасць прыйсці на дапамогу другому чалавеку, зрабіць людзям дабро, і ў значным, і ў дробязях.

Колькі сілы мела маці! Хадзіла на працу, пісала апавяданні, нарысы, перакладала. А дома дзеці. Трэба накарміць, дагледзець. Калодзеж не блізка, дроў мала, прадуктаў не хапае... І ўсё ж спяваць любіла, толькі песні сумныя пяяліся. Вадзіла нас мама на першыя гукавыя фільмы. На службу сваю на ўрачыстыя пасяджэнні ў святы брала. Сядзелі там ціхенька, слухалі даклад.

У пачатку лета 1932 года пераехала да нас дзядзіна Ларыса Восіпаўна з бацькамі і малодшым сынам. Пасяліліся яны ўсёй сям'ёй у нашым доме, а маці стала рыхтавацца ў далёкую дарогу. У чэрвені

1932 года праводзілі нас на мінскім вакзале Марыя Дзмітрыеўна Міцкевіч, Даміні̇ка Іванаўна Пратасевіч, Ларыса Восіпаўна [80] і Маня Іваноўская.

## Вятка. 1932—1935 гг.

Калі мы прыехалі, бацька меў ужо прахадны пакойчык у дзевяць квадратных метраў на вуліцы Свабоды, дом 109, на другім паверсе з акном на светлы двор, зарослы кучаравай траўкай. Злева і справа аздаблялі гэты лужок кусты і па некалькі дрэўцаў, а насупраць дома цягнулася дрывотня — па-вяцкаму «дровяни́к». Вышкі ў доме называліся «по́дволока», сняжок, што мог засыпаць зямлю і ў чэрвені месяцы,— «озимица». Малако на рынку налівалі ў тоўстыя, з вузкім горлам бутэлькі — «четверти». Чулася чоканне, пра якое нават частушка была: «Чё? Чё? — Да ни чё.— Ну а чёкаешь ты чё? — Я не чёкаю ни чё, а и чёкну, ну дак чё?» Гамонка мясцовых жыхароў «окающая», з частым дабаўленнем -то, -ту, -ти, -те (книгу-ту, деньги-ти, больно баско-то — г. зн. вельмі хараша) была такой скорай, што мы адразу не ўсё разумелі.

Каб дабрацца да ФУПа, бацьку трэба было спусціцца з гары, падняцца на другую, зноў спусціцца і па роўным месцы ісці далёка за горад. Горы здалёк выглядалі амаль стромкімі.

Праз наш пакойчык хадзіла сям'я мясцовых жыхароў Гуліных: бацька, маці, малая дачка, часам іх госці. Бегаў белы сабачка. Ні разу нічым не змрочылі суседзі нашага жыцця, не перашкодзілі бацьку пісаць вечарамі «Віленскіх камунараў». Георгій Аляксеевіч Гулін працаваў у гадавальніку: вырошчваў саджанцы для пасадак усцяж чыгункі. Камуніст. Некаторы час быў, па прызыву, старшынёю калгаса. Жонка яго працавала выхавацелькай у дзіцячым садзе. Нядаўна гасцявалі ў мяне іх дачка і ўнук. Тамара Георгіеўна, цяпер доктар-афтальмолаг, успамінала, як у тым прахадным пакойчыку чытаў ёй бацька мой лісты Лёні, паказваў малюнкі яго і даваў паперы і алоўкі, каб і яна малявала.

Мама ў 1932 годзе ў Вятцы спачатку працавала сакратаркай. Хутка перайшла на працу ў дзіцячы сад № 1, стала выхавацелькай.

Вадзіў тата мяне і Лёню паказаць свой ФУП. Уражанне ад цікавай экскурсіі гэтай засланілася іншым: па дарозе дамоў, каля горада, убачылі пажар. Згарэў невялікі з чырвонае цэглы мылаварны завод. Нельга было падысці блізка ад нясцерпнага жару. Бацька, уражаны, расказаў нам, як ехаў у Сібір у 1926 годзе праз амаль увесь згарэўшы горад Кацельніч каля Вяткі.

З 25 лістапада 1932 года бацька перайшоў з ФУПа на працу ў Вяткамбуд, быў там тэхнікам-калькулятарам.

Атрымалі мы яшчэ адзін пакойчык на тым жа паверсе (увосень 1932 года). Тут цяпер апрацоўваў тата «Віленскіх камунараў». Многа курыў. Махорачны дым напаўняў пакой. Заходзіў да нас Уладзімір Іванавіч Пічэта [81]. «Цікава расказваў,— успамінала мама,— пра сваё дзяцінства, юначыя гады». У «Лявоніусе Задумекусе», на жаль, толькі і сказана аб ім: «Сербіянін прыходзіць». Бываў Нічыпар Чарнушэвіч [82]. Зблізіліся ён і бацька, калі ўлетку 1931 года разам шукалі ў Вятцы кватэру і працу. Жылі яны спачатку «на вышках, на другім, недабудаваным, паверсе дома А. Ф. Палкіна, № 24, на Хлынаўскай вуліцы, далёка ад цэнтру» (як тлумачыў тата ў лісце ад 30 чэрвеня 1931 года).

1932—1933 гады былі галоднымі. Мацей Мышка ў «Віленскіх камунарах» успамінае, як еў грака: «Я і чарнаватую скурку яго з'еў. Нічога, як курацінка, толькі трошку прыпахвае птушыным гняздом і мяса худаватае». Бацька аднойчы прынёс грака, некім забітага. Мама зварыла яго ў супе, падсыпаўшы прасяных крупак. Сама есці не змагла. Тата пакаштаваў толькі, а мы, дзеці, усё з'елі. Мяса і суп былі сіняватымі, поснымі. Я думала, што пасля гэтага грака бацька напісаў раздзел «Гракі» ў «Віленскіх камунарах», а маці казала, што сумысля прынёс пакаштаваць, каб ведаць, аб чым пішаш.

Вясною 1933 года хадзілі з бацькам за горад, к высокаму берагу ракі Вяткі. Збіралі трэскі маме для таганка. Ад недаядання і слабасці на свежым паветры ўсё нешта мільгацела перад вачыма, іскрылася. Малады доктар Расіхін, ратуючы мяне ад ангіны, зрабіў адкрыцце, што ў маім арганізме не хапае жалеза, і садраў такі ганарар, што прыйшлося бацьк-

ку прадаць уцеху сваю — дэтэктарны прыёмнічак, прывезены з Мінска. Улетку шукалі за горадам шчаўе, таўкачыкі (па-вяцкаму: песты́), лугавую цыбулю.

Ваду куплялі ў будцы на рынку. За капейку з помпы налівалі поўнае вядро. Несці вялікія вёдры з вадою трэба было ўгару цэлы квартал. Бацька не даваў маме дакрануцца да каромысла. Сам насіў. Я часам за кампанію ішла. Пакуль уніз спускаліся, пра ўсе навіны свае раскажаш, а як уверх, з вадою,— маўчала, бачыла, што цяжка яму.

У спякотныя дні, падвечар, усёй сям'ёй купаліся ў рацэ Вятцы. На правай назе ў бацькі (збоку, вышэй калена) віднеўся доўгі і глыбокі, няроўны след ад старой раны — памяць аб імперыялістычнай вайне. Любаваліся параходамі, лугамі за ракою Вяткаю, лясамі. На другім, нізкім беразе ўдалечыні праглядвала скрозь дрэвы слабада Дымкава. Усяму свету вядома «дымковская игрушка» — сувеніры.

На раку і ўсюды нас, дзяцей, і адных адпускалі. Можна было з сябрамі-аднагодкамі пераправіцца на пароме, які ўвесь горад ласкава называў «Митенька», у зарослы шыпшынаю Зарэчны парк. Ні бацькам, ні нам і ў галаву не прыходзіла, што без дагляду зробім што благое.

Мама першыя гады ў Вятцы многа спявала. Любіла багацькаўскія песні: «Як па мору, мору сіняму, лялеіць мора, лялеіць», «Як пайду я па Дунаю, на скрыпачцы заіграю», «Ай сын у маткі ночку начаваў, ай сын у маткі страшны сон відаў», «А чужы мужы далёка жывуць, далёка жывуць, падарачкі шлюць...», «Горачка мая крутая, долечка мая ліхая», «Як устану я раненька», «Рабіна, рабіначка...» і іншыя. І весялейшыя: «Дзеўкі хмель садзілі», «Як прыехаў джанджура ды к Ганулі звечара...» Суседка Юлія Аляксандраўна Шубіна, выкладчыца спеваў, дзівілася: «Какие у вас, белоруссов, песни чудесные!» Мама часта пяяла на кухні, ля прымуса. Пад летні вечар іду з сяброўкамі з ракі Вяткі, паднімемся на гару — і каля варотаў нашых часам хто-небудзь скажа мне: «Слышишь? Твоя мама поёт». Помню зялёны, яшчэ цёплы ад дзённай спякоты двор наш, мамін голас... Мне помніцца не менш дваццаці мелодый песень з тых, што пяяла маці. А яна ж ве-

дала і ўсе словы кожнай песні, бо мела цудоўную, багацейшую памяць.

У вольныя вечары 1933 года апрацоўваў бацька «Віленскіх камунараў», і маці таксама сядзела да позняга, перакладала з рускага тэксту на беларускую мову «Тыля Уленшпігеля» Шарля дэ Кастэра. Гэта быў апошні пераклад, даручаны ёй з Мінска.

Зрэдку хадзіў тата з дзяцьмі ў скверык каля Аляксандра-Неўскага сабора (тварэнне А. Л. Вітберга, якому А. І. Герцэн у «Былым і думах» прысвяціў цэлы раздзел), сядзеў на лавачцы, сумны бываў. А мы бегалі між высачэзных, тоўстых белых калон, гулялі, сварыліся, мірыліся. Сабор прыгожа ўзвышаўся над горадам. Адзін раз маці і я залюбаваліся ім пры ўсходзе сонца кіламетраў за дванаццаць ад горада, пад Лянгасавам.

18 лютага 1933 года адзначыць бацька свой юбілей. У невялікім апавяданні «Юбілеуш» раскажа, як у той юбілейны вечар удалося яму з сынам схадзіць без вялікай чаргі ў лазню (а дома чакала святочная вячэра: «тушоная капуста з алеем і цэлы самавар гарбаты»). «...Успомніў, што дваццаць год таму назад, гэткім самым вечарам, ішоў ён у сваю цемналескую лазню, думаў тады, як цяпер сын, штó там на гэтым месяцы, і мроіў аб усім лепшым. Лявон мыўся і маўкліва ўспамінаў свой юбілей». І па дарозе дахаты думаў пра цемналесцаў і свой лёс. «А малы сынок яго шкрабаў валеначкамі на маразяным тратуары і ўголас разважаў, чакаючы бацькавых заўваг, што было б, каб не зямля каля сонца, а сонца круцілася б каля зямлі: якія былі б тады ў нас дні і ночы?»

Вясною 1934 года вярнулася я са школьнага вечара з прэміяй-балалайкай, але ўся сплаканая ад нечаканага выпадку на вуліцы. А тата ўзяў з маіх рук балалайку і надзвычайна прыгожа зайграў. Іншымі вечарамі, часцей за ўсё перад заходам сонца, ён падоўгу так хораша іграў, што нельга было не слухаць. Гучалі багацькаўскія песні і вядомыя ўсім мелодыі («Серенада» Шуберта, «Выхожу один я на дорогу», «Горные вершины спят во тьме ночной» і іншыя), а то проста імправізаваў... Іграў і пяяў рамансы «Я помню вальса звук прелестный» і «Говорили мне не раз, повторяли часто, не влюбляйся в

чёрный глаз, чёрный глаз опасен, а влюбляйся в голубой — голубой прекрасен». Пяяў «Выхожу один я на дорогу», жніўныя песні («Па гарохаўю, па ячынню», «А ў нашага пана дажыначкі рана» і другія). З багацькаўскай жніўнай узяў эпіграф да 12-га раздзела 1-й часткі «Віленскіх камунараў» — «Ветрычак пыша, былінку калыша...» Тата навучыў мяне і Лёню іграць на балалайцы. У Мінску ён іграў яшчэ і на невялікім гармоніку, на дудках, на цымбалах, і Лёня ўмеў таксама.

У жніўні 1934 года бацька паслаў рукапіс «Віленскіх камунараў» у выдавецтва ў Мінск (адзначыць гэта ў «Камароўскай хроніцы»). Пачаў пісаць рускі варыянт «Віленскіх камунараў» — «Виленские воспоминания». Увосень-зіму 1934—1935 гадоў, калі ні прачнуся позна ўвечары, усё чытае ён маме ціхім галасам напісанае. «Виленские воспоминания» паслаў у Маскву. Рукапіс быў прыняты «К рассмотрению 10/III 1935 г.». Вярнулі яго з рэцэнзіяй літкансультанта Ільінскага, які ці то зрабіў выгляд (як думаў бацька), ці сапраўды паверыў, што сам аўтар і ёсць галоўны герой твора, і даў цэлы шэраг парад. Галоўнае — пісаць «не выпячивая роли автора в первом лице, а рассказывая, как было».

Гаварыла маці, што бацька задумаў грунтоўна перарабіць «Виленские воспоминания», хацеў зрабіць галоўнымі героямі кіраўнікоў рэвалюцыйнага руху. Маці казала, што не мог ён не пісаць. Адкуль браліся час і сілы? У Вятцы, каб зарабіць, браў працу дамоў, складаў каштарысы, цэлымі вечарамі круціў ручку арыфмометра. Сэрца ў яго было хворае, лёгкія ад сядзячай работы і курэння слабыя. У 1934 годзе хварэў ён на жаўтуху, але на працу хадзіў, зусім знясілены, жоўты. Лячыла добрая доктарка Жырнова. Неяк сказала, што везла ў поездзе хворага на сухоты і адчувае, што заразілася. Хутка і памерла ад скарацечных сухотаў.

Калі патрэбен быў і бацьку адпачынак, іграў ён на балалайцы ці расказваў цікавыя гісторыі, напрыклад, пра марсіян, іх знешні выгляд, жыццё. Прыдумалі з Лёнем марсіянскую песню, удвух пялі. Запэўніваў, што ні адно слова чалавечае не прападае. Пройдзе многа часу, навучацца людзі лавіць асаблівымі прыладамі гамонкі сваіх продкаў, і які будзе

сорам, калі пачуюць нашы дзіцячыя сваркі. Раслі мы, як і ўсе дзеці: і дружнымі былі, і сварыліся.

Зрэдку, у марозныя вечары, тата паказваў нам сузор'і і зоркі, вучыў знаходзіць найбольш вядомыя. Разглядалі іх каля свайго дома, што на гары стаяў. Зорнае неба было цікавым, але хутка станавілася холадна, і пачынаў папаваць сум у небе...

Бацька прыносіў Лёні бамбук і паперу для авіямадэляў, майстраваў нам «змея». «Змея» высока запускалі — была гэта любімая гульня вяцкіх дзяцей тых часоў. Тата гуляў з намі і з мамаю ў шахматы. Вучыў нас ляпіць (даставаў добрую гліну, умеў зрабіць з яе цікавыя фігуркі людзей, жывёлін, галоўкі розныя людскія).

Лёня захапляўся маляваннем, авіямадэлізмам. Падросшы, ён рысаваў самалёты, дырыжаблі (і ў разрэзе), ракеты, ангары, палацы, вуліцы ў перспектыве (потым ён вучыўся ў архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме ў Ленінградзе), тушэнне пажару, баі «чырвоных» з «белымі» і інш. Малюнкі яго засталіся і на адзіным захаваным сшытку-чарнавіку «Віленскіх камунараў», які бацька аддаў сыну для малявання на чыстых адваротных старонках. Тата развіваў Лёніну схільнасць да канструктарства, малявання, спорту. Мне раіў пісаць невялікія сачыненні, даў для ўзору некалькі тэм. Настойліва (асабліва ў старэйшых класах) прасіў весці дзённік, на жаль, беспаспяхова. І на тэмы яго нічога не напісалася. Бацькам падабалася, што была я актыўнай піянеркай, захаплялася гімнастыкай (выступала і на тым стадыёне, што будаваў бацька ў 1931 годзе). Помню, з якой цікавасцю, ласкава слухалі бацька і маці маё апавяданне пра сустрэчу поезда з чалюскінцамі на вяцкім вакзале ў чэрвені 1934 года (я была ў дэлегацыі ад піянераў горада). Як цяпер разумею, радавала бацькоў маіх, што нялёгкі лёс, які выпаў сям'і нашай, не перашкодзіў належнаму выхаванню дзяцей іх, не адбіўся на ім. Тата сам правёў у наш пакой радыё, мелі мы газеты дома і часопісы ў бібліятэцы. І, вядома ж, адгукаліся мы ўсёй сям'ёй на ўсе цікавыя падзеі тых часоў. Разам з усімі людзьмі радаваліся поспехам, новым дасягненням у краіне нашай, гаравалі, пачуўшы што сумнае. І піянерская работа ў школе імя Л. Б. Красіна, дзе я вучылася, і

ў Лёнінай — імя І. С. Тургенева — была цікавай, добра пастаўленай.

З кніг, што прыносіў нам бацька, запомніліся «Запіскі з мёртвага дома» Дастаеўскага, «Падліпаўцы» Рашэтнікава, даступныя для дзіцячага ўспрымання творы Талстога, Караленкі, Горкага, Купрына, Чэхава, Гаршына, Серафімовіча, Аксакава, Салтыкова-Шчадрына. Чытаў нам усім уголас урыўкі з «Очерков бурсы» Памялоўскага. Ухваляў наш уласны выбар у дзіцячай бібліятэцы кніг Жуля Верна, Роберта Стывенсана, Сяргея Грыгор'ева, Аркадзя Гайдара і інш. У Вятку прывезла мама частку кніг беларускіх. Цяпер ужо купляў бацька патрэбныя яму кнігі па будаўніцтву. Для сябе бралі бацькі кніжкі ў бібліятэцы імя Салтыкова-Шчадрына, а тата хадзіў яшчэ і ў вялікую бібліятэку імя Герцэна. Заадно ўспомнілася, як у першае вяцкае лета, у прахадным пакойчыку, чытаў ён нам урыўкі з «Фаўста» Гётэ і пяяў, пэўна, на «сваю» мелодыю:

Плясать собрался пастушок,
Надел он бант, жакет, венок,
Красив пришел под липки.
Там шел как раз веселый бал,
Всяк, как безумный, танцевал,
Эй, юхе-юхе-й-са! Хей-са-хе!
Там пели струны скрипки... и г. д.

Пішу па памяці. Я і Лёня аж прытанцоўвалі, падпявалі бацьку: «Эй, юхе-юхе-й-са! Хей-са-хе!»

Разы два хадзілі з татам у краязнаўча-мастацкі музей. Лёня ў аддзеле футурыстычнага мастацтва ўсё дабіваўся ад бацькі тлумачэння. Пасмейваючыся, стаялі яны ўдвух каля карціны «У тихой пристани» Пранішнікава. А дома была на сценцы адзіная карціна — рэпрадукцыя з «Дарьяльского ущелья». Некалькі адкрытачак бацька захоўваў. Запомніліся назвы: «Московский дворик» Паленава [83], «Грачи прилетели» Саўрасава [84], «Улица в Ташкенте», «На вёсцы», «В красном платке», «Васильки».

Помню заўважаны мною, дзяўчынкай, міг усхваляванасці ў бацькі. Цвіў у Вятцы бэз, і выдаўся цёплы сонечны вечар. Я прынесла аднекуль пышны букет фіялетавага бэзу. Тата ўсё падыходзіў да яго, не гаварыў нічога, а быў неяк радасна ўсхваляваны. Можа, успомніў што ці проста вясну адчуў.

Страшным ударам была для бацькі і ўсіх нас смерць Ефрасінні Міхайлаўны. Памерла 4 сакавіка 1935 года ад ушчамлення кішок, падняўшы з пограба цяжкі кош з бульбай. На цёмнашэрых лісточках паперы засталіся бацькавы словы роспачы:

Ратуй мяне, выспа Патмос! Ратуй!
Словы мае — слёзы мае.
...Больш яе не ўбачыш ніколі.
Ніколі не пацалуеш.
Ніколі да яе не прытулішся.
Яе ласкаю жывою не сагрэешся.

У зямлі сырой, глыбока, пад снегам, пад мяцеліцаю ляжыць. У госці цябе ўсё чакае.

Так і цётка белабокаўская сына свайго чакала.

Так усе маткі нашы нас чакаюць.

...Тысячу разоў бульбу тую падняў бы. Не так, як раней, калі яна плацце мыла, а ты панам лагодным каля яе стаяў, гуляў, дабрадушна жартаваў.

Пакруціць — папрасіла.
— Не так крэпка, а то перакруціш!
...Цяжка табе, цяжка, блазенны!
Уздыхні і яшчэ, і яшчэ.
Навекі.
Няма.

У 1935 годзе, у пачатку лета, часцей за ўсіх бываў у нас Адам Антонавіч Бабарэка. Дома круціцца каля дарослых мяне не цягнула. Паўглядаешся на госця, асабліва падзівішся на прыгожую ўсмешку Адама Антонавіча і — на двор, да сваёй кампаніі. Хіба што прасіў бацька прынесці піва з ларка на рынку. Ахвотна брала шакаладнага колеру сярэдняй велічыні збан, прывезены мамай з Мінска. Палівány, з выпуклымі ўзорамі (кветкі, сцяблíны, лісце) на ўсіх чатырох гранях, з крыху вузейшым месцам, дзе горла, са зручнай ручкай і прывабнай чатырохграннай крышачкай з дзюбачкаю. Збан напамінаў Беларусь, куды так хацелася вярнуцца.

Яшчэ 20 красавіка 1935 года бацька звольніўся з пасады тэхніка-калькулятара ў Вяткамбудзе і з 7 мая 1935 года працаваў у Зямельна-зялёным трэсце «техником по учету и отчетности сектора гражданского строительства», выконваў і абавязкі пампрараба.

Маці па-ранейшаму была выхавацелькай у дзіцячым садзе № 1, мела ўзнагароды за сваю працу.

У лета 1935 года хадзілі раз з бацькам і адным яго земляком у далёкі хваёвы лес за ракою Вяткаю. Не вабілі вялізныя паўночныя яліны. Сумавалі мы па лісцёвай Багацькаўшчыне, успаміналіся яе суніцы, арэхі.

Давялося мне потым і такое бачыць.

Ляжала ў ленінградскім шпіталі астраханская рыбачка. Любіла расказваць, як у маладыя гады ездзіла на касавіцу ў стэп. З дазволу доктара аднойчы вывезлі мы яе, безнадзейна хворую, у старадаўні шпітальны парк. Хацелі парадаваць зазелянеўшымі магутнымі дрэвамі, скошанай травой на газонах. А яна як раскіне рукі і з такім адчаем: «Убрать бы все эти деревья!» Прастору хацела... Павязлі назад. Нехта захапіў у палату жмут сена, і яна ўзяла, прынікла да яго тварам... Кожнаму сваё, роднае, міла.

## Горад Кіраў (б. Пясочны Заходняй вобласці). 1935—1937 гг.

У жніўні 1935 года бацька паехаў у Смаленск, звярнуўся там у аблана. Прызначылі настаўнікам рускае мовы і літаратуры ў сярэдняй школе гарадскога пасёлка Пясочня (потым перайменаванай у горад Кіраў Заходняй вобласці, а пазней — Смаленскай). У канцы верасня 1935 года яму прыйшлося з'ездзіць у г. Кіраў (б. Вятку), бо трапіла ў бальніцу мама. Ён забраў Лёню, а маці са мною прыехала ў Пясочню крыху пазней.

Пясочня знаходзілася ў ста пяцідзесяці кіламетрах ад Смаленска, мела ў той час восем тысяч жыхароў. Ад станцыі Фаянсавая (між Вязьмай і Бранскам) ехалі да яе «кукушкай». Школа была недалёка ад дому, на той жа вуліцы Леніна, бліжэй к цэнтру пасёлка. У самым цэнтры — чыгуналіцейны завод і заводскі клуб. Перад нашым домам раслі ў адзін рад некалькі старых высокіх таполяў. За дваром і агародамі пачынаўся балоцісты лес. З другога боку пасёлка, каля завода,— вялікае возера. Навокал лясы. Рынак быў блізенька ад нас, па сцяжынцы ад калодзежа ўлева.

Мама пасля цяжкой хваробы часова не працавала. Бацька меў многа ўрокаў у школе, чытаў лекцыі

па літаратуры ў заводскім клубе і чырвонаармейцам у ваенкамаце, вёў заняткі па лікбезу... Як мог не забываўся на выспу Патмос: пісаў «Камароўскую хроніку» («Залаты чавёнчык паплыў па сіняму мору»).

Арганізаваў літаратурны гурток. Сорак два вучні ўваходзілі (спісак захаваўся). Стараўся зацікавіць вучняў гісторыяй іх роднага краю. Збіралі гістарычны матэрыял пра чыгуналіцейны завод, пабудаваны ў 1763 годзе, цікавіліся гісторыяй Фаянсавай фабрыкі і Палатнянага завода, што былі недалёка ад Пясочні.

У пасёлку бытавалі паданні, што А. С. Пушкін вясною 1830 года па дарозе на Палатняны завод да будучых сваякоў і потым увосень 1834 года наведаў Пясочню. У мясцовай газеце «Социалистическое наступление» № 16 (536) за 10 лютага 1937 года нехта Н. адзначыў, што вучні Кіраўскай сярэдняй школы пішуць пра гэта ў сваіх літаратурных працах, «ссылаясь на рассказы родных и знакомых, помнящих местную старину».

Бацька вучыў самастойнасці ў пошуках, вывадах. Вучыў самастойнаму аналізу мастацкіх твораў. Патрабаваў, нават у пятых класах, каб кожны завёў сшытак-слоўнічак для запісаў з тлумачэннем некаторых літаратурных тэрмінаў і малавядомых слоў.

Дужа сумленна, шчыра ставіўся бацька да свае настаўніцкае працы. У кароткім канспекце даклада «Красный десант» Фурманова на уроках в 5 классе» расказвае, як не прыняў некаторых указанняў скупога метадычнага артыкула А. Д. Грачышнікава (Русский язык и литература в средней школе, 1935, № 1) і зусім інакш пабудаваў план гэтай часткі ўрокаў. Трэба было ўлічваць, што 30 % вучняў не мелі падручніка па літаратуры, дрэнна чыталі, а «Красный десант» вымагаў тлумачэння многіх слоў, выразаў. Таму чыталі яго не толькі дома. Выступалі на ўроках «лучший чтец» і «лучший рассказчик» і «совместно, на разные голоса», а «песню тихонько напевали». Раздзел сёмы (атака і перамога) чытаў сам настаўнік. Мне найбольш першы ўрок уяўляецца: «Я рассказывал биографию Фурманова, сообщал краткие сведения о М. В. Фрунзе, Чапаеве, касался кинофильма «Чапаев» и режиссерской работы брать-

ев Васильевых. Рассматривали портрет Фурманова. Потом чертил на доске места событий, описываемых в рассказе, путь следования Красного десанта, объяснял цель и смысл операций в связи с историей гражданской войны. Со стороны учеников при этом было очень много вопросов [...] и приходилось прибавлять еще 1—2 часа к программным часам на живые беседы».

Збярогся сшытак кароткіх запісаў бацькі па гісторыі Захаду. Зроблены яны рукою пісьменніка. Напрыклад, пра Лёдброка (каля 900 года): «Хадзіў ён у звярыных скурах поўсцю наверх. Ён доўга мучыў ангельцаў удалымі набегамі, але нарэшце яны схапілі яго і кінулі ў бочку з вужакамі. Там ён сканаў, спяваючы вясёлыя песні».

Бацька і вучняў у старэйшых класах вучыў канспектаваць яго аглядныя лекцыі ў класе і некаторыя літаратурныя матэрыялы дома. Канспекты правяраліся настаўнікам, разглядаліся на ўроках.

Многа вучылі на памяць. Вучыў дэкламацыі. Не забыць мне, як чытаў вершы Пушкіна, Лермантава, Брусава, урыўкі з «Песни о Роланде», з твораў Гамера, Шэкспіра, Максіма Горкага. Ён і дома дэкламаваў ці чытаў услых тое, чым захапляўся. Маці казала, што любіў бацька лірыку Лермантава, але ў апошні час «больш гарнуўся да Пушкіна».

Аб Пясочанскай школе добра ўспамінаецца. Дырэктар Канстанцін Пятровіч Азараў, малады камуніст, карыстаўся пашанай. Сярод вучняў ніякай разбэшчанасці. Бібліятэка была пры школе, добрыя майстэрні, фізкультурная зала. У большую перамену іграў шумавы аркестр (сядзелі на нізкіх і сярэдніх прыступках школьнай лесвіцы на другі паверх).

Не ўцярплю, каб не расказаць пра адзін выпадак. Прыслалі з аблана ў дзесятыя класы кантрольную работу па матэматыцы. І не рашалася задача. Усхваляваліся матэматык і фізік. А бацька дапамог: знайшоў памылку ў машынапісным тэксце задачы.

У чэрвені 1936 года паехаў тата са мною ў Малую Багацькаўку. 18 чэрвеня а сёмай гадзіне сонечнай раніцы прыехалі ў Смаленск. Пайшлі ў горад. Падняўшыся на гару, ішлі па роўнай вуліцы, злева ўсцяж тратуара зрэдку зялёныя дрэвы. Насустрач групкамі і па адным чырвонаармейцы. Некаторыя

мне падміргваюць: «Гэй, курносая!» Глянула сарамліва на бацьку, а ён ідзе справа побач, стройны, дужы, і ўсміхаецца. У сінім шавіётавым касцюме, белай летняй фуражцы. Вышэй сярэдняга росту быў, вочы карыя, даволі вялікія, хоць і глыбокія. Усмешка прыгожая, добрая. Сорак тры гады было яму, а мне пятнаццаць.

Нахадзіўшыся па горадзе, селі адпачыць у скверы, супроць помніка М. І. Глінку. Ад педінстытута па алейцы група студэнтаў, чалавек пяць хлопцаў і дзяўчат, паказалася, недалёка ад нас прайшлі. Тата звяртаў маю ўвагу, як той ці другі галаву, рукі трымае, глядзіць, і гаварыў паціху, які ў каго характар, настрой. Раней казаў мне, што ў чалавека ў хвіліны скрытага перажывання, задумлівасці вялікі палец на руцэ бывае заціснуты астатнімі чатырма. І чым большы сум, тым глыбей і мацней заціснуты палец.

Пабылі на святочным гулянні школьнікаў у смаленскім гарадскім парку. Падвечар селі ў дачны цягнік, што ішоў праз станцыю Цёмны Лес. Шумна, весела было ў вагоне, а мы засмуціліся, бо перад самай пасадкай пачулі па радыё, што памёр Максім Горкі.

З Цёмнага Лесу павёз нас Якім Іванавіч. Помню толькі, што жыў ён каля станцыі, меў каня. Тата і раней любіў пагаманіць з ім у дарозе, пачуць навіны. Ехалі кіламетраў пятнаццаць. Пад раніцу былі ў Малой Багацькаўцы. Дзед Іван Кузьміч, узрадаваўшыся, частаваў нас далікатэсамі свайго гатунку: вішнёвай наліўкай і крывяной каўбасой.

У 1936 годзе хата дзедава стаяла ўсцяж вуліцы, была з трох частак. Высокі ўтульны ганак пад дахам на слупочках, з лавачкамі, вёў у сярэднюю частку, так званую «чорную хату» (вялікія сенцы з двумя вузенькімі вакенцамі на гэты ганак, з печкаю, сталом, лаўкамі, бажніцаю з ручнікамі — тут у былыя часы варылі яду, елі). Унутры «чорнай хаты» былі дзверы злева, у тую частку, дзе жыў дзед, а з ім нявестка Анісся [85] (жонка Парфіра Іванавіча) з дзецьмі і раднёю, і справа — туды, дзе з 1932 года «часова» пасялілася дваюрадная сястра дзядзіны Аніссі — удава Мархва Кушанова з дзвюма дарослымі дочкамі і сынам-падлеткам. Разам з намі сабралася ў дзедавай хаце чалавек шаснаццаць.

Былі ў гэтых вялікіх сенцах яшчэ і чацвёртыя дзверы — на двор. Ганак пры іх нізенькі, з доўгіх вузенькіх дошак, пад навесам. З левага боку ўваход у «чулан», а як саступіш на зямлю,— паветка з дрывамі; прама, праз двор, уваход у сянніцу, а правей, побач з сянніцай,— пуня. Пад кутом і ўпрытык да яе — другая пуня і, бліжэй да вуліцы, клець. Паміж клеццю і хатай вароты з дугою над імі і веснічкамі (пры хаце). Стрэхі над хатаю і пабудовамі, што ўтваралі светлы прамавугольнік двара, пакрыты былі састарэлаю саломаю.

Праз цемнаватую сянніцу праходзілі ў дзедаў сад. Ступіўшы з зямлі на высокую калодку, адчынялі ў сцяне важкія дзверцы з кароткіх тоўстых плашак і, можна сказаць, пералазілі цераз парог на садовую сцяжынку. Пры сянніцы раслі ў садзе некалькі дрэўцаў слівак, а каля пуні, справа ад сцяжынкі,— дзве вялікіх яблыні-медуніцы (трэслі іх потым бясконца, і ляцелі на траву аранжавыя з чырвонымі рыскамі медунічкі). Каля левай лескі (агароджа з галля), недалёка ад сянніцы, разрасліся дзве старыя ўраджайныя вішні і, крыху правей ад іх, вылучалася на прасторным месцы маладая прыгожая ліпка, далей за імі ішлі грады. Старых яблынь у садзе было пяць-шэсць. У канцы яго, у бульбе, некалькі новых яблынак віднелася, з лічанымі, але надзіва буйнымі пладамі, сакавітымі пад восень. Бліз правай лескі, дзе пачыналася бульба, каля некалькіх рамчакоў, красаваліся два высокіх кусты іргі (па-мясцоваму — шура́). Тата любіў яе. Ахвотна абіралі шуру́ ўсе, а знізу, падскокваючы, дзяўблі куры. З круглых цёмна-фіялетавых ягадак пырскаў сок. Дзед рабіў з шуры ды яшчэ з вішань выдатныя наліўкі. Раслі ўсцяж правай стараны саду парэчкі, агрэст, смурода чорная, маліна, мята-трава. Ззаду клеці таксама грады былі і невялікі кветнік, што выступаў, ахінаючы клець, да самай вуліцы. Быў і палісаднік перад дзедавай палавінай хаты, рабінка расла, кусты, кветкі. Пасля смерці Івана Кузьміча (у 1945 годзе) Мархва Кушанова звезла некуды «сваю» часць хаты. Новыя гаспадары, купіўшы ў дзядзькі Парфіра другую частку (разам з «чорнай хатай»), павярнулі яе бокам да вуліцы. 11 сакавіка 1974 года згарэла ўсё. Напісалі нам з вёскі, што засталіся на дзедавым па-

пялішчы «некалькі яблыначак на памяць, а так усё пуста...».

Тады, у 1936 годзе, у чэрвені, асабліва сумна было без Ефрасінні Міхайлаўны. Я помню, як шкадавала бабу, адчувала з горам, што яе няма. А што ж гаварыць пра бацьку... Дні першыя былі дажджлівыя, пахмурныя. У адно ранне пайшлі было ў Бабацькаўшчыну, ды перашкодзіў дробны дожджык са змрочнага неба. Вярнуліся. Бліз вёскі дождж сцішыўся. Тата спыніўся каля аўса, густа заросшага жоўтай сурэпкай. Некалькі мужчын падышлі да яго, загаманілі. Бедавалі, што сурэпкі многа. Бацька сельскую гаспадарку добра ведаў, тым больш што закончыў у 1913 годзе землямерна-агранамічную школу ў Горках.

На адзінаццатуху з раніцы стала харошае летняе надвор'е, хадзілі з бацькам на кірмаш у мястэчка Шамава[86] (у «Ціхай плыні» — Целяпенічы). Пачалі вазіць сена. Бацька з усімі на лузе быў, вазы навіваў. Прабыў у вёсцы тыдні два, паехаў адзін дамоў.

Дзед Іван Кузьміч, невысокі, моцны, гадоў васьмідзесяці, з кароткай густою сіваватай барадою, працаваў на калгаснай пчалярні, віў для калгаснай гаспадаркі путы, вяроўкі. Сваю гаспадарку, сад і пчол сваіх даглядаў. Плёў лапці, кошыкі, рабіў запасы бярозавых венікаў. Характар у дзеда, ведаю, быў цяжкі, але ж людзі паважалі яго і дзеці яго любілі. Быў дужа працавітым. Уставаў улетку разам з сонцам, спаць клаўся, як добра сцямнее. Перад сном маліўся, стаяў перад абразом у кутку. Ён верыў, што ў мяне рука лёгкая. Прасіў, калі ішоў да пчол, завязаць яму цясёмачкі на рукавах і на спіне палатнянага старога, але заўсёды чыстага халата. Падавала яму вялікую сетку-капялюш, дымакур. Наказваў не падглядаць у шчыліны сянніцы, а то пчолы кусаць яго будуць.

«Чулан» (з падполам) закрываўся ўстаўленай у колца зашчэпкі трэсачкай. Раней я любіла ўшыцца туды ўслед за Ефрасінняй Міхайлаўнай. З найцікавейшых прысмакаў бачыла там кавалкі сотаў з ліпавым мёдам, жоўта-празрыстым, густым. Баба трымала ў чулане дзівосны квас. У гарачы дзень частавала ім дзяцей, налівала ў кубачкі. Прыемна і лёгка рабілася, напіўшыся квасу. А падвечар, бывала, выносі-

ла Ефрасіння Міхайлаўна на ганак з вуліцы, дзе збіраліся дзеці, зялёнага гароху, бобу ці арэхаў, давала ўсім. Зараз гаспадарыла ў хаце, даглядала карову і іншую жыўнасць сястра дзядзіны Анісі — Таццяна. Дзед і бацька паважалі яе за розум і спакойны характар. Двое дзетак Таццяніных пры матцы тут жа жылі.

22 ці 23 жніўня 1936 года бацька, ужо з Лёнем, зноў прыехаў у Малую Багацькаўку. Мусіць, у тое лета запісаў ён «Камароўскі парад» — пералік усіх трыццаці пяці двароў у вёсцы і кароценькія звесткі аб гаспадарах і сем'ях іх. Пад № 17 — хата Івана Кузьміча Гарэцкага, № 18 — тая частка хаты, дзе «чэраз сенцы жывець Мархва Чаркесіха з дзецьмі». Мужа Мархвы, Стахвана Кушанова, Чаркесам празвалі, бо прывёз «са свету» чаркеску, надзяваў яе.

Зрэдку стаяў каля дзедава ганка запрэжаны ў калёсы конь. Гэта прывозілі, нават здалёк, хворых да Мархвы. «Лячыла» травамі і нагаворам. Дзверы да яе адразу ж зачыняліся знутры, а падглядваць у вокны ніхто не адважваўся. Тата часам весела размаўляў з Мархвай. Пэўна, і яму сваіх лячэбных сакрэтаў не раскрыла. У гэтае лета запісваў бацька народныя (і па-латыні) назвы некаторых траў ад Мархвінай дачкі Насты, студэнткі біяфака ў Віцебскім педінстытуце. Ён любіў з'есці ружаваты, мяккі кончык ліста аеру і мне з Лёнем раіў. Я знаю цяпер, што з аеру робяць найлепшы танізуючы сродак. Потым пыталася я ў Насты, аб чым яшчэ гаманіў з ёю мой бацька ў той 1936 год. Сказала, што хваліў за вучэнне, за добра зробленыя гербарыі. Разважаў, што яна другая ў вёсцы, пасля дзядзькі майго Гаўрылы Іванавіча, атрымае вышэйшую адукацыю, што толькі пры Савецкай уладзе маці яе, незаможная ўдава, можа вучыць усіх сваіх дзяцей.

Хадзілі з татам у арэхі ў Багацькаўшчыну, пад канец дня. Кусты арэхавыя, пышныя, высокія, прыгожа асвячаліся пяяркім сонцам. Калі ветру не было, стаялі, як скульптуры. Бывалі мы ў Жаб'і (дарога праз Жаб'е ў «Антоне» апісана), у Курманаўшчыне, Салаўёвых Машках, Засценках — так вакол Малой Багацькаўкі лясы называліся. З Лёнем і другімі хлапчукамі хадзіў бацька ў Булінскі мох, прыносілі адтуль кіёўкі. Пугі хлопцы рабілі. Кожны сваёй пу-

гай хваліўся, стараўся грамчэй ляснуць. Вучыў тата мяне і Лёню плесці з лазы кошыкі, дудкі рабіць. Ушчуваў мяне за цікавасць да прыгожых птушыных яечак (хацелася разгледзець іх), за крыўду, хоць і невялікую, мурашкам (цікава было, як заюшацца, закрупяцца яны, крыху патрывожаныя). Ён заўсёды спыняўся каля мураўінай кучы-дома, глядзеў на іх жыццё. Белы верабей прылятаў у тое лета да дзедавай хаты, тату цікавіў... Аднойчы захацелася мне і Мані Кушановай падражніць старую Домну, што жыла ў канцы нашай вуліцы, як павярнуць у Бажыла ў канцы нашай вуліцы, як павярнуць у Багацькаўшчыну. Даволі было запаволіць крок і ўзірацца праз высокі паркан у Домнін сад (насупраць яе хаты, цераз вуліцу). Выскачыла Домна з праклёнамі. Я зір у бок свае хаты, ці не выйшаў бацька. А ён стаіць непрыкметна каля лескі Дземянковых, наўскасяк ад дзедава ганка, і, як я здагадалася, запісвае гэтыя праклёны ў кніжачку. Аднак тут жа перастаў пісаць і крыкнуў, каб не дражніліся.

На кастрычніцкія святы 1936 года прыязджаў да нас у Пясочню дзядзька Гаўрыла Іванавіч з жонкаю. Колькі ўспамінаў, гамонак было ў гэтую сустрэчу ў бацькоў маіх і гасцей! І Лёня гаманіў з дзядзькам аб многім, што хвалявала пытлівага падлетка.

Па-ранейшаму майстраваў Лёня што-небудзь, рабіў больш складаныя авіямадэлі, маляваў, чытаў многа, гуляў у футбол. У заводскім клубе глядзелі мы новыя харошыя фільмы, пялі пачутыя з іх песні Дунаеўскага і іншыя хвалюючыя нас песні. Падабаўся Чарлі Чаплін, сумны і вясёлы.

Увосень 1936 года грыбы добра раслі. Бацька і Лёня прыносілі іх поўнымі кошыкамі, а мама саліла, сушыла, марынавала, смажыла... Дапамагала яна бацьку як магла ў яго працы: правярала вучнёўскія сшыткі, дапамагала рыхтаваць патрэбны матэрыял для ўрокаў. Пераклала маці на беларускую мову яго апавяданне «Дедушка».

Нейк вадзіў бацька вучняў у дальні клуб на Фаянсавай. Глядзелі «Иудушку Головлева» з удзелам выдатнага акцёра У. Р. Гардзіна. Назад цёмным вечарам, у дождж, вярталіся. Каля бацькі гурба вучняў ішла, а ён гаманіў, пытаўся пра наша ўражанне.

У другі позні вечар, мокры і непрыемны, ішоў тата ўслед за мною з клуба заводскага, стараліся не коўзацца па размоклай глiністай сцежцы. Маўчаў ён усю дарогу. Сердаваў, што мяне на познім сеансе ўгледзеў (дзеля чаго, відаць, і прыйшоў), што павадзілася часта бегаць з аднакласнікамі ў клуб. Пэўна, шкадаваў часу, змарнаванага на нейкі выпадковы пусцейшы заграпічны фільм. Дый так, адчувала я, сумна яму было, стомлены быў.

Бывала, што і моцна гневаўся на мяне бацька. Раз застаў, калі хацела закурыць яго папяросу. Нехта навучыў, што зубны боль утаймуецца ад дыму. Пакуль тлумачыла гэта, бачыла гнеўны бацькаў твар. Палячыцца дымам не прыйшлося.

І так аднойчы выйшла: пры бацьку сказала я маме, што калі не дазволіць мне нештачка, то выдам адзін невясёлы яе сакрэт, аб якім прасіла да часу не гаварыць бацьку. Як разгневаўся ён, крыкнуў, каб замаўчала. Сказаў, што гэта шантаж. Маці сама раскажа, калі знойдзе патрэбным. Вось чаго цярпець не мог бацька, гэта шантажу ў любым праяўленні.

Часам раіў мне тата, каб перш чым сказаць што запальчыва, правяла павольна-павольна дзесяць разоў кончыкам языка па паднябенні або патрымалася за ручку ў дзвярах, лічачы да дзесяці і болей. Не дужа дапамагала... Лёня, хоць і хлопчык, а лягчэй за мяне гадаваўся.

Бацька добра ўмеў бачыць, ці праўду гаворыць чалавек. У адзін вечар прыйшла я з урокаў дамоў крыху напалоханая. Было так цёмна на вуліцы, і раптам святло перад вачыма. Сасгупіла ў снег ля дарогі: падумала, што ад фар машыны. Аглянулася — нікога. Кругом стала святлець, святлець, ясна асвяцілася неба і ўсё наўкол і згасла. Дома не заўважылі: гарэла лямпа, фіранкі на вокнах былі. Тата бачыў, што я не хлушу, а і паверыць не мог. На другі дзень прыйшоў са школы вясёлы, з парога сказаў, што не здалося мне ўчора. Метэарыт упаў недзе даволі далёка ад Пясочні.

Узімку 1937 года гасцяваў у нас дзед Іван Кузьміч. Тата запісваў ад яго пра службу ў паноў. Засталіся невялікія чарнавікі апавяданняў, напісаных на аснове дзедавых успамінаў і дзіцячых уражанняў

бацькі: «Голубая кровь», «Кобылёшка», «Предводитель дворянства Рындин», «Лёксочка», «Хиромант». Засталіся фрагменты да «Камароўскай хронікі» («Камароўскі летапісец», «Памінальніца» і інш.), а таксама пяць спыткаў, куды перапісаў бацька амаль увесь сабраны ім матэрыял да задуманага ім вялікага твора «Камароўская хроніка». «Виленские воспоминания» напісаць па новаму замыслу не змог: не ставала часу, бо рыхтаваўся здаць экстэрнам за поўны курс педагагічнага інстытута ў Смаленску.

У пачатку лета 1937 года я адна паехала да дзеда. Лёня быў у піянерлагеры. Ненадоўга з'ездзіў тата ў Маскву. З магілы сястры Ганны засохшых кветачак прывёз. Купіў у Маскве маме і мне тое-сёе з адзення. Наведаў У. І. Пічэту.

У канцы лета тата прыехаў за мною ў Малую Багацькаўку. Прыходзілі пагаманіць з бацькам вяскоўцы. У садзе дзедавым пад яблыняй-бярозаўкай, недалёка ад ліпкі, каля сцяжынкі, што вяла ад сянніцы к рамчакам, зрабіў калісьці тата невялікі столік і дзве лавачкі. Цяпер любіў пасядзець тут, пагаманіць з бацькам сваім, гасцямі. Прыходзіла пабачыцца з ім Гапка Раманцэвіч (у «Камароўскай хроніцы» — Дарка Саўчына), дваюрадная сястра яго, сядзела ў сярэдняй («чорнай») хаце, курыла, прыемна ўсміхалася. Высокага росту, падоўжаны, бледнаваты твар.

Жанчыны і дзяўчаты з хаты нашай хадзілі пасля абеду браць лён (падрадзіліся ў калгасе). Бацька разы два да нас у поле прыходзіў. Любіў лён, а з кветак — васількі. Паважаў смолкі і канапелькі (багародзіцыны слёзкі), бо іх любіла яго маці. У адным з невялічкіх фрагментаў да «Камароўскай хронікі» («Вёска Балотная»):

«Міла мне было любавацца на зялёны лён, чапаць пальцамі яго круглыя, жоўтыя, тугія галоўкі.

...Як вязлі дамоў, на возе,— ён званіў галоўкамі. Але цяжка было біць пранікам на таку, на семя. Куча залатая. Семя біскучае, коўзкае, плыве.

І радуюся я, калі цяпер выдумана машына».

Ён зноў пытаўся ў Насты пра назвы раслін. Раз, на змярканні, узбоч бальшака ішлі з працы калгасніцы, пялі вельмі стройна, з падгалоскамі. Тата і мы здалёк стаялі, слухалі.

Прачытала я ў тыя дні «Ваенную тайну» А. Гайдара. Я медунічкі пад яблыняй падбірала. З канца саду ішоў да мяне бацька, энергічны, любы мне. Ён паспеў заўважыць, што падзейнічала на мяне аповесць, сам загаманіў аб ёй. Шкада было загінуўшага Альку. А ў блізкай будучыні, як і Натцы Шэгалавай, бачылася мне нешта шчаслівае, радаснае. І тата адчуваў мой настрой...

У канцы жніўня дажджы пачаліся. Паехалі дамоў. На дарогу дзень ясны зрабіўся. На бальшаку, бліз могілак, спыніліся. Бацька пайшоў развітацца з маці сваёй. Дзед і я на возе сядзелі, чакалі...

У Пясочні ў гэты год дастаў тата скрыпку, збіраўся купіць яе. Іграў зрэдку свае мелодыі-імправізацыі, багацькаўскія песні, а на балалайцы — варыяцыі на мелодыю «Горные вершины спят во тьме ночной» і інш. На скрыпцы ён таксама цудоўна іграў.

Верасень — кастрычнік праходзілі хутка. Ішла падрыхтоўка да дваццатай гадавіны Кастрычніка. Дзейнічаў літаратурны гурток, выходзіла кожны тыдзень школьная вялікая насценгазета. Бацька чытаў лекцыі па літаратуры ў заводскім клубе. Працягваліся Пушкінскія дні — стагоддзе з дня смерці. Па радыё чулі мы прысвечаныя Пушкіну перадачы. А ў класе гучаў мне голас бацькі. Стаяў ён каля настаўніцкага стала і чытаў урыўкі з «Роняет лес багряный свой убор...», чытаў «К морю», «Из Пиндемонте», «Элегию» («Безумных лет...»). Цікавая была праграма: Пушкін, Шэкспір. З канца кастрычніка пачалі знаёміцца з творчасцю Максіма Горкага, а перад гэтым аглядныя лекцыі па літаратуры перадкастрычніцкай. Лісток захаваўся: спісак твораў, што кожны ў нашым дзесятым «А» выбраў сабе для дэкламацыі. Тут «Партбилет» А. Безыменскага, «Ода революции» У. Маякоўскага, «Третья осень», «К русской революции» В. Брусава, вершы Д. Беднага, Ф. Шкулёва.

У адзін з першых дзён лістапада бегла я па сцяжынцы са школы дамоў. Насустрач ішоў бацька. Параўняўшыся, з пяшчотаю ў голасе прамовіў: «А чыя ж гэта птушачка так шыбуе?» І пайшоў далей. У тыя ж дні ўбачыла яго на кухні, ля акна. Стаяў, глядзеў засяроджана на вуліцу і мяне падазваў. Па

другой старане вуліцы ішла мама. «Запомні,— сказаў,— яна святая!» — і паўтарыў: «Святая!»

Лёня ўсё да бацькі туліўся. Тата пра нешта жартаваў з ім.

Спадабаўся бацьку фільм «Сямёра смелых». Мяне пасылаў паглядзець. Калі спыталася, ці ёсць там пра любоў, засмяяўся: «Ёсць, ёсць! Сходзі!» Напяваў песню з фільма гэтага: «Лейся, песня, на просторе, не скучай, не плачь, жена...»

Былі ўжо напісаны ім «Скарбы жыцця», і словы там такія ёсць:

«Усё жыццё праляцела, як адзін дзень. Усё яно — як на далоні.

...Цану рэчам пазнаў. Людзей да самых глыбінь уведаў. Жыццём даражыць навучыўся. І да смерці сябе рыхтаваць я ўмею. Каб прыняць яе меч хоць калі, і без пары, і без усякай патрэбы».

У ноч на 4 лістапада 1937 года каля ганка дома нашага развіталіся мы з бацькам назаўсёды... Памёр ён 20 сакавіка 1939 года ў Комі АССР.

У лютым 1938 года маці вярнулася ў горад Кіраў (б. Вятку), зноў працавала выхавацелькай у дзіцячым садзе № 1. Мела новыя ўзнагароды, любоў і пашану. У 1947 годзе пераехала да мяне ў Ленінград, выйшла на пенсію па інваліднасці.

Лёня ў 1938—1941 гадах паспяхова вучыўся ў Ленінградскім архітэктурна-будаўнічым тэхнікуме. Загінуў ён на фронце 18 лютага 1944 года. На вялікім абеліску ў сяле Мядзведзь на Наўгародчыне ёсць і яго імя...

У 1938 годзе я паступіла ў Ленінградскі педінстытут імя А. І. Герцэна. Вучылася ў мансійскай групе паўночнага аддзялення. Была потым настаўніцай, а пасля цяжкай аперацыі на горле працавала рэгістратарам у паліклініцы.

Мама наша памерла 26 верасня 1976 года. Пахавана ў Ленінградзе на Паўднёвых могілках, згодна яе жаданню «быць бліжэй да сына...».

Літаратурная спадчына бацькоў маіх засталася жыць.

Франтавыя лісты брата былі апублікаваны ў часопісе «Маладосць» № 9 за 1974 год і «Юность» № 4 за 1975 год.

## *Парфір Гарэцкі*

### ПОМНЮ БРАТА [87]



Максім старэй мяне на тры гады. Вучыліся мы ў розных школах. Я — у царкоўнапрыходскай, а Максім — у Альшанскай двухкласнай, а потым у Горках на каморніка. Я калі падвозіў, калі падносіў яму клункі з прадуктамі.

Пасля заканчэння ў 1913 годзе Горацкага вучылішча брата накіравалі на працу ў Літву каморнікам. У гэты час Максім ужо быў даволі адукаваным, начытаным, не па гадах разумным, прыветлівым і прыгожым. Хадзіў на вечарынкі, ігрышчы, вадзіў карагоды, дэкламаваў, спяваў песні і запісваў цікавыя казкі і прыказкі, рэдкія словы.

У 1914 годзе Максіма прызвалі ў царскую армію і пасля двух раненняў дэмабілізавалі, і ён прыехаў дамоў. У яго яшчэ вельмі балела і доўга не зарастала рана, дужа балючая была. Мы шкадавалі, любілі яго, спачувалі і разам радаваліся яго вяртанню дамоў.

Дужа ўмела ён нам расказваў пра тое, што сам напісаў («У лазні») і ў бабулек запазычыў, у кніжках вычытаў. Чытаў, дэкламаваў, казкі і прыказкі, анекдоты расказваў. Дужа любіў родную мову, а тых, хто цураўся роднай мовы і смяяўся з яе, мы называлі «какстамі».

У лес Засценкі к вадапойнаму балоту хадзілі, там пра здані расказваў і так запалохваў, што мы аж трасліся, а Максім смяяўся ды на скрыпачцы граў.

Калі я ў 1916 ці 1917 годзе быў салдатам, служыў у Смаленску, а Максім прапаршчыкам прыходзіў у казармы, яго ласкава прынялі і адпусцілі мяне ў го-

рад. Максім хацеў мяне пачаставаць, мы зайшлі не то ў дваранскае, не то ў афіцэрскае сабранне. Мяне не пусцілі, а паказалі на таблічку, дзе было напісана: «Вход солдатам и собакам не разрешается». Максім паморшчыўся і, адышоўшы трошку, сказаў: «Хутка, браце, гэтых таблічак не будзе». Так яно і збылося.

Маліцца богу прымушалі нас у дзяцінстве доўга. Спярша ўслед за старэйшымі, а потым на памяць услых альбо з малітоўніка таксама ўслых.

Брат Максім жывёлу не пасвіў, а коні пасвіў і тады-сяды вадзіў на начлег, калі ў Засценкі, калі ў Залужжа, калі ў Боцікі. Распальваў агонь, пёк у вогнішчы бульбу і вельмі смакаваў яе. У маленстве сцераглі двор, пасвілі на вуліцы свіней, курэй, ірвалі траву, секлі яе ў карыце. Рыхтавалі корм для скаціны, назіралі за свіннямі і курамі, каб у часе яды не раскідвалі яго, а таксама не раскопвалі і не дралі грады. Хадзілі па ваду.

Чытаць вучылі мяне перш старэйшыя браты, потым Панас Міхасёнак вучыў па хатах, а потым слаўнаўская настаўніца Глінская Анастасія Іванаўна.

Песні пялі: «Дагарай, мая лучына, дагару з табой і я», «А ў полі вярба, пад вярбой вада», «Касіў Ясь канюшыну, касу павесіў на асіну», «Бульбу пякуць, бульбу вараць, ядуць яе ды і хваляць», «Па Дону гуляе казак маладой», «Пайшлі дзевачкі ў лес гуляць...»...

Сябраваў Максім з Ляксеем Піліпёнкам, Мінкам Петрачонкам, Цімохам Банадысёнкам, Мікалаем Максімёнкам, Іванам Мікіцёнкам і Яхімам Леванёнкам. Максіму падабалася Лёкса Максімо́ўна, а не Зена, якая кахала Гаўрылу Мікіцёнка.

Максім умеў араць, скарадзіць, касіць. Раіў сеяць лубін, як зялёнае ўгнаенне, і па ім сеяць жыта. Сеялі пад Засценкамі на рэзку. Таксама раіў сеяць авёс шацілаўскі, і двухрадны ячмень, і траву на корм.

Хадзіў Максім на ігрышчы ў Большую Багацькаўку, Слабодкі, Слаўнава, Курманава, скакаў кадрыль і полечку. Іграў на ігрышчах Васіль Вірысек з Івон.

Росту Максім, па-мойму, быў вышэй сярэдняга.

## *Леаніла Чарняўская-Гарэцкая*

# ЯК СКЛАДАЛАСЯ КНІЖКА НАРОДНЫХ ПЕСЕНЬ [88]



есні». Запісваліся ад маці Максіма, Аўфрасіні Гарэцкай, пачынаючы з 1924 года, у час яе побыту ў нас. Спачатку мама пяяла, і Максім запісваў ад яе словы, потым яму захацелася, каб мелодыі былі паложаны на ноты, і ён пачаў запрашаць да сябе розных музыкаў. Прыходзіў Грыневіч [89], яшчэ не стары чалавек, а ўжо зусім зламаны жыццём. Мама пяяла, ён браўся запісваць, але запісы яму не даваліся. Быў ён вельмі стомлены, змучаны. Мама пяе, а ён слухае, слухае ды і засне. Так ад яго і адступіліся.

Прыходзіў некалькі разоў Васіль Шашалевіч са скрыпачкай, падбіраў ноты, але таксама справа не пайшла. Нарэшце Максім прывёў М. Аладава. З многіх песень, прапетых мамаю, ён выбраў тыя, што яму больш спадабаліся, і паклаў іх на ноты. ... У канцы 1925 года музыкальным запісам песень заняўся А. Ягораў. Ён паклаў на ноты большасць песень, якія ўвайшлі ў зборнік. Мама пяяла па цэлых гадзінах, цярпліва паўтараючы мелодыю, але часам голас адказваў служыць ёй, тады Ягораў прасіў пяяць Максіма ці маленькага Лёню, якія правільна перадавалі мелодыю.

Лёня, пакуль запісвалі песні, быў ля бабы. Музыкальны слых у яго быў выдатны, і мелодыі тых песень, якія яму падабаліся, выпяваў старанна. Так з дапамогаю яго голасу былі дапрацаваны песні «Кума мая...», «Ты, кумачка маладая», «Па гаросаўю, па ячынню». Мінорныя мелодыі яму не пада-

баліся. Але бабе было прыемна, што ўнук пераняў яе песні.

... Мусіць, моц свае душы перадала маці і Максіму, што здолелі яны зрабіць усё, каб кампазітары маглі пакласці на ноты песні, якія пяяліся ў Багацькаўцы.

У 1925 годзе кампазітар Аладаў уключыў у свой квінтэт і некалькі песень, запісаных ад Просі Гарэцкай. Мы: маці, Максім і я — былі на канцэрце, дзе выконваўся «Квінтэт». Памятаю, што ўвайшлі «Па гарохаўю, па ячынню», «Закурыўся дробны дожджык», «Дзеўкі хмель садзілі». З якой годнасцю трымалася маці, слухала і свае песні, гарманізаваныя кампазітарам.

У пачатку 1926 года Максім пераехаў працаваць у Горкі. Хутка туды пераехалі і мы ўсёй сям'ёй. Максім на працягу 1926—1927 гадоў апрацоўваў песні для выдання зборніка, разбіваў іх на раздзелы: «Вясельныя», «Жніўныя», «Калядныя»... Дзівіўся багаццю матэрыялу, захапляўся глыбінёю зместу, даўнасцю. Казаў: «Я й не думаў, мама, што ты іх столькі ўмееш, мне здавалася раней, што толькі дзядзіна Хрысцёна пяяць можа». А яна, ласкава ўсміхаючыся, гаварыла: «Я і сама не ведаю, калі ім навучылася. Каторыя яшчэ ў дзеўках умела, а потым і другім наўчылася. На хрэсьбінах пяём і на вяселлі пяём, жнём — песні заводзім, узімку прадзём і, каб спаць не хацелася, доўгія песні пяём».

Максім доўга яшчэ апрацоўваў тэксты песень, клапаціўся, каб зборнік быў надрукаваны. Нарэшце Інстытут беларускай культуры выдаў зборнік «Народныя песні», укладальнікі М. Гарэцкі, А. Ягораў, 1928 год.

Мама тады была ў нас у Горках, калі Максім прывёз зборнік.

## *Андрэй Сухі*

### З ЮНАЧЫХ ГАДОЎ [90]

Ведаў пісьменніка нашага і цудоўнага чалавека Максіма Гарэцкага з часоў маладосці, калі разам вучыліся ў Горы-Горацкім каморніцка-агранамічным вучылішчы.

Паступіў я ў Горы-Горацкае вучылішча ў 1910 годзе. Трэба сказаць, што вучоба там, як на той час, была пастаўлена добра. Мы мелі неблагую базу для практыкі. Заняткі ў вучылішчы вялі добра падрыхтаваныя выкладчыкі. Аграномію і біялогію выкладаў знакаміты М. З. Рытаў, хімію — І. І. Красікаў, жывёлаводства — Зотаў, меліярацыю — латыш Дусман. Давалі сур'ёзныя веды і па агульнаадукацыйных прадметах. Змястоўна, творча выкладаў славеснасць Сяргей Цітовіч.

Найбліжэй знаёміліся, зблізкаліся навучэнцы ў пансіянаце (так зваўся інтэрнат), дзе мы жылі, сталаваліся, рыхтавалі ўрокі. Сярод нашага маладога гурту я неяк адразу вылучыў Максіма па яго сур'ёзнасці ў кожнай справе і адносінах да сяброў. У скорым часе нас злучыла і супольная цікавасць да беларускага друкаванага слова. Яшчэ ў час майго навучання ў Вілейскім гарадскім вучылішчы, у 1908 годзе да мяне трапіў сшытак з вершамі Якуба Коласа. Дала мне яго аднойчы падчас званай гарбаткі настаўніца прагімназіі, выкладчыца французскай мовы Алена Іванаўна Кулькова. Была яна родам з Вільні. Сярод іншых вершаў паэта, прачытаных у тым сшытку, асабліва запаў мне ў душу верш «Нашым ворагам». Пазней Максім Гарэцкі апублікаваў яго ў сваёй «Гісторыі беларускае літаратуры»

(Вільня, 1920, стар. 151) са спасылкаю: «Па спіску агранома-каморніка з Вілейшчыны Андрэя Сухога».

З 1912 г. пасылаў я дробныя заметкі з жыцця мястэчка Вязынь і яго ваколіц у «Нашу ніву». Выпісаў яе не на пансіянат, каб не дражніць адміністрацыі, а на гарадскую пошту. Газета з цікавасцю чыталася будучымі аграномамі і каморнікамі. Тады я выпісаў хлопцам 18 экземпляраў «Беларускага календара», дзе было нямала матэрыялаў па сельскай гаспадарцы і даволі цікавы літаратурны аддзел. Паволі склаўся як бы гурток аматараў беларускага слова, беларушчыны. Акрамя Максіма Гарэцкага і мяне належалі да яго Васіль Белахвостаў[91] (ён таксама пісаў па-беларуску, складаў вершы), Іван Аўчыннікаў[92], Глудзін і інш. Адзін з нашых сяброў Павел Лапата (родам з-пад Рэчыцы) цікавіўся палітычнай літаратурай, даставаў, даваў чытаць Карла Маркса. Максім Гарэцкі адзін з першых сярод нас пачаў пісаць па-беларуску карэспандэнцыі і малыя апавяданні з жыцця магілёўскіх сялян, адсылаючы іх у рэдакцыю «Нашай нівы». Аднойчы на сёмуху ён запрасіў мяне ў госці да сябе на радзіму — у Малую Багацькаўку. Дабіраліся на Мсціслаўшчыну мы пехатой. Па дарозе я не першы раз адчуў, як душа яго светла раскрывалася насустрач новым уражанням ад малазнаных і незнаёмых мясцін, прыроды, што буйна зелянела, квітнела, поўнілася ўсімі галасамі зямлі. Запомніўся бацька Максіма, паважны, спакойны, клапатлівая, увішная маці. Брат Гурык і сястрычка Ганна, якая пазней курсісткай трапіла пад трамвай у Маскве, былі яшчэ дзецьмі...

У 1913 годзе мы развіталіся з Максімам. Ён паехаў на працу ў Віленшчыну, а ў 1914-м салдатам царскай арміі, артылерыстам Гарэцкі трапіў аж пад Кёнігсберг. Там у цяжкіх баях, застаўшыся толькі адзін з разліку пры гармаце, быў паранены. Пісаў лісты са шпіталя ў Магілёве, пазней служыў у Сібіры. Памятаю яго паштоўкі адтуль з краявідамі Байкала.

Зноў спаткаліся ўжо ў 1918 г. у Мінску, па адходзе немцаў з нашай зямлі. Гарэцкі быў у добрым настроі. Сказаў, што працуе карэспандэнтам газеты «Звязда». Прызнаўся, што шмат піша. На пачатку 20-х гадоў, будучы каморнікам у Княгініне (бліжэй

да родных ваколіц), я наездам бываў у Вільні, дзе некалькі разоў бачыўся з Максімам. Ён быў тады выкладчыкам роднай літаратуры ў Віленскай беларускай гімназіі. Падчас апошняй сустрэчы ў 1923 годзе (пасля пабыўкі на Лукішках) Максім шчыра раіўся са мной аб пераборах у Мінск: Савецкая Беларусь уладна вабіла яго шырокай магчымасцю грамадскай і літаратурнай працы. Я падтрымаў яго намер. Не думалася, што гэта будзе апошняй нашай сустрэчай.

На вялікі жаль, кнігі яго «Рунь», «Антон», «Дзве душы», «Гісторыя беларускае літаратуры», лісты, што заставаліся ў Вілейцы, за час вайны 1941—1945 гадоў, пакуль я быў у эвакуацыі, прапалі. Ацалела толькі адна фатаграфія з часоў нашага юнацтва, што скончылася разам з нашай вучобай у Горы-Горках. У заключэнне хачу сказаць, што на сваёй доўгай жыццёвай дарозе я сустракаў не так ужо і мала добрых, светлых людзей. Вобраз Максіма Гарэцкага, чалавека вялікай душы і незвычайнага таленту, помніцца ўсё ж па-асабліваму.

Варта было паслухаць яго гутарку, нашу мову, якая гучала ў яго вуснах, як песня, каб запомніць яго на ўсё жыццё. Ласкавасць, чуласць, пранікнёнасць гарнулі да яго людзей. Ён меў вялікі дар чалавечнасці, крыштальнай людской дабраты. Як добра, што час збярог спадчыну, якую пакінуў Гарэцкі свайму народу, Радзіме, несмяротныя творы — пранікнёнае слова пісьменніка-гуманіста, пісьменніка-грамадзяніна.

## *Міхась Ганчарык*

### ДАЎНЯЕ, РОДНАЕ [93]

Я нарадзіўся, свае дзіцячыя гады і маладосць правёў у даволі глухім куту дарэвалюцыйнай Беларусі, на паўночнай частцы Ігуменшчыны, на яе стыку з Барысаўшчынай. Гэта той куток Беларусі, Верхменская воласць Ігуменскага павета, куды ў пакаранне за сваю рэвалюцыйную дзейнасць быў сасланы настаўнічаць Якуб Колас.

Газета «Наша ніва», якую атрымліваў у Верхмені настаўнік К. Міцкевіч, у пачатку 1907 года трапіла выпадкова да нас у хату. З гэтага часу беларускае друкаванае слова знайшло сабе пуцявіну ў нашу хату, запаланіла сабой майго старэйшага брата Алеся, бацьку, усю нашу сям'ю. Пачалі выпісваць «Нашу ніву», набываць і чытаць беларускія кніжкі.

Да выхаду з друку кніжкі апавяданняў М. Гарэцкага «Рунь» я быў знаёмы з усімі апавяданнямі, якія друкаваліся ў газеце «Наша ніва». У хаце меліся, чыталіся і перачытваліся такія зборнічкі беларускай прозы, як «Бярозка», «Васількі» Ядвігіна Ш. [94], «Апавяданні», «Нёманаў дар», «Тоўстае палена», «Родныя з'явы» Тараса Гушчы (Якуба Коласа), апавяданні Змітрака Бядулі, кнігі вершаў «Жалейка» і «Шляхам жыцця» Янкі Купалы, «Песні-жальбы» Якуба Коласа, вершы Цішкі Гартнага, Алеся Гаруна [95], Канстанцыі Буйло [96], Альберта Паўловіча [97], Максіма Багдановіча і інш.

Тагачасная беларуская літаратура была мне вельмі блізкая і дарагая па розных прычынах. Па-першае, таму, што гэта была літаратура па маёй

роднай мове, на той мове, на якой гаварыла мая маці і бацька, уся сям'я, усё акаляючае насельніцтва. Гэта давала мне і ўсім маім блізкім усведамленне нашай нацыянальнай, а значыць і чалавечай годнасці. Гэта давала мне права свядома і з павагай карыстацца гэтай мовай і не саромецца яе, як гэта было нядаўна. З другога боку, беларуская літаратура таго часу ў значнай сваёй частцы была блізкая мне па свайму зместу, па сацыяльнай сутнасці, яна будзіла пачуццё класавай свядомасці, выхоўвала варожасць да сацыяльнага і нацыянальнага ўціску, будзіла пачуццё працоўнай (і ў першую чаргу мужыцкай) салідарнасці, клікала да барацьбы. Не дзіва, што ад чытання вершаў Янкі Купалы ў мяне на ўсё жыццё ўрэзаўся ў памяць верш з «Жалейкі»:

Пажалей мужыка-бедака,
Ты, каторы адзеты і сыты,
Пажалей, не адсохне рука,
Бо яму свет да шчасця закрыты...

. . . . . . . . . . . . . . . .

Бо за крыўду сваю адамсціць,
Свінням будзе крыві не пабраць! —
Адамсціць, аж зямля задрыжыць,
Аж віхры зашумяць, загудзяць!

Як прыклад беларускай літаратуры я прачытаў гэты верш на экзамене пры паступленні ў Горацкую сярэднюю сельскагаспадарчую школу ў 1917 годзе.

Я і мае сябры з нецярпеннем чакалі навінак нашай літаратуры, і калі з'явілася кніжачка апавяданняў Максіма Гарэцкага «Рунь», памятаю, я не мог адарвацца ад чытання. Нешта трымала мяне ва ўладзе прачытанага, узбуджала асаблівы настрой. Ды што гэта такое? Чытаю яго апавяданне «У лазні» і нібы сам мыюся ў нашай бацькавай лазні — у такой жа, як і лазня, у якую пайшоў мыцца Клім. Такі ж прымыльнік, па-нашаму, прылазнік, з кастрыцай, зацярушанай снегам, замест падлогі, мяліцы — замест лавак, на якія мы сядаем, каб распранудца. Такія ж шчыліны ў сценах, праз якія залятаюць у прылазнік сняжынкі, і такая ж самая лазня, у якой мыюцца. Замест падлогі — макраццё і гразь, нясцерпная гарачыня ўгары. Калі выпрастаешся, дык гарачыня апальвае галаву, і хутчэй нахіляешся, каб

адчуць прахаладзь унізе. Але тое, што сказаў аб бацькавай лазні Клім, было настолькі праўдзіва і адпаведна нашай сапраўднасці, што мне здавалася, што і я мыўся разам з Клімам у той жа лазні. І адчуванні мае набліжаліся да яго, хаця я і не ведаў нейкіх лепшых лазняў, але бачыў, што сцены прылазніка можна было зрабіць больш шчыльнымі, каб не залятаў у шчыліны снег. Ды і лаўкі можна было зрабіць, каб не сядзець на мяліцах, такіх нязручных для сядзення. Ды і падлогу можна было мець дашчаную, асабліва ў самой лазні, каб не хадзіць па гразі. Але такая лазня, як у нас, гэтак і ў бацькоў Кліма, з'яўлялася тымі «роднымі карэннямі», якія крэпка трымалі нас сваёй уладай і ставілі невырашальнае пытанне: а дзе ж выйсце з гэтага? Ці ёсць шлях абарваць гэтае карэнне, не параніўшы сваё сэрца, не скалечыўшы сваёй душы?

Чытаеш апавяданні М. Гарэцкага ў гэтай кніжачцы і нібы сам удзельнічаеш у тых справах, пра якія ён піша, адчуваеш настрой, пачуцці апісаных людзей, іх перажыванні... А мо гэта перажыванні самога аўтара?.. І якая прыгожая, мілагучная мова, дэталёвы разгляд з'яў і часамі асаблівыя выразы не нашай мясцовасці. Нібы нейкі выдатны чараўнік расчыняў перада мной дзверы ў іншы свет, у якім жыве такі выразны неспакой за лёс, за будучыню радзімай староньκі, за прыгнечанага, абяздоленага беларуса-селяніна.

Не памятаю зараз, дзе і калі адбылося маё першае знаёмства з Максімам Гарэцкім. Мабыць, адбылося гэта ў пачатку 20-х гадоў у Мінску праз яго брата Гаўрылу Іванавіча, з якім я пазнаёміўся яшчэ ў 1917 годзе ў часе навучання ў Горацкіх сельскагаспадарчых школах. Але больш блізкае знаёмства з Максімам Іванавічам, яго жонкай Леанілай Усцінаўнай і дзецьмі адбылося толькі ў 1926 годзе ў Горках. Пастановай Наркамасветы БССР я быў вызвалены ад абавязкаў загадчыка Аршанскага акрана і прызначаны асістэнтам на адну з кафедр Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. У студзені 1926 года я пераехаў з Оршы ў Горкі, але вольнай кватэры ў акадэміі не было, і я апынуўся ў даволі цяжкім становішчы. Але мне тут дапамог Гаўрыла Гарэцкі. Чакаўся прыезд у Акадэмію на працу за-

гадчыка кафедры беларусазнаўства Максіма Гарэцкага, і яму была падрыхтавана кватэра ў новапабудаваным драўляным двухпавярховым доме. Пакуль Максім Іванавіч яшчэ не пераехаў з сям'ёй у Горкі, яго брат дазволіў мне з маёй невялічкай сям'ёй (жонка і гадавалы сын) часова заняць адзін пакой у кватэры Максіма. Пражыў у гэтым пакоі я нешта каля двух-трох месяцаў. Сам гаспадар кватэры паяўляўся ў Горках рэдка, пакуль не наважыў пераехаць з усёй сям'ёй. Вось з гэтых часоў і пачалося маё больш блізкае знаёмства з Максімам Іванавічам Гарэцкім.

На працу ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію Максім Іванавіч Гарэцкі прыехаў ужо вядомым мовазнаўцам, літаратарам. Тут, працуючы ў пастаянным атачэнні студэнтаў з розных раёнаў усходняй часткі Беларусі і суседніх раёнаў РСФСР, Максім Іванавіч прагна лавіў і занатоўваў кожнае новае для яго слова, цікавы выраз, трапны зварот. Ён надаваў вялікае значэнне захаванню і развіццю беларускай мовы, часта падкрэсліваў неабходнасць шырокай разгорнутай працы ў гэтых напрамках.

Максім Іванавіч таксама цікавіўся і неадступна сачыў за развіццём розных літаратурных плыняў, што з'явіліся на Беларусі. «Маладняк», «Узвышша», спробы стварэння беларускага «Лефа» пад Маякоўскага і іншыя літаратурныя зрухі ўвесь час ён трымаў пад сваёй увагай.

Арганізаваная ў 1925 г. Аршанская філія «Маладняка», у 1926 г. поўнасцю сваю дзейнасць перанесла ў Горкі, у Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Тут яна знайшла вельмі спрыяльныя ўмовы для свайго станаўлення і росту. Яна сустрэла самыя прыхільныя адносіны і атрымала вялікую і карысную дапамогу з боку загадчыка кафедры беларусазнаўства, высокакваліфікаванага літаратара і літаратуразнаўца Максіма Гарэцкага. Ды і сама сувязь філіі з гэтай кафедрай была даволі цесная, бо тры працаўнікі кафедры: вядомая беларуская дзеячка Паўліна Мядзёлка [98], знаёмы Максіма Гарэцкага яшчэ ў часе яго вучобы ў агранамічна-каморніцкай школе Навум Сапранкоў і выхаванец Літаратурнага інстытута імя Валерыя Брусава Юрка Гаўрук з'яўляліся актыўнымі сябрамі «Аршанскага Маладняка». Але было асабліва важным тое, што загадчык кафед-

ры Максім Гарэцкі аказваў заўсёды добразычлівую і аўтарытэтную дапамогу «маладнякоўцам» філіі. Ці гэта былі прыватныя звароты да яго за парадамі паасобным сябрам маладнякоўцам, ці гэта была дапамога шырокай грамадскай працы філіі, Максім Гарэцкі заўсёды з вялікай прыемнасцю ішоў на дапамогу нам. Асабліва быў карысным яго ўдзел у літаратурных вечарах, якія наладжваліся маладнякоўцамі, ці пры калектыўных разглядах творчасці паасобных сяброў філіі. На дапамогу Максіма Гарэцкага трэба аднесці і значны поспех філіі ў выхаванні такіх маладнякоўцаў як Тодар Кляшторны [99], Васіль Каваль [100], Алесь Вечар [101], Уладзіслаў Прыбыткоўскі [102], Аляксееў, Гарасімовіч [103], Юлі Таўбін [104] і інш.

Цяжкі жыццёвы лёс напаткаў Максіма Гарэцкага, заўчасна абарвалася яго жыццё. Вялікія здольнасці і мажлівасці гэтага чалавека не рэалізаваны. Засталіся няздзейсненымі многія яго планы, яго задумы, прасякнутыя вялікай адданасцю свайму народу, сваёй Радзіме. Далёка наперад рушыла літаратура і культура нашай рэспублікі, выраслі новыя таленавітыя кадры ў гэтых галінах нашай дзейнасці. І мы ўпэўнены, што тое, што не паспеў зрабіць М. Гарэцкі, будзе выканана нашымі сучаснікамі.

*Алесь Вечар*

## НАСТАЎНІК З МАЙСТЭРНІ СЛОВА [105]


аксім Гарэцкі... Гэтае імя выклікае ў маёй памяці вобраз чалавека, з якім я ў маладосці сустракаўся на сваім жыццёвым шляху і меў шчасце прайсці побач з ім невялікую частку малазнаёмай мне тады дарогі. На гэтай дарозе беларускай мовы і літаратуры Максім Гарэцкі мог перадаваць свае веды і адчуванні моладзі як сапраўдны настаўнік.

Мне пашанцавала сустрэцца з Максімам Гарэцкім у часе маёй вучобы ў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Да паступлення ў акадэмію я працаваў загадчыкам хаты-чытальні ў вёсцы Паськавы Горкі Старадарожскага раёна, быў сакратаром камсамольскай ячэйкі і многа ўвагі аддаваў камсамольскай і грамадскай рабоце. У мяне было мала часу для належнай падрыхтоўкі, каб паступіць у вышэйшую навучальную ўстанову па свайму жаданню, і выбару ў мяне амаль што не было. Дакументаў аб вучобе ў сярэдняй школе я не меў, а была толькі даведка аб тым, што я вучыўся ў Слуцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме і быў з яго накіраваны для работы на вёсцы Слуцкім акруговым камітэтам ЛКСМБ. На аснове гэтай даведкі я спадзяваўся, што мне дазволяць трымаць экзамены для паступлення ў сельскагаспадарчы інстытут, а пра якую-небудзь іншую спецыяльнасць я нават і не марыў.

Было ў мяне яшчэ пасведчанне аб тым, што мяне накіроўвае на вучобу Слуцкі акруговы аддзел народнай асветы. Заяву аб паступленні разам з гэтымі і іншымі паперамі я падаў у Горы-Горацкі сельска-

гаспадарчы інстытут улетку 1925 года і атрымаў выклік ад прыёмнай камісіі.

Прыехаўшы ў Горкі, я перш за ўсё пацікавіўся спісам абітурыентаў, дапушчаных да экзаменаў у інстытут, але свайго прозвішча ў гэтым спісе не знайшоў. Не было яго і ў спісе недапушчаных да паступлення ў інстытут. Нічога не зробіш, прыйшлося ісці ў прыёмную камісію. Сакратар камісіі ўзяў у мяне паперку з выклікам, крыху нібыта здзівіўся, калі я сказаў, што майго прозвішча нідзе ў спісах няма, а потым знайшоў у шафе тоўстую папку, а ў ёй невялікі спісак, зазірнуў у яго, глянуў на паперку з выклікам і гаворыць: «А вы ўжо залічаны студэнтам аграпамічнага факультэта, таму Вас і няма ў спісах для паступаючых. Віншую, можаце ехаць дамоў».

Мне здалося, што ў мяне ад радасці растуць крылы. Праз некалькі месяцаў вучобы, калі інстытут ужо стаў акадэміяй, мяне запрасілі зайсці ў навучальную частку. Запыталі пра мае дакументы аб сканчэнні тэхнікума і вельмі здзівіліся, што іх у мяне і не было. Пацікавіліся, як ідзе мая вучоба (у новай заліковай кніжцы была пяцёрка па фізіцы за подпісам дацэнта Каўцэвіча, якога лічылі строгім), і прызналі статус кво.

Калі пачаліся заняткі на кафедры беларускай мовы і літаратуры, дык на мяне вялікае ўражанне зрабіла тая мова, на якой гаварылі са мной загадчык кафедры Максім Іванавіч Гарэцкі і зусім тады малады дацэнт Юрый Паўлавіч Гаўрук. Гэта была і тая і не тая мова, на якой гаварылі ў нашай вёсцы, і не зусім тая мова, на якой гаварылі жыхары ў Паськавых Горках, дзе я быў загадчыкам хаты-чытальні, або жыхары суседніх вёсак з той, дзе я нарадзіўся. Хоць жыхары гэтых вёсак і разумелі адзін аднаго, але гаворка іх мела свае дыялектныя асаблівасці. У кожнай вёсцы лічылі, што іх гаворка правільная, і насміхаліся з гаворкі суседзяў. Добра пісьменныя людзі гаварылі па-руску, але непісьменных у той час на вёсцы было больш, і яны гаварылі на сваёй мове. У час маёй работы ў хаце-чытальні ліквідацыя непісьменнасці праводзілася па-руску.

Да навучання ў сельскагаспадарчай акадэміі я нідзе сістэматычна роднай мовай не займаўся. Цяпер жа ў Горках я хутка пачаў адрозніваць літара-

турную мову ад звычайнай дыялектнай гаворкі на вёсцы. Мне здавалася, што распаўсюджанне такой адзінай мовы для малапісьменнага сялянства Беларусі мае важнае культурнае значэнне. Не меншае значэнне гэта мела і для мяне самога.

Знаёмства з літаратурнай мовай па творах беларускіх пісьменнікаў, а тым больш з самімі пісьменнікамі, некалькі раней на вёсцы з Цішкам Гартным, а ў акадэміі з Максімам Гарэцкім, зрабіла на мяне значны ўплыў. Я адчуў важнасць культуры мовы не толькі пры карыстанні рускай мовай, але і той мовай, якая была мне знаёмая з маленства. Я ўступіў у літаратурны гурток пры кафедры, пачаў займацца навуковай тэрміналогіяй на беларускай мове, паспрабаваў пісаць вершы, затым напісаў апавяданне на беларускай мове і нарэшце прыняў удзел у арганізацыі і рабоце аршанскай філіі літаратурнага аб'яднання «Маладняк».

Максім Іванавіч непасрэдна не ўдзельнічаў у рабоце літаратурнай групы «Аршанскі Маладняк», але да яго часта звярталіся маладнякоўцы за парадай, калі рэдагавалі літаратурныя творы і матэрыялы для часопіса «Аршанскі Маладняк». Гэты часопіс у 1926—1927 гадах друкаваўся ў друкарні акадэміі (раней ён друкаваўся ў Оршы) і вакол яго групаваліся маладыя паэты і пісьменнікі з усёй Аршаншчыны. Некаторыя з іх у далейшым прысвяцілі літаратуры ўсё сваё жыццё. Было надрукавана 7 нумароў «Аршанскага Маладняка», і ў ім былі змешчаны мае першыя творы.

Максім Іванавіч цікавіўся таксама работай літаратурнага гуртка пры кафедры, але непасрэдна работай гэтага гуртка кіраваў Юрка Гаўрук. Мы ведалі, што Максім Іванавіч займаўся ў гэты час навуковай і літаратурнай работай.

Неўзабаве ён напісаў кніжку «Маладняк» за пяць гадоў», у якой даў кароткую характарыстыку творчага стылю многіх членаў гэтага аб'яднання, у тым ліку і майго. Гэта была першая нататка пра мяне як літаратара. Я, вядома, быў вельмі рад, што на мяне звярнулі ўвагу, але не скажу, што тая нататка мне спадабалася. Як многія пачынаючыя паэты таго часу, я вельмі цаніў вонкавую форму твора, крыху пераймаў Маякоўскага ды іншых. А ў нататцы гава-

рылася, што ў маіх творах можна заўважыць імкненне да класіцызму.

На самой справе яно так і было, але ў той час я яшчэ не ведаў галоўнай функцыі слова — несці інфармацыю.

Апошняя мая сустрэча з М. Гарэцкім здаецца мне казачнай. Я жыў тады ў Мінску і аднойчы спаткаўся з адным з маіх сяброў па вучобе ў акадэміі. Прайшло ўжо некалькі гадоў, як мы бачыліся, і ў той ясны сонечны дзень мы селі на лаўцы ў садзіку на пляцы Волі і пачалі ўспамінаць пра былое жыццё ў акадэміі і пра нашых лепшых знаёмых. Нечакана мой сябар у мяне запытаў: «А ці ведаеш ты, дзе цяпер Максім Гарэцкі?» Гэтае імя выклікала ў маёй памяці вобраз майго добрага настаўніка, які вучыў мяне і многіх яшчэ іншых працаваць над роднай мовай і над словам, як важнейшымі элементамі культуры свайго народа. Гэты вобраз заслугоўваў таго, каб яго намаляваў які-небудзь вялікі мастак, у якога хапіла б таленту перадаць на партрэце пранікнёны погляд, мудрасць і духоўнае багацце гэтага чалавека. Я затрымаўся з адказам, а ў гэты момант за маёй спіной нехта гучна абазваўся: «А хто тут пытае пра Максіма Гарэцкага?» Мы азірнуліся і падняліся ад нечаканасці з лаўкі. Перад намі стаяў жывы і вясёлы Максім Іванавіч. Ён быў у недарагім шэраватым, прызначаным для дальняй дарогі касцюме і ў звычайнай рабочай кепцы. Ён не захацеў садзіцца з намі на лаўку і гаварыў з намі нядоўга, бо кудысьці спяшаўся. Калі ён пайшоў, мы абодва доўга глядзелі яму ўслед і моўчкі жадалі яму шчаслівай дарогі і ўсяго самага найлепшага.

## *Юрка Гаўрук*

### СУСТРЭЧЫ Ў ГОРКАХ І МІНСКУ [106]

Вельмі радасна чуць, што імя Максіма Іванавіча Гарэцкага з кожным годам становіцца вядомым усё больш шырокім колам.

М. І. Гарэцкі быў вялікі мастак слова. Толькі цяпер яго творчая манера, майстэрства вывучаюцца як след і аб ім заслужана гавораць многае добрае.

Мне давялося цэлых тры гады працаваць разам з М. І. Гарэцкім. Так што мы былі блізкія таварышы, цікавіліся творчасцю адзін аднаго. Многа было ў нас гутарак, абмену думкамі. Сёе-тое я вам з гэтага раскажу.

Ён працаваў у 1926-м, 1927-м і 1928-м гадах у Горках у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Быў дацэнтам. Чытаў курс беларускай мовы і літаратуры. На гэтай жа кафедры працаваў і я, чытаў тыя ж самыя прадметы. Гісторыя склалася так. У 1925 г. Уладзіміра Дубоўку і мяне абралі дацэнтамі кафедры беларускай мовы і літаратуры сельгасакадэміі. І вось мы прыехалі ў Горкі. Дубоўка пахадзіў, паглядзеў, нешта яму там не спадабалася, і літаральна знік, паехаў у Мінск. Застаўся я адзін як перст. Ужо восень позняя, пара ўжо было пачынаць заняткі. Вось тут пайшла чутка, што экстрана запрашаюць чалавека моцнага, які належна паставіць справу навучання на кафедры.

Акадэмія запрасіла М. І. Гарэцкага. Я, памятаю, прыязджаў да яго ў той час у Мінск дагаворвацца аб гэтым і, па праўдзе кажучы, быў не вельмі ўпэўнены. Думаў: а вось раптам Максім Іванавіч адмовіцца. Як-ніяк Мінск. Інбелкульт. Літаратура. А тут Горкі.

Ён адразу без усякага хістання згадзіўся. Можа, Максіма Іванавіча пацягнула тое, што ён вучыўся ў Горках, блізка былі Малая Багацькаўка, Хоцімск, Цёмны Лес — родныя мясціны. Ва ўсякім разе ён пераехаў з сям'ёю ў Горкі.

Пасяліўся ў драўляным двухпавярховым доме. Дом быў толькі што пабудаваны і ашаляваны. У Горках тады ішло ажыўленае будаўніцтва. Стары інстытут ператвараўся ў акадэмію. Жыў Гарэцкі на другім паверсе. Мяне здзіўляла незвычайная сціпласць Максіма Іванавіча і яго сям'і. У кватэры было проста: ні малюнкаў на сценах, ні багатай мэблі. Звычайныя крэслы, ложкі, вялікі куфар, пакрыты посцілкай... Прычына, відаць, была ў тым, што ён часта вандраваў, пераязджаў. Нават не памятаю, ці была ў яго хатняя бібліятэка. Ва ўсякім разе шмат кніг я не бачыў. Потым, праўда, даведаўся: ён хаваў іх у куфар. Адтуль аднойчы ён выняў кніжку Дуніна-Марцінкевіча «Гапон», старое выданне з малюнкамі, і даў мне ў падарунак.

Калі працаваў Максім Іванавіч і як ён працаваў, мне, на жаль, цяжка сказаць. Таму што ў яго заўсёды было чысценька, акуратненька. Між іншым, у яго была такая прывычка — чарнавікі не захоўваць. У яго сапраўды было заўсёды толькі гатовае. А дзе ён захоўваў чыставікі, я таксама не ведаю. Чарнавікі ж, мабыць, калі знаходзіў іх не вельмі ўдалымі, знішчаў. Апроч літаратуры, якую вельмі любіў, і фальклору, якім займаўся ўсё жыццё, ён цікавіўся і тэхнікай. Наогул гэта быў чалавек шырокай цікавасці.

У яго быў прыёмнік на чатыры лямпы, па тым часе гэта была навінка, апошняе дасягненне тэхнікі. Была хатняя антэна. Хацеў ён пачапіць антэну на дварэ, на даху. Але ўнізе жыў прафесар Мышкін, добры прафесар, фізіку выкладаў. «Максім Іванавіч, я вам не раю ставіць антэну на даху. Маланка ўдарыць, і будзе няшчасце»,— сказаў ён. Так Максім Іванавіч і абмяжоўваўся хатняй антэнай. Слухаў радыё ўважліва, запрашаў іншых. «Вось паслухайце, паслухайце...» Што да заняткаў у акадэміі, то яны размяркоўваліся ў нас так. Тры дні на тыдзень працаваў Максім Іванавіч, і тры дні я. Так што ў нас выходзіла дзён па чатыры выхадных. Гарэцкі вельмі

любіў выкладаць мову. А прынцып выкладання ў нас быў такі. Тэарэтычныя ўступы, тлумачэнні, азнаямленне з катэгорыямі, правіламі беларускай граматыкі. Практыка ж зводзілася да наступнага. У той час выходзіла вельмі многа сельскагаспадарчых брашур па самых розных пытаннях земляробства, жывёлагадоўлі. Усе яны ў значнай колькасці траплялі ў сельгасакадэмію. Студэнты перакладалі гэтыя брашуры з рускай мовы і тым самым засвойвалі тэрміналогію і набывалі практыку перадачы думак па-беларуску. Мы кантралявалі гэты пераклад, памылкі перакладу аналізавалі ў аўдыторыі. Было ў Максіма Гарэцкага чалавечае абаянне, такое своеасаблівае. Можа, гэта не кожны заўважаў, але, хто бліжэй быў да яго, той не мог не заўважыць. Гэта выяўлялася і ў рэдкаснай адданасці справе. Яна і накладала адбітак на яго аблічча, усю яго чалавечую асобу. Я задумаўся, якая рыса Максіма Іванавіча галоўная, што яго трымала ў жыцці.

Яго падтрымлівала незвычайная вернасць, адданасць літаратуры, навуцы, народу свайму беларускаму.

Я мала ведаў людзей, якія б так любілі сваю справу, так аддаваліся ёй усёй душой. Ён стараўся сабраць і песні, і казкі, і народную лексіку. Стварыць зборнікі, слоўнікі, падручнікі. Ён вельмі старанна ўсё вывучаў і імкнуўся зрабіць здабыткам мас. Усё, што рабіў, рабіў грунтоўна, укладаючы душу. Чытаючы апавяданні, аповесці Гарэцкага, яго артыкулы, міжволі звяртаеш увагу на іх мову. Якая яна музычная і непадобная на сучасную. Ён чэрпаў з чыстых народных крыніц. Прычым чэрпаў, пісаў праўдзіва, як чуў. У яго мове ёсць натуральнасць, праўдзівасць, зусім няма штучнасці.

Усё ішло ад жыцця, ад слова народнага. Прыгадаю яшчэ некалькі дэталяў. Неяк аднаго разу прыйшоў Максім Іванавіч да мяне. Адчыніў дзверы, затрымаўся на парозе. Не сыходзіць з месца, стаіць, усміхаецца, глядзіць на мяне.

— Пойдзем гуляць! — радасна і катэгарычна заклікае.

Пайшлі па горацкіх ярах, сенажацях, узлесках. Збіралі кветкі, гаварылі. Назбіралі вялікія букеты кветак. Тады прыселі пры рове, а ён і кажа:

— Ведаеце, а Ваш букет лепшы.

Я не веру. Думаю сабе: чаму лепшы.

— Глядзіце,— кажа Гарэцкі.— Вы як збіралі, так і складалі. А я кожную кветку падганяў да іншых.

Так што атрымаліся валошкі ў адным месцы, рамонак у другім, трава якая — у трэцім. Выйшла штось накшталт класічнага стылю, калі спецыяльна падганяецца, падразаецца. Пачалася спрэчка аб стылях. У рэшце рэшт Максім Іванавіч прыйшоў да пераканання і сказаў аб гэтым падкрэслена, што самы лепшы стыль — калі рэчаіснасць не падганяюць пад задуму, а стараюцца неяк гэту задуму ці выснову ўзяць з самой рэчаіснасці. Гаварыў Максім Іванавіч аб асновах рэалізму.

Вельмі хваліў пры гэтым, вельмі любіў ён паэму Якуба Коласа «Новая зямля». Гэта твор, якім ён захапляўся горача, часта дэкламаваў. У нас тады крыху разыходзіліся погляды. Мне больш імпанаваў «Сымон-музыка». Вабіла рамантыка. Максім Іванавіч быў пераканаlarны прыхільнік і паслядоўнік рэалізму, эпікі.

Яшчэ адзін штрышок да партрэта Гарэцкага. Быў Максім Іванавіч сарамлівы. Калісь надрукаваў я рэцэнзію на зборнік «Досвіткі». Вельмі цёпла адазваўся пра ўменне пісьменніка быць далікатным пры адлюстраванні кахання. Нейкім асцярожным, рамантычным, пяшчотным.

— Не трэба, навошта,— сказаў ён мне і заліўся чырванню.

Апошняя мая сустрэча з гэтым добрым чалавекам і пісьменнікам была ў 1929 годзе, калі ён ужо пераехаў у Мінск. Я зайшоў да яго, доўга сядзелі. У цягу гутаркі Максім Іванавіч пачаў расказваць мне пра новы свой твор «Віленскія камунары». У пісьменніка спачатку не было яснасці, што яму рабіць з таго матэрыялу, які ў яго здаўна збіраўся. У яго была такая трывалая і шчодрая памяць, якая дазваляла яму ўсё аднаўляць так, як бы гэта адбывалася цяпер. Ён спытаў у мяне: «Як вы думаеце: ці мне лепш пісаць раман, ці рабіць сцэнарый?» Яго надзвычайна цягнула яшчэ да кіно. Гарэцкі добра адчуваў драматычнасць сітуацый, і матэрыял ён бачыў у сцэнарным варыянце. Памятаю, гаворка была прыблізна

такая. Усё ж лепш пісаць раман. Чаму? Кінасцэнарый — жанр спецыфічны, які патрабуе супрацоўніцтва з рэжысёрам, калі ўдасца працаваць на пару з Юрыем Тарычам [107] (у той час Тарыч зазняў некалькі фільмаў), то сцэнарый, відаць, атрымаецца. Пачаўшы ж аднаму, наўрад удасца давесці да рэалізацыі. Сцэнарый перарабяць, і аўтар задумы не будзе мець над ім волі.

Потым Гарэцкага не стала. З выхадам у 1965 г. яго рамана, здаецца, пачалося другое нараджэнне пісьменніка. Яго сталы прыход да шырокага сучаснага чытача.

## *Вера Маслоўская*

# НА НАСТАЎНІЦКІХ КУРСАХ У ВІЛЬНІ [108]



1917—1919 гг. працавала я настаўніцай беларускай народнай школы ў вёсцы Грабавец Арлянскай гміны Бельскага павета, на Беласточчыне. На пачатку жніўня 1919 г. выклікалі мяне ў Вільню на Беларускія настаўніцкія курсы, якія былі арганізаваны ў Базыльянскіх мурах на Вастрабрамскай вуліцы. Тады я і спаткалася з Максімам Гарэцкім, які на працягу цэлага месяца быў нашым настаўнікам. Ён выкладаў на курсах гісторыю беларускай літаратуры. Расказваў пра шляхі роднай літаратуры, людзей, што яе тварылі, пранікнёна, цікава. Сваю любоў, зацікаўленне ўмеў перадаць нам, маладым курсантам. «Ідзіце абранай дарогай адважна, няхай не пакідае вас высокая ідэя служэння свайму народу, працавітаму люду».

Максім Гарэцкі характар меў спакойны, ураўнаважаны. Гаварыў мілым, прыемным голасам. У адносінах з намі быў вельмі непасрэдны. Звяртаўся да кожнага як да калегі. Уважліва ставіўся да патрэб курсантаў. Пранікаўся нашымі клопатам і памкненнямі.

Быў гарачым патрыётам сваёй зямлі, Беларусі, умеў шанаваць чужое.

Заахвочваў курсантаў пробаваць свае сілы ў літаратуры. Нярэдка паўтараў: «Пішыце свае думкі, будуць потым для кагось дарагія».

Любіў Максім Гарэцкі жартаваць, смяяцца. Вельмі ахвочы быў да песень і не раз спяваў разам з курсантамі.

Памятаю, толькі раз на Віленскай вуліцы, калі мы гучна спявалі песню «Беларуская зямліца», Гарэцкі стрымліваў нас, каб лішне не дражнілі патрыятычнай песняй сваёй тых, каму ні мова наша, ні песня не падабаліся. Пішучы вершы, я падпісвала іх псеўданімам «Мурашка». Гарэцкі паджартоўваў з мяне: «Ты працавітая, Мурашка, і куслівая. Гэта табе паможа ў жыцці, у барацьбе»,— пераходзіў ён на паважны тон. Калі курсы скончыліся і надышоў час развітацца, то многія курсанты плакалі. Моцна здружыліся мы сваёй маладой сям'ёй. Лучыла нас светлая ідэя служэння сваёй шматпакутнай зямлі, радзіме, вера ў яе хуткае вызваленне.

«Ідзіце і працуйце дзеля дабра сваёй бацькаўшчыны. Нясіце светач навукі і праўды... Невядома, ці яшчэ спаткаемся»,— скончыў Гарэцкі сваё развітальнае слова. Тады я кінулася наперад і пацалавала любімага настаўніка ў плячо.

Відаць, гэта для яго было нечакана. Ён крыху збянтэжыўся і пажартаваў: «Вось ужо мурашка ўкусіла».

Тады я сказала: «Люблю як каханага лектара роднай мовы, літаратуры», і ўсе курсанты ўслед за мной закрычалі: «І мы таксама вас любім».

У той час я рыхтавалася пайсці на падпольную работу на Беласточчыну і больш ніколі не спаткала ўжо любімага настаўніка і прыяцеля курсантаў. На курсах было нямала цікавых выкладчыкаў, але ніхто, як Максім Гарэцкі, не ўмеў так заглянуцца ў нашы маладыя душы, сваім словам і справай парываць да працы і барацьбы.

# *Кузьма Кулакоў*

## НА РАБФАКУ УНІВЕРСІТЭТА [109]



У 1922 годзе, дэмабілізаваўшыся з радоў Чырвонай Арміі, я паступіў на рабочы факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

У тыя гады імкненне авалодаць навукай паўстала перад пралетарскай моладдзю як другі фронт.

Студэнтамі створанага рабфака сталі рабочыя, сяляне і ўдзельнікі грамадзянскай вайны, якая толькі што скончылася. Пад кіраўніцтвам сваёй рабфакаўскай партыйнай арганізацыі рос і мужнеў будучы атрад савецкай інтэлігенцыі. Рабфакаўцы вучыліся і адначасова будавалі свой рабочы факультэт.

Былі, па сутнасці, пакладзены пачатак новаму студэнцтву, якое ўмешвалася ў жыццё і арганізацыю вучэбнага працэсу. Наследуючы ўсё лепшае са старога метаду навучання, студэнты-рабфакаўцы адначасова знаходзілі новыя актыўныя спосабы руху наперад. Ім, вядома, ва ўсім гэтым памагаў надзіва дружны, па-бацькоўску клапатлівы і разам з тым патрабавальна-строгі і аб'ектыўны прафесарска-выкладчыцкі склад. Многіх з іх рабфакаўцы, прайшоўшыя вялікі жыццёвы шлях, заўсёды ўспамінаюць добрым словам.

Не магу і я сёння не ўспомніць свайго блізкага і чулага настаўніка, дзякуючы якому 55 гадоў таму назад звязаў сваё жыццё з тэатральным мастацтвам, бо ён адзін з першых прышчапіў мне любоў да тэатра. Гаворка будзе пра майго настаўніка — пісьменніка, публіцыста і вучонага Максіма Іванавіча Гарэц-

кага. Яго імя, яго воблік я заўсёды ўспамінаў і ўспамінаю і ў цяжкія, і ў харошыя мінуты жыцця.

У 1923 годзе рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта У. І. Пічэта запрашае Максіма Гарэцкага на рабфак выкладаць беларускую мову і літаратуру.

З першых сваіх лекцый на рабфаку М. Гарэцкі заваяваў сімпатыі рабфакаўскай аўдыторыі, стаў адным з самых любімых нашых настаўнікаў. Ён пакінуў незабыўны след у памяці многіх нашых выпускнікоў. І колькі разоў мы, рабфакаўцы, за доўгія гады, што прайшлі пасля нашага з ім знаёмства, ні сустракаліся, заўсёды ўспаміналі пра яго першага.

Паміж намі, яго вучнямі, і ім самім, розніца ў гадах тады была не вельмі вялікая — нам было па 20—22 гады, яму — 30, а разам з тым ён карыстаўся ў нас вялікай павагай і аўтарытэтам. Гэта быў не толькі выкладчык, настаўнік — гэта быў сябар і просты ў абыходжанні таварыш. Ён быў душою рабфака.

У яго вуснах беларуская гаворка гучала як музыка. Ён дасканала ведаў беларускі фальклор — беларускія песні і танцы, беларускую народную творчасць: казкі, прыказкі, прыгаворкі, касцюмы, арнамент, вельмі любіў тэатр.

Рабфакаўская аўдыторыя заўсёды з вялікай цікавасцю слухала лекцыі Максіма Іванавіча, таму што яны былі даступныя, надзвычай змястоўныя і цікавыя формаю выкладу. Яго лекцыі былі заўсёды напоўнены яркімі вобразнымі прыкладамі, тонкім гумарам.

Ён быў страсным і таленавітым прапагандыстам беларускай літаратуры і мастацтва. Гэта быў сціплы, сардэчны, чулы, уважлівы і інтэлігентны ў поўным сэнсе гэтага слова чалавек. Ён далучаў нас да мастацтва тэатра, кіно, музыкі, жывапісу. Хадзіў з намі на спектаклі, канцэрты, у музеі.

Перад кожным паходам у тэатр, кіно, на канцэрты або ў музей Максім Іванавіч на сваіх занятках знаходзіў час, каб расказаць сюжэт п'есы, біяграфію драматурга, кампазітара, мастака, раскрыць ідэйны змест твора.

Па дамоўленасці з кіраўніцтвам беларускага тэатра М. Гарэцкі арганізоўваў творчыя сустрэчы з ак-

цёрамі і рэжысёрамі тэатра, на якіх наладжваліся абмеркаванні прагледжаных спектакляў. Помніцца, як аднойчы ён запрасіў да нас Фларыяна Ждановіча [110] і той захапіў усіх сваёй вельмі прыгожай, музычнай, нейкай па-асабліваму мяккай і мілагучнай беларускай мовай, майстэрскай дыкцыяй, глыбокім веданнем народнай творчасці.

Усё гэта М. Гарэцкі рабіў з любоўю, хоць гэта работа не ўваходзіла ў кола яго абавязкаў. Ён быў ініцыятарам творчых сустрэч з беларускімі паэтамі, празаікамі і драматургамі. На рабфаку па яго ініцыятыве наладжваліся літаратурна-мастацкія вечары, на якіх прысутнічалі Я. Купала, Я. Колас, М. Чарот, З. Бядуля, Ц. Гартны.

На гэтых вечарах запрошаныя пісьменнікі і паэты чыталі свае творы, а рабфакаўцы выступалі з рэфератамі, у якіх быў крытычны разгляд творчасці нашых гасцей. На гэтых вечарах рабфакаўцы, удзельнікі самадзейнасці, члены гуртка мастацкага слова чыталі вершы і прозу запрошаных, а маладыя студэнты-паэты Я. Рак, Сапун, Дакучыц і іншыя чыталі свае вершы.

Сярод шматлікіх прац М. І. Гарэцкага па гісторыі беларускай літаратуры, па лексікаграфіі і інш. асаблівае месца займае даследаванне народнай творчасці, якую ён вельмі любіў.

Як успамінае вядомы беларускі кампазітар М. І. Аладаў, якому даводзілася супрацоўнічаць з М. Гарэцкім, адна з фальклорных экспедыцый была арганізавана на радзіму Максіма Іванавіча ў вёску Малая Багацькаўка.

Максім Іванавіч прышчапіў нам любоў да літаратуры і мастацтва. Ён навучыў нас слухаць музыку, любіць песню і танец, разбірацца ў мастацтве тэатра. Таму вобраз яго астаўся ў маёй памяці на ўсё жыццё.

# *Мікола Улашчык*

## ЗГАДКА [111]

аксіма Іванавіча Гарэцкага я ведаў прыблізна з 1925 года, ведаў як аўтара «Гісторыі беларускай літаратуры» і «Дзвюх душ». З 1925 года я працаваў у Дзяржаўнай бібліятэцы і даволі часта дзяжурыў ці проста сядзеў у Беларускім аддзеле (аддзел знаходзіўся ў тым будынку, дзе зараз Дом мастацтваў, на Ленінскім праспекце, а ў той час на Савецкай вуліцы). У аддзеле знаходзілася сталая выстаўка новых кніг, і туды часта заходзілі прафесары з універсітэта, супрацоўнікі Інбелкульта і наогул культурныя працаўнікі (Міровіч, напрыклад). Часам заходзіў і Максім Іванавіч, а некалькі разоў ён прыводзіў рабфакаўцаў, сваіх вучняў, каб паказаць ім выданні Скарыны, Літоўскі статут 1588 г. і іншыя старадрукі. Там я і ўбачыў Максіма Іванавіча, з тых сустрэч і ён ведаў мяне; звыш гэтых рэдкіх спатканняў я амаль з ім не сустракаўся.

Наколькі я памятаю, ён бываў вельмі рэдка і на тых літаратурных сходах, якія ў той час вельмі часта наладжваў «Маладняк» і на якіх бывала пераважна моладзь (М. І. Гарэцкаму ў 1925 годзе было 32 гады, і ён лічыўся калі і не зусім старым, то каля таго). Цэнтральнае бюро «Маладняка» збіралася амаль штотыдня. На гэтых сходах абмяркоўваліся як розныя арганізацыйныя справы, так і новыя, надрукаваныя ці ненадрукаваныя творы. У той час у маленькім Мінску было некалькі літаратурных і нелітаратурных часопісаў («Савецкае будаўніцтва», «Наш край» і інш.), і ў рэдактараў клопат быў не пра тое, што

аўтары завальваюць іх сваімі творамі, але што гэтых твораў малавата.

На пасяджэннях «Маладняка» часцей за ўсё выступалі такія «генералы» таго часу, як Андрэй Александровіч[112], Анатоль Ажгірэй (Вольны)[113], Іларыён Барашка[114]. Уся гэта моладзь была кепска падрыхтавана да абавязкаў літаратурных крытыкаў, да таго ж станоўчыя ці адмоўныя ацэнкі часам даваліся ў залежнасці ад асабістых адносін. Значна больш цікава праходзілі пасяджэнні, у якіх удзельнічаў Дубоўка, які на той час жыў у Маскве. Памятаю адно выступленне Максіма Іванавіча Гарэцкага. Увечары ў рэдакцыі «Звязды» абмяркоўвалася апавяданне Кузьмы Чорнага «Мяшчане ў густой пары» (было надрукавана ў «Савецкай Беларусі»). Не памятаю, як і хто выказаўся адносна гэтага твора, але Максім Іванавіч, узрушана ўстаўшы, сказаў, што пад гэтым творам ён свайго подпісу не паставіў бы.

## *Мар'ян Пецюкевіч*

### З ТЫХ ДАЛЁКІХ ЧАСОЎ [115]

Знаёмства маё, на жаль, кароткае, з выдатным беларускім пісьменнікам, педагогам, вучоным — Максімам Гарэцкім было зусім неспадзяванае. Адрозніваў нас узрост, адукацыя і становішча ў грамадстве. Яднала, хіба, найважнейшае — нацыянальнасць, абодва мы сыны Беларусі. Ён з Багацькаўкі Мсціслаўскага раёна, а я з Цяцерак Браслаўскага раёна, абодва мы сыны беднай беларускай сям'і.

Упершыню я пабачыў Максіма Гарэцкага на ўступным экзамене ў Віленскай Беларускай гімназіі. Ён экзаменаваў мяне па беларускай мове і літаратуры. З беларускай мовай і літаратурай я не меў клопату таму, што ўжо нямала прачытаў кніг беларускіх пісьменнікаў.

Зрабіў я прыемнасць экзаменатару, калі прызнаўся, што чытаў зборнік апавяданняў «Рунь», аповесць «Дзве душы». Экзамен праходзіў у форме прыемнай размовы з прыязным і блізкім, зычлівым чалавекам. Мой будучы настаўнік зачараваў мяне і прывязаў да сябе, як добры бацька сына. Група кандыдатаў у гімназію, да якой і я быў далучаны, была залічана ў IV клас. Фактычна не быў гэта фармальны экзамен, а проста праверка ведаў па ўсіх важнейшых прадметах.

У гімназіі, як пазней мы зразумелі, было нямала ўмелых педагогаў, добрых сейбітаў ведаў. Сярод іх моладзь вылучала Максіма Гарэцкага. Не было выпадку, каб хто з вучняў нашага класа ўцёк з урока беларускай мовы ці літаратуры. Прыходзілі на ўрокі

М. Гарэцкага нават і тыя, каго лекар звольніў па хваробе.

Ягоныя ўрокі былі займальныя, цікавыя, павучальныя. Помніцца такі выпадак. Аднойчы на ўроку роднай мовы М. Гарэцкі запытаў, хто для нас усіх найдаражэйшы на свеце? Былі розныя адказы, але неўпапад. Тады М. Гарэцкі сказаў: «Найдаражэйшай істотай для кожнага чалавека, а нават і для жывёлы,— маці». «А чаму?» — запытаў далей наш любімы выкладчык. Зноў адказы былі неўпапад. «Таму, што маці першая прамовіла для нас у роднай мове. Нарадзіла, узяла на рукі карміць, пагледзела і сказала: «Мой сынок, мая дачушка». Яна — маці — першая настаўніца нашай роднай мовы — найдаражэйшага скарбу. Дык ведайце, што той вялікі праступнік, які адкіне найдаражэйшы скарб, атрыманы ад роднай нашай маці. Шануйце сваю родную маці, родную мову»,— прамовіў ён і пры гэтым зацытаваў запаветны загад-перасцярогу Францішка Багушэвіча: «Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі...»

# *Антон Янкоўскі*

## З ВІЛЕНСКІХ СПАТКАННЯЎ [116]

З Максімам Гарэцкім я пазнаўся позняй восенню 1919 г. А было так. На рынку ў Вільні старая Чарняўская, цешча Максіма, купіла ў мяне добрыя, сухія, бярозавыя дровы. Жыў тады Максім Гарэцкі па вуліцы Вастрабрамскай (цяпер Горкага) пры Базыльянскіх мурах, у браме на першым паверсе.

Гарэцкі мне заўсёды памагаў разгружаць дровы, а старая яго цешча Чарняўская і харошая, маладая і мілая жонка частавалі гарбатай. Я стаў на дровах іх «сябрам» — вазіў ім наведам, як у нас казалі.

Гарэцкі цікавіўся жыццём маім, вёскай, і калі даведаўся, што я маю нават скончанае народнае вучылішча, даваў мне шмат усякіх газет і кніжак. Мяне гэтая сям'я, як кажуць, узяла моцна за душу. Я быў заўсягды бедна адзеты. Дарога тады была балоцістая, у гразі, хадзіў не раз у хадаках, ці ботах на драўлянай падэшве — кандалах. А яны мяне заўсёды ўважалі як чалавека, так па-людску. Раз Гарэцкі падараваў мне «Гісторыю беларускае літаратуры» на крэйдавай паперы. Шкада, што я не папрасіў яго падпісаць. Кнігу гэту я аправіў, трымаў як дарагую памятку, а як моцна хварэў і баяўся, каб яна і другія старыя беларускія кнігі не прапалі, адаслаў у пэўныя рукі.

Восенню 1920 года ў Вільні ў Базыльянскіх мурах былі арганізаваны 1-я беларускія настаўніцкія курсы. Гарэцкі з Тарашкевічам (тады ўжо ў Вільні быў і Браніслаў, наш слаўны Бронюсь Адамавіч Тарашкевіч) угаварылі мяне, каб я абавязкова вучыўся.

Бацька згадзіўся, і я вучыўся не горш за другіх. Раз, помню, Гарэцкі, ён тады быў рэдактар беларускай газеты і выкладаў на настаўніцкіх курсах, на лекцыі літаратуры даў усім заданне напісаць карэспандэнцыю ў яго газету. Напісаў і я. Падпісаў «Качарга». Гарэцкі выдрукаваў заметку, хваліў мяне перад усімі. О, які я быў рады і як вырас у вачах курсантаў!

Настаўнікам я не стаў, бо мусіў памагаць бацьку ў хаце. Ездзіў з дровамі ў Вільню і часта, калі меў добрыя дровы, завозіў старой Чарняўскай. Кватэра Гарэцкага была невялікая, сціпла мэбляваная, кухня і 2 ці 3 пакоі ў старых мурах. Было там сыра, вільготна, бо ў кухні, помню, стаяла яшчэ старая руская печ, такая, якую і цяпер яшчэ часам можна спаткаць па вёсках у старых хатах,— шмат дроў было трэба паліць.

Апошні раз я бачыўся з Максімам Гарэцкім, мусіць, неяк у 1922 годзе. Мяне бралі ў войска. Я зайшоў з ім развітацца. Пагаварылі коратка. Развіталіся, як з родным, блізкім.

## Алесь Якімовіч

# НАСТАЎНІК І СЯБАР МАЛАДЫХ [117]



аксіма Іванавіча Гарэцкага я помню з часу яго звароту ў Мінск. Пра яго тады многа гаварылі як пра вядомага літаратара і культурнага дзеяча, якому ўдалося вырвацца з панскай Польшчы на радзіму. Гэтак жа цікавіліся мы, маладнякоўцы, і іншымі беларускімі дзеячамі, што вярнуліся да нас, у Савецкую Беларусь.

Праўда, кніг Максіма Гарэцкага ў продажы і ў бібліятэках яшчэ не было: яны з'явіліся пазней. Але мы ведалі, што ён друкаваўся ў Вільні, што ў яго апрача апавяданняў і аповесці «Дзве душы» ёсць «Гісторыя беларускай літаратуры» і нават беларуска-рускі слоўнік. У той час гэтым яшчэ не маглі пахваліцца нашы мінскія літаратуразнаўцы і мовазнаўцы. Прафесары і выкладчыкі універсітэта беларускай літаратурай яшчэ не цікавіліся, а ў нашым педтэхнікуме яе выкладаў адзін толькі М. Піятуховіч. Але ні ён, ні вядомы ў той час крытык Чаржынскі яшчэ і не збіраліся складаць гісторыю літаратуры. Таму нават звычайная пашыраная хрэстаматыя — «Выпісы з беларускай літаратуры» — была для нас значнай падзеяй.

Максім Іванавіч неяк адразу ж пасябраваў з маладнякоўцамі, хоць быў ён і старэйшы за самых старых з нас, аднак з ім лёгка знаходзілі агульную мову і самыя маладыя.

У канцы 1924 года я трапіў да Максіма Іванавіча на кватэру. Ён запрасіў да сябе Уладзіміра Дубоўку. А Дубоўка прыхапіў і мяне як свайго сакратара па рэдакцыі «Беларускага піянера» [118].

Гэтая сустрэча мне запомнілася на ўсё жыццё. Максім Іванавіч рыхтаваў тады да перавыдання сваю «Гісторыю беларускай літаратуры» і меўся абмеркаваць з Дубоўкам першы раздзел гэтай кнігі — народную творчасць. Чаму з Дубоўкам? Відаць, ні Піятуховіч [119], ні Чаржынскі не маглі замяніць у гэтым абмеркаванні Дубоўку — здольнага паэта, выхаванца брусаўскага інстытута, які ён толькі што скончыў.

Гэта была размова двух знаўцаў вышэйшага, што называецца, класа ў такой справе. Да гэтага я слухаў лекцыі Піятуховіча — і па літаратуры і па фальклору. Але там былі чыста школьныя лекцыі — урокі. А тут збольшага вядомы мне прадмет разглядаўся з глыбіні, як высокая паэзія, якую мы ў апошнія гады, ломячы ўсё старое, занядбалі.

— Глядзіце,— з хваляваннем гаварыў Максім Іванавіч,— колькі хараства хоць бы ў такіх радках народнай песні:

Ах, мілы мой глуміўся мной,
Сеяў палын на маім сэрцы,
Ды клаў агні на маіх плечках,
Рабіў скрыпкі з маіх ручак,
Увязваў каня да маіх косак,
Пушчаў рэчкі з маіх вочак...

Мілая мая, няпраўда твая:
Я сеяў палын у чыстым полі,
Я клаў агні ў шчырым бары,
Увязваў каня ў белай бярозе,
Я пушчаў рэчкі крынічныя,
Я рабіў скрыпкі з белае ліпкі.

— Сяргей Ясенін пазайздросціў бы такім дасканалым лірычным метафарам,— дадаў ён, з душэўным пачуццём прачытаўшы песню.— А вазьміце казкі. З глыбінь вякоў дайшлі яны да нас — чыстыя, адшліфаваныя, як шліфуе мора свае дыяменты. Мала яшчэ, мала нашы пісьменнікі — асабліва маладыя — вучацца літаратурнаму майстэрству ў самога народа.

Ці трэба казаць, што сустрэча гэтая зрабіла на мяне вялікае ўражанне. Я думаю, што мая цікавасць да беларускага фальклору пачалася якраз з гэтай сустрэчы. Відаць, запомнілася яна і Уладзіміру Дубоўку, які, як ніхто з нас, маладзейшых пісьменнікаў, ведаў і разумеў народную творчасць і пранёс шчырую любоў да яе праз усё сваё творчае жыццё.

Дарэчы, у сувязі з яго «Гісторыяй беларускай літаратуры» хачу сказаць аб вялікай працавітасці Максіма Гарэцкага. Ён жа адзін прарабіў такую работу, якую потым рабілі і робяць цэлыя калектывы літаратуразнаўцаў. Услед за акадэмікам Я. Карскім ён збудаваў добрую аснову нашаму літаратуразнаўству, сабраў усё, што рабілася да яго, у адно цэлае, даў сваю аўтарытэтную ацэнку беларускай літаратуры, пачынаючы ад фальклору і канчаючы творчасцю маладнякоўцаў. І выклаў свае думкі добраю літаратурнаю моваю, блізкаю да мовы сваіх празаічных твораў. І гэта ж не было яго асноўнай працаю — у гэты час ён чытаў лекцыі на рабфаку, працаваў у Інбелкульце, пісаў свае творы, складаў новыя слоўнікі...

Вельмі цікавы і змястоўны яго невялічкі беларуска-рускі (або маскоўскі, як назваў яго аўтар) слоўнік. Многія словы ў ім не толькі перакладаюцца, а і тлумачацца, пры гэтым аўтар падбірае такія прыклады з жывой мовы, якім толькі пазайздросціш.

З Максімам Іванавічам мы сустракаліся не раз, як добрыя знаёмыя. Тым больш што жонка яго Леаніла Усцінаўна выступала ў нашай літаратуры як дзіцячая пісьменніца, з якой у нас былі агульныя літаратурныя інтарэсы. Яе апавяданні для дзяцей, надрукаваныя ў 20-х гадах, не страцілі сваёй мастацкай вартасці і ў наш час.

Як бачым, гэта была сям'я таленавітых літаратараў. І, відаць, не толькі Максім Іванавіч меў уплыў на сваю жонку. Было і наадварот. Загляньце ў школьную хрэстаматыю, складзеную настаўніцай беларускай мовы Першай віленскай беларускай гімназіі Леанілай Гарэцкай. Там змешчаны добры дзесятак апавяданняў і нарысаў Максіма Гарэцкага, напісаных для дзяцей.

Не ведаю, ці ўваходзіла адно з гэтых апавяданняў пра старую школу пад назвай «Бірка» ў першы зборнік Максіма Гарэцкага [120], што выдаваўся ў Вільні. Гэта вельмі змястоўнае і цікавае апавяданне. Быт старой школы на Беларусі, псіхалогія дзяцей, вобраз бяздушнага настаўніка — усё гэта зроблена на высокім мастацкім узроўні. Яно нагадвае апавяданні для дзяцей і пра дзяцей Якуба Коласа і Змітрака Бядулі. Вельмі ўдалыя і нарысы Максіма Гарэцкага аб прыродзе роднага краю, а таксама на гістарычныя тэмы.

Яны хрэстаматыйныя ў лепшым сэнсе гэтага слова. У іх шмат пазнавальнага, але нямала і паэзіі. Вось узор яго паэзіі з апавядання «Патаёмнае»:

«Шпарка бегаеш ты, шэры воўк! Дуж ты на ногі, ходак на бягню, цягуч у дарозе. Але дарма... Бо не аббегаць табе, скараход-жывадзёр, за ўвесьваўчыны век твой усіх прастораў старонкі нашае, не пратаптаці сцежачак па ўсіх лясах нашых дрымучых.

І ты, буцян магутнакрылы, бусел-чарнагуз! Відзеў ты піраміды фараонаў егіпецкіх, у шкляной бліскучай люстраной вадзе Ніла гістарычнага глядзеўся ты, прыгажун. Цераз нашага прапрадзеда, Дуная мнагаводнага, ляцеў ты, даўганогі...»

Як бачым, тут ясна чуецца голас вешчага Баяна са «Слова аб палку Ігаравым». Разам з тым асобныя яго апісанні прыроды вельмі рэалістычныя.

Я не помню, каб на сходы маладнякоўцаў ці белапаўцаў прыходзілі Піятуховіч або Чаржынскі. А вось Гарэцкі бываў у нас частым госцем. Ён першы прызнаў маладнякоўцаў як значную з'яву ў новай беларускай савецкай літаратуры, адвёў ім належнае месца ў сваёй «Гісторыі» і напісаў спецыяльную кніжку да 5-й гадавіны «Маладняка».

Як цяпер помню сход «Маладняка», на якім выступаў Максім Гарэцкі з дакладам пра нашу гадавіну. Шчыра верачы яму і давяраючы яго літаратурнай і мастацкай эрудыцыі, некаторыя з нас перадалі яму перад гэтым сходам новыя свае вершы для азнаямлення. Я таксама перадаў яму адну сваю байку. Рэч у ёй ішла пра спрэчку вала з трактарам-«фардзонам». Гарэцкі застаўся нездаволены байкай: напісана, сказаў, гладка, а ідэя выяўлена невыразна: хто ж бярэ верх — вол ці «фардзон»? Байку гэтую я потым забракаваў і сам. Нават змест яе цяпер уяўляю цьмяна. А вось заўвага Максіма Іванавіча запомнілася мне на ўсё жыццё: мала для твора аднаго зместу, хоць бы і гладкага, патрэбна і глыбокая думка, ідэя.

Максім Гарэцкі быў добрым настаўнікам для нас, маладых пісьменнікаў, дапамагаў нам набірацца сілы для вялікай літаратуры. Светлы вобраз яго застаўся ў маёй памяці назаўсёды.

## *Якаў Трагубаў*

# ПРА МАКСІМА ІВАНАВІЧА ГАРЭЦКАГА [121]

Гэта было на пачатку другой паловы 30-х гадоў. У педагагічным калектыве адзінай тады сярэдняй школы рабочага пасёлка Пясочанскі завод Смаленскай вобласці (цяпер Калужскай) паявіўся вельмі сціплы, стрыманы, сярэдніх гадоў выкладчык рускай мовы і літаратуры.

Аўтарытэту гэтаму ў найвялікшай ступені інтэлігентнаму чалавеку заваёўваць не трэба было. Вучні старэйшых класаў вельмі хутка ацанілі эрудыцыю і культуру новага выкладчыка Максіма Іванавіча Гарэцкага, яго высокую патрабавальнасць да сябе і да моладзі, з якой звялі яго абставіны, нам тады невядомыя.

Пра высокую культуру педагагічнай работы Максіма Іванавіча я, выкладчык іншага прадмета, ведаў па думках, якія выказвалі вучні. У той жа час усё прываблівала ў гэтым чалавеку. Вельмі прыемная знешнасць, прыемны тэмбр нізкага голасу, роўны тон размовы, які, аднак, не хаваў унутранай усхвалёванасці, калі выказваецца цвёрдае меркаванне па якім-небудзь пытанні, пераконанасць у выказваннях. Ва ўсім адчуваўся надзвычай цікавы, незвычайна таленавіты чалавек, чалавек, які на цэлую галаву вышэй за нас, хто працаваў побач з ім.

Мяне і цяпер хвалюе адзін штрых у паводзінах Максіма Іванавіча таго часу — ён засяроджана ўглядаўся ў з'явішчы, што яго акружалі, нібы пытаўся: — А што адбываецца ў гэтым глыбінным куточку нашай рэчаіснасці, як адбываецца?..

## *Заір Азгур*

# ВОДСВЕТ ДАБРЫНІ І РОЗУМУ [122]



Максім Іванавіч... Я помню яго па дваццатых гадах. Па Мінску — гораду конкі, брукаваных, цесных вуліц і завулкаў. Па тым яшчэ часе, калі савецкая рунь узнімалася дружна.

У Максіма Іванавіча даверлівыя вочы. Можа быць, нават крыху вочы захаплення. Прамяністыя. У жэстах і ў манеры гаварыць з вамі адчувалася хуткі запаволенасць, а па вачах вы здагадваліся пра імклівы бег думкі. Учэпістай. Трапнай. Сканцэнтраванай.

Так, з мысліцелем, чалавекам роздуму падабенства ў яго было выключнае. Але толькі пазней вы разумелі, што перад вамі мастак, творца. Спачатку здавалася, што ў ім пераважае аналітык, чалавек строгай логікі. А логікі — звычайна паблажліва, памяркоўна ставяцца да людзей.

Аднак на момант сустрэч з Максімам Іванавічам я ўжо ведаў яго прозу, быў прыхільнікам гэтага магутнага дару. Мяне аднолькава вабілі яго малюнкі быту, звычайнага, штодзённага ў перадрэвалюцыйныя гады і калатнечы, сумятні ў гэтым быце ад рэвалюцыйных узрушэнняў і ад грамадзянскай вайны. Каларытныя і да натуральнага дакладныя гэтыя замалёўкі з самое рэчаіснасці.

І гэтае ж самае пяро — Максіма Гарэцкага — выводзіла часам на паперы рамантычныя песні ў гонар парыванняў чалавечага сэрца, афарбоўваючы старонкі маляўніча-пачуццёвымі танамі. Рамантык адчуваецца ў аўтары «Руні», «Сібірскіх абразкоў», «Люстрадзёна»... Дарэчы, звяртаю ўвагу чытача на апош-

ні загаловак — «Люстрадзён» — гэта «Люстра дзён» у літаральным перакладзе. І для Максіма Гарэцкага такое разуменне літаратуры — не выпадковае і эфектнае словазлучэнне.

М. Гарэцкі спадабаўся мне праніклівасцю сваіх сапраўды мастацкіх назіранняў як над устойлівымі, так і над хутказменлівымі рысамі народнага быту і быцця ў час вялікіх гістарычных зрухаў. Апавяданне ж «Красаваў язмін», якое я чытаў, здаецца, яшчэ па выцвілай старонцы «Нашай нівы», якая захавалася ў Змітрака Бядулі, і дагэтуль здаецца мне ці то песняй, праспяванай празаікам, ці то прозай, створанай паэтам.

Дарэчы, заўважу, што некаторыя каментатары спяшаюцца сказаць пра нібы «недапісанасць» малюнкаў, абразкоў у М. Гарэцкага. Не, яны старанна, дакладна выпісаны. Іхнюю мастацкую «асобінку» якраз і стварае знешняя немудрагелістасць шкельца, якое трапіла ў пыл. Між тым, гэта ўсё тыя шкельцы — з мазаікі, якая складаецца ў шырокую фрэску нашага быцця ў вызначаны гістарычны час.

Змітрок Бядуля не хаваў сваёй нейкай асаблівай сімпатыі да Максіма Іванавіча Гарэцкага. Здаецца, было гэта ў той самы дажджлівы дзень, калі мы хаваліся пад парасоны на крутой Правіянцкай [123] вуліцы ў Мінску.

Я ўбачыў іх на рагу і залюбаваўся. Шэрае неба нізка прыпала да стрэх дамоў і нават да бруку. Шуміць дождж. Лужыны пашырэлі так, што іх не пераступіш. А на рагу пад парасонамі стаяць двое і пра нешта з запалам (так мне тады здалося) гавораць. І ў абодвух вясёлыя твары. Сонечныя твары. Змітрок Бядуля аж заходзіцца са смеху, ад якога нібы святлей рабілася на ўсёй Правіянцкай. Гарэцкі стрымана ўсміхаецца.

Заўважылі мяне. Паклікалі. Дакладней, пазваў Бядуля.

— Знаёмся, братка Заір, з нашым выдатным, чуеш, выдатным празаікам...— Я кіўнуў, нешта прамармытаў і не змог схаваць папроку Бядулі:

— Дзядзька Бядуля, я вас чакаю цэлую гадзіну каля вашага дома. Вы ж мне абяцалі пазіраваць...

— Не спяшайся, не спяшайся... Спачатку пазнаёмся! Максім Іванавіч Гарэцкі — гэта ж будзе цудоў-

ная скульптура, вось убачыш,— сказаў мне Змітрок Бядуля і звярнуўся да М. Гарэцкага: — А з яго выйдзе наш выдатны скульптар. Вось убачыце! Я рэдка памыляюся ў прадказанні...

Я быў збянтэжаны. Пачырванеў. Мяне засаромела такое прароцтва. Максім Іванавіч гэта заўважыў. Ён паціснуў маю мокрую ад дажджу руку і з чароўнай папярэдлівасцю сказаў:

— А можа быць, вы ўжо выдатны скульптар... Вам толькі застаецца здзейсніць свае задумы, і ўсе ў гэтым пераканаюцца. Ведае ж пакуль што пра гэта толькі адзін таварыш. Гэты таварыш — Змітрок Бядуля. А?!

Мне палягчэла. Я павесялеў. Што ж, у задумах і намерах я і на самай справе тады ўжо быў скульптарам. Пярэчыць супраць гэтага не было сэнсу. І мы пайшлі ўтрох — як роўныя. Яны дапусцілі і прынялі мяне ў сваё таварыства. Яны назвалі мяне скульптарам. Мастаком. Якая ўзнагарода магла быць тады вышэйшай для мяне?!

Гамонка, як я помню, была літаратурнага характару. Канец дваццатых гадоў, барацьба з нэпманамі, кабацкія матывы ў лірыцы, мітынговыя інтанацыі ў вершах... Гарэцкі гаварыў пра неабходнасць адлюстравання ў літаратуры таксама і хваравітых працэсаў вялікай гістарычнай перабудовы. Бо ж будуецца новая грамада пад абстрэлам старой маралі, старых асноў у быце. Тут мноства зусім непаўторных вузлоў і знітавання старога і новага.

— Дайце мне веры, дарагі Самуіл Яфімавіч,— гаварыў М. Гарэцкі,— хуткіх перабудоў у грамадзе не бывае. Хуткая хада рэвалюцыі. Пасля ж яе пачынаецца барацьба, паядынак між новым і адміраючым светам. Барацьба зацяжная. Ды і чалавек, як ведаеце, гэта вам не гітара: узяў і настроіў на любы лад — хочаш на мажор, хочаш на мінор. І селянін, яго філасофія, што вызначаецца зямлёю, порамі года, ураджаем і неўраджаем,— ці ж гэта вось так раптоўна і змяніцца? Бытавыя прадузятасці жывучыя. Гараджанін таксама мае свой лад паўсядзённасці. І ў гэтым прызвычаеным, як у залатых жылах, сустракаюцца крапінкі рысаў новых сацыяльных адносін, новае часам раскідае на розныя рубяжы мужа і жонку,

братоў, калег, супольнікаў. Літаратура заклікана і абавязана...

Як я памятаю, Максім Іванавіч супыніўся, узняў парасон высока над галавою, каб З. Бядуля ўбачыў, якое ён надае значэнне гэтым словам, і паўтарыў:

— Так, так! Заклікана і абавязана адлюстроўваць асаблівасці пераходных перыядаў. Рух гісторыі.— І ён зноў падкрэсліў беларускае гучанне слова: — Рух гісторыі!..

Гамонка перайшла на абмеркаванне мэтазгоднасці груп пісьменнікаў, розных аб'яднанняў: «Маладняк», «Узвышша», «Літаратурна-мастацкая камуна» на чале з Паўлам Шукайлам... Максім Іванавіч схіляўся да думкі, што няхай пісьменнікі адрозніваюцца мерай захапленняў, характарам бытаапісання, але сумесна ўзятыя ўсе літаратурныя рухі створаць сучасную бібліятэку кніг. З гэтых кніг узнікае праўдзівы малюнак усебаковага пераўтварэння жыцця.

Змітрок Бядуля быў заклапочаны тым, што такім чынам літаратурныя сілы распыляцца і пойдуць на цэхавыя міжусобіцы. Праўда, абое яны згадзіліся, што міжусобіцы — занятак звычайна маладольных калялітаратурных асоб; талент, дзе б ён фармальна ні лічыўся — у «Маладняку» ці «Узвышшы», прысвячае сябе сапраўднаму прызванню.

Памятаю, З. Бядуля заўважыў, што самымі ўстойлівымі, напэўна, застаюцца на ўсіх гістарычных выпрабаваннях каханне і сям'я. Тут новае выяўляецца хіба што ў рытуалах, у дэталях, не ў сутнасці. Зразумела, калі не лічыць чыста эканамічны бок узаемаадносін паміж мужчынам і жанчынай.

— Як жа, як жа, Самуіл Яфімавіч! Ксяндзы і папы даслужваюць свой век. У наш час шлюб афармляе чалавек у будзёнаўцы,— сказаў Максім Іванавіч і зноў затрымаўся на алеі Гарадскога саду (цяпер гэта Дзіцячы парк імя Максіма Горкага ў цэнтры Мінска), быццам даючы зразумець, што зараз адбудзецца нешта важнае.— Разумееце, чалавек у будзёнаўцы ацэньвае нашы вершы і нашу прозу, параўноўваючы напісанае намі з тым, што ён бачыць навокал. Ён бачыць, як бабулька яшчэ цягне ўнучку ў царкву, ксціць і не ўяўляе сабе шлюбу без вянчання. Ён ведае, што поп косіцца на пралетарыя, як убачыць звязду на будзёнаўцы. Гэты чалавек — сын ве-

ку. І ў яго ёсць рахунак да «бацькоў». Такія канфлікты не праходзяць без балючасці. Гэта і зразумела. Жыццё — гэта змена перыядаў. Як і ў прыродзе — зародак, росквіт, плоданашэнне, завяданне... А мы, людзі, бываем занадта кансерватыўныя ў другой палове свайго быцця на зямлі. Ці ж не так? Мы пачынаем навучаць усё і ўсіх. Быццам ведаем усё лепш за ўсіх. А між тым, жанчына ўжо не залежыць ад мужчыны і яго зарплаты, яна раўнапраўная. І шлюб адбываецца не так, як мы прызвычаіліся разумець. Мы адстойваем сваё, а маладыя робяць па-свойму. З сямейнага такі канфлікт ператвараецца ў сацыяльны, у грамадскі... Каму ж, як не літаратуры, адлюстраваць гэту плынь жыцця на самым стрыжані, на быстрыні веку?..

І сказаўшы гэта, М. Гарэцкі ўсміхнуўся мне і З. Бядулі як апанентам, якіх ён, калі яшчэ і не пераканаў, дык ужо ва ўсякім выпадку прымусіў задумацца перамагаючы логікай.

Змітрок Бядуля, бліснуўшы вачыма з-пад парасона, рассмяяўся і ўрачыста і распеўна прамовіў выслоўе, якое, як я пазней высветліў, было эпіграфам аднаго з апавяданняў М. Гарэцкага («Смачны заяц»):

— Але колькі ўжо выпадкаў было ў гісторыі, што з самае вяршыні шчасця чалавек раптоўна звальваўся ў самае бяздонне плачу і адчаю...

— Многа, бясконца многа было такіх раптоўных выпадкаў, дарагі Самуіл Яфімавіч. І ўсе яны ніяк не падобны адзін да другога,— у тон яму адказаў Максім Іванавіч.

— У гісторыі,— падкрэсліў інтанацыяй З. Бядуля.

Я тады стараўся выглядаць дарослым і ўсеразумеючым чалавекам, а таму і не распытваў маіх спадарожнікаў, пра што яны спрачаюцца. Зараз разумею, што яны працягвалі, відаць, гамонку аб прызначэнні мастацкай творчасці, якое паклікана асвятляць актуальныя пытанні жыцця і замацоўваць усё ж самыя важныя моманты грамадскага развіцця. Гэта ёсць, ці пісаць ім самім «для сёння», ці «для нашчадкаў».

Думаю, што такая спрэчка не схаластычная. Вось жа газетная таропкасць, паспешлівасць часам не бачыць за дрэвамі лесу, за фактамі — іх сутнасці. І, на-

адварот, пазіцыя летапісца «для вякоў» адхіляе аўтара, кім бы ён ні быў — мастаком ці пісьменнікам, кампазітарам ці кінематаграфістам,— ад удзелу ў самім перабудаванні быцця.

У настойлівым звароце З. Бядулі да гісторыі я адчуў і нейкую параду — папярэджанне яго М. Гарэцкаму: пішыце гісторыю, сведкам якой вы былі. Памойму, гэта парада вельмі адпавядала творчым шуканням самога М. Гарэцкага. Ён вельмі трапятліва і глыбока адчуваў значэнне для нашага народа імперыялістычнай вайны, наступнага развіцця падзей, рэвалюцыі, ён адчуваў глыбінныя працэсы сучасных яму падзей.

Кнігі М. Гарэцкага, якія я зараз перачытваю, пацвярджаюць гэта.

Асабліва раман-хроніка «Віленскія камунары». Людзі больш сталыя ўбачаць у ім і знаёмыя сітуацыі таго часу, калі ў чалавеку абуджаецца класавая свядомасць і ён свядома выбірае месца ў бойках за будучыню. Рабочы рух звязваецца ў рамане з нацыянальнымі праблемамі, якія мелі сваю спецыфіку ў Літве і на Беларусі.

Паставіўшы ў цэнтр апавядання радаслоўную Мацея, пісьменнік вядзе чытача да разумення важнага этапа гісторыі. Разам з тым на старонках рамана паданы шчодры россып назіранняў за людскімі натурамі, за бытавымі звычаямі, над будзёншчынай вясковага, гарадскога і армейскага жыцця. Часамі здаецца, што ты чытаеш этнаграфічна дакладнае апісанне; часам перад табою — псіхалагічнае даследаванне характараў.

Сюжэтныя рэкі зліваюцца ў адно рэчышча, калі М. Гарэцкі малюе стварэнне ў Вільні ў 1918 годзе Віленскага савета на чале з бальшавікамі. Тут ён знаёміць вас з людзьмі, якія ад пошукаў праўды прыходзяць да разумення сваёй адказнасці за лёс народа, краіны. Калектыўны партрэт віленскіх камунараў складаецца з фігур каларытных, жывых, яскравых.

Здзіўляе майстэрства М. Гарэцкага, абраўшага для рамана споведзь галоўнага героя. Гэта раман «ад першай асобы». Перачытваеш — і нідзе не заўважаеш фальшу, які часам трапляецца ў пабудове буйных празаічных твораў.

...Мы ўжо ішлі ўсцяж Свіслачы, калі я заўважыў, што З. Бядуля ўсмешліва паглядае на мяне. Так, я слухаў усё з выключнай увагай. Мне здавалася, што мяне пусцілі ў нейкі асобны свет, дзе дыскутуюць вялікія знаўцы жыцця, мудрацы-мысліцелі. Пры мне яны гамоняць пра самае запаветнае — пра творчасць. Мне падабалася гэта, ільсціла мне.

— Я здагадваюся, Заірка,— вымавіў З. Бядуля.— Твае вочы ўжо разглядзелі будучую скульптуру, а рукі прагнуць гліны. Ведаеце, Максім Іванавіч, гэта вельмі цікава: сачыць, як яго пальцы ператвараюць гліну, вось тут — у вуха, тут — у губы, там — у ноздры, у вочы... І паступова ў вас з'яўляецца двайнік, якога вы баіцеся чамусьці: ён ці не ён? Я ці не я?... Думаю, ён ужо нашчупаў ваш чэрап...

Сапраўды. Мяне цягнула ў майстэрню, да станка. Мне хацелася вылепіць партрэт гэтага чалавека. Мяне бянтэжылі словы З. Бядулі, але спрачацца з ім не стаў.

Жаданне вылепіць партрэт М. Гарэцкага ўзмацнілася ў мяне пры наступнай сустрэчы з ім. Было гэта ў кампаніі з Міхасём Чаротам [124] і Анатолем Вольным. Зноў і зноў узняліся спрэчкі аб патрэбе (ці непатрэбнасці) існавання розных літаратурна-грамадскіх арганізацый.

Памятаю, што М. Гарэцкі тады пярэчыў супраць разумення назвы «спадарожнік», «папутчык» у дачыненні да пісьменніка, наогул да мастака. Ён гаварыў, што мастак пачынаецца з захаплення аб'ектам сваёй творчасці.

Які ж спадарожнік можа захапіцца?

А калі ты захапіўся, дык ці ж ты спадарожнік?

Выпадковасць у літаратуры або ў другой галіне мастацтва — ілюзорная. Мастак творыць не выпадкова, а па ўнутранай неабходнасці сказаць людзям пра тое, што яго ўсхвалявала. Нас усіх захапіла рэвалюцыйная перабудова быцця, поступ, хада часу (ён так і сказаў: «Хада часу!»). Калі і можна дакараць у нечым розныя творчыя аб'яднанні пісьменнікаў, дык гэта ў іх прыхільнасці да крайнасцей, да выключнага. І трагедыйнасць, калі толькі яна адпавядае праўдзе жыцця, не выключае гістарычнага аптымізму; і бадзёрасць духу, калі яна засталася рысай новага чалавека, не заўсёды азначае плакатнае «бодрячество».

Памятаю, што М. Гарэцкі абараняў менавіта гэта — шырыню погляду і эмацыянальных фарбаў пісьменніка. Яму прыкрым было шапказакідайства. Дэмагагічная траскатня выклікала ў яго актыўны пратэст. І ён тактоўна і ўпарта даводзіў А. Вольнаму і М. Чароту неабходнасць паўнагучнасці малюнкаў быцця, існасці, без якіх камуністычная культура будзе збедненай.

— Вы ж дыялектыкі,— паўтараў ён, ветліва і стрымана ўсміхаючыся сваім апанентам.— Памятайце, што крылы Ікара — гэта толькі першапачатковыя абрысы авіяцыі. Затое «Іліяда» — гэта шэдэўр і для нашых дзён. Не будзьце падобны да тэхнікаў у літаратуры. Гэта я кажу не для павучання, а нагадваю сабе самому: калі пішаш пра сучаснікаў і для сучаснікаў, ведай — сапраўдныя каштоўнасці пераадолеюць час і дойдуць да нашчадкаў. Уяўныя, што толькі здаюцца каштоўнасцямі, сойдуць у нябыт. Нам нельга маніць самім сабе, мае дарагія сябры!..

Як я захапляўся ім у гэтыя хвіліны,— гэтым сціплым і нават педантычна строга апранутым у касцюм звычайнага інтэлігента свайго часу чалавекам! Як імпанавалі мне яго думкі, хоць сам я быў максімалістам і, здаралася, захапляўся заклікамі скінуць Рафаэля з карабля сучаснасці. Яго роздум уголас быў урокам, які я ўспрымаў усёю душою. Я набраўся храбрасці і сказаў яму, выбраўшы зручную хвіліну, што хацеў бы вылепіць яго партрэт.

Ён мне патрэбны, гэты партрэт!

Няхай Максім Іванавіч не спяшаецца з адказам, прасіў я, няхай ён зойдзе і паглядзіць партрэт З. Бядулі, зроблены мною, потым мы пагаворым.

Адказ Максіма Гарэцкага запомніўся.

— Дзякуй за прапанову, дарагі таварыш,— сказаў ён.— Толькі папрашу вас пачакаць. Я павінен адчуць, што магу вам пазіраваць. Павінна ў мяне ўзнікнуць такое адчуванне. Да таго я проста не змагу... Не змагу пазіраваць. Усяму ёсць свой час...

Сказана гэта было сур'ёзна. Без усмешкі. Як нешта даўно ім адшуканае ў сабе. Ужо адно тое, што ён не ўсміхаўся, да чаго я пачаў прызвычайвацца, перaканала мяне больш за ўсё. Так, у таго, з каго збіраюцца зрабіць партрэт, таксама павінна быць пачуццё неабходнасці, адчуванне права на пазіраван-

не. Праўда, далёка не ва ўсіх потым я сустракаў чаканне такога вось, як у Гарэцкага, узнікнення права на пазіраванне.

[...]Прызнаюся, я зараз поўны задумы стварыць скульптурную сагу пра Гарэцкіх. Лаўлю пальцамі іх абрысы, нашчупваю ў думках іх формы. І перада мною іншы раз узнікае дажджлівая Правіянцкая вуліца і алея над Свіслаччу; узнікае выдавецкі кабінет з плакатамі на сценах, якія заклікаюць ліквідаваць непісьменнасць (лікбез), дзе прынцыпова М. Гарэцкі дае ўрокі палітычнай і мастацтвазнаўчай мудрасці гарачым галовам. Я бачу спалучэнне дабрыні і патрабавальнасці ў гэтым цудоўным аблічы. У прамяністых вачах. У нягучным і пераканаўчым тоне яго прамоў.

Цяжка аднавіць такое абліча! Вельмі цяжка.

[...]Калі я іду ў майстэрню, абдумваю свае творы. Розныя. Манументальныя і камерныя. Гістарычныя і сучасныя.

...З мітусні год вылучаецца абліча Максіма Іванавіча Гарэцкага, мастака новай сацыялістычнай фармацыі, таленга вялікіх магчымасцей, чалавека прыгожай душы.

## *Юльян Пшыркоў*

# МАКСІМ ГАРЭЦКІ І ЯГО РАМАН «ВІЛЕНСКІЯ КАМУНАРЫ» [125]

[...] Рэдакцыя часопіса «Полымя» апублікавала раман Максіма Гарэцкага «Віленскія камунары».

Не шмат маецца твораў, якія з вялікім інтарэсам перачытваюцца праз дваццаць або трыццаць год пасля напісання.

«Віленскія камунары» належаць да тых з'яў у літаратуры, у адносінах да якіх час аказаўся безуладны і за трыццаць з лішнім год не змог пакрыць заслонай забыцця.

Максім Іванавіч Гарэцкі нарадзіўся 6(18) лютага 1893 года ў вёсцы Малая Багацькаўка, Мсціслаўскага раёна, Магілёўскай вобласці. Бацькі Максіма Іванавіча былі непісьменныя, але разумелі, што жыць так далей, як жывуць яны, служыць наймітамі ў пана і цягнуць спрадвечнае ярмо няволі, немажліва. І яны прыкладалі ўсе намаганні, каб даць дзецям хоць якую адукацыю, вывесці іх у людзі. Спачатку Максім Гарэцкі хадзіў у школу граматы ў суседнюю вёску Вялікая Багацькаўка, а потым бацька рашыў вучыць яго далей і аддаў у 2-класную Альшанскую школу, якую будучы пісьменнік скончыў у 1905 г. [...]

Дапамагаючы бацькам у працы па гаспадарцы, прагны да ведаў хлопчык не разлучаўся з думкай аб далейшай вучобе. Выбар школы быў абумоўлен выпадкам. Дваюрадны брат Гарэцкага Хвёдар Канцавы вучыўся на каморніка ў Горках. Туды, у каморніцкааграномічнае вучылішча, у 1909 годзе паступіў і Максім Гарэцкі.

Яшчэ ў маленстве М. Гарэцкі захапляецца мастацкай літаратурай, у Горках гэта захапленне становіцца зусім усвядомленым і мэтанакіраваным. Максім Іванавіч настойліва вывучае творы пісьменнікаў-класікаў, пільна сочыць за развіццём сваёй роднай літаратуры і сам спрабуе пісаць па-беларуску. Першае сваё апавяданне «У лазні» ён напісаў у канцы снежня 1912 г. і адаслаў у «Нашу ніву». У чацвёртым нумары газеты за наступны год яно было апублікавана. Гэта надало ўпэўненасці ў сваіх сілах, і Максім Гарэцкі цалкам аддаецца літаратурным заняткам, а па асноўнай спецыяльнасці працуе толькі ў тыя цяжкія моманты свайго жыцця, калі аб'ектыўныя прычыны не давалі магчымасці займацца літаратурай.

Пасля сканчэння вучылішча, у 1913 г., Максім Гарэцкі быў накіраваны ў Віленскую землеўпарадчую камісію. Па службе яму прыходзілася шмат ездзіць па Віленскім павеце, што значна пашырала яго назіранні над жыццём народа і давала багаты матэрыял для мастацкіх твораў.

У Вільні малады пісьменнік пазнаёміўся з Цёткай, Янкам Купалам, Якубам Коласам, Змітраком Бядулем і іншымі беларускімі пісьменнікамі, што супрацоўнічалі ў «Нашай ніве». У гэты час ён многа піша і часта змяшчае на старонках газеты свае новыя творы, а неўзабаве выдае зборнік апавяданняў «Рунь» (1914).

Улетку 1914 г. Максім Іванавіч быў прызваны ў армію, У пачатку першай сусветнай вайны трапіў на фронт. 25 кастрычніка быў цяжка паранены і доўга лячыўся ў ваенных шпіталях Вільні, Масквы, Магілёва.

На фронце вёў дзённік, які ў далейшым паслужыў асновай кнігі «На імперыялістычнай вайне» (1914—1919). Аўтар дае тут трапныя маляўнічыя апісанні франтавых прыгод, а ў радзе выпадкаў узнімаецца да гістарычна праўдзівага разумення падзей.

У пачатку 1916 г. Гарэцкага накіравалі ў Петраград, у школу прапаршчыкаў. Скончыўшы яе, пісьменнік служыў у Іркуцку, Гжацку, а ў канцы года зноў апынуўся на фронце ў Пінскіх балотах. Тут яго прызначылі ў камісію па рэквізіцыі ў сялян сена, але

гэта праца была не па душы маладому прапаршчыку, і ён папрасіўся назад у акопы.

На фронце Максім Іванавіч цяжка захварэў і быў адпраўлены ў тыл на лячэнне, а праз некаторы час звольнены зусім з арміі.

Падлячыўшыся, Максім Гарэцкі пераехаў у Смаленск і неўзабаве паступіў вучыцца ў Археалагічны інстытут. Тут, у Смаленску, пісьменніка застала Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, і ён прымае дзейсны ўдзел ва ўмацаванні Савецкай улады: служыць у Смаленскім Савеце і адначасова актыўна супрацоўнічае ў «Известиях» гэтага Савета, змяшчае на яго старонках допісы, апавяданні, урыўкі з буйных твораў.

Сваёй шчырай і адданай працай М. Гарэцкі заслужыў павагу сярод таварышаў; ён стаў у такой ступені аўтарытэтным журналістам, што калі была абвешчана Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка, то т. Кнорын запрасіў яго ў Мінск на работу ў рэдакцыю газеты «Звязда».

З утварэннем Беларуска-Літоўскай ССР і пераводам сталіцы ў Вільню, туды, разам з рэдакцыяй газеты, у пачатку студзеня 1919 г. пераехаў і Максім Гарэцкі, аднак у канцы красавіка горад раптоўна быў заняты белапалякамі, і вярнуцца назад у Мінск ён не паспеў.

Пачалася новая паласа ў жыцці пісьменніка, праца ў цяжкіх умовах палітычнага і нацыянальнага прыгнечання. Давялося яму ў той час быць вязнем вядомай Лукішскай турмы. Польскія ўлады абвінавачвалі Гарэцкага ў прыналежнасці да камуністычнай партыі, у арганізацыі тайных дружын з мэтай замаху на дзяржаўную ўладу і іншых палітычных «злачынствах». Разам з іншымі беларусамі і літоўцамі яго меўся абараняць адвакат Урублеўскі, славуты заступнік палітычных зняволеных, але па нейкіх невядомых меркаваннях старанна падрыхтаваны працэс не адбыўся.

Нягледзячы на шматлікія перашкоды, Максім Іванавіч працаваў не пакладаючы рук. Прыехаўшы ў Вільню, ён, як вопытны журналіст, сабраў вялікі матэрыял аб рэвалюцыйнай дзейнасці віленскіх камунараў, якія паслужылі рэальнай асновай рамана, што прапануецца ўвазе чытача.

У гэты ж час Гарэцкі піша «Гісторыю беларускай літаратуры», супрацоўнічае ў прагрэсіўных беларускіх газетах, па даручэнню кіраўніка Камуністычнай партыі Літвы В. С. Міцкявічуса-Капсукаса [126] перакладае на беларускую мову брашуру «Хто такія камуністы?».

Даследчая праца Максіма Гарэцкага ў галіне гісторыі нашай літаратуры заслугоўвае высокай ацэнкі, асабліва калі ўлічыць тую акалічнасць, што ён з'яўляўся ў пэўнай ступені піянерам гэтай справы, узнімаў цаліну, не маючы да таго ж спецыяльнай філалагічнай падрыхтоўкі. Само сабой зразумела, што за 45 гадоў «Гісторыя беларускай літаратуры» Гарэцкага ўстарэла. Ды і не дзіва, наша сучаснае літаратуразнаўства за апошнія гады дасягнула выдатных поспехаў, у яго актыве маецца шэраг цікавых навуковых манаграфій, курсаў гісторыі нацыянальнай літаратуры. Аднак і зараз мы тады-сяды звяртаемся да працы першага нашага гісторыка і прапагандыста мастацкага слова за праверкай тых або іншых фактаў. А ў свой час гэта «Гісторыя» была адзіным падручнікам па роднай літаратуры.

Думка аб звароце ў Савецкую Беларусь не пакідала Гарэцкага. Нарэшце яго намаганні закончыліся поспехам. Савецкае пасольства ў Варшаве выдала дазвол вярнуцца на радзіму, і пісьменнік разам з сям'ёй у кастрычніку 1923 года прыехаў у Мінск.

Тут разгарнулася плённая дзейнасць Максіма Гарэцкага. Ён выкладаў беларускую мову і літаратуру ў камвузе і на рабфаку пры універсітэце, вёў навукова-даследчую работу ў Інстытуце беларускай культуры.

У 1926 годзе пераехаў выкладаць мову і літаратуру ў Горацкую сельскагаспадарчую акадэмію, а праз чатыры гады апынуўся ў Вятцы (Кіраве) [...].

У маім распараджэнні маюцца копіі лістоў Максіма Гарэцкага з Вяткі. У адным з іх ён папрасіў жонку, каб яна прыслала матэрыялы для рамана «Віленскія камунары»: «Сёння чытаю «Краму старажытнасцей» Ч. Дзікенса [127], узяў у фабрычнай бібліятэцы. Як будзеш мець час, Лёля, вышлі мне бандэроллю мае нататкі пра «Віленскіх камунараў» [...], можа, я іх тут апрацую да друку (а напішу па-руску і па-беларуску — дзе-небудзь прымуць)».

Атрымаўшы рукапісы, ён у той жа дзень узяўся за працу, аб чым і паведамляў жонцы.

Днём Максім Гарэцкі выконваў тэрміновыя чарцёжныя работы, а вечарам вывучаў «Гісторыю цывілізацыі ў Англіі» Бокля і настойліва апрацоўваў свой раман (з пісьма ад 16/XII 1931 г.).

Пісьменнік многа думаў над кампазіцыяй і характарам свайго твора. Вопытны майстра мастацкага слова, аўтар некалькіх кніг, ён сціпла пісаў жонцы: «Што пішу? Усё патроху. Цяпер якраз прыводжу да ладу рукапіс «Камунараў». Яшчэ канчаткова не ведаю, у якім плане напішу. Ці гэта будзе нешта падобнае да нарыса, ці да нейкае сыраватае аповесці з розных абразкоў і сцэнак» (з пісьма ад 20/XI 1931 г.).

[...]У гэты час Максім Іванавіч працягваў работу і над другім вялікім раманам «Камароўская хроніка».

Максім Гарэцкі — пісьменнік арыгінальны і самабытны. Яго творам уласціва моцная прывязанасць да канкрэтных жыццёвых фактаў, але прыватны факт падаецца ў плане шырокага грамадскага асвятлення.

Героі шматлікіх апавяданняў, аповесцей «Ціхая плынь», «Дзве душы», нарысаў «На імперыялістычнай вайне» — людзі дапытлівыя, у іх добрыя чалавечыя парывы і імкненні, але ім бракуе ўпартасці і настойлівасці.

Гэта вынік жудаснай мінуўшчыны, аб якой расказваецца ў навелах «Смачны заяц», «Страшная музыкава песня», «Сука магната» і інш. Стагоддзі прыгонніцтва паклалі цяжкі адбітак на псіхалогію і свядомасць сялянскіх мас. Узнаўляючы ў мастацкіх вобразах прыкрае мінулае, паказваючы незайздроснае сучаснае, Максім Гарэцкі як бы гаварыў чытачу: сацыяльныя і палітычныя ўмовы імкнуліся зрабіць чалавека бязвольным, рэфлектыўным, але лёд крануўся, гісторыя не топчацца на месцы, а няспынна рухаецца наперад. З асяроддзя прыгнечаных і заняволеных мас узнімаюцца таленавітыя людзі, якія ідуць у навуку, набіраюцца сілы і гатовы зрабіць усё, каб узняць народ з цемры да свету, знішчыць тыя ланцугі няволі, у якія ён здавён быў закаваны.

Сваім раманам Максім Гарэцкі адкрыў новыя старонкі ў гісторыі беларускага народа, вырашыў такія

грамадскія і эстэтычныя праблемы, што з'яўляліся і з'яўляюцца надзвычай надзённымі для літаратуры сацыялістычнага рэалізму.

Перыяд жыцця і творчасці Гарэцкага — гэта пераломны час, час гістарычнага ўзвышэння людзей працы. З вялікай мастацкай сілай гэты працэс адлюстравалі пісьменнікі ўсіх народаў. Сваё свежае, вартае пільнай увагі слова сказаў і аўтар «Віленскіх камунараў». У яркіх і жывых мастацкіх вобразах ён паказаў жыццё і гераічную барацьбу віленскага пралетарыяту.

Мацей Мышка, ад імя якога вядзецца размова,— тыповы прадстаўнік рабочага класа Беларусі. Продкі яго — прыгонныя сяляне пана Хвастуноўскага з вёскі Жабракоўкі. Прадзеда пан часта сек розгамі за грубіянства. Дзед быў ужо вольны, біць яго нельга было, ды і служыў ён не ў Хвастуноўскага, а вартаўніком у школе, але за непавагу да таго самага пана быў сасланы ў Сібір. Бацька таксама не мінаваў царскай «ласкі» і за ўдзел у рэвалюцыйнай барацьбе ў 1905 годзе трапіў на катаргу, адкуль вярнуўся толькі пасля Кастрычніка.

Сам герой прайшоў цяжкую жыццёвую школу. З маленства зарабляючы свой хлеб, ён сустракаўся з уважлівымі і чулымі людзьмі, якія з'явіліся для яго добрымі выхавацелямі і навучылі нянавісці да эксплуататараў і іх абаронцаў. Пазбаўлены магчымасці вучыцца ў школе, Мацей Мышка праходзіў школу сацыяльнай навукі і палітычнага выхавання ў класавых бітвах. У змаганні з ворагамі працоўных герой загартаваўся і стаў актыўным дзеячам рэвалюцыйнага руху Беларусі і Літвы, адданым барацьбітом за перамогу светлых ідэалаў Вялікага Кастрычніка.

Адной з важнейшых эстэтычных праблем літаратуры сацыялістычнага рэалізму з'яўляецца праблема стварэння вобраза камуніста, чалавека-змагара і пераўтваральніка жыцця на новых сацыяльных і палітычных асновах. У 20-я і 30-я гады беларускія пісьменнікі рабілі значныя намаганні ў гэтым напрамку. Наша літаратура ўзбагацілася ў той час вобразамі Нявіднага («Дрыгва»), Лясніцкага («Сцежкі-дарожкі»), Рыгора Нязвычнага («Сокі цаліны») і інш. Свой плённы ўклад у распрацоўку названай праблемы зрабіў і Максім Гарэцкі. Вобразы камуністаў у яго ра-

мане не схема, а жывыя людзі, і ў гэтым вялікая паэтычная прыгажосць і сацыяльная значымасць «Віленскіх камунараў». Кіраўнікі віленскіх камуністаў Ром, Шымілевіч, Кунігас-Ляўданскі, Вярбіцкі — людзі вялікай ідэі, непахісныя змагары за перамогу Савецкай улады, яны здзяйсняюць вялікі гістарычны подзвіг, але ў іх характарах няма нічога звышчалавечага.

«Віленскія камунары» — раман гістарычны. Аўтар адлюстраваў адзін з найбольш важных і рашаючых этапаў у барацьбе беларускага і літоўскага народаў за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі. Ён апісаў рэальныя гістарычныя падзеі, паказаў сапраўдных удзельнікаў. Справа будучых даследчыкаў выявіць, у якой ступені поўна і ўсебакова раскрыў пісьменнік змест і сутнасць апісаных падзей, наколькі гістарычна праўдзіва ахарактарызаваў дзейнасць іх удзельнікаў. З некаторымі характарыстыкамі мы не можам пагадзіцца ўжо і зараз. Напрыклад, выклікаюць пярэчанні заўвагі аб дзейнасці паэтэсы-рэвалюцыянеркі Цёткі [...].

Раман «Віленскія камунары» значна пашырае і жанравыя, і паэтычныя далягляды беларускай мастацкай прозы. І можна з упэўненасцю сказаць, што чытач з вялікай цікавасцю і задавальненнем сустрэне выхад яго асобным выданнем.

## *Янка Брыль*

### ПАСЛЯ ЛЕМАНТАРА [128]

аксім Гарэцкі... Каб і мне расказаць пра яго штосьці толькі сваё, неабходна вярнуцца... вось ужо больш за паўстагоддзя назад. І ў гэтым, калі не паддавацца паніцы або ныццю (усё канчаецца...), ёсць пэўнае, калі хочаце, шчасце,— бачыць, што і тваё, асабістае нейкім чынам уключылася ў агульнае, стала часцінкай гісторыі, няхай сабе значнай ды дарагой для самога цябе, але ўсё ж дарагой.

Калі ж успамінаць не толькі для сябе, дык не абыдзешся без неабходных тлумачэнняў: чытача трэба ўвесці ў той час, у тыя абставіны, толькі тады ён зразумее цябе так, як ты хочаш быць зразуметым.

З больш-менш такімі думкамі я ішоў на спатканне са сваім школьным маленствам — у бібліятэку, дзе захаваліся тыя кніжкі роднай граматы, па якіх я вучыўся ў заходнебеларускай школе ў другой палавіне дваццатых гадоў.

І ў нашай вёсцы (тры класы), і ў бліжэйшым мястэчку (яшчэ чатыры) школа была польская, з такім-сякім выкладаннем слова беларускага. «Сякім-такім» яно было таму, што гэтым займаліся настаўнікі-палякі, з вельмі прыблізным веданнем мовы «тутэйшай», і рабілі гэтую справу між іншым, цярпячы лішнюю нагрузку па загаду зверху, па нейкіх там часова-ліберальных меркаваннях.

Былі, вядома, і некаторыя выключэнні; пра адно з іх, пра маю настаўніцу ў мястэчковай школе, я ўдзячна расказаў у аповесці «Сірочы хлеб». А тут хачу падзякаваць тым кніжыцам з інтымна-любай

назвай «Родный край», па якіх нас вучылі, лепш сказаць — па якіх мы вучыліся.

«Родны край, трэцяя і чацвёртая пасля лемантара кніжка для чытання»[129]. Танная шэра-шурпатая пакніжка для чытання»... пера, няхітрыя графічныя малюнкі, усе тэксты ў гупера, няхітрыя графічныя малюнкі, усе тэксты ў густую падборку,— нібы вельмі вялікая сям'я сабралася ў беднай цясноце мужыцкай хаты. Аднак, якая гэта дружная, разумная сям'я,— з якой любасцю да справы, з якім грунтоўным веданнем яе складзена гэтая кніжка!.. Тургенеў — «Гора» («Щи»), Чэхаў — «Ванька», Гаршын — «Жаба-падарожніца» і «На полі бойкі» (урывак з апавядання «Чатыры дні»)... Ажэшка — «Рэха». Тэтмаер — «Успаміны», Канапніцкая — «Як кароль у паход выходзіў...». Да рускіх і палякаў — сусветна любімы датчанін Андэрсен — «Каралеўская вопратка», «Апошняя лекцыя» француза Дадэ, «Дарагія грошы» — украінскае, «Горкі смех» — яўрэйскае... Туды, у гэтую цудоўную сям'ю, натуральна і раўнапраўна ўвайшло і наша роднае — Багушэвіч, Купала, Багдановіч, Колас, Бядуля, Цётка... Гэта адтуль заселі ў памяці майго сэрца «Воўк і авечка», «Песня вайны», «Слуцкія ткаллі», «Ліпы старыя», «Малітва малога Габрусіка», «Міхаська»...

Гэта адтуль пачаўся і мой Гарэцкі, мая любоў да яго, спачатку больш інтуітыўная, відаць, з прадчуваннем таго, што прыйдзе пазней, са шчымліва сардэчнай, урыўкавай музыкай, таемна роднымі гукамі гэтага прадчування. Цяжка іх перадаць... А яны паўтарыліся зноў, калі я на ціхім, сонечным бібліятэчным стале разгарнуў старонкі той «трэцяй і чацвёртай пасля лемантара», пачаў перачытваць урывак з вельмі простага апавядання, напісанага вельмі маладым пісьменнікам. Максім Гарэцкі, «Роднае карэнне». Вельмі простым здаецца яно мне сёння: што ж, юнак сабе ехаў дахаты, у вёску, ехаў, прыехаў... Такога — *як быццам такога* — хапае і ў нашых маладых празаікаў, яны таксама ўсё едуць ды едуць, праўда і маладосцю сваёй значна старэйшыя за таго каморніка з мсціслаўскай Багацькаўкі, якому як аўтару першага зборніка было, калі рыхтаваў яго, толькі дваццаць. Але ж у той прастаце Гарэцкага, знешне вельмі звычайнай, мне і тады, за партай, і сёння, праз мноства пасычаных-перанасычаных га-

доў, надзейна адчувалася і адчуваецца тая краса, ад якое і лепей бачыш далёка навокал сябе, і жыць хочацца разумна і прыгожа.

Паспрабуй растлумачыць, чаму яно білася, сэрца даволі гарэзлівага пастушка, і чаму ён, той радасны бой, і сёння паўтараецца ад такога простага, звычайнага... Скажам, як гэта недзе *там*, не ў нашым Загоры, а там, куды той далёкі Архіп ехаў на возе і чуў, як хтосьці звонкім вечарам так незвычайна хораша клікаў жарабя: «Тпроля, тпроля, тпроля!..» Або як ён песню чуў — таксама вельмі новую для цябе, незвычайна прыгожую:

Загарэлася вячэрняя зара...
Добры вечар, гаспадынька мая!..
Ці зрыхтована вячэрыца твая?..

Сваёй навізной, незвычайнасцю гэтая песня,— зрэшты, толькі абрыўкі яе, дый без мелодыі, якую трэба было дадумаць, даадчуць самому,— песня сардэчна пераклікалася са жніўнымі песнямі, якія часам гучалі і над нашым вячэрнім полем.

А просты сказ, якім у кніжцы канчаецца фрагмент апавядання, помніцца і дагэтуль, і сёння, ад таго малечага адчування, хвалюе... ну, невядома чаму. І сапраўды, юнак Архіп (сёння — Максім) прыехаў у сваю вёску, з дарогі добра выспаўся, сям'ёю селі снедаць і — «пацякла бясконцая, прыемная гутарка аб тым, аб сім і аба ўсім...».

У многіх любімых пісьменнікаў ёсць заключныя сказы, нават таксама толькі абрыўкі тых сказаў, якія запомніліся нам з маленства. Скажам, у Тургенева, пра Каліныча, які «...запел вполголоса... и все глядел да глядел на зарю...»; у Сянкевіча, пра малога, закатаванага Янку-музыканта: «Nad Jankiem szumiały brzozy» [130]; у Шаўчэнкі: «...затихло все... Тількі дівчата та соловейко не затих»; у Багдановіча: «...а тут, каля акна, малінаўка пяе і стукае жаўна»... І яшчэ можна многае прыгадаць, успомніць сам-насам, калі-небудзь дык нават і з затоена патаемнай, міжвольнай слязой — аб тым, аб сім і аба ўсім...

* * *

Сярод нямногіх кніг мае юначай бібліятэкі была і «Рунь» Гарэцкага, а там, у прозе,— п'еса: «Атрута, кароткі жалобны абразок», з якім звязаны дарагія ўспаміны.

Было б нягожа — цытаваць самога сябе, і я, вядома, не буду, толькі скажу, што свае пісьмы да старэйшага брата ў польскую вайсковую турму, якія я пісаў яму ў 1937—1938 гадах, я перачытваў нядаўна, абдумваючы гэта, што цяпер пішу, таксама з нейкім «гістарычным» хваляваннем. У адным з тых пісьмаў, красамоўна азначаных чырвоным штэмпелем турэмнай цэнзуры, я расказваў хвалююча і падрабязна, як мы, загорская моладзь, ставілі ў сваёй вёсцы першы спектакль.

Зноў жа, нялёгка гэта — увесці чытача ў той час, даць яму хоць часткова адчуць, што такое вясковая цемра — у беднасці, у непісьменнасці бяспраўнага жыцця, на дадатак яшчэ — без веснавой, ці летняй, ці нават зімовай красы прыроды, а ў нізкахмарную ды гразкую непагадзь позняй восені... І вось якраз тады — першы спектакль!.. Пра такое я ўжо трохі, нібы між іншым, пісаў у «кнізе адной маладосці» — «Птушках і гнёздах». Толькі што не сказаў там, якая п'еса была ў нас першай. Схаваўшыся за свайго героя, я не сказаў таксама, якім наіўным максімалістам, што мне даволі весела бачыцца сёння, быў я тады, выбіраючы п'есы для пастаноўкі, нават часамі свабодна правячы іх, скажам з дазволу, як рэжысёр-пастаноўшчык.

Адносна нядрэнна начытаны, пераважна класікай, я быў, як пачынаючы літаратар, увесь пад уплывам Талстога, кнігу якога «Что такое искусство?» не проста прачытаў, а вывучаў — як дапаможнік у самастойнай працы над сабой. Апроч згаданых пісьмаў да брата, я мог бы таксама працытаваць і сёе-тое са сваіх тагачасных запісаў, дзе гаворыцца, як пасля доўгіх бескампрамісных пошукаў для першай пастаноўкі была выбрана «Атрута». «Каб дапамагчы людзям паразумнець і палепшаць», а больш канкрэтна — у плане змагання з п'янствам, за цвярозасць.

Гэта было тады вельмі сучасным, сугучным здароваму, высакароднаму руху святлейшай заходнебе-

ларускай моладзі, якая, у большасці пад уплывам удзельнікаў рэвалюцыйнага падполля, і сама не піла, і паслядоўна змагалася з гэтым са старэйшымі.

У маёй глыбокай павазе да справы жыцця і чалавечай сутнасці Максіма Гарэцкага кволай сняжынкай расцае тое юначае рашэнне — і гэтую п'есу для пастаноўкі «апрацаваць». У ёй мне не спадабаліся (зрэшты, і сёння не падабаюцца) дзве рэчы. Тое неверагоднае, як п'яніца Раман хоча зарэзацца, але... *нож сагнуўся на ягоным горле*, і другое — меладраматычны, вельмі ж «невясковы» дзедаў праклён: «Няма ў мяне больш сына... *Праклінаю! Праклінаю!!»* І адно, і другое дваццацігадовы «рэжысёр» паправіў: нож адкінуў, а «праклінаю» апусціў. Мала гэтага,— каб дзеянне як мага больш наблізіць да свайго гледача, у «абразок», пры перапісванні яго з «Руні», было ўнесена трохі мясцовага ў мове... Не захаваўся (для мяне — на жаль) той рукапіс, як захавалася іншае: мой пераклад камедый Талстога «Першы вінакур», якую мы не паспелі паставіць, і «Ад яе ўсе якасці», якую ставілі, а таксама агульны сшытак з надпісам «Вершы для вясковага тэатру», адкуль завучваліся родная лірыка і сатыра,— для дэкламацыі, абавязковай на спектаклях, як і «скокі да раніцы», што значылася ва ўсіх афішах. Што ж, прызнаемся: і ў некаторай паэзіі, як і ў драматургіі, здаралася праўка, сям-там даволі смела «загорская». І рабілася яна часамі не мною адным,— на папярэдніх чытках і на «пробах», рэпетыцыях.

Хто тут, чытаючы, убачыць у мяне прымесь таго, што можна назваць і самалюбаваннем, няхай памяркоўна, спагадліва зразумее, як гэта дорага — ужо не толькі здалёк, а нібы і збоку ўбачыць сваё маладое, чыстае жаданне як-небудзь прычыніцца да прасвятлення, палепшання людское долі, твайго адзінага месца на свеце. Тым больш што я быў не адзін, што нас была цэлая вёска хлопцаў і дзяўчат, якія, па прыкладу добрых людзей, захапіліся добрай справай, што ў нас былі бацькі, сваякі, суседзі, якія ўдзячна прынялі нашу культурную працу, а потым былі ў нас нават і «гастролі» ў гміннае мястэчка, куды мы горда вынеслі імя свайго гнязда, якое да той восені лічылася ў гэтым сэнсе адным з найгоршых у наваколлі.

Калі мы, група энтузіястаў, чыталі «Атруту» і, пры поўным дэмакратызме, калектыўна выбіралі выканаўцаў, на ролю п'яніцы Рамана папрасіўся адзін са старэйшых хлопцаў, бацька якога памёр ад гарэлкі. «Я *гэта* ведаю,— сказаў наш, заўсёды нібы панура маўклівы, таварыш, неяк падкрэсліўшы слова «гэта». І, памаўчаўшы, дадаў: — Маці тады прывяду, хай паплача...»

Тады не было, а тым больш цяпер няма ўжо каму з веданнем сказаць, як мы ў той вечар гралі. Справа не ў гэтым. І для нас, «артыстаў», і для нашых гледачоў галоўным было тое, што гэта *наша, сваё, «жыццёвае»*, як гаварылася, што гэта *мы самі* яго паказваем, тое мастацтва, ад якога — няхай сабе гэта і «з кнігі» ці «выдумка» — камусьці можна нават і заплакаць.

Я іграў ролю дзеда. І бездапаможна схіляючыся над безнадзейна хворай нявесткай, і горка галубячы ўнукаў, і ў адчаі лаючы п'яніцу-сына, я часцей за ўсё забываўся, што нявестка — мая семнаццацігадовая пляменніца Ліда, унучак і ўнучка — Ніна, бойкая сірата з беднай сям'і, і Полік, шчаслівы першынец з крыху багацейшай, што Раман — наш ціхманы Іван, а я — найбольш вядомы самому сабе — Іван таксама, толькі на сем гадоў маладзейшы. Я забываўся пра нас рэальных, я, як і ўсе мы, кожны па-свойму, *быў там* — у «Атруце». І нашы людзі, поўная школа людзей, у пераважнай большасці былі таксама *там*, бачылі нас няшчаснай сям'ёю.

«Над вымыслом слезами обольюсь...» Там, я бачыў з рыплівых падмосткаў нашай цеснай, прымітыўнай сцэны, праз «смешную» кудзелю сваіх брывей, вусоў і барады, праз ролю сваю, я бачыў мімаходзь, як плакала цётка Ганна, Іванава маці, як плакала мая, як плакалі іншыя бабы і маладзіцы, як хваляваўся, вільготна пабліскваў вачыма, у цясноце стоячы каля акна, наш малады грымёр, мастак з суседняй вёскі, як дрэнна спраўляўся з тэкстам найбліжэйшы да нас, «артыстаў», дзядзька-суфлёр, пажылы і бедны «грамацей», які, затуліўшыся за спытымі дзяругамі заслоны, нібы недабачваў, нібы заікаўся — праз слёзы...

«Атруту» ставілі ў той час, ва ўсе давераснёўскія гады, па ўсёй Заходняй Беларусі, і ў вёсках, і ў

гарадах. Пра бліжэйшае чулася, а пра далейшае даводзілася чытаць у нашым бедным друку, які то паміраў, то ажываў, каб зноў памерці — няскораным.

* * *

Той «Родны край», тую «трэцюю і чацвёртую», склала калісьці «вучыцелька віленскай беларускай гімназіі Л. Гарэцкая».

Мы, школьнікі, не ведалі тады, хто яна — і наогул, і для аўтара апавядання «Роднае карэнне».

Цяпер я ведаю і шкадую, што не прыйшлося пазнаёміцца з ёю асабіста, не толькі пісьмова,— з цікавай пісьменніцай Леанілай Чарняўскай, жонкай, сябрам і шматпакутнай спадарожніцай Максіма Гарэцкага, які для мяне, як і Янка Купала, таксама не ўбачаны пры жыцці,— яснее воддаль, вышэй, на найлепшых, найдаражэйшых старонках нашай гісторыі.

Вось я ў сям'і яго, на сем гадоў малодшага, брата, якому нядаўна споўнілася восемдзесят. Акадэмік, доктар геолагамінералагічных навук, аўтар многіх выдатных прац і вынаходніцтваў, вучоны з сусветным імем... А мы, літаратары, проста завём яго нашым Гаўрылам Іванавічам, і ў гэтай да яго павазе столькі цёплай глыбіні, а ў нашай блізкасці з ім — высокай усенароднай гордасці.

Добра каля такіх людзей, дзе заслужана, грунтоўна слаўнае неадлучна ад абаяльнай прастаты. І я быў сярод тых, хто спрабаваў угаварыць Гаўрылу Іванавіча напісаць для «Полымя» ўспаміны, расказаць пра сваё плённае жыццё. Гаварыць мы стараліся як мага асцярожней, шануючы мудрую сціпласць, аднак дарма стараліся, бо адказ быў адзін: «Пішыце пра Максіма». І ўсмешка, якая абяззбройвае шчырасцю, дабрадушная ўсмешка з глыбока схаванай моцнаю воляй.

І цяпер, у рабочым пакоі Гаўрылы Іванавіча, гаворка (*гамонка*, як прынята ў Гарэцкіх) час ад часу свабодна і натуральна вяртаецца да Максіма Іванавіча — старэйшага брата, дзядзькі і таты. Бо побач з гаспадаром кабінета — сын, паважаны Радзім Гаўрылавіч, таксама геолаг і акадэмік, таксама закаханы ў мастацкае слова, і госця з Ленінграда, пляменніца

Галя, мілая, сціплая Галіна Максімаўна, шматгадовая і адзіная апякунка цяжка хворай маці, руплівая ахоўніца літаратурнай спадчыны бацькоў. Зусім немістычна, сваімі абаяльнымі вобразамі прысутнічаюць тут і Леаніла Усцінаўна, якое чатыры гады няма, і Лёня, Леанід Максімавіч, што загінуў на фронце, а потым, праз тры дзесяцігоддзі, светла, хвалюючы і вельмі патрэбна вярнуўся да людзей на старонках часопісаў «Маладосць»[131] і «Юность» — сваімі салдацкімі пісьмамі маці, сястры, дзядзьку Гурыку, Гаўрылу Іванавічу, да якога, як і да бацькі, вельмі хацеў быць падобным.

У пашане, з якой у гэтай сям'і гаворыцца пра Максіма Гарэцкага, заўсёды адчуваецца не проста сямейнае, а перш за ўсё любоў да роднай літаратуры, належнае разуменне яе і месца, якое ў ёй па поўнаму праву заняў і ён, іх родны, які стаў блізкім, сваім для ўсіх, каму дарага роднае слова.

Сёння Гаўрыла Іванавіч зноў успомніў між іншым той далёкі час, пачатак дваццатых гадоў, калі старэйшы з іх, братоў Гарэцкіх, жыў часова ў Вільні, а малодшы, савецкі студэнт, прыходзіў да яго цераз «зялёную мяжу». Пра мэту тых рызыкоўных наведванняў можна здагадвацца і па тым, як ён паводзіў сябе тады, сённяшні акадэмік шаноўнага ўзросту. На гары, якую віленцы называлі Трохкрыжавой, у той час над горадам узвышаліся тры белыя каменныя крыжы. «І вось на адным з іх,— успамінае Гаўрыла Іванавіч,— раптам з'явіўся надпіс: «Пралетарыі ўсіх краін, злучайцеся!» Ды не адзін, а два, на дзвюх мовах: на эсперанта — для ўсяго свету, і пабеларуску — «каб ведалі, ад каго яно, гэтае слова...». Успамінае малодшы Гарэцкі і дабрадушна ўсміхаецца, як быццам гэта не ён, а хтосьці іншы, збоку вядомы, так молада, задорна напісаў.

Каля стала, на якім была напісана і яшчэ ўсё, дзякуй богу, пішацца не адна выдатная навуковая праца славутага савецкага геолага, мне прыемна было праверыць сваё меркаванне, упэўніцца ў тым, што кніжка, якая так добра ўводзіла мяне ў свет сапраўднай літаратуры, што той наш даўні і, як само маленства, светлы «Родны край» і сапраўды складаўся не без удзелу Максіма Гарэцкага. А шмат

чаго з замежных моў пераклала туды Леаніла Усцінаўна.

Прыемна было таксама і расказаць, як у той паднявольнай цемры колішніх вёсак яшчэ раз быў пастаўлены «жалобны абразок», яшчэ раней, у ліхалецці дарэвалюцыйным, напісаны маладзенькім студэнтам-каморнікам, якому потым, на вялікі жаль, не прыйшлося сказаць свайму народу і цэламу свету ўсяго, што ён мог бы сказаць, і якога мы любім за тое, што ён сказаў.

## *Іван Навуменка*

### АДНО АПАВЯДАННЕ [132]

мя Максіма Гарэцкага толькі ў апошнія гады становіцца вядомым шырокаму чытачу. Пасля надрукавання раманаў «Віленскія камунары» і аўтабіяграфічнай аповесці «Камароўская хроніка» мы як бы нанава адкрылі для сябе гэтага надзвычай цікавага і арыгінальнага мастака слова. А між тым Максім Гарэцкі быў у ліку пісьменнікаў, якія закладвалі першыя цагліны ў падмурак беларускай прозы. Пра адно з апавяданняў Гарэцкага — «Літоўскі хутарок», якое было напісана ў 1915 годзе, у той час, калі пісьменнік знаходзіўся на руска-германскім фронце, мне і хочацца сказаць некалькі слоў.

Дарэвалюцыйнае беларускае апавяданне, прадстаўленае імёнамі Ядвігіна Ш. (А. Лявіцкага), Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, было не надта разнастайным у жанравых адносінах. Псіхалагізм, глыбокае, шматбаковае бачанне жыцця толькі-толькі пракрывалі ў ім сабе дарогу. Таму — скажу шчыра — я быў здзіўлены, калі некалькі гадоў назад прачытаў «Літоўскі хутарок» Максіма Гарэцкага. Па ўзроўню творчай культуры гэтае апавяданне можна было параўнаць хіба толькі з лепшым, што стварыў да рэвалюцыі ў прозе Якуб Колас — з яго апавяданнямі «Нёманаў дар» і «Малады дубок».

Гаворка ў творы Гарэцкага ідзе пра звычайную сядзібу Яна Шымкунаса, размешчаную недзе паблізу прускай граніцы, пра яе жыхароў — самога гаспадара Яна, ягоную жонку Даміцэлю, дачок Ядвісю і Монцю, а таксама салдат рускай арміі Ярмашчука

і Дудзіка, фейерверкера Сініцу, што сталі сваімі людзьмі на гэтым адзінокім хутары.

Спачатку хутарок знаходзіўся па гэты бок фронту, у межах баявых дзеянняў рускай арміі, потым прыйшлі салдаты кайзера Вільгельма, затым зноў вярнуліся рускія. Вайна парушыла мірны жыццёвы клопат жыхароў хутарка, прынесла ім незлічоныя пакуты. Пра ўсё гэта пісьменнік расказаў з такой чалавечай увагай да іх жыцця, побыту, з такім вялікім болем, спагадай да пакут простых людзей. І разам з тым у апавяданні няма ніякіх знешніх эфектаў, эмацыянальных «выбухаў». Усё ў ім проста, будзённа, звычайна. Але ж расказаць так — значыць валодаць найвышэйшым майстэрствам, быць рэалістам, псіхолагам у самым высокім значэнні гэтых слоў. Вось, скажам, сціслыя і па-мастацку ёмістыя партрэты дачок Яна Шымкунаса: «Чорненькая Ядвіся не была так прыгожа, як большая Монця, але яе бойкія, вясёлыя чорненькія вочкі, чырвона-смугленькія з ямачкамі шчочкі, дзяціна-капрызны са смяшком склад вуснаў, маладыя круглыя ручкі, гібкасць і крутасць паланялі салдатаў, не ведаўшых, чым і як ёй дагадзіць.

Беленькая Монця мела больш строгую красу і была сур'ёзней і неяк задумней. Гэта быў тып літвінкі. Прадаўгаваты тварык з шэрымі, сумнымі, удаўжонага разрэзу вачамі; круглы, але правільны нос; рот з рысамі, лёгка даючымі пакорліва-сумную ўсмешку; роўныя, белыя зубы, доўгая, багатая белакурая з завіточкамі каса.

Не кожны салдат рашаўся жартаваць з Монцяю».

Вось гэтую багатую «прадметнасць», «рэчавасць» бачання жыцця, высокую рэалістычную, псіхалагічную культуру і нёс у беларускую прозу Максім Гарэцкі, пісьменнік надзвычай таленавіты і глыбокі.

# *Алесь Адамовіч*

## З КНІГІ «БРАМУ СКАРБАЎ СВАІХ АДЧЫНЯЮ...» [133]



[...] Калі чытаеш «Камароўскую хроніку» («Камароўскую кроніку» — як пішацца ў «спытках» М. Гарэцкага), старонку за старонкай (і першы, і другі, і пяты «спытак» — і ўсё пра Камароўку і суседнія вёскі, усё пра Задумаў (Батураў) і пра іншыя сялянскія «роды», сочыш за лёсам дзяцей Камароўкі ў далёкім свеце вайны, рэвалюцый, высылак, паглыбляешся ў псіхалогію, узаемаадносіны, характары ўсіх Задумаў-Батураў (Ганны, Пракопа, Лявона (Кузьмы), Лаўрыка, Марынкі і інш.),— калі вось так прачытаеш «Камароўскую хроніку», узнікае пачуццё, што табе адкрыўся цэлы свет, у сабе закончаны. Ёсць і ўнутраны рух у гэтым творы: з глыбіні дзесяцігоддзяў праз лёс пакаленняў рухаецца час; складана звязаны лёсы і характары людзей, характары мяняюцца, развіваюцца... Але галоўнае: ва ўсіх пяці «спытках» ёсць тое, што можна назваць маральным стрыжнем, маральным адзінствам аўтарскага бачання, а гэта і робіць перш за ўсё (паводле Талстога) твор па-мастацку цэлым. Погляд на народнае жыццё, на свой край, ацэнка, разуменне асобнага чалавека, уяўленне аб чалавечым шчасці ці няшчасці, сам вобраз апавядальніка — за ўсім стаіць, адчуваецца пазіцыя аўтара, што пражыў жыццё і ведае, што пражыў; які ведае, адчувае: калі не скажаш галоўнага цяпер, дык не скажаш ужо ніколі.

Пісьменнік можа пражыць доўгае жыццё, шмат зрабіць і ўсё ж не напісаць сваю Галоўную Кнігу. Як можа пражыць чалавек жыццё, так і не зведаўшы моцнага, усепаглынаючага кахання. І той і другі

наўрад ці могуць лічыцца людзьмі шчаслівага лёсу, якія здзейснілі саміх сябе поўнасцю.

Чалавек збіраў, рыхтаваў матэрыял да асноўнага свайго твора, дзесяцігоддзямі жыў думкай аб ім. А тут пачаў спяшацца, складваць нарыхтаваны матэрыял у «будучы твор»: прымерваць, выцягваць у «адну лінію» — сшытак за сшыткам. Матэрыял пачынае жыць па законах мастацкага твора. Самазагараецца. Пісьменнік ужо адчувае, бачыць, што ён бліжэй да мэты — бліжэй да твора,— чым сам лічыў спачатку, калі толькі пачынаў яго перапісваць, «складваць». Цяпер загараецца ўжо і аўтар: трывожнай радасцю і спешкай. Спяшае, бо ведае, што паспее. Паспее напісаць не далёкую тую эпапею, аб якой заўсёды думаў, а вось *гэта* — што нечакана, раптоўна пачало атрымлівацца з сабранага матэрыялу. Што паўстала з самога матэрыялу, як толькі выцягнуўся ён «у адну лінію»...

З усяго і ўзнікае асаблівы настрой «Камароўскай хронікі». Шчымлівы настрой апошняй рэчы, лебядзінай песні. Усе скарбы памяці, сэрца, усе галоўныя моманты жыцця, пеpажытае, перадуманае — сваё, блізкіх людзей, вёскі — усё сюды, адно да аднаго. На «вышэйшае», на «сушэйшае» месца. Каб хвалі падзей, трывожнага часу не змылі і гэта, не знеслі, не пахавалі. Каб засталося... Можа, яшчэ прыйдзецца да справы: яму, аўтару, ці каму яшчэ. А наогул невядома, хто прыйдзе, увойдзе ў раскрытую для ўсіх «браму».

«А хто яны будуць? Чакаю спагаднага, блізкага сэрца, але ж брама адчынена ўсім...»

З чаго ўзнікае нечаканы, як раптоўнымі сіламі ўзняты з дна мора востраў, твор — «Камароўская хроніка»? Мы ўжо казалі: з пісем, якія пасылала Максіму Гарэцкаму вёска; з дзённікаў і пісем братоў і сястры, якія ўжо таксама аддаляюцца ад Камароўкі (Малой Багацькаўкі), з уласных успамінаў і момантаў жыцця, з самога рэальнага жыцця, што навісае заўтрашнім днём і сённяшняй трывогай. І найперш — з велізарнай сыноўняй любові да роднай зямлі, родных людзей.

«Камароўская хроніка» — апошні паклон вёсцы, з якой выйшаў сам пісьменнік, і ўсё, што яму блізка, дорага. З якой адбываецца тое ж, што і з ім самім

адбываецца, бо ён не можа аддзяліць (і не хоча аддзяляць) сябе ад яе. Хоць і разумее больш пра тое, што адбываецца — з ёю, з ім,— чым сама вёска разумее.

А адбываецца з беларускай Камароўкай тое, што і з цэлым светам. Што і ва ўсім свеце. Сёння нам гэта бачна нават больш. Ды не, куды больш! І мы прачытваем «Камароўскую хроніку» сваімі вачыма, бо ўжо другая палова XX стагоддзя, і той працэс набыў яшчэ большую імклівасць і незварачальнасць.

Колькі памятае сябе чалавецтва, існаваў велізарны, найгалоўнейшы мацярык. Імя яму — сялянства. І вось за нейкія дзесяцігоддзі — не ва ўсіх краінах адначасова і не з аднолькавым, вядома, сацыяльным вынікам, але ўсюды непазбежна — мацярык гэты, на вачах аднаго-двух пакаленняў, пачынае раптоўна знікаць. Сёння гэта ўжо прывычны для нас усіх факт. Учарашнія восемдзесят працэнтаў вясковага земляробчага насельніцтва робяцца сарака працэнтамі, а потым, глядзі што і 20-цю ці нават 4-ма працэнтамі, як у шмат якіх індустрыяльных краінах. З'ява звычайная, хоць і не скажаш, што да канца зразуметая па сваіх выніках. Але прывычка супакойвае нават не ў такіх справах. (За нейкія тры дзесяцігоддзі людзі і да атамнай бомбы ўжо як бы прывыклі.) І ўсё ж мы хоць рэальна бачым, як размываецца адзін мацярык, а недзе, замест яго, выступаюць новыя астравы, архіпелагі, мацерыкі — сацыяльныя. Расце горад, узнікаюць новыя сацыяльныя пласты...

А цяпер паспрабуем сабе ўявіць самы пачатак таго раптоўнага апускання «мацерыка». Ці момант, калі чалавек гэта адчуў: доўга назіраў, прыглядаўся і тут адчуў пад нагамі той рух... А чалавек гэты ўсім самым дарагім, родным звязаны з тым «мацерыком» — самой мовай матчынай. Мова і той «мацярык» звязаны. І ў гэтым таксама вастрыня і складанасць сітуацыі для М. Гарэцкага — беларускага пісьменніка.

Не, аўтар «Камароўскай хронікі» нічым не нагадвае некаторых сённяшніх сентыментальных плакальшчыкаў па патрыярхальнай вёсцы. Бо сам вырас у той вясковай бядоце, цемры, беспрасветна цяжкай працы, а для маці, для бацькі, для блізкіх усё тое — крыўдная, балючая рэальнасць. Маці і за-

гінула, надарваўшыся ад працы... (Падняла, цягнула са склепа цяжкі кош бульбы.)

«Тысячу разоў бульбу тую падняў бы. Не так, як раней, калі яна плацце мыла, а ты панам лагодным каля яе стаяў, гуляў, дабрадушна жартаваў.

Пакруціць — папрасіла.

— Не так крэпка, а то перакруціш».

Гэта запісана ў 1935 годзе, калі М. Гарэцкі даведаўся, жывучы ў далёкім Кіраве (Вятцы), што маці памерла...

«Я адчыніў дзверы ў хату — і ўбачыў тут жа пры дзвярах: нагнулася старэнькая — мама, перабірала буракі».— Так успамінае ў 1937 г. аўтар «Камароўскай хронікі» і маці сваю, і сваю міжвольную віну перад ёю і перад маці-вёскай. Успамінае ён, мучыць сваю памяць, перапісваючы ў «Камароўскую хроніку» яшчэ адзін ліст — Лаўрыка да Кузьмы: — Адзенне нейкае старое, на галаве закручана нейкая брудная шмата, нібы баляць зубы і хворая галава. На нагах лапці. Заскаруджаныя рукі, з глыбокімі зморшчкамі. Мама мяне спачатку не спазнала. А потым прыцягнула сабе на грудзі, пачала хлопаць рукамі па спіне і, нібы млеючы, казала спуджана-радасна: «Ай, ай, ай... ай, ай, ай... ай, ай, ай... А Лаўрынічка... ай, ай, ай...» І чулася ў гэтым голасе — такая страшэнная драхласць, такая спуджанасць, такое доўгае чаканне, што мне стала страшна за маму...»

Але іменна таму, што ён сапраўдны сын вёскі і сапраўдны інтэлігент, аўтар «Камароўскай хронікі» не можа застацца абыякавым да рэальнага лёсу рэальных людзей. І не можа не акумуляваць, не адчуваць трывогі вёскі, яе боль, і не перадаваць тое нечаканае пачуццё: устойлівейшы, спрадвечны мацярык раптам пайшоў уніз. А тут яшчэ пад яго ўласнымі нагамі таксама хістаецца зямля...

І як бы стараецца (сваёй «Камароўскай хронікай»), выказваючы гэта пачуццё сваё і не сваё, зберагчы тое, што сабрана. Сабрана ім самім за ўсё жыццё,— не для сябе ж! І вёскай сабрана — за тысячагоддзі.

Бо не адзін толькі «ідыятызм» быў у той вёсцы, а і велізарнейшыя багацці народнага духоўнага, маральнага вопыту, паэтычнае, моўнае багацце — тым

больш каштоўна, што збіралася яно пакаленнямі ў самых жорсткіх умовах жыцця, гісторыі, несла ў сабе столькі чалавечага і чалавечнага.

Сёння, калі мы чытаем Бялова і Шукшына, Распуціна і Друцэ, Мележа, Брыля, Сіпакова і Матэвасяна і ўсю вакол сучаснай «вясковай прозы» палеміку, крытыку, мы ўсё больш цвёрда згаджаемся з ісцінай, якая пракладвае сабе шлях праз нашу літаратуру. Ісціна гэтая вось у чым: велізарны мацярык сялянства беспаваротна змяншаецца, але нельга страціць час, непаўторна адказны, важны, нельга згубіць магчымасць (якой заўтра ўжо не будзе) — мы абавязаны зберагчы і перадаць далей духоўны, маральны, чалавечы вопыт, што тысячагоддзямі збіраўся тут, іменна на гэтым мацерыку. Колькі суму і фантазій пра Атлантыду, якая, можа, была, а можа, і не, але адна вераемнасць, што быў цэлы мацярык, са сваёй культурай і жыццём, і знік поўнасцю, не можа не мучыць, не прымушаць нас сумаваць, шукаць, аднаўляць нешта хоць бы ва ўяўленні.

Чытаючы Іона Друцэ, яго раман «Цяжар нашай дабрыні», чытаючы «Буйваліцу» Матэвасяна, усяго Бялова, беларускую прозу (Мележа, Брыля, Сіпакова, Стральцова) і іншых, улоўліваеш як бы *будучы* сум і шкадаванне — ад адной думкі, што чалавецтва, спяшаючыся наперад, можа пакінуць ззаду (як непатрэбны цяжар) тое, без чаго потым, далей будзе пуставата на перанаселенай планеце. Ёсць рэчы, па якія не вернешся назад, калі не забярэш у дарогу своечасова. І гэта датычыцца не толькі тых «братоў малодшых», якія, прайшоўшы з намі, людзьмі (і іншымі продкамі) побач мільённагадовы шлях, раптам пакідаюць нас адных на планеце. Ужо «чырвоныя кнігі» пра гэта складаюцца — кнігі пра велізарную пагрозу багаццю, паўнаце жыцця на Зямлі!

«Вясковая проза» апошніх 10—15 гадоў, лепшыя творы яе — ці не такія ж «чырвоныя кнігі»?!

Гэта — трывожны голас пра небяспеку, што чалавецтва можа стаць вельмі індустрыяльным, але і вельмі голым (духоўна, маральна), калі спешка тэхнічная будзе суправаджацца абыякавай непаспешлівасцю ў сэнсе маральнага самазабеспячэння. («Самазабеспячэння» таксама і за кошт бясцэннага, праз

пакуты набытага вопыту, духоўнага, маральнага, шматтысячагадовай вёскі...).

Дык вось існуе (хоць літаратура наша гэтага яшчэ і не адчувае), рэальна існуе твор, які па жанру можна з асаблівай падставай назваць нечым накшталт сённяшніх «чырвоных кніг». Бо «Камароўская хроніка» пісалася, напісана з тым жа пачуццём і клопатам, з якім сёння складаюцца такія кнігі, і з мэтай амаль той жа: засведчыць, зафіксаваць, каб зберагчы ўсё каштоўнае. «Зафіксаваць» вёску, якая была і ёсць, традыцыі і сучаснасць духоўнага жыцця і своеасаблівага побыту сялянскага і наогул — народнага...

Вядома, у М. Гарэцкага ва ўмовах 20-х і 30-х гадоў, калі ён збіраў матэрыял і калі пачаў яго «афармляць у твор», мэта і задача была складаней, большая, чым проста «зафіксаваць і самае каштоўнае зберагчы». Але кожны час па-свойму прачытвае твор. І ва ўсякім разе той кантэкст, аб якім мы гаворым, рэальна ўзнікае, існуе.

Як адзін з момантаў, адна з граняў твора — і вельмі важная, эстэтычна змястоўная.

[...] У «Камароўскай хроніке» надзіва дакладная канцоўка. Называецца яна «Камароўскі парад». Сям'я за сям'ёй, двор за дваром, пад нумарамі — аб усіх сказана...

[...] Для сябе, мабыць, запісваў, для магчымай працы, а стаў гэты запіс, гэты «парад» двароў-сем'яў, сямейных лёсаў у «Камароўскую хроніку» і загучаў як мастацкая канцоўка вялізнага твора. Як завяршэнне кнігі пра шматвяковы шлях вёскі: што было, што ёсць, што застаецца на будучае... Аўтар ставіць кропку, але як бы гаворыць той кропкай: дасюль прарабіў працу я, зрабіў дакуль змог, далей, астатняе — ваша!

## *Дзмітрый Бугаёў*

# З ВЯЛІКАЙ ТВОРЧАЙ АДДАЧАЙ[134]

### Да 80-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага



З цягам часу становіцца ўсё больш відавочна, што след, пакінуты Максімам Гарэцкім у гісторыі беларускай нацыянальнай культуры, вельмі значны. Гэты чалавек, дзе б ён ні быў, у якія б складаныя варункі ні трапляў, усё сваё нялёгкае, надзвычай турботнае жыццё самаааддана працаваў на карысць свайго народа, любоў да якога вызначыла пафас усёй яго дзейнасці, увесь сэнс яго свядомага існавання.

Максім Іванавіч быў падзвіжнікам у самым прамым і поўным сэнсе гэтага слова.

З ранняга дзяцінства зачараваны песенным і казачным фальклорам беларусаў, заварожаны цудоўнай музыкай жывой народнай мовы, пры царызме прыгнечанай і асмяянай, Гарэцкі яшчэ ў перыяд навучання ў сяле Вольша на Аршаншчыне, а потым у Горацкім каморніцка-агранамічным вучылішчы выявіў глыбокую зацікаўленасць да беларускай літаратуры, да нашай нацыянальнай культуры. У дакастрычніцкую пару ён з поспехам развіваў дэмакратычныя традыцыі беларускага мастацкага слова, а ў савецкі час стаў адным з актыўных будаўнікоў новай, сацыялістычнай культуры.

Значнай падзеяй у гісторыі нашай дакастрычніцкай літаратуры стала ўжо самая першая кніга пісьменніка — зборнік апавяданняў «Рунь», выдадзены ў 1914 годзе Беларускім выдавецкім таварыствам у Вільні. Гэтая кніга, надрукаваная, дарэчы сказаць, у друкарні таго самага «пана Марціна Кухты», якога добрым словам успамінаў у сваім перадсмяротным

вершы Максім Багдановіч, была прыхільна сустрэта сучаснікамі і паплечнікамі аўтара. Газета «Наша ніва» адгукнулася на «Рунь» добразычлівай рэцэнзіяй [135], у якой адзначалася, што зборнік Максіма Гарэцкага вылучаецца глыбінёй і багаццем думак, моўным хараством і дасканаласцю, уносіць вялікі ўклад у беларускую літаратуру. Звярнуў увагу на кнігу маладога празаіка і Максім Багдановіч — наш першы выдатны крытык. У артыкуле «Беларускае адраджэнне», напісаным для часопіса «Украинская жизнь» у ліпені 1914 года, ён прыгадваў «Рунь» сярод іншых цікавых твораў тагачаснай літаратуры.

Перачытваючы адно за адным апавяданні са зборніка «Рунь», і сёння дзівішся, як далёка сягала аналітычная думка гэтага пісьменніка. У сваіх падкрэслена бытавых па ўсёй знешняй фактуры творах празаік умеў ставіць самыя складаныя грамадска-сацыяльныя праблемы свайго часу, даводзіў, паводле слоў акадэміка Карскага, псіхалагічны аналіз «да дэталёвай анатомікі, да фатаграфавання атамаў», і ўвогуле, застаючыся ва ўсім самабытным мастаком, мысліў маштабна, па-філасофску [...].

Беларуская дакастрычніцкая проза і раней, да таго, як выступіў у літаратуры Максім Гарэцкі, умела маляваць побыт селяніна, рэалістычна адлюстроўваць яго працоўную дзейнасць, на ўвесь голас гаварыць пра яго самыя галоўныя жыццёвыя патрэбы. Аўтар «Руні» пра ўсё гэта таксама пісаў з глыбокай пераконанасцю і сапраўдным поспехам. Але ён даў беларускай дакастрычніцкай прозе і нешта іншае. Творы пісьменніка ўнеслі ў нашу тагачасную літаратуру тую вялікую праблемнасць, да якой не заўсёды ўздымаліся яго папярэднікі і часткова нават паплечнікі па літаратурнай ніве [...].

Высокае напружанне інтэлектуальнай, філасофскай думкі, якая выяўляецца праз каларытныя і дакладныя пабытавыя малюнкі,— вось што адрознівае яшчэ дакастрычніцкую творчасць Гарэцкага ад бяскрылых у сваёй этнаграфічна-бытавой заземленасці твораў так званага падножнага рэалізму [...].

Сапраўдная інтэлігентнасць у герояў Гарэцкага пазнаецца перш за ўсё па тым, што яны ў любых абставінах застаюцца вернымі свайму народу і гатовыя для бацькаўшчыны пайсці на самыя цяжкія

выпрабаванні. Аднак канкрэтныя шляхі да плённага служэння вялікай народнай справе і для герояў гэтага пісьменніка былі часта няясныя. Ім таксама звычайна даводзілася вобмацкам шукаць сваю дарогу, найбольш спадзеючыся на свой глыбокі, у лепшым сэнсе слова мужыцкі дэмакратызм ды яшчэ на сваю сялянскую цягавітасць і настойлівасць у дасягненні мэты.

Іначай яно і быць не магло, бо пісьменнік таксама не меў гатовых адказаў на тыя складаныя пытанні часу, якія ён настойліва і часта з вялікай грамадзянскай мужнасцю ставіў і ў сваіх мастацкіх творах, і ў публіцыстычных артыкулах, прысвечаных актуальным праблемам беларускага нацыянальна-вызваленчага руху перадкастрычніцкай пары, высвятленню ролі нацыянальнай культуры ў гэтым руху («Наш тэатр», «Развагі і думкі» і інш.).

Але Гарэцкі мэтанакіравана і паслядоўна імкнуўся адкінуць памылковы, хоць і даволі распаўсюджаны ў тыя часы погляд, нібы маладая беларуская літаратура магла быць толькі лакальна-сялянскай, «простанароднай», а значыць, пазбаўленай і сапраўднай інтэлектуальнасці і вялікай будучыні.

Вось чаму героі пісьменніка не толькі клапоцяцца пра кавалак хлеба надзённага, які ім, дарэчы сказаць, даецца дужа нялёгка, але і ўпарта шукаюць ісціны, адказаў на адвечныя, часта філасофскія пытанні, разважаюць пра сэнс жыцця, зноў і зноў задумваюцца: «адкуль свет, адкуль што», «не толькі як яно, але і адкуль яно», «адкуль усё і што яно». І гэта, вядома ж, не праявы бязвольнасці або ўсяго толькі інтэлігенцкай раздвоенасці «індывідуумаў», якія не маюць «пэўных, акрэсленых ідэалаў», як яшчэ не так даўно сцвярджалі некаторыя нашы даследчыкі. У гэтых пошуках выяўляецца не прыбітасць, прыніжанасць ці нейкае незразумелае дзівацтва пазбаўленых выразнай практычнай мэты людзей. Якраз наадварот. Тут добра адчуваецца своеасаблівае бунтарства герояў Максіма Гарэцкага, іх упартасць у вялікім чалавечым імкненні да пазнання свету, да разгадкі яго таямніц і загадак. Адным словам, за гэтымі пошукамі вышэйшага сэнсу людскога існавання праглядваецца моцны характар асобы, якая прагне духоўна-інтэлектуальнай змястоўнасці і не баіцца

сягнуць далей за штодзённы жыццёвы клопат, бо здагадваецца, што нельга «калодаю гнілою жыццё пражыць і нічым не цікавіцца».

Будучы паводле складу свайго таленту пераважна пісьменнікам-аналітыкам, пісьменнікам-псіхолагам, Максім Гарэцкі даследаваў у сваёй дакастрычніцкай творчасці складаныя і часта супярэчлівыя характары такіх шукальнікаў ісціны і сэнсу жыцця з іх высокімі інтэлектуальнымі парываннямі і ўнутранай, душэўнай непакорлівасцю. Пісьменніка надзвычай цікавілі бунтаўнікі па натуры, па духу, якія, як той праставаты з выгляду, але надзелены жыватворчым скептыцызмам мужыцкага філосафа і рызыкоўнай смеласцю, нават дзёрзкасцю, Гаўрыла-пячкур з апавядання «Страхаццё», адважваліся кінуць выклік людской палахлівасці і забабоннасці.

І на гэтую цікавасць былі свае важкія прычыны. Па-першае, такія характары скрозь нараджала тагачасная беларуская рэчаіснасць, нягледзячы на жорсткі сацыяльны і нацыянальны ўціск з боку царызму. А Гарэцкі, як пісьменнік-рэаліст, заўсёды быў уважлівы да жыцця і яго патрэб. Па-другое, людзі такога душэўнага складу прывабліваюць Максіма Гарэцкага яшчэ і тым, што глыбокае даследаванне іх характараў сродкамі мастацтва якраз давала магчымасць закранаць вялікую і складаную інтэлектуальна-філасофскую праблематыку, якой менавіта і не ставала беларускай дакастрычніцкай літаратуры, асабліва нашай прозе той пары, пераважна бытавой.

Імкненне ж да гэткай праблематыкі было для пісьменніка, яшчэ раз паўторым, прынцыпова важнае, бо ён, вельмі нагадваючы ў гэтых адносінах Максіма Багдановіча, свядома ставіў перад сабою задачу ўсімі сіламі ўзбагачаць нацыянальную мастацкую традыцыю, узнімаць нашу літаратуру да ўзроўню больш развітых тады літаратур суседніх народаў і ўвогуле клапатліва рыхтаваў глебу для таго, каб і перад нашай літаратурай адчынілася «агульналюдская скарбніца векавечных здабыткаў культуры і цывілізацыі».

Такім чынам, праз творчы вопыт Максіма Гарэцкага і, вядома ж, Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Змітрака Бядулі і іншых тагачас-

ных пісьменнікаў беларуская дакастрычніцкая літаратура настойліва парывалася ў будучыню, развівала свае выяўленчыя магчымасці, шмат у чым плённа засвойваючы некаторыя з гэтых здабыткаў «агульналюдской скарбніцы» і паспяхова набліжаючыся да сур'ёзнай, вялікай праблемнасці, да глыбокай інтэлектуальнасці, без якой немагчыма ўявіць сапраўды сталую мастацкую культуру.

У такім жа самым плане трэба ацаніць і не вельмі шматлікія, але тым не менш паказальныя прыклады асацыятыўнасці мастацкага мыслення, якія сустракаюцца ў некаторых апавяданнях пісьменніка («Кросны» і інш.). У нашай дарэвалюцыйнай прозе гэта таксама была, безумоўна, наватарская з'ява, якой належала вялікая будучыня.

Асабліва выразна інтэлектуальна-філасофскі падыход да адлюстравання рэчаіснасці выявіўся ў кнізе Максіма Гарэцкага «Антон», якая напісана ў 1914 годзе, але выдадзена, як і шэраг іншых твораў пісьменніка, значна пазней. Тут аўтар спачатку паказвае вялікую душэўную драму беларускага селяніна Антона Жабона, а потым дае спецыяльныя раздзелы, у якіх выказваюцца адносіны прадстаўнікоў шматлікіх грамадскіх сіл і кірункаў да гэтай складанай жыццёвай гісторыі і трагічным вынікам. Праз такое сутыкненне часта супрацьлеглых ці рэзка супярэчлівых поглядаў і думак яна асэнсоўваецца вельмі глыбока і шматгранна. Пісьменнік разглядае эпізод з жыцця простага чалавека ў эксплуататарскім грамадстве ў сілавым полі эпохі, на скрыжаванні самых актуальных сацыяльна-гістарычных і філасофскіх праблем часу. У выніку чытачу становіцца зразумела, што трагічная гісторыя Жабона — гэта не проста ненармальны выпадак, выкліканы хваробамі цела, якому было дрэнна, як растлумачвае адзін з персанажаў твора — схільны да вульгарна-спрошчаных, аднлінейна-элементарных меркаванняў Доктар. «Загадка» Антона — гэта і сацыяльная драма беднасці, глыбокая драма прыгнечанасці чалавека абставінамі, у якіх яму вельмі цяжка здабываць свой хлеб надзённы. Разам з тым гэта і не менш сацыяльная ў сваёй сутнасці духоўная драма, хвалюючая драма збітага з тропу рэлігійнай дагматыкай чалавека, які не знайшоў надзейнай дарогі да

праўды і справядлівасці, бо шукаў не на тых шляхах, дзе іх можна знайсці.

Сам пісьменнік яшчэ ў дакастрычніцкія часы адчуваў, што такія шляхі ёсць, і таму звычайна заставаўся аптымістам у сваім агульным поглядзе на жыццё. А калі і перажываў пэўныя перыяды даволі глыбокага расчаравання, як, напрыклад, у гады імперыялістычнай вайны, дык усё ж з цягам часу, асабліва пад уплывам станоўчых змен у самой рэчаіснасці, знаходзіў у сабе сілы пераадолець песімістычныя настроі. Пры ўсёй глыбіні сваіх часовых расчараванняў і сумненняў, якія, здаралася, мелі адносіны і да вельмі важных праблем, пісьменнік наўрад ці страчваў калі канчаткова, прынамсі, надоўга, веру ў стваральныя сілы свайго народа, у яго здольнасць да грамадскага прагрэсу, да гістарычнай творчасці, да абнаўлення жыцця.

Істотная заслуга Максіма Гарэцкага і тое, што ён актыўна працаваў над пашырэннем жанравага дыяпазону беларускай мастацкай прозы. Ён імкнуўся да яе стылёвай разнастайнасці, развіваючы не толькі стрыманы, рэалістычна-бытавы ў сваёй аснове, аналітычны стыль, але і прыёмы ўзнёслага лірыка-эмацыянальнага пісьма. Ён шукаў ёмістыя кампазіцыйныя формы, якія б дазволілі перадаваць складаны і часта шматпланавы, шматмерны змест яго твораў. Так пісьменнік прыходзіў да эпісталярнай формы апавядання («У чым яго крыўда?» са зборніка «Рунь»), якая была новай для беларускай дакастрычніцкай літаратуры і ставіла перад аўтарам дадатковыя цяжкасці. Але пісьменнік ніколі не палохаўся такіх цяжкасцей.

Напрыклад, у апавяданні «Рунь», якім адкрываецца аднайменная кніга, Максім Гарэцкі вельмі пасучаснаму аб'яднаў разнародны сваім агульным характарам матэрыял — лісты аднаго з персанажаў да другога, урыўкі з дзённікавых запісаў і нататак, а таксама ўзоры мастацкай творчасці апавядальніка, аб'ектывізаваны вобраз якога мае сваю адметную моўна-стылёвую характарыстыку і выразна размежаваны з аўтарам, нарэшце, пісьменніцкі (уласна аўтарскі) каментарый да ўсяго, што адбываецца ў творы. Усё гэта сплаўлена ў складаную, але па-свойму цэласную, вельмі мэтанакіраваную мастацкую

структуру праблемнага апавядання. Нездарма ж акадэмік Карскі звяртаў увагу на тое, што сваёй задумай гэтае апавяданне нагадвае раман Чарнышэўскага «Што рабіць?».

Не менш своеасаблівыя ў жанравых адносінах і так званыя драматычныя творы Максіма Гарэцкага, напісаныя ў розны час («Атрута», «Жалобная камедыя» [136], «Салдат і яго жонка», «Свецкі чалавек», «Не адной веры», «Каменацёс», «Жартаўлівы Пісарэвіч» і інш.). Калі прытрымлівацца дакладных жанравых вызначэнняў, дык гэта не столькі ўзоры драмы ў яе прывычным разуменні, колькі арыгінальныя і пасвойму вельмі цікавыя формы дыялагізаванай, або драматычнай прозы. Падкрэсліваючы гэтую акалічнасць, пісьменнік даваў ім падзагалоўкі: «сцэнкі», «сцэнкі і размовы», «драматычныя абразкі», «абразы жыцця» і інш.

Апошні падзагаловак належыць кнізе «Антон», якая мае выразныя прыкметы драматызаванай аповесці і ўжо ва ўсякім разе ніяк не можа быць аднесена да «чыстай» драматургіі. Жывыя, натуральныя, а часам і драматычна-напружаныя дыялогі дзейных асоб тут спалучаюцца з адкрыта эмацыянальным стылем лірычных абразкоў і даволі грунтоўных аўтарскіх апісанняў, якія нярэдка перарастаюць у цэласныя, закончаныя малюнкі. А калі яшчэ дадаць, што ў «Антоне» прыкметна выяўлена імкненне да падрабязнай дэталізацыі сцэн, прама, непасрэдна не суаднесеных з галоўным канфліктам твора, чаго звычайна вымагае строгая драма, дык стане зразумела, што сам прынцып адбору і арганізацыі матэрыялу ў кнізе адносна свабодны, блізкі да празаічнага.

Наватарскай з'явай у беларускай літаратуры стала кніга дакументальна-мастацкіх запісак Максіма Гарэцкага «На імперыялістычнай вайне», выдадзеная ў 1926 годзе. Яна пісалася, паводле аўтарскага прызнання, у перыяд 1914—1919 гадоў як жывое сведчанне пісьменніка пра жахлівыя падзеі імперыялістычнай вайны.

Гэтая вайна, на якой Гарэцкі страціў здароўе (ён быў цяжка паранены і потым доўга хварэў), выклікала вялікую нянавісць пісьменніка-гуманіста, і ён расказаў пра яе з дакументальнай дакладнасцю і той мужнай, суровай праўдзівасцю, якая ўласціва леп-

ным антываенным творам сусветнай літаратуры. У Беларусі кніга Максіма Гарэцкага, цікавая, акрамя ўсяго іншага, і рэдкай для нашай літаратуры дзённікавай формай, па сутнасці, дала пачатак дакументальнаму жанру, які сёння карыстаецца асаблівай папулярнасцю.

Высокай пахвалы заслугоўваюць многія антываенныя апавяданні празаіка («Літоўскі хутарок», «Генерал», «На этапе» і інш.), таксама антываенная аповесць «За што?» (1917—1918), больш вядомая пад пазнейшымі назвамі «Ціхія песні» і «Ціхая плынь»», зборнік «Досвіткі» (1926), у якім Максім Гарэцкі адным з першых у беларускай літаратуры звярнуўся да паказу гістарычнага мінулага, часоў прыгону.

Тэматычныя далягляды і пазнавальныя магчымасці беларускай савецкай літаратуры пашыралі кнігі «Сібірскія абразкі» і «Люстрадзён» (пры жыцці пісьменніка з іх толькі ў перыядычным друку, пераважна ў газетах, змяшчаліся асобныя апавяданні і замалёўкі). Яны сведчылі пра ўважлівае стаўленне пісьменніка да новых жыццёвых з'яў, пра яго шчырае жаданне адгукацца на надзённыя патрэбы часу.

Першая з гэтых кніг ствааралася пераважна ў 1926—1928 гадах. У аснову яе пакладзены сібірскія ўражанні пісьменніка, атрыманыя аўтарам часткова ў перыяд яго кароткатэрміновай вайсковай службы ў Іркуцку ў 1916 годзе, а галоўным чынам у час спецыяльнай паездкі ў Сібір і на Далёкі Усход (1926). Гэтая паездка рабілася Максімам Гарэцкім для падрабязнага знаёмства з жыццём беларускіх перасяленцаў.

Над зборнікам апавяданняў «Люстрадзён» пісьменнік працаваў у 1929 годзе. Тут адлюстроўваюцца эпізоды класавай барацьбы ў беларускай вёсцы напярэдадні калектывізацыі, закранаецца нацыянальна-вызваленчы рух у Заходняй Беларусі, даюцца сатырычныя малюнкі.

Дарэчы, сатыра Максіма Гарэцкага амаль поўнасцю засталася па-за ўвагай нашых даследчыкаў, якія і ўвогуле зрабілі не так шмат для вывучэння творчасці гэтага пісьменніка. А між тым Гарэцкі з поспехам выступаў і ў сатырычным жанры, пра што пераканальна гавораць яго даволі з'едлівыя фельетоны

дакастрычніцкай пары, некаторыя драматычныя абразкі, напрыклад, «Гапон і Любачка», асобныя апавяданні са зборніка «Люстрадзён» і іншыя творы.

Значнае месца ў творчасці Максіма Гарэцкага займае адлюстраванне рэвалюцыі і грамадзянскай вайны. Да падзей гэтага перыяду ён звяртаўся і ў асобных апавяданнях, і ў драматычных абразках «Чырвоныя ружы» (1922), і ў аповесці «Дзве душы» (1918—1919), і ў шырока вядомым цяпер рамане «Віленскія камунары», і ў незавершанай «Камароўскай хроніцы».

Праўда, некаторыя апавяданні пісьменніка, прысвечаныя рэвалюцыйнай тэме або звязаныя з адлюстраваннем грамадзянскай вайны, і аповесць «Дзве душы» не пазбаўлены пэўнай супярэчлівасці, перабольшанняў, а то і памылковых думак.

Характэрная свайму часу аднабаковасць прыкметна і ў «Чырвоных ружах». У гэтым творы пісьменнік адлюстраваў паступовы рост рэвалюцыйных настрояў у гушчы працоўных мас, паказаў, як на працягу стагоддзяў збіраўся народны гнеў, каб у дні векапомнага Кастрычніка выбухнуць грознай помстай і справядлівай адплатай панам-прыгнятальнікам. Але, як і многія іншыя літаратары той пары, Максім Гарэцкі ў драматычных абразках «Чырвоныя ружы» аддаў даніну паэтызацыі стыхійнага пачатку ў рэвалюцыі, хоць галоўным для мастака было сцвярджэнне агульнай заканамернасці і высокай справядлівасці рэвалюцыйнай буры, непазбежнасці народнай адплаты эксплуататарскім класам.

Затое ў рамане «Віленскія камунары», які напісаны ў 1931—1932 гадах на аснове дакументальных матэрыялаў, сабраных аўтарам у час яго працы ў Вільні, Максім Гарэцкі вельмі глыбока паказаў народныя карані барацьбітоў за новае жыццё, уславіў іх вялікую самаахвярнасць і выключную мужнасць, а трагічную гісторыю змагання віленскіх камунараў за Савецкую ўладу ў канцы 1918 года зрабіў эмацыянальным і сэнсавым цэнтрам усяго твора, прысвяціўшы гэтай гістарычнай падзеі самыя хвалюючыя і драматычна напружаныя эпізоды рамана.

Увогуле, стварэнне «Віленскіх камунараў» было грамадзянскім і пісьменніцкім подзвігам Максіма Гарэцкага. Гэты твор, у якім з высокай дакладнасцю

і добрай грунтоўнасцю адлюстравана, па сутнасці, цэлая гістарычная эпоха карэнных сацыяльных зрухаў — надзвычай важнага ў гісторыі нашай краіны перыяду ад часоў прыгону да першай чвэрці дваццатага стагоддзя ўключна,— не толькі выразна выявіў шчырую адданасць пісьменніка сацыялістычным ідэалам, але і пацвердзіў тыповую для эпічнай прозы трыццатых гадоў тэндэнцыю да шырокага, маштабнага адлюстравання рэчаіснасці.

У нас фактычна зусім не даследавалася перакладчыцкая дзейнасць Максіма Гарэцкага. А яна таксама варта добрага слова, бо і гэтай справе пісьменнік аддаваў нямала часу і сіл. Яму належаць пераклады некаторых вядомых твораў Горкага, Фадзеева, Лібядзінскага, Арсеньева.

З 1929 года Беларускае дзяржаўнае выдавецтва пачало друкаваць дванаццацітомны збор твораў У. І. Леніна. Максім Гарэцкі ўдзельнічаў у перакладзе ленінскіх прац для гэтага выдання.

Шмат зрабіў Максім Іванавіч і як вучоны — літаратуразнаўца і крытык, фалькларыст і даследчык моўных скарбаў беларускага народа. «Гісторыя беларускай літаратуры», якая мела чатыры выданні і была першым у Беларусі сістэматычным гісторыка-літаратурным курсам і падручнікам, кніга «Маладняк» за пяць гадоў», «Хрэстаматыя беларускай літаратуры», выдадзены ў садружнасці з кампазітарам А. Ягоравым зборнік народных песень, некалькі самых ранніх у гісторыі нашай лексікаграфіі перакладных руска-беларускіх і беларуска-рускіх слоўнікаў, цэлы шэраг крытычных артыкулаў і выступленняў па пытаннях літаратуразнаўства і фалькларыстычнай навукі — усё гэта таксама мела для свайго часу істотнае значэнне...

З юбілейнай нагоды будзе, відаць, не лішнім успомніць і настаўніцкую працу Максіма Гарэцкага, яго выкладчыцкую дзейнасць на рабфаку БДУ і ў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, яго ўдзел у навуковых даследаваннях Інстытута беларускай культуры і АН БССР. Бо і тут выяўлялася нястомная працавітасць пісьменніка, праглядваў яго шчыры клопат пра свой народ і яго духоўнае багацце, пра развіццё беларускай нацыянальнай культуры.

# *Максім Лужанін*

## ЛЁС ПІСЬМЕННІКА І ТВОРА [137]

ерад самым новым, 1963 годам на мой стол трапілі дзве кнігі. Лёс іх, як і лёс іхніх аўтараў, цяжкі і складаны, да таго ж і падобны ва ўсім, аж да заўчаснай смерці. Але кнігі, павыцвітаўшы і пакарабаціўшыся ў схованках, ажылі...

Аўтар першай з гэтых кніг — «Виленский Совет Рабочих Депутатов», выпушчанай у 1920 годзе за № 10 пад грыфам і ў выдавецтве ЦК Камуністычнай партыі Літвы і Беларусі,— ніхто іншы, як старэйшы літоўскі камуніст, старшыня Савета, аб якім напісана брашура, З. Алекса-Ангарэціс (Антановіч). Аднačасна ён з'яўляецца героем другой кнігі, прысвечанай той самай рэвалюцыйнай падзеі, рамана «Віленскія камунары», які належыць пяру аднаго з пачынальнікаў нашай літаратуры, буйнога майстра прозы Максіма Гарэцкага.

Дзіўны лёс сустракае чалавека ў яго падарожжы па прасторы часу! Сягоння даводзіцца рэкамендаваць чытачу таго, хто сам многа гадоў выконваў нялёгкі абавязак — знаёміць усіх з літаратурай і літаратарамі беларускай зямлі. А менавіта Максім Гарэцкі першы давёў, што наш народ мае літаратуру, а ў гэтай літаратуры ёсць немаленькая гісторыя.

Гэта бясспрэчная заслуга Максіма Гарэцкага, тым большая, што рабіў ён сваю работу па цаліне: сам расшукваў з'явы і сам жа сістэматызаваў, асэнсоўваў і, нарэшце, ацэньваў іх. Яго «Гісторыя беларускай літаратуры» вытрымала чатыры выданні і блізка дзесяцігоддзя не сыходзіла з школьных лавак

і студэнцкіх сталоў. Напэўна ж, у кнізе не ўсё так, як хацелася б, як бачыцца нам зараз. Не будзем крыўдаваць на гэта і пастараемся паглядзець на рэчы гістарычна. Хіба ж меў даследчык, працуючы больш за сорак год назад, сучасны, створаны савецкай навукай інструментарый, прыёмы і метады даследавання? Асноўны касцяк кнігі фармаваўся ў той час, калі Гарэцкі быў адарваны ад савецкай рэчаіснасці, перажываў цяжкасці ва ўсталяванні светапогляду, што не магло не адгукнуцца ў некаторых меркаваннях і ацэнках, а таксама і ў мастацкай практыцы пісьменніка. Што ж датычыць дакладнасці дат, біяграфічных і бібліяграфічных дадзеных, магчымай паўнаты ахопу з'яў і фактаў, дык «Гісторыя...» Гарэцкага — вельмі сур'ёзная, вартая даверу.

І яшчэ адна акалічнасць вылучае згаданую работу: яна напісана вельмі проста — прачытаў старонку і адразу ж запомніў.

Гэта ўжо заслуга Гарэцкага-пісьменніка, ён умеў падаваць думку лаканічна і даходліва, меў невычэрпны лексічны матэрыял і па-майстэрску валодаў народнай фразеалогіяй. Як ні шкада, але бессаронні твар гісторыка засланіў ад многіх з нас жывое, своеасаблівае, багатае на адценні аблічча мастака.

Першыя празаічныя спробы Гарэцкага прыкмеціў і паставіўся да іх з надзеяй вялікі паэт, крытык бездакорнага густу Максім Багдановіч (Творы, Мінск, т. II, 1928, с. 34). Я. Ф. Карскі знаходзіў у творах маладога Гарэцкага «ўсе дадзеныя, каб з аўтара з часам развіўся добры пісьменнік з самародным талентам» (Беларусы, т. III, в. 3, с. 373). Са здзіўленнем сталага мастака прыглядаўся Якуб Колас да майстэрства пісьменніка рабіць пры апісанні з'явы і рэчы як бы адчувальнымі навобмацак (Полымя, 1962, № 12, с. 135) [...].

Максім Гарэцкі — мастак вялікага і «самароднага таленту» (Карскі), не падобнага ні на чый іншы ў беларускай літаратуры, становіцца на сваё заслужанае, але так і не здабытае пры жыцці месца. Відаць, больш дакладна: не становіцца на сваё месца, а вяртаецца на яго, дый здабыта гэта месца ўсё ж ім самім, пры жыцці, толькі што не ўдалося аўтару пацешыцца з плёну, розгаласу, з прызнання свае работы.

Наогул жа гаворка пра месца мае на ўвазе не абавязковае ўпамінанне слаўнага імені ў залатой пяцёрцы заснавальнікаў. Гарэцкі ніколі не выключаўся з яе, хоць і засланяўся на большы ці меншы час неспрыяльнымі акалічнасцямі. Справа ідзе пра пашырэнне творчасці мастака са здабытку адзінак на шырокія чалавечыя абсягі, бо Гарэцкі адкрыў свайго суайчынніка і духоўны скарб, што ў беларусе ёсць, з новай, не пачэпанай нікім роўніцы, скарб такі, з чым не толькі не сорамна, а, наадварот, належыць выходзіць на вочы ўсялюдскія. Бо пасля прыяднання да сябе людскіх постацей, залітых роўным і скупым святлом магілёўскіх прастораў, людзей, сціплых па стану і велічных па духу, высакародству і шчыраванні ў працы, гэтым усялюдскім вачам будзе бачыцца далей і шырэй, багацей і паўней будзе адчувацца і ўсялюдскай душы.

Вядома, збліжэнне культур і ўзаемнае ўзбагачэнне іх магчыма толькі праз з'явы самабытныя і непаўторныя, і калі беларус прынясе ў агульны ўжытак немалую ношку, дык добрая доля ў ёй будзе Максіма Гарэцкага.

Такім чынам, калі ўжываць абвыклую ў крытыцы тэрміналогію, можна сцвярджаць, што Гарэцкі стала і сур'ёзна працаваў над стварэннем нацыянальнага характару ў літаратуры, далучыў да галерэі такіх характараў постаці адменныя і да яго невядомыя.

Сталася гэта таму, што жыццё пісьменніка, усё да астатку, было не аддадзена і не прысвечана літаратуры, як гэта часта гаворыцца і пішацца, а паглынута ёю, карацей — літаратура сама была яго жыццём, а безлічы іншых работ, што яму даводзілася выконваць, у большай ці ў меншай ступені, калі не стаўлялі перашкоды, дык, відаць, і не спрыялі.

Нехта ўспамінаў пра Ахматаву. Быццам ёй нельга было пашкодзіць у пісанні — патрэба вызваліцца ад пачуцця, ператварыць яго ў слова, была вышэйшая і мацнейшая за ўсё і перамагала, як бы пераходзіла на іншых, падпарадкоўвала іх, прымушала змаўкаць шумных і выпадковых знаёмых, і ў цесных і непрытульных закутках, дзе гасцявала паэтэса і бралася часам за пяро, стаяла суровая цішыня антычных храмаў, панаваў блізкі да малітоўнасці настрой.

Так і ў Гарэцкага. Прахадныя пакойчыкі, брак паперы і газы, празмерная знябытасць ад работы не на фізічныя магчымасці перанёсшага цяжкое раненне і хваробы — гэта ў горшыя часы, а ў лепшыя — выкладанне, падрыхтоўка да лекцый, супрацоўніцтва ў навуковых установах, складанне слоўнікаў і падручнікаў,— усё пералічанае і непералічанае тут адцягвала, зморвала, адбірала залатыя гадзінкі. Але не магло пашкодзіць, хоць пакрысе, па старонцы, рушыць наперад стрыжнявую, адзіна неабходную справу душы, без чаго няма патрэбы пераводзіць хлеб, глуміць алоўкі, дыхаць паветрам.

Магчыма, асяродкавасць і стрыжнёвасць гэтай справы не заўсёды, не ўсюды пісьменнік усведамляў і асэнсоўваў цалкам, і Гарэцкі ўслед за сваім героем здзіўляўся з зацятасці свае ў ажыццяўленні мэты — «адкуля ўсё і што яно?». Але мэты — паказаць глыбіннасць, таленавітасць, жыццёвасць, цярплівасць, трываласць і, нарэшце, усмешлівасць свайго народа — не пакідаў. Не мог пакінуць, гэта было над яго сілу, як бы горка ні абыходзіўся з ім лёс.

А можа... А можа, каб не ўзнікала ўсіх згаданых завад, загат, перашкод на прамываным ім рэчышчы, бяднейшы быў бы духоўны вопыт, меншая трываласць была б у самога пісьменніка і сёння мы не мелі б магчымасці ісці ў вандроўку за ім і ягонымі героямі па ўзвышшах і далінах чалавечага думання і быцця.

[...] Пісьменнік памёр 20 сакавіка 1939 года. Дзе спыніла яго хаду крывязліццё ў мозг, загсаўская даведка не паведамляе.

Не дажыў хаця б да пяцьдзесяткі, не паспеў, не здолеў сказаць усё, да чаго яго абавязваў, на што быў багаты такі шматбаковы талент. На шчасце, апошнія творы: раман «Віленскія камунары» і «Камароўская хроніка» дайшлі да нас. Хай сабе рукапісы не ўсюды і не так давершаны, як таго вымагаў і намерваўся майстар. Аднак і пакінутае нам значна ў такой ступені, што не адзін даследчык будзе адкрываць у ім усё новае — рысы чалавека, сэнс падзей, вытокі жыцця, навуку любіць і ненавідзець, адзнакі ўмельства маляваць словам і звяртацца з ім,— дадаючы цаны і так неацэннаму.

*Алег Лойка*

## МАКСІМ ГАРЭЦКІ [138]



есца М. Гарэцкага ў беларускай дакастрычніцкай прозе вызначаецца, прынамсі, трыма момантамі: 1) новай тэматыкай, новым героем, уведзенымі ім у родную літаратуру, у цэлым — новым канцэптуальным поглядам на беларускага селяніна; 2) прышчапленнем нацыянальнай прозе высокай культуры псіхалагізму; 3) узбагачэннем яе рознымі стылёва-кампазіцыйнымі формамі.

Па светапогляду М. Гарэцкі — рэвалюцыйны дэмакрат. Па творчаму метаду — рэаліст з развітымі крытычнымі акцэнтамі, з настойлівымі пошукамі новага станоўчага героя, моцнага найперш адмаўленнем сацыяльна-палітычнай неўладкаванасці жыцця. Цяга М. Гарэцкага да раскрыцця таямніц душы чалавека, да раскрыцця філасофскіх асноў жыцця вяла яго да больш суб'ектыўных форм, да аналітызму і лірызму адначасова, да стылю экспрэсіўнага, узнёсла-рамантычнага. Таму рэалізм М. Гарэцкага не ўкладваўся ў традыцыйныя ўжо для беларускай маладой прозы рамкі бытавога плана. Ён пераадольваў не толькі этнаграфічна-бытавы рэалізм, але і высокамастацкую прозу «бытавога» стылю Я. Коласа і Ядвігіна Ш. Глыбокі аналітызм прозы дарэвалюцыйнага М. Гарэцкага быў яркім здабыткам маладой беларускай прозы пачатку стагоддзя.

[...] Вялікі Кастрычнік М. Гарэцкі сустрэў у Смаленску. Пра сваю ваенную адысею сам ён пісаў, што прабыў «на пазіцыі месяцаў дзесяць, а то ўсё ці ля-

чыўся, ці ў тыле бадзяўся... Але чатыры гады жыцця прапала» *.

М. Гарэцкі не меў рацыі, пішучы так. Бо гэта быў пісьменнік, для якога па сутнасці нішто з яго жыццёвага вопыту не прападала. Біяграфічнасць, дакументалізм — першыя асаблівасці яго мастацкай прозы, і што гэта так, сведчыць амаль усё напісанае пісьменнікам да рэвалюцыі. За героем яго першага апавядання «У лазні» Клімам Шамоўскім выразна ўгадваецца сам аўтар перыяду навучання ў каморніцкім вучылішчы; за вёскай, паказанай тут, стаіць рэальная родная Багацькаўка; думкі і пачуцці пачаткоўца-літаратара, студэнта М. Гарэцкага перададзены пісьменнікам і студэнту — герою апавядання «Роднае карэнне»; дзённікавыя запісы М. Гарэцкага-салдата склалі затым кнігу «На імперыялістычнай вайне» — яркі твор дакументальна-мастацкай літаратуры. Усім гэтым менавіта шмат у чым акрэсліваецца асоба М. Гарэцкага-пісьменніка, асаблівасці яго мастацкага пераўтварэння жыццёвых уражанняў, вопыту, як правіла, асабістага, думак і перажыванняў, як правіла, аўтэнтычных.

Ідэйна-творчыя ўстаноўкі маладога М. Гарэцкага даволі поўна, канкрэтна раскрыты ў яго дарэвалюцыйных артыкулах «Наш тэатр» і «Развагі і думкі». Чаго, напрыклад, патрабаваў ён ад маладога беларускага тэатра?

1. «А трэба паказаць беларусу са сцэны, што так жыць, як ён жывець, няможна, гэткага жыцця няможна трываць». Гэтым, як і ўсе рэвалюцыйна-дэмакратычныя беларускія пісьменнікі пачатку XX ст., М. Гарэцкі клікаў народ у рэвалюцыю.

2. «І трэба яшчэ паказаць беларусу са сцэны, што ён — чалавек і што ён павінен мець чалавецкі гонар, і павінен дзетак сваіх гадаваць з сумленнем...» Гэтым, як і ўсе рэвалюцыйна-дэмакратычныя беларускія пісьменнікі таго часу, М. Гарэцкі вылучаў як асноўную ідэю патрабаванне абуджэння чалавечай годнасці ў кожным прадстаўніку народа, разумеючы гэта як запаруку абуджэння ў кожным сацыяльна-палітычнай свядомасці і нацыянальнай самасвядомасці.

* Цыт. па кн.: Бугаёў Дз. Максім Гарэцкі, с. 107.

3. «І трэба паказаць беларусу са сцэны, што ён маіць слаўнае прошлае...». Гэтым, разумеў М. Гарэцкі, будзілася б гістарычная памяць народа, развагнялiся б патрыятычныя пачуцці і зноў жа расло б у чалавеку пачуццё чалавечай годнасці, якое не можа быць глыбокім без адчування свайго гістарычнага заплечча.

4. «Патрэбна паказаць з беларускай сцэны другім народам зямным, што за народ такі ёсць беларусы, што маюць яны не толькі «очень смешные анекдоты и весьма странные суеверия», а й нешта палепш ад жарту і забабонаў, нешта гэткае, прад чым прыемна адчыніцца агульналюдская скарбніца здабыткаў культуры і цывілізацыі...» *. Гэтым М. Гарэцкі сцвярджаў сваё самае шырокае разуменне таго, што маладая беларуская літаратура пачатку XX ст. ёсць адкрыццё народа, станавіўся поплеч з М. Багдановічам, з ягоным клопатам, каб родная літаратура ўсяму чалавецтву несла свой дар.

Такім чынам, з гэтых чатырох патрабаванняў М. Гарэцкага цалкам відна ідэйна-палітычная агульнасць яго эстэтычных пазіцый з пазіцыямі Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча. Але не толькі ідэйна-палітычныя патрабаванні прад'яўляў у артыкуле «Наш тэатр» М. Гарэцкі. Сярод іх былі патрабаванні і больш «чыста» мастацкага характару. Па-першае, «каб са сцэны беларускага тэатра палілася беларуская песня, каб ад яе павеяла на людзей араматным пахам беларускай народнай паэзіі... каб чалавек пазнаў у ёй красу беларускіх палёў» **; гэта было патрабаваннем не толькі нацыянальнай непаўторнасці, але красы ўвогуле — тэатра нацыянальнага вялікай мастацкай сілы, у чым М. Гарэцкі зноў жа станавіўся поплеч перш за ўсё з М. Багдановічам з яго ўстаноўкамі на высокую артыстычнасць і мастацтва глыбока народнае. Другім важным патрабаваннем больш праблемна-літаратурнага характару было патрабаванне, звязанае з заклікам: «Гадуйцеся на чытанні класікаў і ўдыхайце свежае паветра народнай паэзіі, пазнавайце прыгажосць гэтай паэзіі, а маючы ў сабе карэнні гэтай паэзіі, тчыце праўдзівамастацкія

* Калядная пісанка. 1913 год. Вільня, 1913, с. 17—18.
** Тамсама, с. 23.

ўзоры беларускага жыцця» *. Такім чынам, малады празаік поруч з М. Багдановічам сцвярджаў неабходнасць вывучкі ў больш развітых літаратур, сцвярджаў неабходнасць сінтэзу традыцый класікі з нацыянальнымі традыцыямі як шлях да стварэння «праўдзівамастацкіх узораў беларускага жыцця». Па-трэцяе, М. Гарэцкі, і тут ён быў па сутнасці першым, дбаў пра чысціню, выразнасць і далейшыя способы ўзбагачэння, развіцця роднай мовы як першаэлемента літаратуры, як агульнанароднага здабытку. «Тэатр,— патрабаваў ён,— павінен ачысціць, абяліць мову і паказаць прад вочы людзей яе гучнасць і гібкасць... Як дарагі камень, кожнае слоўца зважыць, абсмакуваць і ўцяміць сілу яго... Тыя, што жывіцё на захадзе Беларусі, даведайцеся, як гавораць на яе ўсходзе, а ўсходнія пабывайце на захадзе. Як кругаварот крыві ў целе чалавецкім дасць здароўе арганізму, так гэты пераліў нашых сіл на Беларусі аджывіць арганізм Беларусі і зробіць яго дужэйшым» **. Чацвёртае ж патрабаванне М. Гарэцкага да сучаснай яму літаратуры звязвалася, як у М. Багдановіча, з пашырэннем яе тэм і форм, найперш з патрабаваннем развіцця вялікай прозы: «Ці не даволі,— пытаўся ён у артыкуле «Развагі і думкі» (1914),— засыпацца разнаколерным канфеці з вершыкаў, дробных малюнкаў. Ці не пара нашым пісьменнікам напісаць што даўжэйшае?» І патрабаваў: «Прозы, прозы, добрай, мастацкай прозы беларускай дайце нам! Каб на стале ў нас каля тоўстай кніжкі вершаў «Шляхам жыцця» ляжала б не танейшая кніжка прыгожай прозы!» ***.

Тым не менш гэта былі яшчэ далёка не ўсе ідэйна-творчыя патрабаванні дваццацігадовага пісьменніка. І — галоўнае — гэта былі больш агульнаметадалагічныя ўстаноўкі, чым прыватна-канцэптуальныя, звязаныя з асобнасцю М. Гарэцкага як выдатнага мастака, як яркай творчай індывідуальнасці. Асобнасць М. Гарэцкага як мастака вынікала найперш з яго арыгінальнай канцэпцыі народа, разумення гісторыі народа і нацыянальнага характару, душы, псіхалогіі беларускага працоўнага сялянства.

* Калядная пісанка, с. 23.

** Тамсама, с. 20—21.

*** Велікодная пісанка. Вільня, 1914, с. 53.

Так, ужо ў артыкуле «Развагі і думкі» М. Гарэцкі гаварыў пра беларускага мужыка як пра «арыстакрата духу», укладваючы ў гэтае паняцце той сэнс, што не хлебам адзіным спакон веку жыў беларускі працоўны народ, што, адлучаны ад пісьменнасці, ён не адлучаўся ад цягі пазнання знешняга свету, быў «народам-паэтам, народам-лірнікам», «у гістарычным жыцці сваім заўсёды больш схіляўся к патрэбам душы, чымся к патрэбам цела» *. Іншымі словамі, быў і народам-філосафам.

Агульная канцэпцыя беларуса як чалавека, беларусаў як народа звязана ў маладога М. Гарэцкага з філасофіяй «патаёмнага». Справа ў тым, што М. Гарэцкі, як і М. Багдановіч, на неагляднy мацярык перажыткаў старажытнага светаўспрымання, прымхаў, павер'яў дарэвалюцыйных беларусаў зірнуў не як проста на знак дзікунства і культурнай адсталасці. М. Багдановіч, звяртаючыся да гэтых пластоў народнага духоўнага вопыту, убачыў у ім хараство сапраўднай паэзіі, адкрыў іх як залежы скарбаў паэзіі. М. Гарэцкі ўбачыў у іх не толькі паэзію, але паэтычна скандэнсаванае выяўленне народнай душы, так сказаць, працы гэтай душы ў нястомнай празе пазнання, філасофскага асэнсавання знешняга свету, людзей, чалавечай душы.

На ўвесь голас у сучасным беларускім літаратуразнаўстве загаварыў пра гэта ўпершыню А. Адамовіч. У сваёй рабоце аб М. Гарэцкім «Браму скарбаў сваіх адчыняю...» ён піша: «Дзіўна, нечакана і цікава, што ранні Гарэцкі шукае і паказвае духоўную глыбіню жыцця селяніна ў тым, што, здавалася б, супрацьлеглае духоўнасці — у забабонах, у цёмных паданнях вясковага жыцця і г. д. «Таёмнае», «патаёмнае» — надзвычай прыцягальнае для маладога Гарэцкага слова і паняцце, калі ён піша пра вёску, селяніна» **.

Менавіта ў такім аспекце бачачы сфарміраваны стагоддзямі сучасны яму беларускі народ, сучаснага яму беларускага селяніна, час адкрыцця для якіх прабіў менавіта ў сувязі з рэвалюцыяй 1905 г., з працэсамі росту сацыяльна-палітычнай і нацыянальнай

---

* Гарэцкі М. Выбр. тв.: у 2-х т. Мн., 1973, т. 1, с. 405.
** Адамовіч А. Здалёк і зблізку, с. 140.

свядомасці, М. Гарэцкі і быў упэунены, што «беларускай літаратуры суджана сказаць многае — новае ў вобласці духу... Скранулася Беларусь,— пісаў ён у артыкуле «Развагі і думкі»,— узварухнуліся яе спрадвечныя імшары, і я з вялікай надзеяй жду беларускіх Дастаеўскіх, Ул. Салаўёвых і т. п.» *. І разам з тым, зыходзячы са сваіх ідэйна-творчых установак агульнаметадалагічнага, уласна канцэптуальнага планаў, малады М. Гарэцкі і адкрываў для беларускай літаратуры новую праўду народнага жыцця.

---

* Велікодная пісанка, с. 59.

# *Міхась Мушынскі*

## ТАЛЕНТ ШМАТГРАННЫ, САМАБЫТНЫ...[139]



аксім Іванавіч Гарэцкі ўнёс вялікі ўклад у беларускую культуру. Яго імя назаўсёды застанецца ў памяці ўдзячных нашчадкаў, у памяці народа, які шануе сваіх слаўных сыноў. Максім Гарэцкі — гэта перш за ўсё выдатны прадстаўнік беларускай літаратуры, адзін з таленавітых пачынальнікаў нацыянальнай мастацкай прозы, пісьменнік-наватар, аўтар шэрага твораў, якія ўвайшлі ў нацыянальную класіку. Але гэтымі ацэнкамі не вычэрпваецца характарыстыка непаўторнага аблічча Максіма Гарэцкага, бо дыяпазон яго творчай працы, кола інтарэсаў было вельмі шырокім: Гарэцкі — гэта і грамадскі і культурны дзеяч, палымяны публіцыст, нястомны збіральнік вуснай народнай творчасці. Ад сваёй маці ён запісаў звыш трохсот народных песень і выдаў іх асобным зборнікам. Багата зроблена М. Гарэцкім як крытыкам і літаратуразнаўцам: ён з'яўляецца аўтарам першай «Гісторыі беларускай літаратуры» (1920), чатыры выданні якой на працягу доўгага часу заставаліся адзіным школьным падручнікам і аўтарытэтным вучэбным дапаможнікам для навучальных устаноў Беларусі. Складзеная Гарэцкім «Хрэстаматыя...» таксама сведчыць пра яго выдатныя здольнасці вучонага-метадыста. З поспехам працаваў М. Гарэцкі і непасрэдна на ніве народнай асветы — спачатку ў беларускай гімназіі ў Вільні, потым у Камуністычным універсітэце БССР, на рабфаку Беларускага дзяржаўнага універсітэта, у ветэрынарным тэхнікуме, у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. Вядомы М. Гарэцкі і як

мовавед, лексікограф, складальнік руска-беларускіх і беларуска-рускіх слоўнікаў. Яму ж належыць і першы на Беларусі слоўнік літаратурных тэрмінаў і паняццяў («Назва-слоў'е»)[140].

Нельга не сказаць і пра плённую дзейнасць М. Гарэцкага ў Інстытуце беларускай культуры ў якасці сакратара камісіі, сапраўднага члена Інстытута, а затым — у Акадэміі навук.

Нашаму сучасніку Максім Іванавіч Гарэцкі блізкі глыбокай чалавечнасцю свайго таленту, выразнай сацыяльнай акрэсленасцю творчасці, высокай творчай культурай, непаўторнасцю аўтарскага стылю, багаццем і разнастайнасцю мастацкага свету, які нясуць у сабе яго творы, уменнем разглядаць актуальныя пытанні грамадскага жыцця ў сувязі з праблемамі агульначалавечага характару. Усё гэта разам узятае і прадвызначае эстэтычную даўгавечнасць лепшых твораў пісьменніка, іх непераходзячае мастацкае значэнне. Са старонак твораў М. Гарэцкага — незалежна ад іх жанравай прыналежнасці — паўстае прывабны, духоўна багаты, здзіўляюча цэласны воблік чалавека крыштальнай маральнай чысціні, па-грамадзянску мужнага, шчыра аддадзенага справе патрыятычнага служэння Радзіме і народу. У гэтай вось цэласнасці характару, што зусім не выключае няспынных маральных пошукаў, у арганічнай зрошчанасці, знітаванасці этычных, грамадзянскіх, патрыятычных і мастацкіх пачаткаў і стымулаў дзейнасці якраз і трэба шукаць адказу на пытанне, чаму такімі жыццёвымі аказваюцца ідэйна-эстэтычныя традыцыі, закладзеныя М. Гарэцкім.

Адметная рыса таленту М. Гарэцкага, як і кожнага самабытнага мастака,— яго блізкасць да народнай глебы, да вытокаў народнага жыцця, народнага светаўспрымання, вернасць нацыянальным мастацкім традыцыям і разам з тым — шырыня погляду на мастацтва, імкненне засвоіць лепшыя дасягненні сусветнай літаратуры, мастацкі вопыт усяго чалавецтва. Яшчэ да Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі Гарэцкі ўпэўнена прадказваў: беларускія пісьменнікі ў хуткім часе абавязкова вылучаць са свайго асяроддзя мастака, блізкага па маштабах таленту, па тыпу творчасці да лепшых прадстаўнікоў рускай класічнай літаратуры, у прыватнасці да Ф. М. Дастаеўска-

га. Можна сабе ўявіць, якімі былі крытэрыі мастацкіх ацэнак у Гарэцкага, калі ён, пягледзячы на невысокі жанрава-стылёвы ўзровень тагачаснай беларускай прозы, падыходзіў да літаратуры з «маштабам Дастаеўскага». І гэта была не наіўнасць правінцыяла, а праяўленне глыбокай веры ў невычэрпныя сілы свайго народа, разуменне шляхоў развіцця нацыянальнай літаратуры. М. Гарэцкі заклікаў беларускіх пісьменнікаў не замыкацца штучна ў вузкіх этнаграфічных рамках, а абапіраючыся на перспектыўныя нацыянальныя традыцыі, на багаты сацыяльна-гістарычны вопыт народнага жыцця, творча засвойваць усё лепшае, што ёсць у сусветнай літаратуры. Гэтым Максім Гарэцкі блізкі да выдатнага паэта-грамадзяніна, неператўзыдзенага майстра паэтычнага слова, паэта-наватара Максіма Багдановіча, які паспяхова наследаваў традыцыі сусветнага мастацтва, узбагачаў беларускую літаратуру. Уласная творчая практыка М. Гарэцкага пацвердзіла плённасць вучобы ў вялікіх рэалістаў — Л. Талстога, Ф. Дастаеўскага, М. Гогаля, А. Чэхава. Поўнай жменяй чэрпаючы з духоўнай скарбніцы чалавецтва, беларускі пісьменнік не страчваў свайго індывідуальнага твару, бо ён быў не пераймальнікам, а творцам новых мастацкіх каштоўнасцей.

Ужо самымі першымі спробамі ў галіне мастацкай прозы М. Гарэцкі заявіў пра сябе як пра таленавітага пісьменніка, які сур'ёзна ставіцца да рэчаіснасці, настойліва спрабуе спасцігнуць складаныя з'явы жыцця, шукае новыя формы і сродкі яго мастацкага асваення. Побач з рэалістычным сацыяльна-бытавым апавяданнем («У лазні», «Роднае карэнне») ён стварае лірыка-рамантычную навелу («Красаваў язмін»), лірычную мініяцюру («Стогны душы»), філасофскае эсе («Што яно?»), жанр эпісталярнай прозы («У чым яго крыўда?»). Гэта былі жанравыя формы, яшчэ малавядомыя тагачаснай беларускай прозе. І Гарэцкі першым сказаў тут новае слова. Сваімі творамі ён уводзіў у беларускую прозу новага героя — героя-інтэлігента, чалавека з вялікімі духоўнымі запатрабаваннямі. Малады празаік па-новаму ў параўнанні з папярэднікамі паказваў складаныя пошукі інтэлігенцыяй шляхоў да народа. Своеасаблівым наказам гучалі словы дзеда Яхіма, звернутыя да

студэнта-медыка Архіпа, героя апавядання «Роднае карэнне»: «Першае, што скажу я табе, гэта — чытай, галубец, у кніжках і ў разумных людзей пытайся, як жылі даўней нашы тутэйшыя людзі... Споўніш гэты загад — у жыцці не ашукаешся, будзеш ведаць, што рабіць трэба. А другое: часцей у роднае гняздзечка залятай, дык не будзе яно здавацца табе страшным...»

Цікавасць Гарэцкага да творчасці прызнаных майстроў псіхалагічнага аналізу плённа адбілася на яго ўласнай практыцы як празаіка, што яскрава можна бачыць на апавяданнях з цыкла «Што яно?», герой якога задумваецца над спрадвечнымі пытаннямі жыцця і смерці, пакутліва разважае пра сэнс і мэту чалавечага існавання, пра магчымасці чалавечага розуму і межы пазнання. Ён гатовы, як Фаўст, «нячысціку душу прадаць», каб даведацца: «адкуль усё гэта, хто гэта даў і што будзе пасля смерці?» «Хто можа знаць, адкуль жыццё? Адразу было многа людзей ці з аднаго пайшло? Як? Чаму ён не пераказаў унукам, адкуль ён, першы, узяўся?» І яшчэ хоча ведаць герой М. Гарэцкага: «Што там, на другіх планетах?»

У апавяданнях, напісаных напярэдадні рэвалюцыі і ў першыя паслякастрычніцкія гады («Прысяга», «Маці», «Панская сучка», «Смачны заяц», «Стары прафесар», «Сасна»), М. Гарэцкі паспяхова спрабуе асэнсаваць гістарычнае мінулае з пазіцый новага часу. Тут яшчэ больш узмацніўся гуманістычны пафас яго творчасці, узрасла цікавасць да канкрэтнай чалавечай асобы, узятай, аднак, не ізалявана, а ва ўзаемасувязі з сацыяльным асяроддзем. У апавяданнях, якія затым увайшлі ў «Досвіткі» (1926), «Люстрадзён» (1929), «Сібірскія абразкі» і інш., М. Гарэцкі засяродзіў увагу на даследаванні сацыяльных, маральных вытокаў фарміравання духоўных сіл народа. Апошні рукапісны зборнік склалі творы, напісаныя Гарэцкім на аснове яго багатых дарожных уражанняў ад паездкі ў Сібір і на Далёкі Усход у 1926 г. Паездка гэта ў пэўнай меры была выклікана неабходнасцю сабраць матэрыял для вялікага мастацкага палатна — эпапеі «Камароўская хроніка», у якой пісьменнік, паводле сведчанняў яго малодшага брата Гаўрылы Іванавіча, збіраўся паказаць жыццё бела-

рускага народа «ад прыгону і да нашых дзён». Лёс некаторых герояў эпапеі быў звязаны з перасяленнем беларусаў у Сібір. Максім Гарэцкі, як і А. П. Чэхаў, які наведаў востраў Сахалін, лічыў сваім абавязкам на ўласныя вочы ўбачыць жыццё перасяленцаў. Пры гэтым яго цікавілі не толькі эканамічнагаспадарчыя, але і духоўныя аспекты жыцця беларусаў: ці не страцілі яны ў бурлівым віры жыцця свае нацыянальныя, культурныя традыцыі, сваю самабытнасць, адметнасць? Але пісьменнік не абсалютызуе нацыянальна-непаўторнае, не разглядае нацыянальны характар як штосьці нязменнае. Ён уважліва прыглядваецца да ўсяго новага, што ўзнікае ў жыцці савецкага чалавека як носьбіта ідэй інтэрнацыяналізму, дружбы і братэрства народаў. Гарэцкі заклікае беражліва захоўваць усё лепшае, што выпрацаваў кожны народ на працягу многіх стагоддзяў свайго гістарычнага жыцця, заклікае памятаць пра сваё мінулае, шанаваць духоўныя скарбы народа.

У творах М. Гарэцкага сталага перыяду адсутнічае зададзенасць, штучная драматызацыя, аўтарская тэндэнцыйнасць у абмалёўцы характараў. Пісьменнік валодаў здзіўляючай здольнасцю пра самае складанае гаварыць вельмі проста. Але гэта была высокая прастата, народжаная праніклівасцю мастакоўскага погляду, уменнем бачыць схаваны, унутраны сэнс падзей, іх узаемасувязь. У апавяданнях і аповесцях Гарэцкага знаёмае, звыклае, паўсядзённае заўсёды напаўстае ў нечаканым павароце, у новым ракурсе. Наогул Гарэцкі-мастак вельмі шчодры ў дачыненні да чытача, ён ахвотна бярэ яго ў саўдзельнікі па прадмет адкрыцця новага. Вось чаму такое шырокае кола чытачоў у Гарэцкага. Кожны з іх у залежнасці ад асабістага жыццёвага, духоўнага вопыту знойдзе ў яго творах штосьці сваё, асабліва блізкае, зразумелае: канкрэтнасць і багацце бытавых рэалій пры апісанні пораваў і звычаяў старой вёскі, глыбіню выяўлення пачуццяў і ўнутранага свету героя ў сацыяльна-псіхалагічных творах, мастакоўскую смеласць, шырыню погляду на прыроду і чалавека ў лірыка-філасофскіх эсэ, у такіх творах, як кніга «На імперыялістычнай вайне. (Запіскі салдата 2-й батарэі N-скай артылерыйскай брыгады Лявона Задумы)».

«На імперыялістычнай вайне» — гэта, па сутнасці, праграмны твор пісьменніка. Тут найбольш поўна выяўлены яго вызначальныя ідэйна-эстэтычныя прынцыпы, яго творчае крэда як мастака-рэаліста, які нязменна арыентуецца на вострыя сацыяльныя праблемы часу, на галоўныя маральныя канфлікты эпохі. У кнізе «На імперыялістычнай вайне» яскрава выявіўся народны погляд аўтара на свет і чалавека, дзейсны характар яго пісьменніцкай пазіцыі. Тут Гарэцкі паказаў сябе тонкім псіхолагам-аналітыкам, пісьменнікам высокай творчай культуры. «На імперыялістычнай вайне» стаіць ля вытокаў беларускай мастацка-дакументальнай літаратуры.

Суровая і мужная праўда пра вайну і чалавека на вайне — вось тое галоўнае, што вызначае агульную ідэйна-мастацкую накіраванасць кнігі Гарэцкага. Кніга вызначаецца антымілітарысцкім пафасам, бескампрамісным выкрыццём несправядлівай, антынароднай вайны. Яна прасякнута ідэяй абароны чалавека і чалавечнасці. Напісаная больш паўстагоддзя назад, кніга гэта ўспрымаецца як твор сучаснай літаратуры, твор сённяшняга дня.

Апавяданні, якія ўвайшлі ў зборнікі «Досвіткі», кніга «На імперыялістычнай вайне», з'яўляючыся выдатным дасягненнем беларускай савецкай прозы, адначасова былі і пэўнымі этапамі па шляху да стварэння рамана «Віленскія камунары» і «Камароўскай хронікі». У цэнтры гэтых твораў была пастаўлена праблема духоўнага быцця народа, які выходзіў на арэну гістарычнай дзейнасці. Неабходна падкрэсліць, што тэма рэвалюцыі і народа ўвайшла ў творчасць Гарэцкага вельмі натуральна як унутраная заканамернасць яго ідэйна-мастацкага станаўлення. Увогуле М. Гарэцкі — пісьменнік надзвычай арганічны. Пра што б ён ні пісаў, усё аказвалася прапушчаным праз уласны жыццёвы вопыт і ў той жа час гучала надзённа, было патрэбным грамадству, літаратуры. Этапы фарміравання светапогляду пісьменніка, яго творчага метаду і прынцыпаў эстэтыкі як бы супадалі ў чымсьці істотным з рухам самой гісторыі пачатку XX ст., з нацыянальна-вызваленчай і рэвалюцыйнай барацьбой працоўных у дакастрычніцкі час. І ў паслякастрычніцкі перыяд творчасць М. Гарэцкага гэтак жа інтэнсіўна ўбірала ў сябе запатра-

баванні эпохі, хоць умовы яго жыцця не заўсёды былі спрыяльнымі. М. Гарэцкі быў вельмі чуйным да зрухаў часу, да змен у грамадскім клімаце, у псіхалогіі працоўнага чалавека. Вось чаму такімі пераканаўчымі ў жыццёвым і мастацкім плане былі героі яго твораў, такімі змястоўнымі, у мастацкіх адносінах даўгавечнымі, як мы сёння бачым, самі творы. У іх праўда часу — праўда сацыяльная, бытавая, псіхалагічная — асэнсоўвалася з пункту гледжання гістарычнай будучыні народа, асвятлялася роздумам над праблемамі агульначалавечага характару. У гэтым і каштоўнасць вопыту М. Гарэцкага для сённяшняй літаратуры. Узнятая ім праблема, надзённая для свайго часу, атрымлівала выхад у будучыню, а пісьменніцкая канцэпцыя набывала аптымістычнае гучанне. Яскравым сведчаннем гэтага з'яўляецца раман «Віленскія камунары» (1931—1933) — найбольш значны твор Гарэцкага, прысвечаны тэме рэвалюцыі, тэме барацьбы беларускага і літоўскага народаў за сацыялістычную бацькаўшчыну.

У рамане з выключнай, амаль дакументальнай дакладнасцю намаляваны працэс выспявання класавай, рэвалюцыйнай свядомасці працоўных мас, праўдзіва паказаны цяжкасці, з якімі сутыкаліся кіраўнікі Віленскага Савета рабочых дэпутатаў, па-мастацку перададзена напружанасць барацьбы за ўплыў камуністычнай партыі сярод працоўных горада і сялян навакольных вёсак.

«Віленскія камунары» — буйны ўклад у беларускую раманістыку. Вытокі сацыяльных, грамадскіх працэсаў і з'яў духоўнага парадку аўтар рамана шукаў у гістарычным быцці народа, асэнсоўваючы гісторыю не як стыхію, не як сукупнасць падзей, звязаных храналагічна, а як складаны працэс, падпарадкаваны пэўным законам. Заглыбляючыся ў жыццё, у псіхалогію герояў, узятых у грамадскай практыцы, у іх сацыяльнай дзейнасці, М. Гарэцкі тым самым спасцігаў і аб'ектыўныя законы гісторыі. Пераканаўчае мастацкае ўвасабленне думкі пра чалавека працы, пра народ як актыўнага стваральніка гісторыі — гэта значная эстэтычная заваёва аўтара «Віленскіх камунараў» і ўсёй беларускай савецкай літаратуры. Важна падкрэсліць, што М. Гарэцкі як пісьменнік рэвалюцыйнай тэмы паспяхова супраць-

стаяў уздзеянню вульгарнай сацыялогіі, якая ў мастацкай практыцы звычайна праяўляецца ў схематызме пры абмалёўцы дзеючых асоб, у ілюстрацыйнасці і фактаграфізме, у псеўдаманументальнасці, у адступленні ад гістарычнай і жыццёвай праўды. Хоць падзейны бок у «Віленскіх камунарах» часам выходзіць на першы план, тым не менш прычынна-выніковая сувязь паміж падзеямі не знікае, а галоўнае, аўтар нідзе не застаецца абыякавым да чалавечай асобы, бо чалавек для яго нязменна аказваецца мерай усіх рэчаў, аб'ектам паглыбленага аналітычнага даследавання. Як падзеі гісторыі пераламляюцца ў асабістых лёсах людзей, нечакана і рашуча мяняюць гэтыя лёсы і, у сваю чаргу, як людзі, узнімаючыся да рэвалюцыйнай барацьбы, становяцца актыўнай дзеючай сілай гісторыі, заклікanай пераўтварыць жыццё на новых сацыяльных пачатках — вось канцэптуальная аснова рамана «Віленскія камунары».

Майстэрства Гарэцкага-раманіста выявілася і ў тым, што яго героі нясуць у сваёй свядомасці выразны адбітак гістарычнага вопыту мінулага. Калі дзяды і прадзеды галоўнага героя Мацея Мышкі толькі стыхійна пратэставалі, не бачылі выхаду, дык сучаснікі Мацея прыходзяць да разумення неабходнасці згуртаванай барацьбы пад кіраўніцтвам камуністаў.

Заслугай Гарэцкага-раманіста з'яўляецца і тое, што ім створаны яскравыя, запамінальныя вобразы камуністаў, мужных бара́цьбітоў, якія ахвяруюць сваім жыццём у імя будучыні. Аналіз гэтых вобразаў з асаблівай нагляднасцю раскрывае адметныя рысы творчай манеры М. Гарэцкага, плённасць яго вопыту, як ён выявіўся ў працэсе працы над вобразам Кунігас-Ляўданскага, Вяржбіцкага, Шымілевіча, Аза і інш. Творчае крэда М. Гарэцкага — паслядоўны рэалізм, арыентацыя на сацыяльна-гістарычную рэчаіснасць, адмаўленне ад псеўдагероікі і ідэалізацыі. І ў абмалёўцы найбольш свядомых людзей часу ён застаецца верным гэтым эстэтычным прынцыпам. Яго героі-камуністы пазбаўлены позы. Яны паводзяць сябе проста, натуральна. Іх духоўная моц, ідэйная перакананасць выяўляюцца вельмі праўдзіва, памастацку доказна.

«Што думаў і перажываў у гэты момант дзядзька Баніфацы Вяржбіцкі? Пэўна, прымірыўся ён з тым,

што жонка і дзеці будуць жыць без яго. Але ці мог ён прымірыцца з тым, што справа павярнулася так няўдала? І, мусіць, пацяшаў сябе тым, што смерцю сваёю завершыць усё як належыць.

А Юліус Шымілевіч? Можа, усміхнуўся ён апошні раз — і цвёрда і ўпарта зрабіў па-свойму...

Кунігас-Ляўданскі... Можа, успомніў ён апошні раз сваю бедную літоўскую вёску, вечных труджэльнікаў бацьку і маці і сурова і назаўсёды замкнуў у сабе ўсё...»

Не толькі ў рамане «Віленскія камунары», але і ў іншых творах тэма народа і рэвалюцыі вырашалася М. Гарэцкім як тэма інтэнсіўнага мастацкага пошуку. Пісьменнік не ілюстраваў апрыёрна вызначаную, а тым больш — узятую з пэўных навуковых, гістарычных крыніц думку. Ён самастойна, вобразна-мастацкімі сродкамі выпрацоўваў гэтую думку, настойліва шукаў яе, таму і проза яго заўсёды была аналітычна-даследчай. Яна адкрывала новыя пласты жыцця, новыя чалавечыя тыпы і характары, выяўляла істотныя заканамернасці развіцця сацыяльнай рэчаіснасці, узаемасувязь чалавека з гісторыяй.

Сваімі выдатнымі творамі Максім Гарэцкі ўзняў беларускую літаратуру на новы, больш высокі ідэйна-мастацкі ўзровень, прадказаў многае з таго, што з'явілася ў творчасці беларускіх пісьменнікаў толькі ў пасляваенны час, у 60-я гады.

Нават калі тут і адсутнічаў непасрэдны ўплыў, мы сёння маем усе падставы на поўны голас гаварыць пра выключную ролю М. Гарэцкага ва ўзбагачэнні беларускай савецкай літаратуры, мастацкай прозы ў прыватнасці. Аўтар «Руні», «Досвіткаў», «Запісак салдата...» быў і заставаўся для пісьменнікаў наступных пакаленняў выдатным майстрам слова, мастаком высокага грамадзянскага сумлення, пісьменнікам-наватарам. Яго паслядоўная арыентаванасць на народнае жыццё, на самыя вострыя праблемы часу, уменне паказваць сацыяльную рэчаіснасць ва ўсёй складанасці і разам з тым у эпічнай цэласнасці, паўнаце, уласцівая яго творам глыбіня псіхалагічнага аналізу, майстэрства выяўлення дыялектыкі душы, паказ чалавека ў адзінстве яго сацыяльнай практыкі і ўнутранага жыцця — усё гэта было для маладых пісьменнікаў вялікай творчай

школай, школай Максіма Гарэцкага. А што датычыць, скажам, мастацкіх прынцыпаў адлюстравання вайны і чалавека на вайне, калі бязлітасная, жорсткая, непадфарбаваная праўда становіцца галоўнай дзеючай асобай твора, дык тут наша ваенная проза асабліва абавязана аўтару «На імперыялістычнай вайне». Зрэшты, гэта адносіцца не толькі да твораў, прысвечаных героіцы ваеннага часу, але і да ўсёй літаратуры, якая адлюстроўвае народнае жыццё. І тут маладое пакаленне сёння праходзіць школу Максіма Гарэцкага.

Ідэйна-мастацкія адкрыцці, зробленыя М. Гарэцкім болей чым за дваццаць год самаадданай працы, і да гэтага часу застаюцца адным з фактараў, якія ўплываюць на творчую практыку сучасных пісьменнікаў, актыўна ўздзейнічаюць на літаратурны працэс. Традыцыі М. Гарэцкага жывуць і ўзбагачаюцца.

# *Барыс Сачанка*

## ДРУГОЕ НАРАДЖЭННЕ [141]



япер цяжка ўжо і паверыць, што быў час, калі імя выдатнага празаіка і аднаго з самых дасканалых і дасведчаных даследчыкаў нашай літаратуры Максіма Гарэцкага нават у Беларусі было вядома вельмі вузкаму колу аматараў роднага слова. А ён, такі час, быў і зусім-зусім нядаўна...

...З Вільнюса, сталіцы братняй Літвы, у рэдакцыю часопіса «Полымя» завітаў былы выдавец заходнебеларускага квартальніка «Калоссе» Янка Шутовіч [142].

— Адшукаўся рукапіс рамана Максіма Гарэцкага «Віленскія камунары»,— паведаміў ён.

Усе, хто на той час быў у кабінеце галоўнага рэдактара часопіса «Полымя» Максіма Танка, прыслухаліся.

— Можа, хоць урыўкі з яго надрукуеце?

Каб нешта пэўнае адказаць, трэба было пазнаёміцца з раманам. А як? Ехаць каму-небудзь з аддзела прозы ў Вільнюс? Ці паслаць машыністку, каб яна перадрукавала рукапіс?

— Я сам перадрукую,— прапанаваў паслугі Я. Шутовіч.

І перадрукаваў.

З рамана «Віленскія камунары», можна сказаць, і пачалося маё знаёмства з творчасцю Максіма Гарэцкага. Ды і не толькі маё. Бо тая невялікая кніжачка прозы пісьменніка «Выбранае», якая выйшла перад гэтым у 1960 годзе і ў прадмове да якой гаварылася, што «шмат якія творы М. Гарэцкага для нашага часу гучаць ужо апахранічна, яны не могуць

задаволіць сучаснага чытача ні сваім зместам, ні эстэтычнымі якасцямі»,— не выклікала належнай цікавасці да спадчыны яшчэ аднаго амаль забытага «нашаніўца».

«Дзіўны лёс сустракае чалавека ў яго падарожжы па прасторы часу,— з горыччу пісаў ва ўступе да публікацыі рамана «Віленскія камунары» ў часопісе «Полымя» Максім Лужанін.— Сягоння давопадзіцца рэкамендаваць чытачу таго, хто сам многа гадоў выконваў нялёгкі абавязак — знаёміць усіх з літаратурай беларускай зямлі. А менавіта Максім Гарэцкі першы давёў, што наш народ мае літаратуру, а ў гэтай літаратуры ёсць немаленькая гісторыя».

Праўда, усё, усё праўда. І дзіўны лёс напаткаў не толькі чалавека і пісьменніка Максіма Гарэцкага, але і яго раман «Віленскія камунары», іншыя вядомыя і яшчэ пакуль што малавядомыя творы. Напісаныя ў неверагодна цяжкіх умовах, яны таксама зрабілі даволі доўгае і небяспечнае падарожжа «па прасторы часу», пабывалі ў руках многіх самых розных людзей і ўсё ж не загінулі, асталіся, каб потым ажыць на старонках часопісаў і кніг, вярнуць добрае імя іх аўтару, уваскрэсіць яго зноў у нашай літаратуры. І першае, самае важкае слова ў вяртанні празаіка Максіма Гарэцкага да чытача належыць раману «Віленскія камунары» — суровай, можна сказаць, летапіснай праўдзе пра тое, як беларускі і літоўскі народ змагаліся за Кастрычнік. Адразу ж пасля надрукавання ў «Полымі» раман быў перакладзены на рускую і літоўскую мовы, выдадзены ў Маскве і Вільнюсе. Самыя лепшыя знаўцы літаратуры і ў нас, у Беларусі, і далёка за яе межамі — у ГДР, Польшчы, Чэхаславакіі, Балгарыі — адзначалі найвялікшае майстэрства аўтара, моўнае і стылістычнае багацце, шчырасць, добрасумленнасць і гранічную вернасць праўдзе. Раман «Віленскія камунары», які ўбачыў свет праз трыццаць гадоў пасля таго як быў напісаны, быў па думках, поглядах, манеры паказу ды і па матэрыяле больш сучасны, чым некаторыя найноўшыя творы самых паважаных нашых празаікаў.

Цікавасць да М. Гарэцкага, да ўсяго таго, што пакінуў ён у сваёй літаратурнай спадчыне, небывала ўзрасла. Выявілася хутка — спадчына гэтая нема-

лая, да таго ж значная частка яе ненадрукавана, захоўваецца ў рукапісах.

Часопіс «Полымя» змяшчаў публікацыі адну за адной. Апавяданні, драматычныя абразкі, аповесці, потым і ўрыўкі з рамана «Камароўская хроніка» сталі вядомы шырокім чытацкім колам. Дапамогу ў падрыхтоўцы рукапісаў да друку аказвала Алена Шарахоўская. Тое, што здавалася ў друк, зіхацела, як золата. Радавала — творы М. Гарэцкага, праляжаўшы дзесяткі гадоў у невядомасці, пачыналі жыць новым жыццём. З кожнай публікацыяй паўставаў ва ўсёй непаўторнасці і прывабнасці сам Максім Гарэцкі, чалавек, які вельмі ж хацеў зрабіць свайму народу больш і больш дабра, пісьменнік самабытнага і рэдкага чалавечнага таленту, вялікай еўрапейскай культуры. За знешняй някідкасцю і прастатой яго твораў адчувалася чэхаўска-бунінская школа. Пакарала незвычайная любоў да ўсяго таго, пра што пісьменнік расказвае, празрыстасць і лёгкасць малюнка, што ўласціва толькі прыроджаным талентам, дабрыня да сваіх герояў, уменне іх раскрыць, стварыць сітуацыі, пры якіх людзі вельмі ж натуральна сябе паводзілі, рабілі ўсё тое, што робяць звычайна ў жыцці — кахалі, аралі, сеялі, гадавалі дзяцей, марылі, дбалі пра лепшыя часы, шчасце і долю. Майстэрства аўтара, асабліва ў абыходжанні са словам, у выбары дэталяў было незвычайнае, кожны сказ — гэта ўзор дакладнасці і высокай моўнай культуры. Нават мясцовыя, дыялектныя слоўцы надта ж па-мастацку ўпісваліся ў тэкст, быццам без іх і нельга было, ніяк нельга было абысціся. І ўсюды пульсавала думка, неспакойная, дапытлівая, трапяткая, выклікаючы пачуццё першароднасці, захаплення, радасці і болю...

Ёсць пэўны сэнс у філасофскай і стылістычнай ускладнёнасці прозы М. Пруста, Дж. Джойса і У. Фолкнера. Але ёсць свая прывабнасць і ў пушкінскай прастаце, у класічнай лёгкасці і свежасці радка ў тых жа А. П. Чэхава, І. А. Буніна, Я. Коласа і Я. Купалы. Менавіта сіла таленту М. Гарэцкага якраз у прастаце. Цікава адзначыць і яшчэ адно — М. Гарэцкі ўсё сваё жыццё пісаў як бы адзін раман, які складаецца з усіх яго твораў, пачынаючы маленькімі абразкамі і канчаючы «Камароўскай хроні-

кай». Кожны новы радок дадаваў нешта новае да ўжо вядомага, нібыта з новага боку асвятляў падзеі і людзей. Мусіць, пісьменнік, і праўда, усё сваё жыццё піша, расказвае пра сябе, свае перажыванні і ўражанні. Розныя этапы сваёй біяграфіі, свайго ўнутранага і нават знешняга жыцця робяцца этапамі ў развіцці вобразаў і герояў. У М. Гарэцкага гэта асабліва яскрава відаць. Калі б і не ведаў яго біяграфіі, яе можна было б узнавіць, намаляваць, чытаючы прозу пісьменніка. Старая магілёўская вёска... Вучоба ў каморніцкім вучылішчы... Імперыялістычная вайна... Вялікі Кастрычнік... Першыя гады савецкай улады... Вільня, Масква, Мінск... Літва, Прусія, Палессе, Сібір... Сярод герояў прозы М. Гарэцкага — рускія, беларусы, украінцы, літоўцы, немцы, яўрэі; сяляне, рабочыя, інтэлігенцыя; салдаты і афіцэры, рэвалюцыянеры і чарнасоценцы, тыя, хто імкнецца да святла і волі, і тыя, хто засціць, не хоча даваць святла і волі... Якая шырокая і стракатая панарама народнага жыцця разгортваецца перад вачыма! М. Гарэцкі, бадай, першы з беларускіх празаікаў, які асмеліўся паказваць у сваіх творах не толькі селяніна, але і таго, хто памяняў даматканы шарачок на сукно фабрычнага вырабу; ён не замыкаўся ў вузка-нацыянальных праблемах, а выносіў крыўду і боль усіх прыгнечаных і занядбаных, клікаў іх да аб'яднання, змагання. Гарэцкі-празаік не толькі паказвае жыццё, якім яно яму бачылася і ўяўлялася, ён яшчэ ўсюды і многа думае. Думае не толькі пра тое, што ёсць, але і пра тое, што было ці можа быць. Вока ў пісьменніка вострае, дапытлівае, яно заўважае тое, што не кожны можа заўважыць. Каб пераканацца ў гэтым, прачытайце хоць бы аповесць, якую пісьменнік вельмі сціпла назваў запіскамі, «На імперыялістычнай вайне». (Наогул сціпласці, інтэлігентнасці ў М. Гарэцкага варта было б многім з нас павучыцца!) Я чытаў гэтую аповесць пасля знаёмства, і даволі грунтоўнага, з такімі сусветна вядомымі творамі пра імперыялістычную бойню, як «На заходнім фронце без змен» Э. М. Рэмарка, «У агні» А. Барбюса, «Дабердоб» П. Воранца, «Жыццё пакутнікаў» Ж. Дзюамеля. М. Гарэцкі не толькі нідзе не паўтараецца з вядомымі ўсяму свету пісьменнікамі, наадварот, адкрывае ўсё новае і новае, чаго ніхто да

яго не ведаў і не бачыў, а калі і ведаў, бачыў, то не паказваў...

Выдадзены выдавецтвам «Мастацкая літаратура» двухтомнік твораў М. Гарэцкага — гэта невялікая частачка яго празаічнай спадчыны. А ёсць жа яшчэ М. Гарэцкі крытык, даследчык роднай літаратуры і фальклору, публіцыст і лінгвіст... Чытачоў чакаюць новыя сустрэчы з яшчэ невядомымі ці зусім малавядомымі творамі гэтага вернага сына нашай Бацькаўшчыны.

Няхай гэтыя сустрэчы будуць як мага хутчэй!

## *Міхась Стральцоў*

# ЧАЛАВЕК З МАЛОЙ БАГАЦЬКАЎКІ [143]



ацеў напісаць: «Люблю Максіма Гарэцкага»,— і тут жа амаль неўсвядомлена адчуў, што нешта рупіць мне ў такой, урэшце, звычайнай фармуліроўцы. У чым жа справа? Пасля, падумаўшы, разважылася, што віною тут няйначай як чытацкая нязвыкласць гэтага імя, няхай нават не для мяне, у дадзеным выпадку, але ўсё ж нязвыкласць. Сказаць, што любіш Купалу, Багдановіча, Чорнага,— гэта і зразумела і звыкла нават да таго, што падалося б дзіўным, каб хто раптам запытаў: «А за што?» Ха!.. А за што любім мы ўзыход сонца, вясновы цёплы дождж, даўняга сябра ці думку, што некалі прыйшла да цябе, выспела ў хвіліну шчаслівай развагі.

З Максімам Гарэцкім не так.

Бо вось жа бывае: прачнешся, душа поўніцца нечым радасным і святочным, і толькі потым прыйдзе здагадка пра сон, і толькі потым зацікаўлена, заміраючы ад хвалявання, пазнаеш і разгадаеш яго. І святло, і водар непаўторнай прозы Гарэцкага мроіліся нам паміж старонак Коласа і Чорнага. У вершы Купалы і Багдановіча яна павінна была быць, як была, жыла, неўсвядомлена і наперад разлічаная, наша любоў да яе,— і вось сёння яна ёсць, проза Максіма Гарэцкага, і разам з яе бытаваннем цяпер ужо ўсвядомлена, увачавідкі пачынаюць жыць і чытацкая любоў, і цікавасць да яе, і імя Гарэцкага спакваля, але пэўна становіцца побач з імёнамі яго выдатных старэйшых і маладзейшых сучаснікаў і заяўляе сваё права на класічную рубрыку.

Люблю ў Гарэцкага «Сібірскія абразкі».

Каб сказаць, што за нязвычнасць матэрыялу, дык не, не толькі. За арыгінальнасць формы? І за гэта, вядома, але зноў жа — не толькі. Форма тая стала ўжо звыклай і трохі не моднай сёння, калі шырока ва ўжытак увайшло эсэ і ўсё, што звязана з ім. За майстэрства мовы і непрыдуманасць інтанацыі, за пульсаванне фразы, непадробнае і натуральнае, як дыханне? Але. І ўсё ж больш проста і зразумела будзе сказаць: за яго самога. За асобу аўтара з усёю яе душэўнаю шчодрасцю, за ясны розум і нехапатлівую, цвярозую любоў да чалавека і па-харошаму эмпірычную, дзейсную змястоўнасць духоўнага вопыту. Карацей кажучы, надзвычай прывабнае ўсюды ў гэтых абразках аўтарскае «я» — не ўмоўналітаратурнае, хадульнае, як гэта часам бывае, калі так і відно, як нейкае несамавітае стварэнне імкнецца напяцца да памераў вала, а жывое, уроўненае ўсім чалавечым з людзьмі «я», хіба толькі вось узяло яно трохі болей, чым іншыя, ад яго вялікасці жыцця ды вынайшла ў сабе пры гэтым умельства чутае ды ўбачанае, перажытае з людзьмі ды за людзей, зразумець і, дарэмна не мудруючы, пераказаць.

Па першапачатковай сваёй прафесіі Гарэцкі быў каморнікам.

Паспрабуйце, напрыклад, уявіць сабе Прышвіна без яго агранамічнай і паляўнічай біяграфіі і адразу ўбачыце, што такое немагчыма, адразу стане зразумелым, што гэтак мы пазбавімся і ягонай творчасці. Формула «мастацтва як паводзіны» арганічная для Прышвіна. Так вызначыць свае адносіны да жыцця і мастацтва мог бы і Гарэцкі: і ў яго ўсюды праз аўтарскае «я» выразна бачыцца даведзеная да высокай ступені дасканаласці культура ўзаемаадносін з людзьмі, уменне слухаць і пытаць, браць удзел у чалавечай радасці і бядзе — і ўсё гэта з нейкай педагагічнай прыкідкай да субяседніка і да сябе.

У Сібір Гарэцкі ехаў, здаецца, у дваццаць шостым годзе: яго, як і грамадскасць рэспублікі тады наогул, цікавіў тымчасовы лёс беларусаў-перасяленцаў. Дарога была знаёмая: пасля ранення ў першую сусветную вайну нейкі час давялося служыць у Іркуцку. Сібір — мясціны, так сказаць, дастаткова аддаленыя, пасяленцы і перасяленцы, тубыльцы і ўся-

лякі рознапляменны люд, закінуты сюды самахоць ці воляй віратлівага лёсу. Жылі на заімках ці валацужнічалі, аралі, карчавалі тайгу, угрызаліся ў зямныя нетры. Ехалі цягніком, плылі на параходах ці дашчаніках, душыліся з калёсамі і коньмі на паромах. Людское мора, раскалыханае, раз'ятранае нядаўняй вайной і галадухай, паволі ўваходзіла ў берагі, пачынала дыхаць новаю хваляй — прагай мірнага пераўтварэння. І сведкай усяго гэтага быў Максім Гарэцкі. І сведкай усяго гэтага ў тым жа годзе быў яшчэ адзін чалавек.

Блізка каля таго часу, калі абдумваў я гэтыя нататкі, трапілася мне ў рукі (такая харошая выпадковасць!) кніжка з публікацыяй дзённікавых нарысаў легендарнага Мікалая Рэрыха [144] і вось што там, раптоўна ўзрадаваўшыся, нібы нечаканай знаходцы, у запісу пад назвай «Народ» прачытаў: «З мнагалюбствам народным давялося мне сустракацца праз усё сваё жыццё... Апошні раз судакрануліся мы з рускім народам у час экспедыцыі 1926 года, калі ехалі праз Козевунь, праз Пакроўскае да Тапалёвага Мысу, а адтуль плылі па Іртышы і далей да Омска. І ў Пакроўскім, а затым на параходзе да нас прыходзілі самыя розныя спадарожнікі. Вялікай была іх прага ведаў. Іншым разам ледзь не да самага світання моладзь, матросы, народныя настаўнікі сядзелі ў нашых каютах і гутарылі і хацелі ведаць пра ўсё, што ў свеце дзеецца. Такая прага ведаў заўсёды бывае лепшай прыкметай жывых задаткаў народа... У сталовую парахода ўваходзіць хлопчык год дзесяці. «А не насварацца, калі я ўвайшоўшы?» — «Навошта насварацца, сядай, чайку вып'ем». Выяўляецца, едуць на новыя мясціны, і гарыць сэрца па новаму жыццю, па лепшай будучыні. Ведаць, ведаць, ведаць!»

І вось так мастак і падарожнік Мікалай Рэрых памог мне сфармуляваць і чалавеказнаўчы змест і пафас «Сібірскіх абразкоў» Гарэцкага.

А хлопчык... А хлопчык ці не таго ж узросту і лёсу ёсць і ў адным з абразкоў Гарэцкага — пад назвай «Маленькі рызыкант». Убачыў яго пісьменнік недзе на прыстані, у натоўпе «мяшчанскае і сялянскае людскасці». «Ён пяяў, што быў змалку свавольны, што бацька яго, прыйшоўшы з нямецкай вайны,

памёр, што маці хацела зрабіць сына чалавекам і аддала яго ў батракі роднаму дзядзьку, але ён нічога не слухаў і ішоў па сваёй волі, збег у горад і зрабіўся беспрытульным...»

І тут жа, як і ў Рэрыха, думка пра невычэрпную таленавітасць народа, пра неўтаймоўную, нягледзячы ні на што, прагу творчасці: «Я прыгледзеўся бліжэй, і мяне яшчэ болей здзівілі яго вочы на худым і бледным, моцна напсаваным воспаю твары. У вачах у яго было праўдзівае творчае захапленне і думка — далёкая ад гэтага месца, засмучоная цяпер, думка прыроднага мысленніка».

І яшчэ ў тым абразку можна знайсці фразу, якую мог напісаць толькі чалавек, у душы якога жыла цнатліва-стрыманая, высокага гарту любоў да «людскасці». Гарэцкі напісаў так: «Пасля вайны і рэвалюцыі ў мяне вельмі лёгка накручваюцца слёзы і падпірае комам дыханне». Паспрабуйце сказаць прасцей і лепш!

Там жа, у тых «Сібірскіх абразках» — «Максімава зязюля».

«Вось выходжу я на большы прагал, зелянейшы ад бяроз на яго ўскрайках,— дзесьці далёка і неяк асабліва сумна закукавала сібірская зязюля.

— Ку-ку! Ку-ку!

І мне ўспомніліся яго сумныя вершы:

— Не кувай ты, шэрая зязюля!..

Ці прылятае яна, шэрая, там, у Крыме, пакукаваці яму?

І дзе будзе маё апошняе прытулішча?

Можа, тут, у Сібіры,— як і яму, на далёкай чужыне?

І колькі, колькі нас, хадакоў і перасяленцаў, слухалі тут гэтае сумнае кукаванне, прыгадваючы сабе бары мілае далёкае бацькаўшчыны?»

Які здаровы, чысты голас смутку — ад рахманапростай, як «ку-ку», расчуленасці да высокай, дарослай журбы. «І дзе будзе маё апошняе прытулішча?» О, гэты лёс «хадакоў і перасяленцаў», міжвольных шукальнікаў свайго праз чужое, пахаваных далёка ад бароў мілае бацькаўшчыны, пра што гаворыць ён нам, як не пра тое, што «беларусу і ў Парыжы сняц-

ца белізна бяроз і сосен медзь» (П. Панчанка). І, вядома, не абмежаванасць гэта, не правінцыяльная беднасць пачуцця, а нешта большае, што дае права і хадзіць у госці і запрашаць у адведкі да сябе, бо даўно ж і далёка чутна адметная наша рыса з разуменнем ды павагай ставіцца да завядзёнкі ў суседскім двары. Вось чаму, акрамя ўсяго, і кукуе сёння яна, Багдановічава зязюля, даўгалецце ім, абодвум Максімам.

І яшчэ з «Сібірскіх абразкоў» — «Пад'езд (раман у дарозе)».

Што такое сюжэт, фабула, інтрыга? Літаратуразнаўцы пэўным чынам адрозніваюць іх, параўноўваюць і размяжоўваюць, лакалізуюць і пашыраюць паняцці, падводзячы так званы навуковы грунт, хоць папраўдзе, справа ад гэтага найчасцей заблытваецца, і нам у чытацкім ужытку куды прасцей адрозніваць проста сюжэт цікавы ад нецікавага, займальны ад незаймальнага. Але зноў жа: што такое цікавы і нецікавы сюжэт? У чалавека гора, ён загаворвае пра яго з людзьмі, якіх столькі даводзіцца перабачыць за дзень (ён рамізнік), але ніхто не слухае яго, і ноччу ўжо, астаўшыся адзін на адзін з канём, ён перад гэтым маўклівым слухачом аблягчае душу. Што тут займальнага, што цікавага? А гэта ж чэхаўская «Туга». За лесам у полі гудзе і ракоча трактар, гэты рокат чуе жанчына, у душы якой абуджваюцца з гэтае нагоды ўспаміны і расце надзея на шчасце, на блізкасць з даўно любімым чалавекам. Гэта — брылёўская «Галя».

Вядома, ёсць сюжэты, якія не перакажаш вось так, літаральна адной фразай, іх развязкі чакаеш, як латарэйнага выйгрышу, і чытацкая ўвага заведзена імі, як гадзіннік, што адбівае дванаццаць удараў роўна апоўначы. Яму здзіўляешся, такому сюжэту,— гэтаму дакладнаму хранаметражу пісьменніцкай выдумкі і нашага чытацкага самападману разам з тым, але найчасцей здзіўляешся — і толькі. І вынік падобны на стрэл з дзіцячага пісталета — і гучна, і страхавіта, і, галоўнае, без крыві.

Толькі вось што можна лічыць бадай што бясспрэчным: просты, «нецікавы» сюжэт, як правіла, не

па сіле літаратару пасрэднаму, такі сюжэт, як лакмусавая паперка, з дапамогай якой непазбежна выявяцца і ўнутраны фальш, і заганы густу, і неарыгінальнасць мастацкай думкі. Гэта амаль непазбежна.

Дык вось «Пад'езд», з усмешлівай падназвай «Раман у дарозе», Гарэцкага хочацца цытаваць: так зграбна, ненаўмысна і ашчадна-проста вядзе ён апавяданне. Мы, цяперашнія літаратары, ці не праз нашы універсітэцкія ды інстытуцкія дыпломы, памалу развучваемся гаварыць ладам і складам роднай мовы і ўсё мерымся абкругляць ды абгаблёўваць яе і ў самым галоўным, пераважна ў сінтаксісе,— і выходзіць часам і кругла, і даволі складна, і гладка, але не дыхае фраза тымі ўтульнасцю і цяплом, як дыхае акрайчык хлеба, узяты на полудзень з сабою ў лес і прыхаваны ад марозу запазухі. І слоўца каларытнае, мясцовае ёсць, і пісьменна быццам, а жывога духу мовы няма і няма тым часам. А вось фраза, якая пры ўсёй сваёй вонкавай шурпатасці выдае і непрымушанай, і дакладнай, і жывой: «Я нават не пачуў, калі так блізка наехала адразу фурманка». Не дагнала, не нагнала, не пад'ехала, а менавіта «наехала», бо перад гэтым чалавек доўга ішоў на адзіноце з «яланямі» — гладкім роўным полем з высокаю густою травою, паміж якой там-сям відаць былі засевы жыта, ярушкі і аўса». Бо ўслед за першай фразай, адзіна неабходная, ідзе другая: «Азірнуўся, неспадзявана ўбачыў, што яна пад'язджае, і ўсцешыўся, што пад'еду». Так проста пачынаецца гэтае невялічкае апавяданне, гэтак жа проста яно і канчаецца. За фурмана на той падводзе была жанчына, герой наш колькі вёрст пад'язджае з ёю, пасля яны развітваюцца — вось, бадай, і ўсё. І, аднак жа, не ўсё. Цягам тых колькі вёрст і колькі хвілін за выпадковай, дарожнай гаворкай адкрываецца нам такая шчымлівая праўда чалавечага сэрца, такая па-харошаму мужная навука жыцця, веры і трывання, што старонкі, на якіх дзіўным чынам памясцілася ўсё гэта, пачынаюць як бы расплывацца на нашых вачах, і стыхія жыцця цалкам паглынае стыхію слова.

А між тым нешта не надта гжэчнае, не надта прыстойнае, на першы погляд, адбываецца на дзвюхтрох старонках гэтага мікраапавядання: жанчына

першаму стрэчнаму прапануе сябе замуж! Які жах! Якое поле дзейнасці для маралiста!

Але ж чакайце... «Была яна яшчэ маладая і вельмі здаровая, і, відаць, смелая, і простага характару. Зараз, гэтаксама проста і вясёла, пачала са мною гаманіць». Ён пахваліў яе каня, і яна, нейкім спосабам пазнаўшы, што спадарожнік нетутэйшы, пачала казаць пра сваіх сібірскіх коней, што «бягуць 40—60—100 вёрст не еўшы, толькі пастаяўшы». «І ядуць мала. І дужа ласкавыя — як цяляты. Морду ў акно — і просяць у дзяцей хлеба». Хараша, канечне, усё гэта, гэты практыцызм і сама паэзія, што так добра суіснуюць у расказе жанчыны. І калі спадарожнік задумваецца над чутым, «яна раптам тарганула мяне рукою за плячо, павярнула да мяне твар і блізка-блізка паглядзела мне ў вочы сваімі вялікімі і плоцкімі здаровымі вачыма і крыкнула:

— Чо, паря, невясёла думаш? І не слухаш, што цібе баю... Ха-ха! — і засмяялася звонка ў грукаценні колаў і тупанні конскіх ног».

А дзеці ў яе, выяўляецца, ёсць, і муж быў, ды прапаў недзе падчас вайны, а едзе яна «з розглядаў, з пасёлка вёрст за сорак, дзе ёй параілі добрага прымака». Прымак ёй не спадабаўся. Чаму?

«— ...А таму, што ад блізкіх, з свайго пасёлка, цяжэй, калі што, адчапіцца... Не ведаеш? — і зноў засмяялася, грубавата, але проста і вясёла».

І зноў жа адзначце сабе гэты разумны практыцызм, што не дазваляе проста так пакрыўдзіць чалавека. Адзначце, этычны бок практыцызму.

Цяпер мы падыходзім да самога «сватання». Без цытаты тут тым болей не абысціся.

«— Слухай-кось... кідай ты сваё настаўніцтва і йдзі да мяне ў прымы.

— Што?!

— Анічога... Ідзі, і будзем жыць! — і цяпер паглядзела блізка і ясна. У яе вялікіх шэрых вачах, шырокіх ад гэтай блізкасці і яснаты, было поўна жаночага жадання, але асцярожнага і прыхаванага, з дапытлівым чаканнем на адказ. З-пад хусткі ў яе цяпер па-дзявочы выбілася жменя русявых валасоў.

І нясмела, трошачку лішнюю хвілінку пачакаўшы, з трошачку лішняю наўмыснаю развязнасцю, яна жартаўліва падштрухнула мяне плячом у плячо

і яшчэ раз спыталася, ціха, цішэйшым жартам: — Ну?»

Вось што такое дакладнасць псіхалагічнага тону, бездакорнасць маральнага чуцця, выказанага словам лёгкім, як штрых карандашом — усе гэтыя як бы мімаходзь пастаўленыя «плячом у плячо», «ціха, цішэйшым жартам» і г. д. Аж не верыцца, што гэта было напісана ледзь не паўстагоддзя назад, у самы росквіт «маладнякоўшчыны» чалавекам, які друкаваўся ўжо тады, калі выпусціў свой першы зборнік Максім Багдановіч,— настолькі лёгка сягае праз літаратурна-гістарычную дыстанцыю яна, гэтая проза, і пацвярджаючы сённяшнія нашы пошукі і задзірыста падбіваючы на новыя. Вось чаму я трошкі раней сказаў, што, яшчэ неадкрытая, проза Гарэцкага жыла з намі і ў нас...

«— Ах, дурная ж я! — засмяялася яна, адвярнуўшыся.— Я ж нават і не спыталася, можа, ты жанаты?»

Ад аўтара далей ідзе: «У мяне шавяльнулася думка змані́ць ёй, ды нешта паважнае ў маім пачуцці да яе спыніла мой язык ад няпраўды. І я сказаў ёй усё, як было ў мяне». І вось як па-чалавечы хораша, не тоячыся, але і не паступаючыся годнасцю, рэагавала на гэта яна:

«— Значыць, ашукалася я! А то еду, бачу — ідзеш ты, і думаю сабе: во, можа, мой суджаны ідзе... Ашукалася!

Я маўчаў, разглядаючы яе збоку. Ёй ад майго погляду зрабілася нязручна. І яна зноў сказала:

— Дурны ж і ты! Хоць бы змані́ў мне, пажартаваў са мною...» Яны развіталіся, і «яна пагнала каня дарогаю да свайго пасёлка». А мы ідзём разам з аўтарам далей, тымі самымі яланямі, але ўзбагачаныя ўжо новым слыхам і зрокам, якія дае нам мастацтва, і перакладаем ужо на мову сэрца тое, як «высока-высока ў небе крычала каня: «Піць! пі-і-іц-ь!»

Што ні кажыце, харошы празаік Максім Гарэцкі!

Калі з такою зайздроснаю творчай аддачай, як у «Сібірскіх абразках», выяўляе сябе Гарэцкі на адносна новым для яго, далёкім ад беларускай рэчаіснасці матэрыяле, дык заканамерна думаць, што на роднай яму глебе ён дамагаўся поспехаў і яшчэ

больш значных, і перакапальных. Шчыра кажучы, гэта і так, і трохі не так. Своеасаблівасць не столькі пазіцыі, колькі становішча Гарэцкага ў нашай літаратуры (істотнае значэнне меў тут і асабісты лёс) абумовіла як кірунак ягоных пошукаў, які часта быў у свядомым паглыбленні, развіцці, дыферэнцыяцыі адкрытага ўжо да яго, напрыклад, Коласам, так і заўсёднае імкненне разам з тым да глабальнага даследавання рэчаіснасці, вызначэння яе сацыяльна-гістарычных тэндэнцый, зразуметых праз культуру, праз комплекс нацыянальных адчуванняў — і ўсё гэта праз самае шырокае выкарыстанне дакумента, які павінен быў падключацца да мастацтва, рабіцца мастацтвам, не трацячы тым часам і сваёй канкрэтна-гістарычнай рэальнасці. Сказанае лёгка зразумець, калі хаця б прыгадаць Гарэцкага як аўтара запісак «На імперыялістычнай вайне» і рамана-хронікі «Віленскія камунары». Але прынцып гэты несумненна прачуты Гарэцкім скрозь — і ў аповесцях, і ў апавяданнях, якія ўсюды выразна арганізаваны як цыклы, як дакументальна-мастацкае даследаванне тых ці іншых пластоў жыцця, якое непазбежна выступае ў аўтара з адзнакай гістарызму.

Несумненна, што гонар аднаго з пачынальнікаў новай беларускай прозы Гарэцкі па праву павінен падзяляць разам з Коласам. Маладзейшы яго сучаснік, ён, падкрэслім зноў, не мог не ўлічваць творчага вопыту свайго ўжо славутага тады папярэдніка, не мог, адштурхоўваючыся ад гэтага вопыту, не памкнуцца вызначыць і меру сваіх творчых магчымасцей, і мажлівыя, калі можна так сказаць, цэнтры выяўлення і рэалізацыі іх. Пачаўшы з экспрэсіўных замалёвак, блізкіх да абразкоў пачаткоўца Бядулі, ён, не паступіўшыся экспрэсіўнасцю, якая ўсё больш набывала адзнакі строгага лірызму, узбагачаючы мастацкую думку філасофскім спасціжэннем жыцця, трывала замацоўваецца на тым, што мы ўмоўна назвалі дакументам.

Гарэцкі прыроджаны апавядальнік. Кажучы так, я маю на ўвазе не само апавяданне як жанр, а менавіта манеру расказваць, весці апавяданне. Гэта нават рэдкае і труднае ўмельства. Дастаткова прыгадаць, што ў рускай літаратуры, так багатай на апа-

вядальную традыцыю, мы назавём з такой нагоды не так і багата імёнаў, але затое творчасць Аксакава, Ляскова і Прышвіна найлепшым чынам пацвердзіць тое, што мы маем на ўвазе, кажучы пра ўмельства апавядання. Па-першае, апавядальнік павінен быць несумненна значнай чалавечай асобай, па-другое, нават талент лёгка можа тут абясцэніцца адсутнасцю рознабаковага жыццёвага вопыту, прыроджанай любві да бывальшчыны, да здарэння, якое выступае акумулятарам камічных і трагічных рысаў жыцця, урэшце, без паэтычнага адчування побыту, чалавечай прафесіі, моўнага жаргону і г. д. Усімі гэтымі якасцямі ў значнай ступені і валодаў Гарэцкі. Было б цікава скласці нешта накшталт гістарычнай, сацыяльнай, геаграфічнай, прафесійнай карты ягоных твораў, яна была б не толькі статыстычна пачувальнай, але дазволіла б нам зазірнуць і ў прыроду прозы пісьменніка, вызначыць тып яго мастацкіх абагульненняў, паказала б на адметнасць рэалізму Гарэцкага з рэалізмам хаця б таго ж Коласа. Мы ўбачылі б, як па-рознаму разумеецца так званая мастацкая тыповасць гэтымі пісьменнікамі, як, скажам, этнаграфізм у Коласа іншы раз застаецца толькі этнаграфізмам, у той час, калі ў Гарэцкага ён часта выступае як зыходны пункт, як усвядомлены прыём, як сродак выяўлення мастацкай думкі і стварэння мастацкай атмасферы.

Наогул «этнаграфізм», дакументалізм саслужыў добрую службу Гарэцкаму не толькі як уласна мастаку, але і ўсёй нашай літаратуры, і я нават не пабаюся значэнне ягонага вопыту для літаратуры пашырыць у дадзеным выпадку да значэння для ўсёй культуры, памятаючы пра час, пра ўмовы, калі тварылі і Купала, і Колас, і Гарэцкі. Бо з дапамогаю слова ўпершыню важка заявіў пра сваю адметнасць наш народ, бо з пашырэннем сферы мастацкага даследавання жыцця, што заўсёды было важна, і асабліва ў першапачатковы перыяд станаўлення літаратуры, выпрабоўваліся і пашыраліся магчымасці і такога найгалоўнейшага інструмента гэтага даследавання, як мова, калі ішло ўсталяванне яе літаратурных нормаў,— і тут таксама Гарэцкаму належыць далёка не апошняя роля, не цалкам яшчэ зразуметая намі нават сёння.

Агульнавядома, што літаратурная наша мова ў асноўным складвалася на базе цэнтральных гаворак; былі на тое свае прычыны, як і на тое, што ўсходнія гаворкі пэўным чынам былі абмінуты літаратурнай практыкай, калі не лічыць такога даволі яскравага факта, што Багдановіч у значнай ступені абапіраўся на лексіку, улічаную слоўнікам Насовіча, складзеным на базе менавіта ўсходнебеларускага моўнага запасу. Праз творчасць Гарэцкага шырока, у творчым пераўтварэнні сталі даступнымі літаратуры багацці народнай мовы Магілёўшчыны, і каб Гарэцкі зрабіў толькі гэта, то заслужыў бы права на нашу ўдзячнасць яму. Але зрабіў ён болей. Ён ведаў Беларусь не толькі ўсходнюю, але і цэнтральную і заходнюю; талент мастака, падмацаваны заўсёднай лінгвістычнай захопленасцю, памаглі яму стварыць той моўны сінтэз, выпрацаваць той адметны сінтаксічны малюнак, што так добра перадае як індывідуальную манеру аўтара, так і лад, і дух нашай мовы наогул. Не кажучы тым часам пра слоўнік Гарэцкага, з якім наўрад ці можа хто з пісьменнікаў спаборнічаць амаль па сённяшні дзень.

Не думаю, каб я сказаў тут пра Гарэцкага занадта гучна. Кожнаму — сваё.

Кожнаму пісьменніку натуральна і звыкла думаць, што галоўная кніга ягоная яшчэ наперадзе, як бы шчодра ні выяўляў ён сябе ў творчасці, падсвядома зберагаюцца, запасяцца на потым, на тую галоўную кнігу, самыя задушэўныя адчуванні і думкі. Канечне, залішняя ашчаднасць, залішні разлік тут могуць быць і згубнымі, і можна ўсё жыццё пражыць, трасучыся над схаваным ад людскіх вачэй скарбам, але ўсё ж цнатліва-засяроджаная думка пра галоўную кнігу і падтрымлівае, і жывіць нашага брата-літаратара.

Можна здагадвацца, што самай важнай кнігай для Гарэцкага павінна была быць «Камароўская хроніка», завяршыць якую, на жаль, ён не паспеў. Там быў матэрыял, назапашаны з дзіцячых і юнацкіх гадоў, прасветлены сталым роздумам, зразуметы ў гістарычнай перспектыве і рэтраспекцыі, ва ўсёўзбраенні немалога пісьменніцкага вопыту. Хроніка, летапіс? А можа, нават сага, адзначаная скрупулёзнасцю хронікі і мудрым, урачыста-наіўным ладам высокага

летапісу. Вось літаратуразнаўца Д. Бугаёў, адзін з першых даследчыкаў творчасці Гарэцкага, звязвае апавядальны лад «Хронікі» менавіта са славутым «Баркалабаўскім летапісам» — і гэта, мусіць, справядліва. Прыдаўся б аўтару, вядома, і вопыт папярэдняй хронікі — «Віленскіх камунараў», дзе ўдала здзейснена спроба прасачыць лёс сучасніка беларуса на самым складаным адрэзку нацыянальнага жыцця, разварушанага сусветнага значэння трагедыямі і рухамі, дзе ўладна гучыць тэма пошукаў радзімы, нацыянальнага самапазнання праз далучэнне да сацыяльна-класавага вопыту часу. Гарэцкі быў першы, хто надаў гэтай тэме спецыфічна нацыянальнае гучанне, што сведчыць пра вастрыню і канкрэтнасць ягонага гістарычнага мастацкага мыслення. Традыцыя Гарэцкага не можа не быць плённай і на сённяшні дзень, і, скажам, «Птушкі і гнёзды» Я. Брыля — яскравае сведчанне гэтаму.

Каб была завершана «Камароўская хроніка», несумненна, мы мелі б твор, які прымусіў бы нас пановаму паглядзець на шмат якія з'явы сучаснай Гарэцкаму і сённяшняй прозы. Усё гэта, вядома, толькі прадвызначэнні, адштурхоўвацца мы павінны ўсё ж ад «Віленскіх камунараў».

Вось жа жыве, доўжыцца ў нацыянальнай свядомасці і часе гэтая немудрагелістая, нават праставатая хроніка, гаротная адысея непаўторнага Мацея Мышкі, такога жывога да асязальнасці беларуса, жыве манускрыпт, напісаны то пяром, то алоўкам у выключна цяжкіх для творчасці ўмовах, калі пісьменніку-гісторыку архівы ды бібліятэкі навуковых ці навукападобных кніг замяняла адно каласальная мастакоўская памяць ды незвычайна абвостранае пачуццё гістарызму. І невядома, ці прайграў, ці выйграў тут Гарэцкі. Адно зразумела: нам, чытачам, архіўна-гістарычны антыкварыят наўрад ці скажа столькі, колькі гавораць сёння «Віленскія камунары». Вось прыклад кнігі па-сапраўднаму сацыяльна дакладнай, рэвалюцыйна-пафаснай, да здзіўлення проста зробленай на матэрыяле то бытавым, то любоўным, на дакуменце то адозвы, то газеты, на фактах сямейнага летапісу, на ледзь не анекдатычнай прыгодзе, а наогул на калабруньёнаўскім адчуванні будзённага дня як дня гістарычна аптымістычна-

га. Вось прыклад смелага, невучнёўскага абыходжання з жанрам, які жыве не толькі на ўзроўні падзеі ці героя, але і як бы з аглядкай, з пасміханнем на літаратурную традыцыю, на сюжэт то авантурны, то куртуазны (памятаеце душачку Юзю?), на ідылічную сямейную хроніку з добрымі «бацюшкамі» і «матушкамі», а наогул жа вы адчуваеце, што аўтару ў мастацкай свабодзе ягонай карціць пагарэзіць дзе-нідзе то з маскай якога-небудзь Тома Джонса-знайдыша, то беднага Бапрэ, які, як вядома, у айчызне сваёй быў цырульнікам, пасля ў Прусіі салдатам і г. д. А эпіграфы, эпіграфы да літаральна ледзь не кожнага малога раздзельчыка! Чаго тут толькі няма! Ад Гарацыя да партыйнага дакумента, ад Купалы, Коласа ці Багдановіча да нейкага аднаму богу вядомага доктара Рубінштэйна з ягоным (такі непадробны дарэвалюцыйны местачкоўска-беларускі каларыт!): «Ат, шышкі выразаць, чапурышкі выразаць... Патрымайце задніцу ў гарачай вадзе, і нічога не трэба выразаць...»

І жыве, і трапечацца, і сумуе, і смяецца, і задумваецца, і пратэстуе, і цягнецца да зброі разам з героем Мышкам жыццёва паўнакроўная народная стыхія, і мы ахвотна пасля гэтага даруем аўтару і эскізнасць некаторых старонак, і несуразмернасць там-сям прыватнага і галоўнага, і замаруджанасць у некаторых выпадках самога апавядання. Кніга, як кажуць, адбылася, дарэвалюцыйная ява падала руку яве сённяшняй, дарэвалюцыйны пісьменнік, які пачынаў пісаць пад псеўданімам «Максім Беларус», маладзейшы паплечнік выдатных нашых паэтаў, заканамерна падаў руку савецкаму беларускаму празаіку Максіму Гарэцкаму.

Разгаварыліся неяк з сябрам аб прозе Гарэцкага, доўга шукалі яму сціслае, пачуццёва-канкрэтнае значэнне, пакуль, перабраўшы і тое, і гэтае, не спыніліся на адным: празаік строгі. Мне ён і сапраўды ўяўляецца такім.

Пачнём з фразы. Проза Гарэцкага не ведае шырокай, разгалінаванай фразы са складанай сістэмай кіравання, падпарадкавання, сузалежнасці. Само па сабе гэта не можа быць ні недахопам, ні вартасцю.

Эканомнасць фразы — вось найперш паказчык яе эстэтычнай прыдатнасці, і тут заключана ўсё: ступень змястоўнай і эмацыянальнай інфармацыі, насычанасць музычнай аркестроўкі і г. д.

Фраза Гарэцкага эканомная, бо перадае найперш рух, яна дзеяслоўная, калі можна так сказаць. Нават знешнія прыкметы, часта ўстойлівыя, умоўна кажучы, прыметнікавыя, яна трансфармуе ўскосна, праз той жа рух ці жэст. «У старога чалавечка была ў руках скрыпка, а малады размашысты хлапец уздзеў на плячо на рамені вялікі венскі гармонік». Цікавы тут яшчэ, акрамя ўсяго, кантраст паміж першай, статычнай, і другой, знарачыта фарсіраванай пад дзеянне, рух, паловай фразы: даўно мінулы час («уздзеў на плячо») успрымаецца як цяперашні, разгорнуты вось зараз, увачавідкі!

Строгасць, дынамізм, падкрэсленая функцыянальнасць сінтаксісу — характэрныя адзнакі фразы Гарэцкага. У ёй няма сырамяціцы, не месца тут ні пустазвонству, ні сюсюканню.

Вядома, такая фраза немагчымай была б без падкрэслена рэалістычнага, «вещного», кажучы паруску, аўтарскага ўспрыняцця жыцця. Гарэцкі, умоўна кажучы, бытавік. Але быт, так любы пісьменніку, у яго ўсюды пластычны і, урэшце, адухоўлены. Той, хто так лёгка аддзяляе прозу лірычную ад эпічнай, прайшоў бы міма Гарэцкага-лірыка. А ён жа часта бывае па-сапраўднаму лірычны. Гэта таму, што зрокавае і духоўнае бачанне ў яго надзвычай цесна знітавана.

Гарэцкі — пісьменнік гарманічны. Вось яшчэ чаму яго мастацкая манера ўяўляецца нам строгай [...].

# *Іван Чыгрын*

## МАКСІМ ГАРЭЦКІ І ФАЛЬКЛОР [145]



[...] Сярод празаікаў апошняга перадкастрычніцкага пакалення М. Гарэцкі, несумненна, самы буйны прадстаўнік крытычнага рэалізму (апавяданні «Роднае карэнне», «Дзёгаць», «Літоўскі хутарок», аповесць «Ціхія песні»). У той жа час творчасць яго — несумненна новы крок у развіцці крытычнага рэалізму ў беларускай дарэвалюцыйнай прозе ў цэлым. І для Коласа асноўнай задачай было паказваць жыццё сваіх герояў псіхалагічна пераканальным, аднак відавочна і тое, што творчасць Я. Коласа — толькі першы этап у развіцці беларускай дакастрычніцкай прозы крытычнага рэалізму. Я. Колас ужо навучыўся глыбока разумець унутранае жыццё чалавека, мог глыбока прааналізаваць, чым яно, гэтае жыццё, выклікана, але на практыцы ў цэлым далей за лагічнае абгрунтаванне душэўнага стану сваіх герояў не пайшоў. М. Гарэцкі ж сваёй творчасцю прыадкрываў новую старонку ў асваенні дасягненняў крытычнага рэалізму на беларускай нацыянальнай глебе. Яго прозе ўжо ўласціва паказваць унутранае жыццё чалавека як непарыўны працэс, як пастаянна зменлівую плынь. Псіхалагізму дакастрычніцкай прозы Я. Коласа яшчэ ў значнай ступені ўласціва ўнутраная, «заземленая» стрыманасць, душэўны стан чалавека найчасцей раскрываецца праз перадачу руху, дзеянняў персанажаў, у той час як псіхалагізм прозы М. Гарэцкага ўжо траціць характар мастацкай «сарамлівасці», з падполля «выходзіць на паверхню». На гэтай аснове М. Гарэцкі адпаведна ўносіць у беларускую дакаст-

рычніцкую прозу новае і ў характар сацыяльнага і гістарычнага абгрунтавання дзеянняў чалавека. Калі ў Я. Коласа пры стварэнні вобразаў людзей у цэлым яшчэ перабольшана ўвага да сацыяльнага пачатку за кошт падспуднага, як самога па сабе зразумелага прыняцця біялагічнага пачатку, дык у М. Гарэцкага ўжо значна болей увагі ўдзяляецца апошняму, таму і характар сацыяльнага абгрунтавання паводзін герояў дасягае ў яго вялікай жыццёвай пераканальнасці. У параўнанні з Коласам у М. Гарэцкага таксама больш выразна праяўляецца прынцып гістарызму.

Як правільна заўважыў Я. Ф. Карскі, рэалізм у М. Гарэцкага «даходзіць да дэталёвай анатомікі, да фатаграфавання атамаў» *. Тое, што ў дакастрычніцкай палове другога дзесяцігоддзя XX ст. у беларускай прозе значна дакладней вызначылася тэндэнцыя паказваць чалавека больш апрадмечана, нагляднец, пластычней, з пільнейшым улікам усіх магчымых першапрычын яго ўчынкаў, і сама проза стала больш доказна, аб'ектыўна гуманістычнай,— у гэтым, несумненна, немалая заслуга тых празаікаў, якія прыйшлі ў літаратуру праз пяць-шэсць гадоў пасля легалізацыі беларускага друкаванага слова, найперш З. Бядулі і М. Гарэцкага.

Рэалізм, аднак, з'ява неаднародная: ён прайшоў не адзін этап у сваім развіцці. Не адмаўляючы таго, што зрабілі старэйшыя сучаснікі, маладое пакаленне беларускіх празаікаў не магло, натуральна, сканцэнтраваць свае сілы толькі на замацаванні тых мастацка-выяўленчых прынцыпаў, якія ў беларускай прозе сталі ўжо рэальнасцю. Паколькі беларуская дакастрычніцкая літаратура — літаратура паскоранага развіцця, дык кожнае новае яе папаўненне павінна было імкнуцца як найхутчэй асвоіць новы ўчастак шляху-дарогі, пройдзенага сусветнай літаратурай, каб пасля даць нешта сапраўднае сваё. І, трэба прызнаць, асваенне вопыту сусветнай класікі ў дакастрычніцкай беларускай прозе ішло даволі хуткімі тэмпамі. Калі дарэвалюцыйная проза Я. Коласа ў яе лепшых узорах стылем яшчэ толькі нагад-

---

* Карский Е. Ф. Белоруссы. Петроград, 1922, т. III, в. III, с. 373.

вае прозу А. Пушкіна, дык М. Гарэцкі спасцігае сакрэты мастацкага асваення рэчаіснасці ўжо ў Ф. Дастаеўскага і Л. Талстога.

У творчай лабараторыі фальклору М. Гарэцкі вучыўся найперш таму, як да афарыстычнасці дакладна, сцісла і маляўніча выказваць свае думкі. Калі ў першых апавяданнях («У лазні», «Роднае карэнне») пісьменнік амаль неабмежавана выкарыстоўвае беларускую вясковую бытавую лексіку, дык у драматычнай аповесці «Антон», выдадзенай на некалькі гадоў пазней, ён гэтаксама шчодра ўводзіць фальклорныя выразы — прыказкі, прымаўкі, фразеалагізмы і г. д. Праз два-тры гады (апавяданні «Дзёгаць», «Генерал», «Літоўскі хутарок») М. Гарэцкі адмаўляецца і ад творчай практыкі першых гадоў пісьменніцтва і ад творчай практыкі шэрагу наступных гадоў, спыняючыся на нечым сярэднім. Прычым мова гэтых апошніх твораў становіцца намнога больш дакладнай, сціслай, маляўнічай. Такім чынам, зварот да фальклорнага слова, выверанага за стагоддзі эстэтычна і па сэнсу, садзейнічаў выпрацоўцы свайго не пазбаўленага нацыянальнага каларыту мастацкага стылю.

На пэўным этапе развіцця любой прафесійнай прозы яе галоўныя жанры амаль поўнасцю адыходзяць ад фальклорнага спосаба абагульнення з'яў жыцця, уздзеянне паэтычнай творчасці народа на прафесійную прозу з гэтага пункту погляду амаль не прасочваецца, фальклярызм увогуле прыраўноўваецца да народнасці ўспрыняцця. Вядома, беларуская дакастрычніцкая проза не ў поўнай меры дасягнула такога ўзроўню развіцця. Але як сведчаць лепшыя дакастрычніцкія творы, яна да гэтага ўзроўню паступова ўздымалася, не перастаючы заставацца з'явай непаўторнай, самабытнай. Тое, што ў сваіх творах нават М. Гарэцкі не супраць, каб выкарыстаць народны сюжэт, прыказку або асобны прыём, сутнасці не мяняе. У творчасці М. Гарэцкага цэнтр цяжару цалкам перамяшчаецца на выкарыстанне тых мастацкіх дасягненняў фальклору, якія або як прыказкі, прымаўкі, прыпеўкі, замовы і г. д. сталі неадымнай часткаю бытавой гаворкі або, напрыклад, такія прыёмы, як, скажам, супрацьпастаўленне, даўно зрабіліся творчым набыткам прафесійнай літара-

туры. У творчай практыцы М. Гарэцкага мастацкі вопыт народнай паэзіі прама і непасрэдна ўжо амаль не выкарыстоўваецца. І будова твораў, і сюжэтаскладанне, і спосаб моўнай характарыстыкі ў гэтага празаіка ў аснове сваёй карэнным чынам адрозніваюцца ад фальклорных. Максімальна творчы падыход назіраецца нават у выкарыстанні паасобных слоўных адзінак. Мастацкі вопыт народнай творчасці тут непасрэдна выкарыстоўваецца толькі ў тым, як паберуску інтанацыйна правільна арганізаваць фразу, ды ў тым, як выбраць дакладнае, ёмкае слова [...].

# НАШ ТЭАТР [146]

Блажэнні алчушчыя і жаждушчыя праўды, яко ціі насыцяцца...

## I

Беларус — гэта Хомка, што веры не дае. На слове ён быццам то й згадзіўся, каб не скрыўдзіць каго, а тым часам, пакуль усяго сваімі вачамі не паглядзіць, датуль не дасць поўнай веры, датуль і не пераканаецца.

Беларус любіць жывы прыклад; сам у гаворцы сваёй, калі бажае давесці што-небудзь напэўна, заўсёды пачне прыводзіць жывы прыклад. А лепшы гаварун беларус «прыстаўляіць» тое, аб чым гаворыць: ён і голас падвядзе і рукамі і нагамі языку паможа.

Нахіл к прыстаўленню хаваецца ў беларуса ў яго душы і выяўляецца ім у жыцці на кожным сігу. Ад маленства, як на ногі стане, колькі розных гульняў перагуляе беларус! І ці мае яшчэ хоць адзін народ на зямле столькі гульняў і жартаў, як беларусы?

Беларус па псіхіцы сваёй — дабрадушны гумарыст, і ён любіць заўсёды паслухаць, паглядзець і людзям паказаць усё троху — многа прыметнае ў жыцці, а паказвае ён ізноўткі жывым прыкладам. Паслухайце, як гаворыць наш дзед ці бабуля аб якім-небудзь здарэнні. Але беларус прыхілен таксама і да вострай сатыры. Хто ведае народ беларускі, таму пэўне знаёмы перчык і солька беларускай мовы народнай: беларус, дзе варта, крэпкім словам, што бізуном, дасць... Кожнае што-якое беларус любіць адзначыць прыказкай, прыслоўем. Цяпер беларусы маюць багаты скарб народнай мудрасці ў сваіх «пасловіцах» (гл.: Ляцкі [147], Насовіч [148], Раманаў [149] і др.). Каб прыдумаць і сказаць ладную беларускую прыказку, трэба мець мастацкую і глыбокую душу,

трэба быць артыстам, які бачыць чалавека і жыццё наскрозь з аднаго погляду.

Беларусу не навіной было, устаўшы досвіткамі, анічым смагу не прагнаўшы і дбаючы на войтаў бізун, бегчы на прыгон і, спаткаўшыся з добрым чалавекам, жартаваць, можа, каб нуду прагнаці. У гэтым беларус мае нешта супольна-жалобнае з прафесіянальным мастаком-актoрам, катораму таксама трапляецца скакаць і скаліць зубы пад рогат натоўпу, хаця ў самога на сэрцы жыццёвы цяжар, а з вачэй то й глядзі пакоцяцца буйныя слёзы.

Беларус ад прыроды ўжо такі, што любіць паглядзець на цікавую з'яву, яго цягне к ёй.

Заўважым, што і музыка ў вялікай пашане ў беларусаў.

## II

Адным словам, беларус дужа любіць «прыстаўленне», і тэатр яму замянялі «вярцепы», хадня з мядзведзем, жоравам ды казою, хадня на Каляды ў масках, улетку карагоды, узімку ігрышчы і шмат чаго іншага.

Дык, па-мойму, тэатр беларускі, народны тэатр, у беларускім адраджэнні — надта важная справа. І ў адраджэнні ўсякага народу (украінцы) тэатр — сіла непамерная, а ў адраджэнні беларусаў, пры іх псіхіцы, пры іх дэмакратызме, ён можа сыграць вялікую ролю.

Пакажыце беларусу са сцэны, хто ён, чым ён быў, што ён цяпер, чым бы ён мог быць, гукніце яго са сцэны да новага жыцця,— і божа мілы! — гэты гаротнік беларус, перакапаўшыся, ужо знойдзе здольнасці парваць ланцугі рабства, патрапіць крыкнуць: «Жыве Беларусь!» — так дужа, што аж векавыя муры няволі, як тыя сцены ерыхонскія, пасыплюцца ў прах. А ў такім разе доўг нашых пісьменнікаў, каторы яны павінны сплачваць, гэта — у драматычных творах паказаць беларусу, у якой пушчы ён блудзіць і дзе ляжыць яму дарога на поле, шырокадалёкае, роднае поле вольнага жыцця.

## III

Я чуў, што цяпер шмат хто з нашых пісьменнікаў працуе над тэатральнымі творамі. Ой, як гэта добра! Няхай сабе будуць няўдалы, цяжэнькі, праўда, мукі слова, але без працы і саўсім нічога не выйдзе.

А ў нас людзей-таланёў ёсць, каб толькі яны не закапывалі сваіх талентаў у зямлю. Французы казали расейцам: «О, вы, рускія, надта здольны, аднак — не ведаеце, як трэба работаць». Праўда! І мы, беларусы, у гэтым найбольш грэшны. Колькі скарбаў у нашай зямельцы, колькі энергіі ў нашых рэчках, у нашым ветры, колькі сілы ў нашым лесе, і што ж? Зямелька пад каменнем, лясы зніштажаюцца і па абмялеўшых рэчках нясуць цеплавую энергію ад перакалелага беларуса к тоўстаму немцу. А вецер наш «гудзіць» узімку «у комінах», бесперастанку «хістаіць пахілыя, сумныя бярозы»... Але ж і за гэта яму дзякуй, бо хоць ёсць бяздоннае жарало і невычарпная крыніца матэр'ялу для вершыкаў нашым маладым і «даюшчым спадзявання» пісьменнікам. «Беларусы не маюць у сабе крыві фінскай ды цюркскай, яны найчысцейшы славянскі тып, і праз тое іх народная славянская паэзія страшэнна багата, цікава і арыгінальна»,— во як гавораць аб нас людзі, а мы заплюшчыўшы вочы, пнёмся шукаць прыгажосці ў чужым загуменні [...].

Блізка што ўсе драматычныя творы, якія цяпер ёсць на беларускай мове, яны толькі невыразны цянёк ад таго жыцця беларускага, якое павінна быць паказана перш-наперш беларусу са сцэны.

## IУ

А трэба паказаць беларусу са сцэны, што так жыць, як ён жыве, не можна, гэткага жыцця не можна трываць...

І трэба яшчэ паказаць беларусу са сцэны, што ён — чалавек, і што ён павінен мець свой чалавечы гонар, і павінен дзетак сваіх гадаваць з сумленнем [...].

І трэба паказаць беларусу са сцэны, што ён мае слаўнае прошлае, што яго дзядоўшчына нараўні з

крапчэйшымі старонкамі пад сонцам была, і што карані нашы родныя беларускія не згнілі, трывалы і цягучы, маюць жывы сок і жывую сілу і ўжо добрыя адросткі к небу гоняць, а з часам над імі крэпкія, высокія, прыгожыя дрэвы закрасуюцца...

І трэба паказаць беларусу са сцэны, што за чалавек той, каторы спіць без канца-краю, якой вартасці такі чалавек і што чакае яго ў будучыні...

І трэба паказаць са сцэны беларусу, у які бок кіравацца яму, па якому «шляху жыцця» пайсці і якім чынам сілы фізічнай і духоўнай набрацца...

І трэба крыкнуць беларусу са сцэны, каб ён гарэлкай не заліваўся; трэба сказаць яму і многа-многа чаго другога...

Патрэбна паказаць з беларускай сцэны другім народам зямным, што за народ такі ёсць беларусы, што маюць яны не толькі «очень смешные анекдоты и весьма странные суеверия», а й нешта палепш ад жарту і забабонаў, нешта гэткае, прад чым прыемна адчыніцца агульналюдская скарбніца векавечных здабыткаў культуры і цывілізацыі, а не то што...

## V

Тэатр наш павінен стаць Храмам Нашага Адраджэння. Тэатр гадуе маладых байцоў за праўду і дае грамадзянскую моц людзям у пары, але занепаўшым, ён абгладжвае на добры лад характары людзей і народаў.

Толькі трэба памятаць, што тэатр — дамаская сталь, вострая з абодвух бакоў. У тэатры можна прыносіць ахвяры Духу Чыстаты і Праўды, можна пакланяцца і Ваалу з Астартай.

Вот мы цяпер, калі адрадзіліся, і павінны будаваць свой тэатр па-чалавечы, добра, каб ён быў храмам, а не бруднай стайняй Аўгія, і не памяшканнем злога бога Арымана, і не кутам дурнога скалазубства.

## VI

Я не кажу, што наш тэатр павінен мець кірунак толькі практычна карысны. О не, гэтым бы я выняў першы камень з падмуроўку нашага развіцця і ўка-

рацiў бы роднаму тэатру веку. Дык жа не, дык жа я, усё роўна як на добрых хрэсьбiнах, кажу пры нараджэннi нашага тэатра: «Вялiк расцi, здароў будзь, дай табе божухна доўгi век!» Гэта значыць, што наш тэатр не павiнен закiдаць шлях мастацкi, ён нават павiнен здаволiць як людзей, каторыя гавораць: «Лепш здабудзь гаршчок юшкi, чым дарма трацiць час на вершык», так i людзей, што даводзяць: «Мастацтва для мастацтва».

Бо ведама ўсiм, якое вялiкае значэнне мае тэатр у жыццi i што чалавеку, апрача паўмiскi юшкi, патрэбна i страва для душы. Значыцца, тэатр наш, калi пачне развiвацца далей, пэўне будзе мець i шырэйшую дарогу, будзе здавальняць людзей з рознымi бажаннямi. Кiрунак нашага маладога тэатра павiнен быць жыццёвамастацкi з дэвiзам: «Падняць беларуса да iдэальнага чалавека!»

I пакуль што адправы ў нашым Храме Адраджэння адны: цудоўнымi ў мастацтве абразамi паказваць беларуса са ўсiх бакоў i прамываць яму вочы.

## VII

Мы забылi сваю мову; старадаўная сiла i арыгiнальнасць яе i гладкая, гучная форма ў доўгiя часы нашай «татаршчыны» патроху псавалася...

Тэатр наш павiнен ачысцiць, абялiць мову i паказаць прад вочы людзей яе гучнасць i гiбкасць. Калi паслухаць як гаворыць [...] украiнец з наваротам на «паньску» мову, дык можна дзiвiцца, што добрага знаходзяць у мове украiнскай. Але iдзiце слухаць гутарку ўкраiнца ў шчыра-ўкраiнскiм кутку, а потым паслухайце мову «Кобзаря», пачуйце ўкраiнскую мову ў украiнскiм тэатры, калi прыстаўляецца лепшы ўкраiнскi сцэнiчны твор, i ў вас сэрца зойдзецца ад гучнасцi i прыгажосцi ўкраiнскае мовы. Вы будзеце шаптаць святыя iмёны тых, што паднялi яе з пылу на торжышчы i як каштоўны дар божы зберaглi, i сэрца ваша будзе балець за тых, што ў духоўнай слепаце памкалiся i памкаюцца аддаць гэту лепшую на свеце мову забыццю.

Дык i нам, беларусам, каторыя маем мову, што як родная i не горшая сястрычка мовы ўкраiнскай, нам

пры распачатку свайго тэатра трэба дбаць аб гучнасці і чыстаце сваёй мовы і аб той яе ў паўсёдным жыцці гумарыстычна-наіўнай сіле, што выдзяляе яе сярод усіх моў славянскіх.

Пісьменнік наш, пішучы драматычны твор, мае доўг перад Беларуссю абглядзіць, як дарагі камень, кожнае слоўца, зважыць, абсмакаваць і ўцяміць сілу яго. Ён павінен дбаць аб прыгажосці мовы непрыдуманай, а праўдзівай, бо прыдуманае-няўдалае ў мове дужа прыкра; ёсць у расейскіх пісьменнікаў творы са «стылізацыяй», ад каторай твор здаецца быццам-то перакладзеным з другой мовы. Пісьменнікі нашы павінны ведаць той багаты славесны скарб, што сабралі дагэтуль на нашай ніве шаноўныя за гэткую працу дабрадзеі: Насовіч, Шэйн[150], Раманаў, Карскі[151] і др. Пісьменнікі беларускія! пільней прыслухвайцеся к мове людзей нашых на рынку, на кірмашы і ўсюдых-усюдых, і тыя, што жывіцё на захадзе Беларусі, даведайцеся, як гавораць на яе ўсходзе, а ўсходнія пабывайце на захадзе. Як кругаварот крыві ў целе чалавечым дае здароўе арганізму, так гэты пераліў нашых сіл на Беларусі аджывіць арганізм Беларусі і зробіць яго дужэйшым.

А вы, жрацы ў Храме Нашага Адраджэння, каторые ўжо ёсць і каторых яшчэ народзіць бог, вы, лепшыя пчолкі з рою млада-беларусаў, мастакі і штукаркі тэатра беларускага, вы асабліва вучыцеся мове і дбайце аб яе сіле і прыгажосці.

Вы, настаўнікі красамоўства і прыгожай гаворкі, тое, што вы скажаце добра са сцэны, з вялікаю сілаю ўкладзецца ў душу беларускую. Гэта мае ой якую вагу цяпер, у нашы ўжо, дзякуй богу, даволі развіднеўшыя досвіткі. Сумна, калі ўсенародна калечыцца наша мова, сэрца весяліцца, калі чуем мову слаўную, правільную. У «Нашай ніве» раней пісалася, як дрэнна некалі ў Пецярбурзе гаварылі на сцэне пабеларуску; але вот у астатнія часы, на аматарскай сцэне ў Вільні можна было ўжо пачуць ад большай часткі мастакоў і штукарак даволі ладную беларускую гаворку.

А, напрыклад, у мове штукаркі М. вуха радасна і пільна лавіла і прыгажосць разважнай беларускай інтанацыі і чыста беларускага складу са смакам сказаць у глаголе «іць» або «ыць», дабавіўшы ядрэнае

беларускае «р» і дужую сіпяшчую «шч» з цікавым і практычным «у» (крычаць, крычаў; «Каб я па смерці бога так бачыла, як я буду цябе аж да самай смерці любіць і шанаваць, мой ты галубок міленькі, залаценькі, брылянтовы...» (словы Пронкі, «Хам»).

## VIII

Цяпер украінская песня ў славе і пашане, пяюць яе далёка за межамі Украіны. А ці даўно тое было, што аб песні ўкраінскай шырокае грамадзянства і не чула і калі гэта песня была толькі добрым матэрыялам для этнографа, а пеў гэту песню сумны «хлебароб», ды адзінота-чумак у шырокім стэпе са сваімі «валэ», ды адвага-запарожац, ды цёмнавалосая з глыбокімі вочкамі вясна — Маруся.

Так і нам задурылі галаву, што песня наша аднатонна... Эх, вы! Калі змяшаць многа колераў, то такcама выйдзе шэра. Ды і хто, папраўдзе, многа чаго знаіць аб беларускіх «аднатонных» скоках і аб беларускай песні? А ўжо аб іх у вялікім свеце летась гаварылі: «Под этим внешним однообразием какая буйная кипит жизнь с разнообразными запросами и оттенками...» Што дзівіць, ёсць беларусы, каторыя, вылецеўшы з роднага гнязда з яшчэ жоўценькай дзюбачкай і саўсім не ведаючы свайго гнязда, гаворaць: «Я — сам белорус, но знаете ли, не могу скрыть, что белорусских песен очень мало, да и те неинтересны». Паночкі, калі спаткаеце гэтага блазнотку, дайце вы яму хаця «Песни белорусския» Насовіча, або Раманава, або яшчэ якога этнографа, пакажыце яму нашы песні з нотамі, гукніце вы яго на беларускую вечарынку, няхай ён пераканаецца, што неахайна лжэць. А то прывядзіце вы яго к нам у слаўную нашу Мсціслаўшчыну, ці ў другі куток Магілёўшчыны, няхай ён пасмакуе, які пышны там культ «свадзёбных» песень, няхай ён пасядзіць у цікавейшай оперы — на беларускім вяселлі.

Дык вот трэба, каб са сцэны беларускага тэатра палілася беларуская песня, каб ад яе павеяла на людзей араматным пахам беларускай народнай паэзіі, каб пачулася ў ёй турлычлівая песня жаўраначка пад вясенніх небам над зялёнай рунню, каб у ёй пачуўся і далёкі спакойна-тужлівы гук бяроставай

трубы хлопчыка, што кароў пасе каля рэчкі, і шум бясконцы лясоў непраходных, і «шэпты спелых каласоў», і звон сярпа, і «ўжык! ды ўжык!» касца ў дуброве, каб чалавек пазнаў у ёй красу беларускіх палёў з горкамі-валатоўкамі ды курганкамі старасвецкімі, лажчынкамі, мурожкамі, сенажаткамі, гайкамі, каб у ёй заблішчэла серабром ціхая рэчка, у каторую ціхамірна глядзіцца старая верба, а хлопчык сядзіць на беразе і ў дудачкі іграе...

І мы павінны самі смакаваць і людзей частаваць сваёй народнай песняй. І тут мне прыпамінаецца звертанне дзядзькі Раманава да «дщерей белорусских», каторых цяпер многа сярод вучыцелек, курсістак, чаму ж не пяюць песень родных пад музыку фартэпіяна, скрыпкі і так. А ўжо потым будзем мы пець творы нашых песняроў, пакладзеныя на ноты, бо я відзеў, як на некалькі соцен людзей у зале зрабіла большае ўражанне і больш падхапіла наша «Чачотачка», чымся «А хто там ідзе?», дайжэ гэткая глыбокая па думцы песня, але на шкоду з труднай музыкай і нялюбымі троху прастаце-беларусу закручанымі зваротамі мовы («на ў крыві нагах»...). Бо каб захапіць гэткаю песняй, як прыгожай песняй, трэба быць не абы-якім спеваком і мець у душы святы агонь, а шчыра-беларускі матыў «Чачотачкі» сам сябе абароніць.

## IX

Што сабе думаюць тыя з нашых пісьменнікаў, што сыплюць вершык за вершыкам і, маючы здольнасць да больш важнай і сур'ёзнай работы ў пісьменстве (аб чым гавораць іншыя з іхніх вершаў), не хочуць шырэй паглядзець на сваё значэнне для Бацькаўшчыны і забываюцца на сваю павіннасць прад ёю — працаваць так, каб толк выхадзіў? Браты! [...] Не трацце грошы на дзесяціграшовыя журналы пакалечанага жанру, а гадуйцеся на чытанні класікаў і ўдыхайце свежае паветра народнай паэзіі, пазнавайце прыгажосць гэтай паэзіі, а маючы ў сабе карані гэтай паэзіі, тчыце праўдзіва-мастацкія ўзоры беларускага жыцця. Працуйце пяром так, каб творы вашы красаваліся на пачэсным месцы ў багатай кватэры інтэлігента-беларуса і знаходзілі б

шчырае спатканне пад самай беднаю стрэшкаю маламожнага селяніна. Замест таго каб напісаць адзін ладны верш, а ўслед пусціць дзесяць дрэнненькіх з перагукамі аб тым самым, працуйце лепей, напрыклад, над драматычным творам для народнага тэатра.

Вучні-беларусы сярэдняй школы ў нашым краі любяць ставіць на сцэне сваіх вучылішч разам з расейскімі творамі і творы ўкраінскія. Чаму так? А таму, што гэтыя творы троху-многа замяняюць ім патрэбу ў творах родных-беларускіх, каторых няма...

Пісьменнікі беларускія! Паклапаціце аб тым, каб тэатр наш здаволіў мнагаможнага і бабыля, гарадскога чалавека і дзеравенскага, старога і малога...

А найскарэй давайце страву тым, што прачнуліся, і тым, што ўстаюць яшчэ,— яны пойдуць на работу, дык есці хочуць, падкрапляйце іх.

Гадуйце нашу надзею — дзетак нашых.

Нясіце яду Беднаму Народу, што праз цэлыя вякі знае і гаворыць два словы: «Я галодзен!» Карміце яго хлебам, бо ён відзеў адны камені.

Шукайце брату свайму дарогу да праўды. І памятайце: не будзеце вы шукаць яе або станеце дрэнна шукаць, абы-як,— бог вас пакарае.

А народ усё ж ткі знайдзе сваю праўду [...].

# БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА ПАСЛЯ «НАШАЕ НІВЫ» [152]

**(Агульны агляд)**



агэтуль не даследавана пытанне, як беларускія паэты і пісьменнікі прынялі імперыялістычную вайну. А ў сувязі з гэтым пытаннем цікава было б прасачыць у сусветнай гісторыі літаратуры, як, наогул, уплывае на літаратурную творчасць вайна, рэвалюцыя і ўсякая вялікая катастрофа ў жыцці людзей. Каб толькі збольшага ўзяць усе лепш вядомыя прыклады ад Дантэ і да нашых дзён, дык можна сказаць, што творчасць пісьменніка ў часе катастрофы залежыць ад таго, як яго індывідуальнасць успрымае катастрофу, і ад таго, у якой меры катастрофа зачапіла яго асабістае, класавае і нацыянальнае жыццё. Агулам кажучы, у першую пару імперыялістычнае вайны, ад яе пачатку да канца «Нашае нівы» (1914—1915), адны беларускія паэты і пісьменнікі або змяншаюць сваю мастацкую прадукцыю, або зусім перастаюць пісаць — у залежнасці ад свайго настрою ў часе крывавых дзён ці ў залежнасці ад вонкавых прычын, як быццё ў арміі і на фронце; другія нейкі час спрабуюць яшчэ сказаць нешта сваё аб вайне, але гэта найчасцей ім мала ўдаецца, і яны або таксама зусім сціхаюць, або даюць вельмі асабістую лірыку, далёкую ад грамадскага жыцця. Тым часам расійская вайсковая цэнзура страшэнна лютуе, але ў тоне публіцыстаў «Нашае нівы» чуецца прытоенае чаканне нейкага канца і нейкага пачатку, бо рэдакцыя «Нашае нівы» [...] трымалася «паражэнчае» палітыкі, лічыла, што рэвалюцыя ў Расіі, а значыцца і вызваленне Беларусі, можа быць у выніку толькі няўдалае для Расіі вайны.

Што да паасобных пісьменнікаў, дык Купала піша гэтым часам свае «Песні вайны» (гл. збор. «Спадчына») і сваю найлепшую лірыку кахання (гл. таксама там). Наколькі можна сказаць з памяці, не маючы пад рукамі належных матэрыялаў, адносіны Коласа да вайны былі ў творчасці невыразныя або зусім нявыяўленыя, і толькі ў канцы імперыялістычнае вайны ён [...] пытаўся: «За што лілася кроў людская?» Багдановіч, мусіць, таксама прыняў вайну даволі бяздзейна і без асаблівае цікавасці. Бядуля напісаў цяпер некалькі вершаў з фантастычнымі вобразамі чалавечых бітваў («Волат», «Ад крыві чырвонай», «Арліхі»); потым вайна знішчыла ў ім ідэалістычны погляд на чалавека («Рассеяўся туман», «Кат»). Што да Цішкі Гартнага, дык ён тады быў яшчэ надта нязначнаю велічынёю ў беларускай літаратуры; яго настрой у часе крывавых баёў увосень 1914 г. відаць хоць бы з напісанага ім тады вершу «Капыль», які, аднак, быў надрукаваны толькі значна пазней («Вольная Беларусь», № 22 за 1917 г.); тут звычайны нацыянал-адраджанізм, збітыя паўторы [...]. Цікава было б ведаць, як глядзела тады на справу рэвалюцыянерка Цётка, яна жыла ў Вільні, а таксама Алесь Гарун, што быў тады ў высланні ў Сібіры. Наогул жа, нічога асабліва мастацкага, апрача некаторых вершаў Купалы, гэтым часам у беларускай літаратуры не з'явілася. Нарэшце і «Наша Ніва» перад самым прыходам у Вільню немцаў, у канцы лета 1915 г., была зачынена [...].

* * *

Калі ўвосень 1915 г. фронт адрэзаў заходнія часткі Беларусі ад усходніх, Вільня перастае быць даўнейшым літаратурным асяродкам — адзіным для ўсяе Беларусі. Гэты падзел Беларусі на ўсход і захад цягнецца з рознымі зменамі аж дагэтуль, праз увесь час маючы дужа адмоўнае значэнне ў справе належнага развіцця беларускае літаратуры [...]. Бясчасная смерць Цёткі (5 лютага 1916 г.) была вялікаю стратаю для беларускае літаратуры і асабліва ва ўмовах нямецкае акупацыі. Тым часам рух тут робіцца палітычна больш выразным [...], тут выходзіць газета «Гоман», працуе выдавецтва, адчыняюцца на-

родныя школы [...]. Потым страшэннае галадаванне душыць усё жыццё пад нямецкай акупацыяй, і праца ледзь-ледзь варушыцца [...]. Трэба прызнаць, што віленскі перыяд 1915—1918 гг. застаецца і дагэтуль дужа мала высветленым. Аднак жа, агулам можна сказаць, што быў ён працягам нашаніўства, толькі з пэўнымі адменамі, залежнымі ад вайны і палітыкі.

* * *

На ўсход ад фронту пасля восені 1915 г. былі Купала, Колас, Багдановіч, Бядуля, Гарун, [...], Ядвігін Ш., Каганец [153], Паўловіч, Галубок [154], Гартны і Гурло [155] і іншыя паэты і пісьменнікі, а таксама Тарашкевіч [...], але не было тут гатовага асяродку і наогул не было тут, аж да рэвалюцыі ў лютым 1917 г., блізу ніякіх палітычных магчымасцей. Не знайшлося тут выдатных правадыроў і арганізатараў, дый не кожны мог узяцца за згуртаванне сіл, калі быў ён у Сібіры або на фронце, або дзесь на чужыне. Мала таксама высветлена, што рабілі ў гэтым кірунку мінскія беларусы на працягу 1916 г., бо ўсё ж там, здаецца, былі Ядвігін Ш., Каганец, Паўловіч, Галубок, а яшчэ Купала, праўда што — змабілізаваны. Мусіць, палітычныя ўмовы, у сувязі з блізкасцю фронту, былі тут гэтакія, што аб якой-небудзь значнейшай беларускай працы нельга было і думаць. Былі спробы наладзіць працу ў Петраградзе, але дзеля перашкод з боку ўлады, расцярушанасці беларускіх сіл і неспрактыкаванасці пачынальнікаў, яны скончыліся выданнем у 1916 г. некалькіх убогіх нумароў «Светача» (лацінкаю, выдаваў кааператар Адварды Будзька) і «Дзянніцы» (выдаваў Жылуновіч). Абедзве газеткі імкнуліся даць працяг той працы, якую рабіла «Наша ніва». Праз увесь 1916 год, як потым праз увесь 1917 і частку 1918 г., Купала не напісаў ніводнага радка дзеля нейкіх, і дагэтуль невядомых, прычын. Коласа не чутна было, дзе ён. І ўсе паэты і пісьменнікі далі цяпер самую малую прадукцыю (пісалі Багдановіч, Бядуля).

* * *

Пасля рэвалюцыі ў лютым 1917 г. пачынаюць рупна гуртавацца беларускія сілы Беларусі на ўсход ад фронту, не маючы пакуль што і далей ніякае сувязі

з Беларуссю пад немцамі. Удзельнікі руху на ўсход ад фронту былі так раскіданы па абшарах усяе Расіі, сувязь, без асяродку, так парвалася, што не ведалі, які таварыш яшчэ ёсць на свеце, а якога ўжо няма. І вось пачынае тварыцца асяродак у Мінску. З восені 1916 г. тут жыў Багдановіч, але вясною 1917 г. ён пакінуў працу назаўсёды, і яго смерць была вялікаю стратаю тут, як смерць Цёткі год з нечым таму назад там [...]. Пачынае выходзіць тыднёвік «Вольная Беларусь», і ў гэтым тыднёвіку друкуюцца творы Гаруна, Бядулі (яны жылі тады ў Мінску), Коласа (ён быў тады на румынскім фронце), Гартнага (з Петраграда) і іншых [...]. Агульны тон беларускае творчасці ў 1917 г.— выключна нацыяналадраджэнцкі ў ідэалогіі і наогул нашаніўскі ў мастацкіх мэтаімкненнях. На правялікі жаль, нават сам Цішка Гартны быў увесь гэты час нават яшчэ больш заядлым нацыянал-адраджэнцам, чым даўней, да імперыялістычнай вайны.

(Р. S). У 1917 годзе беларусы спраўлялі 400-годдзе беларускіх выданняў, што выдаў Францыск Скарына ў Празе, у Чэхіі, але святкаванне ў тагачасных умовах блізу не выйшла за межы юбілейных артыкулаў.

* * *

У канцы месяца лютага 1918 г. немцы забралі Мінск і потым пасунуліся далей, аж да Оршы. Цяпер беларускае палітычнае жыццё мела ажно тры асяродкі: Вільня, Мінск і Масква (спачатку — Петраград), у залежнасці ад палітычных абставін ішло і літаратурна-выдавецкае жыццё. Віленскі асяродак, змучаны, выбіты з духу, пачынае цяпер узірацца на Мінск. З літаратурнага і агульна-асветнага беларускага жыцця ў 1918 г. у Вільні трэба адзначыць незвычайна важную падзею: тут выйшла цяпер з друку беларуская граматыка Тарашкевіча, і беларускі правапіс з гэтага года ўзыходзіць на навукова аформлены грунт і робіцца аднолькавым і абавязковым дзеля ўсіх беларусаў. У Мінску беларускі нацыянальны рух неспадзявана набіраецца ў гэтым годзе значнае моцы [...]. Тут і далей выходзіць літаратурны тыднёвік «Вольная Беларусь», апрача таго, пачынае выходзіць першая штодзённая газета «Беларускі шлях», з ар-

(ад 1922 г., «Выбраныя вершы»), больш самастойнасці і арыгінальнасці, цвёрда выяўляецца пралетарская ідэалогія і даецца вельмі мастацкая форма, а калі паэт часам мімаволі каго і пераймае, дык гэта расійскіх савецкіх паэтаў. З боку зместу тут найчасцей знаходзім ідэалізаванне беларускіх паўстанцаў, камсамольскую радасць жыцця, рэвалюцыйнае змаганне. З боку формы тут усё тое, што знойдзем і ў паэмах. Паэмы ў яго, як было казана, выглядаюць даўжэйшымі лірычнымі вершамі, цыкламі, нізкамі лірычных вершаў з болей-меней агульным зместам. Сюжэту ў іх фактычна няма або сюжэт выступае ў іх толькі агульным контурам, часам нейкімі агульнымі напамінкамі. Прычына гэтаму, мусіць, тая, што ў гэтых паэмах рэвалюцыйная радасць такая вялікая і мімаволі напышлівая (пафас), што не дае яму магчымасці звярнуць увагу на распрацоўку сюжэту. І ўсюды ў паэмах аўтар больш выяўляе свае ўласныя думкі і пачуцці; паэмы яго дужа лірычныя, суб'ектыўныя. Тэма ва ўсіх яго паэмах адна: рэвалюцыйнае змаганне беларускае беднаты за сваё вызваленне з сацыяльна-эканамічнага і нацыянальнага ўціску — і то буйная, то ціхая радасць паэта з гэтае прычыны. І герой ва ўсіх паэмах таксама адзін, як гэта першы сказаў А. Бабарэка (гл. яго рэферат на Першым Усебеларускім з'ездзе «Маладняка», 25.XI. 1926 г., «Бюлетэнь з'езду», стар. 63). Герой гэты — беларуская бедната. У «Босых на вогнішчы» яна яшчэ неарганізаваная, кідаецца ў вірах рэвалюцыі і туды і сюды. У «Чырванакрылым вешчуне» яна імкнецца да супольнасці з сусветным пралетарыятам, тут яна, у асобе свайго песняра, фантазіруе аб тым часе, калі сусветная рэвалюцыя знішчыць межы між народамі і між класамі і наогул між людзьмі. У паэме «Ленін» яна перажывае ўтрату правадыра. У «Беларусі ланцюжнай» яна імкнецца да «смычкі» з гарадскім пралетарыятам, што паэт прыгожа заве «шлюбам» вёскі з горадам. У паэме «Марына» яна ў паўстанні; гэта, так сказаць, развіты эпізод з «Босых на вогнішчы», прычым паэт ужо болей канкрэтна, ужо болей акрэслена, азначана, выразна малюе вобразы змагання. У паэме «Карчма» яе жыццё ахопліваецца паэтычным аглядам праз усе апошнія гады і асабліва выстаўляецца ў факце яўрэйскай зя-

мельнай каланізацыі, бо пад беларускаю беднатою паэт разумее беднату ўсіх нацыянальнасцей, якія жывуць на Беларусі. Адным словам, паэмы ў Міхася Чарота як бы часткі адной агульнай паэмы, з адною тэмаю, з адным героем і з аднаго жыцця.

Паэма «Босыя на вогнішчы» з'явілася канчатковым адыходам аўтара ад старых беларускіх матываў, і з яе фактычна пачынаецца ў нас новы, паслякастрычніцкі перыяд. Бо калі ў зборніку «Завіруха» (1922) яшчэ шмат матываў нацыянал-адраджэнцкіх, вузка-сялянскіх і інтэлігенцкіх, індывідуалістычных, дык у вострай супярэчнасці з гэтымі матывамі стаіць першая паэма песняра «Босыя на вогнішчы», напісаная і выдрукаваная ў тым самым 1922 годзе, пераломным годзе ў гісторыі ўсебеларускага культурнага будаўніцтва і ў канчатковай дыферэнцыяцыі галоўных беларускіх культурных сіл. Тут у 20-ці раздзелах, напісаных вершам рознага размеру (у залежнасці ад характару зместу), дадзена некалькі стыпізаваных вобразаў і пачуццяў з часу класавага змагання і акупацыі на Беларусі за апошнія гады. Апрача галоўнага героя паэмы, «босых», тут бачым, хоць каротка, колькімі радкамі, але ўдала характарызаваных паноў, духавенства, афіцэраў, спекулянтаў. І канчаецца паэма песнятворчаю вераю паэта ў тое, што перамога яго класа над ворагам прыблізіла час тавызвалення ўсяго чалавецтва, канчаецца гімнам таму, у што паэт і яго клас вераць і за што змагаецца.

В. Кнорын аб паэме «Босыя на вогнішчы» пісаў так: «Тым болей цэнім мы першага паэта, які адышоў ад народніцкіх матываў, які найперш у беларускай паэзіі ўзяўся пяяць пра басоту — пралетарыят, які знайшоў у сваіх лепшых творах выяўленне дзеля пашае пралетарскае рэвалюцыі ў яе паўным развіцці з яе шматвобразным рытмам». «Такім паэтам ёсць тав. Чарот». «Калі ў яго даўнейшых вершах яшчэ аддаецца падатак народніцтву, чуецца сувязнасць старой формы з старымі прынцыпамі паэзіі, дык паэма «Босыя на вогнішчы» з'яўляецца ўжо зусім цэльным і вытрыманым творам пралетарскае літаратуры, глыбокім па змесце і багатым па форме, адбіваючым новы размах жыцця, новыя гарадскія шумы і рухі».





Хата ў Малой Багацькаўцы, дзе з 1924 г. жылі бацькі Максіма Гарэцкага. Сюды часта прыязджаў Максім Іванавіч

---

Бацькі Максіма Гарэцкага — Іван Кузьміч (1856—1945) і Ефрасіння Міхайлаўна (1864—1935)



Браты Максіма Іванавіча — Парфір Іванавіч, Гаўрыла Іванавіч і сястра Ганна Іванаўна. 1921 г.

Школа ў Вольцы, дзе ў 1903—1908 гг. вучыўся Максім Гарэцкі





Максім Гарэцкі — вучань агранамічна-каморніцкага вучылішча. 1913 г.



Максім Гарэцкі ў шпіталі.
Вільня,
1914 г.




Вокладка першага выдання кнігі «На імперыялістычнай вайне». 1926 г.



Максім Гарэцкі на вайсковай службе. 1916 г.




Руска-Беларускі
СЛОЎНІК




Вокладка руска-беларускага слоўніка братоў Гарэцкіх. 1918 г.



Максім
Гарэцкі
ў Вільні.
1921 г.





Жонка Максіма Іванавіча Леаніла Усцінаўна Чарняўская-Гарэцкая з дзецьмі Галінаї (злева) і Леанідам. 1925 г.

Максім Іванавіч і Гаўрыла Іванавіч Гарэцкія. 1926 г.



Маці Максіма
Гарэцкага
Ефрасіння
Міхайлаўна.
1925 г.



Максім Гарэцкі і Уладзімір Дубоўка. 1928 г.




Вокладка зборніка Максіма Гарэцкага. 1926 г.










Кнігі Максіма Гарэцкага, выдадзеныя на рускай, украінскай і літоўскай мовах



Максім Гарэцкі. 1937 г.

Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі з пляменнікамі Галінай і Леанідам. Ленінград, 1940 г.





Леаніла Усцінаўна Гарэцкая з дачкой Галінай Максімаўнай Гарэцкай. 1968 г.

«Босыя на вогнішчы»,— піша далей В. Кнорын,— гэта не паэма арганізаванага гарадскога пралетарыяту вялікіх прадпрыемстваў, гэта паэма басоты — нашай сялянскай беднаты, нашага папаўпраты і неазначанага пралетарыяту. Але ў Беларусі гэта і ёсць самая перадавая і самая рэвалюцыйная сіла. Тыя, што хацелі пісаць пра гэтую беднату, застаючыся ў народніцкай ідэалогіі, маглі толькі плакаць, іх паэзія ў цяперашні час рэакцыйна па істоце». «М. Чарот адчуў і выявіў, як гэтая басота падлягае сусветнаму рэвалюцыйнаму руху, дыктатуры гарадскога пралетарыяту, як яе жыццё пачынае цячы ў новых гарадскіх рытмах» («На пути к белорусской пролетарской поэзии», стар. 44—45).

Мімаходам трэба заўважыць аб некаторай неканкрэтнасці, не поўнай выразнасці і азначанасці вобраза беднаты ў паэме, што, мусіць, і з'яўляецца прычынай таго, што ў Кнорына — гэта рэвалюцыйны авангард на Беларусі, а ў Жылуновіча, напрыклад, гэта — басякі і хуліганы (гл. яго паказаны вышэй артыкул, «Полымя», № 1, 1922 г.). Некаторая паэтычная неканкрэтнасць вобразаў прызвычаена і іншым паэмам Міхася Чарота. Ад чаго яна залежыць? Ці ад некаторага няведання аўтарам справы і наогул ад яго індывідуальнасці, ці ад узятага ім жанру і яго поглядаў на гэты жанр? Магчыма, што тут сышлося ўсё патроху ды яшчэ паваліўся пястрыманы рэвалюцыйны пафас песняра, і гэты пафас перашкодзіў яму канкрэтызаваць некаторыя вобразы, удакладняць іхняе мастацкае значэнне, як і дэталізаваць, упадрабніваць сюжэт.

Паэму «Ленін» напісаў М. Чарот у студзені 1924 г., мусіць, пад уражаннем ад смерці Леніна. Зараз жа яна была і надрукавана («Полымя», № 1, 1924 г.), а ў канцы 1926 г. дачакалася нарэшце асобнага выдання (гл., між іншым, рэц. [...] у «Савецкай Беларусі», № 294 за 1926 г.).

У паэме апавядаецца аб вёсцы, імперыялістычнай вайне, на якой у селяніна Мікіты забілі двух сыноў. Трэці сын вярнуўся з вайны бальшавіком, прынёс у вёску партрэт Леніна і новыя думкі і словы. Потым — мірнае жыццё, сын-бальшавік у горадзе на фабрыцы, а ў вёсцы ідзе землеўпарадкаванне, заможныя сяляне ціснуць бедных, Мікіта бачыць гэта і хо-

ча ехаць да Леніна і сына. Сяляне пішуць Леніну ліст. Аж Мікіта даведваецца, што Ленін захварэў. Пастанова — паслаць Мікіту цераз год. Трывога, ці палепшае Ленін на здароўі — і нарэшце жахлівая вестка: «Ленін памёр».

Гэтая паэма дужа тыповая дзеля спосабаў, якімі карыстаецца Міхась Чарот у збудаванні сваіх паэм. Так, болей-меней, збудаваны ўсе яго паэмы. І тут шмат ува ўсім схематычнасці, фабула — толькі ў самых агульных рысах. Тым часам паэма робіць моцнае ўражанне, што дасягаецца ў ёй: важнасцю ўзятае тэмы; драматызмам чакання, надзеі, якая забіваецца катастрофаю; пафасам паэта, і хаця тут часам лішне многа саладковай слязлівасці, але пафас мастака ахарошвае нават прыкрасць ад гэтай слязлівасці; нарэшце, уражанне дасягаецца вельмі прыгожым наогул, хоць і троху напышлівым ды не заўсёды дагледжаным, стылем. Слабейшыя месцы там, дзе занадта голыя публіцыстычныя разважанні аўтара. Ёсць нацыянальныя матывы: «Ад веку мы спалі...» (стар. 8), «Новай, вольнай Беларусі» (стар. 22), але выяўлены яны дужа асцярожна. Напісана паэма вольным вершам (неаднакавыя стопкі і неаднакавы лік іх у рытмічных радках). Строфіка (звароткі) таксама вельмі вольная, часам нічым не звязаная і наогул неўгрунтаваная. Скрозь асанансы і алітэрацыі, сугучнасць галосных і зычных гукаў. Паэма дужа гучная, галосная. Вобраз у зваротцы «Было поле»... нагадвае «Слова аб палку Ігаравым» (хоць, замест «алавяным» збожжам, лепш было б — «сталёвым»). Асабліва блага ў гэтай паэме выглядае, калі прыгледзецца, слязлівасць: «Мікіта ў слёзы ўміг», «Праліў слёз лужу» (наогул недарэчны вобраз ад непрыемнай супярэчнасці між светласцю слёз і брудам лужыны, калі чалавек плача па нябожчыку-правадыру), і вёска «ліе за слёзкаю слёзку» зусім, як у Дуніна-Марцінкевіча. «Скіфія», «прарок», «слава прароку», «о неба! о зоры!», «без Леніна ні да парогу», «Ленін благаславіў» — усё гэта ў паэме дрэнна. Непраўдападобна, што Мікіта на каленях моліцца Леніну; дый трэба выкідаць падобныя рэчы з сучаснае паэзіі.

Паэма «Марына» вызначаецца найбольшаю вобразнасцю і музыкальнай звонкасцю, асабліва ў тых

месцах, якія набліжаюцца да народнае творчасці. Гэта твор высокамастацкі, нацыянальны і народны, але і тут ёсць недахопы, калі ўважаць недахопамі тое, што дзеянне развіваецца без належнае звязанасці і паступовасці або што атаманка Марына родзіць у паўстанні (разам з тым, гэта цікавая спроба ў аўтара — даць зусім новы тып беларускае сялянкі). А вялікае хараство ў такіх, напрыклад, выразах: «золак зоры з неба скінуў», «сцеле сцежку раніца», або гіпербалічны вобраз, калі Іван косіць каля Свіслачы, а чуе, што над Нёманам людзі галосяць, або «слухае Марына плач з-пад Белавежы».

Паэма «Беларусь лапцюжная» першы раз друкавалася ў «Маладняку», № 6 за 1925 г. Пісана яна, мусіць, хапаючыся, з карыстаннем даўнейшымі запасамі чаротаўскіх вобразаў і спосабаў, ужо паказаных у даўнейшых творах. Але форма кавалкаў моцная. Асобныя звароткі можна браць за эпіграфы, выслоўі, сентэнцыі. І ў гэтай паэме бачым схематызм, адцягненасць, неканкрэтнасць (вобразаў і думак).

Паэма «Карчма» хоць і мае аднастайны рытм (цікава, чаму гэта Чарот вярнуўся да старыны?), але ж вызначаецца вялікім хараством зместу і формы і мае нейкі асаблівы элегічны тон і настрой, блізу нідзе не папсаваны напышлівасцю і слязлівасцю.

Цяжка сказаць, у якім парадку можна было б паставіць чаротаўскія паэмы з мастацкага боку, бо ў творчасці паэта, побач з класічнымі старонкамі, часта чуецца недахоп культуры. Найбольш беззаганныя паэмы — «Марына» (па форме), «Карчма» (па змесце і форме), «Ленін» (калі выкінуць некаторыя няўдалыя радкі). А ў кожнай паэме: рэвалюцыйная рамантыка, пафас, драматычнасць, не надта глыбокі змест, але паважны ідэалагічны падыход, важнасць узятае тэмы, часам непраўдападобнасць, зазвычай — схематызм, адцягненасць, часта — пераймание народнае творчасці, усюды вольны верш (апрача аднаго выпадку — «Карчма») і наогул рытміка вершаў сучасная, асанансы, алітэрацыі, гучная музыкальнасць, так што трэба чытаць на ўвесь голас, перад вялікай аўдыторыяй, з боку гучнасці — гэта як бы магутны аркестр, якім кіруе

самавук. Нарэшце, можна адзначыць у Міхася Чарота імкненне да большае глыбіні. Невялікі размер паэм — якраз добра нашым часам. На жаль, бывае форма недагледжаная, неапрацаваная. Здаецца, што ён не можа сістэматычна працаваць. Стылістычныя спосабы ў яго, гэта, найчасцей — эпітэты, паўторы, параўнанні і розныя метафары. Эпітэты ў яго наогул даволі простыя, звычайныя (дзень новы, новыя ночы, век новы), але ўзмоцненыя другімі спосабамі, асабліва паўторамі, на якія Чарот часам занадта шчодры.

Паўторы — або чыста псіхалагічнага парадку, звязаныя адным паходжаннем з усім яго пафасам («Ой, Рахіль! Ой, шынкаркі дзіця!», «Многа згіне, згіне многа»), або залежныя ад пераймання народнае творчасці і, безумоўна, лепшыя («Каля рэчкі касец косіць, каля рэчкі касец косіць...», «Зашумеце, ды сыры бары, загрувэце, пяруны-громы...»). Метафары ён любіць ужываць вельмі яскравыя (неба абліта агнём — пажар, стогне віхар — бура-рэвалюцыя), як любіць гучнасць і ўва ўсім.

Мастацкая проза ў Міхася Чарота можа быць характарызавана гэткімі характэрнымі асаблівасцямі: шчыльная сувязь з жывым жыццём, рухавасць апавядання і дзеяння, цікавы сюжэт, часам драматычнасць і нават, на жаль, меладраматызм (як у паэзіі лішні пафас), гумар (які не так выразна ёсць і ў яго вершах і паэмах), светлагляд, вясёласць, фельетонны характар, публіцыстычнасць, агітацыйнасць, наогул пэўны элемент антыэстэтызму, залежнага ад публіцыстычнай тэндэнцыі, грубаватасць стылю, часам некаторыя неапрацаванасць, напрыклад, сюжэтная няцэльнасць і незакончанасць або павярхоўнасць і празаічнасць. (Між іншым, цікава, чаму ў яго апавяданнях няма лірызму? Адгэтуль пытанне яшчэ адно: ці мог бы ён пісаць паэмы без пафасу?). У апавяданнях ён часцей апісвае жыццё сялян і сялянскае інтэлігенцыі, дае супаставу старога і новага быту, паказвае зрэдку адмоўнае і ў новым быце, і ў новых людзях. Ён малюе змены ў жыцці і думках сялянства. Моладзь і незаможная частка сялянства бліжэй да рэвалюцыі. Старыя людзі і заможныя — далей ад рэвалюцыі, яшчэ знаходзяцца пад уплывам старых настрояў.

У зборніку «Веснаход» змешчаны такія апавяданні: 1) «Пасля буры» (сказ старога дзядулі) — рамантыка змагання з польскімі панамі. 2) «Да сонца» — рэвалюцыйная рамантыка, радасць вызвалення, першамаёвая радасць. 3) «Самалёт» — быццам нейкі чырванакрылы вяшчун, прылятае самалёт у глухую беларускую вёску, і яна далучаецца да сацыялістычнага будаўніцтва; вясёласць. 4) «Кірмаш» — поп, ацец Парфіры, якога варта параўнаць з папом Парфірам у Кузьмы Чорнага («Пачуцці»), напіваецца самагону; непрыстойныя прыпеўкі і нецэнзурныя выразы (стар. 23 і інш.); дужа грубы, прымітыўны гумар. 5) «Чалавек, які не радзіўся» — бюракратызм у нізавых савецкіх установах (валасці); пісар з прозвішчам Хапунчык; ізноў поп; старанны гумар. 6) «Споведзь самагоншчыка» — варта параўнаць, з боку літаратурнага прыёму, з апавяданнем З. Бядулі «Як я зрабіўся контрабандыстам»; і тут самагон (ад жадання палепшыць гаспадарку); п'янства, міліцыя, суд; лёгкі гумар і сатыра. 7) «Дзіўная заява» — непісьменнасць у вёсцы (уздумаем на «Кантракт» Т. Гушчы); заява — замест слоў малюнак: забітая свіння; гумар. 8) «Бацюшка» — антырэлігійная прапаганда; поп выракаецца сану і робіцца земляробам Пётраю. 9) «Сон Габруся» — дапамога галодным у Паволжы; літаратурны прыём — сон (як ёсць і ў паэме «Ленін». 10) «На Пасеках» — рэвалюцыйнае змаганне ў вёсцы. 11) «Непатрэбны чалавек» — бандыт, былы пан; настаўніца чамусьці забівае яго; меладраматызм. 12) «Апошняя ноч» — бандытызм, дэзерцірства; эфектны сюжэт, але меладраматызм. 13) «Талачка-шкрабалачка» — рэвалюцыя і вясковая інтэлігенцыя; канца няма, сюжэт незакончаны. 14) «Саматканая світка» — адмоўнасць у новым; варта параўнаць з «Галіфэ» З. Бядулі. 15) «Галя» — каханне, былыя людзі; тэндэнцыя аўтара тут досыць незразумелая.

Такім чынам, сюжэты ў Міхася Чарота найбольш, як і ў «Апавяданнях» З. Бядулі, або як і ў другіх нашых сучасных апавядальнікаў: змаганне з панамі і бандытамі, антырэлігійная прапаганда, сатыра на сабатаж, на самагон, на валакіту і да т. п.

Недапушчальную грубасць некаторых месц, на жаль, паўтораную і ў другім выданні «Веснахода»,

можна тлумачыць уплывам на аўтара з боку некаторых сучасных расійскіх пісьменнікаў, наогул характарам нашае эпохі і індывідуальнасцю аўтара, а магчыма, што і невытрыманасцю ў некаторых выпадках нашых крытыкаў].

Драматычная творчасць Міхася Чарота пакуль што яшчэ не мае нічога асаблівага, характэрнага, новага, сучаснага. Але п'есы яго вельмі жывыя і сцэнічныя.

На мове Міхася Чарота шмат расійскіх уплываў. Пажадана, каб нашы вучоныя, мовазнаўцы часцей пісалі на гэтыя тэмы.

# «МАЛАДНЯК» ЗА ПЯЦЬ ГАДОЎ 1923—1928 [178]

## Утварэнне «Маладняка» (1923)

эўныя элементы пралетарскай ідэалогіі спатыкаюцца ў некаторых беларускіх пісьменнікаў яшчэ ў нашаніўскую пару. Першае месца ў гэтым кірунку займала Цётка (Алаіза Пашкевіч), аб чым сведчаць яе рэвалюцыйныя вершы, абразок «Прысяга» і інш. Было гэтае наближэнне да пралетарскіх матываў часам і ў творчасці Купалы, [...] і ў творчасці менш вядомых аўтараў-нашаніўцаў. Яшчэ далей пайшоў быў тады ў пралетарскіх настроях Цішка Гартны, даўшы ў сваім зборніку «Pieśni» (1913) некалькі вершаў з перажываннямі беднага беларускага местачковага рамесніка.

Але толькі пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі з'явіліся тыя ўмовы, якія павінны былі прывесці беларускую літаратуру на пралетарскі шлях. І якраз Цішка Гартны, у сакавіку 1918 г., робіцца рэдактарам першае беларускае бальшавіцкае газеты «Дзянніца» (у Петраградзе) і на яе старонках змяшчае свае вершы, у якіх славіць Кастрычніцкую рэвалюцыю. Тым часам, на працягу 1918—1920 гг., беларускія пісьменнікі пралетарскай ідэалогіі ўсе свае сілы аддавалі на палітычнае змаганне — і мастацкую творчасць сваю рэалізавалі, галоўным чынам, у агітках [...].

Цяпер беларуская літаратура павінна была даць малюнак гераічнага змагання рабочых і сялян за сваё вызваленне, малюнак ніколі нябачанае ў гісторыі чалавецтва перамогі пралетарыяту над ворагам, яна павінна была паказаць, якімі шляхамі ідуць працоўныя масы ў Краіне Саветаў да сацыялістыч-

нага будаўніцтва, да новага жыцця, яна павінна была выявіць напружанасць пралетарскай ідэалогіі і ў саміх аўтараў.

Пісьменнікі-нашаніўцы, яшчэ вельмі шчыльна звязаныя з сваімі даўнейшымі традыцыямі, цяпер або перажывалі крызіс, або дапісвалі свае даўнейшыя творы, або пісалі ўжо як савецкія пісьменнікі, ды ўсё ж не маглі належна падысці да выконвання пастаўленае перад імі задачы.

Тады маладыя пачынаюць разумець, што, з аднаго боку, старым наогул цяжка даць тое, што патрэбна чытачу новае эпохі, што даць гэта ў належнай меры могуць толькі яны, маладыя, народжаныя ў літаратуры гэтаю эпохаю, і што , з другога боку, ім таксама цяжка гэта будзе зрабіць, калі яны не адсунуць у вачах чытача аўтарытэт старых убок з свае дарогі, калі яны не адваююць і не зоймуць у літаратуры сваё асобнае месца, калі яны не згуртуюцца ў свой асобны, моцна арганізаваны і яскрава выяўлены калектыў.

І вось 28 лістапада 1923 г. у Мінску, у клубе КІМа, сабралася шэсць маладых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў: Александровіч, Бабарэка, Вольны, Дудар, Пушча і Чарот і «пры святле агаркаў свечкі», як кажа адзін з гэтых таварышаў*, утварылі літаратурнае аб'яднанне «Маладняк». Потым да іх далучаюцца ўсё новыя і новыя маладыя паэты і пісьменнікі: Трус [179], Якімовіч, Падабед [180], Пфляўмбаўм [181], Чарнушэвіч, Чорны ды інш. Не рабілі маладнякоўцы перашкод уступаць у «Маладняк» і старэйшым пісьменнікам, і нейкі час у склад «Маладняка» ўваходзіў Бядуля, праз доўгі час былі ў ім Гурло і Галубок, а цяпер у склад «Маладняка» ўваходзіць стары нашанівец Янук Журба (Івашын) [182]. Але старэйшыя не выконвалі там хоць троху кіраўнічай або наогул дзейнай ролі,— гэтая роля належала выключна маладому літаратурнаму пакаленню, што прыйшло ў беларускую літаратуру ўжо пасля Кастрычніка. І так сталася, што «Маладняк» зрабіўся арганізацыяй выключна маладых пісьменнікаў, так

---

* Гл.: Бюлетэнь 1-га Усебеларускага з'езда «Маладняка». Мн., 1926 г., стар. 39.

сказаць — зрабіўся камсамолам у літаратуры. Былі потым некаторыя спробы надаваць назве «Маладняк» тое значэнне, што гэта ёсць маладое ў літаратуры не ў сэнсе маладога веку сяброў «Маладняка», а ў сэнсе навізны іхняга кірунку ў літаратуры. Але гэтыя спробы не мелі належнага арганізацыйнага афармлення. Памылкаю, безумоўна, было тое, што пралетарская літаратурная арганізацыя, якою меў быць «Маладняк», не ўцягнула ў свае шэрагі ўсіх — і маладых, і старых неарганізаваных пралетарскіх пісьменнікаў. Тады прынцып арганізацыі, паводле пралетарскай ідэалогіі, быў бы вытрыманы, і не было б погляду на «Маладняк» як на пісьменнікаў, якія не дараслі яшчэ да нейкай вышэйшай пісьменніцкай катэгорыі. Гэта асабліва патрэбна было зрабіць пры тых нешырокіх межах, у якіх знаходзілася тагачаснае беларускае літаратурнае жыццё, і пры адсутнасці такіх спрэчак за форму, якія не дапушчалі б у арганізацыю старога пралетарскага пісьменніка. Памылка гэта была не столькі з боку маладых, колькі з боку старэйшых пісьменнікаў пралетарскай ідэалогіі, якія не ацанілі належна факта арганізацыі «Маладняка» і тых перспектыў у беларускай літаратуры, што гэтым фактам вызначаліся і распачыналіся.

Погляд на «Маладняк» як па арганізацыю маладых, у сэнсе маладога веку, пісьменнікаў меў потым пэўнае адмоўнае значэнне ў справе выхаду з яго блізка ўсіх «старых» сяброў і ў справе тоіі ідэалагічнай нявытрыманасці, якая наглядаецца ў сучасным падзеле беларускіх пісьменнікаў на «Маладняк», «Узвышша» і «Полымя».

У сваёй першай дэкларацыі маладнякоўцы пісалі, што яны згуртаваліся дзеля таго, «каб ідэі матэрыялізму, марксізму і ленінізму ажыццявіць у беларускай мастацкай творчасці». Сваім заданнем яны ставілі даць беларускай літаратуры новы змест, «выціскаючы ўвесь чэмер і палын, што аддае затхласцю мінулага». У поглядзе на форму творчасці першая дэкларацыя «Маладняка» не вызначаецца гэткай жа катэгарычнасцю і выразнасцю, як у поглядзе на змест. Тут маладнякоўцы пісалі: «Асноваю нашай мастацкай формы, у якой мы ажыццяўляем нашы ідэі, з'яўляецца мастацка-праўдзівы вобраз, аб'ек-

тыўны, адпавядаючы рэальнасці. На розныя сучасныя мастацка-фармальныя кірункі ў літаратуры мы глядзім як на тэхніку мастацкай творчасці. Наш асноўны прынцып: форма павінна адпавядаць зместу, выкладанне — тэме. Мы — маладняк і фармальнай стараны мастацкай творчасці» *.

З восені 1923 г. пачаў выходзіць часопіс «Маладняк», у якім друкаваліся творы новага аб'яднання. Спачатку ён выходзіў як часопіс ЦК КП(б)Б і ЦК ЛКСМБ, а з лістапада 1926 г. выходзіць як орган Усебеларускага аб'яднання паэтаў і пісьменнікаў «Маладняк».

## Першы перыяд у жыцці «Маладняка» (1924—1925)

Першы перыяд у жыцці «Маладняка» абымае два гады, ад часу яго заснавання да 1-га Усебеларускага з'езда згуртавання (восень 1923 — восень 1925 г.).

Гэты перыяд характарызуецца арганізацыйнаю і масаваю працаю «Маладняка», шуканнем новых формаў творчасці і змаганнем за свае пазіцыі ў беларускай літаратуры.

Арганізацыйная і масавая праца «Маладняка» праз увесь час былі шчыльна звязаны, бо праз масавую працу, у значнай меры, ішло выяўленне новых літаратурных сіл з сялянскае і рабочае гушчы, якія ўліваліся ў шэрагі аб'яднання.

Гэтаму выяўленню і ўцягванню ў шэрагі «Маладняка» новых пісьменнікаў вельмі дапамагло арганізаванне філій «Маладняка», маладнякоўскіх студый пры іх і вялікага ліку літаратурных гурткоў імя «Маладняка», раскіданых па ўсіх кутках Беларусі і нават за яе межамі. Некаторыя філіі арганізаваліся яшчэ ў 1924 г., але энергічнае і планавае арганізаванне філій прыпадае, галоўным чынам, на вясну 1925 г., калі наладзілася больш-менш пашырэнне беларускай культуры ў далучаных у 1924 г. да БССР Віцебшчыне і Магілёўшчыне. Так, паводле вестак, часам супярэчных, якія можна было знайсці ў маладнякоўскіх выданнях, філіі арганізоўваліся

* «Маладняк», № 1, 1923 г.

ў такім парадку: у Маскве — красавік 1924 г., Віцебску — лістапад 1924 г., Полацку — 7 сакавіка 1925 г., Барысаве — 4 красавіка 1925 г.; Клімавічах — канец красавіка 1925 г., у Оршы — першая палова траўня 1925 г., Слуцку — травень 1925 г., Бабруйску — травень 1925 г., Гомелі — 1925 г. У Магілёве [183] і Мазыры [184] філіі арганізаваліся, мусіць, пазней.

Да 1-га з'езда (лістапад 1925 г.), значыцца, праз два гады з часу арганізацыі, у «Маладняку» было, як відаць са справаздачы на гэтым з'ездзе, 12 філій, з якіх некаторыя мелі пры сабе секцыі. Склад «Маладняка» характарызаваўся так: сяброў — 101, кандыдатаў — 89, студыйцаў — 128. У тым ліку было: партыйных — 26, камсамольцаў — 92, іншых — 74; з іх: рабочых — 20, сялян — 116, іншых — 55.

Між іншым, была спроба ўліць у «Маладняк» творчыя маладыя сілы Беларусі іншых галін мастацтва. Так, пры Віцебскай філіі была секцыя вобразнага мастацтва, былі яшчэ музычныя секцыі.

Былі тады таксама спробы ўвесці ў «Маладняк» літаратурныя арганізацыі беларускай моладзі іншых нацыянальнасцей — яўрэйскай і расійскай.

Цэнтральнае бюро «Маладняка» дапамагала акругам, пасылаючы туды сваіх працаўнікоў. Часова былі камандзіраваны на працу ў акругах і сябры Цэнтральнага бюро.

Сябры Цэнтральнага бюро рабілі выезды на правінцыю, у акруговыя гарады і нават мястэчкі, дзе рабілі даклады аб «Маладняку» і беларускай культуры, выдавалі на месцы, з сябрамі філій, часопісы, літаратурныя старонкі, насценныя газеты, знаёміліся на месцы з маладымі літаратурнымі сіламі і арганізоўвалі іх. Шмат выступленняў рабілі мінскія і акруговыя маладнякоўцы на фабрыках, у чырвонаармейскіх клубах, школах і г. д. Не толькі кожны акруговы горад, але і шмат якія мястэчкі бачылі маладнякоўцаў, слухалі іхнія даклады і творы. Такія выезды налічваліся ў першыя два гады існавання «Маладняка» некалькімі дзесяткамі, а выступленні — сотнямі. Маладнякоўцы ўзварушылі тады ўсю Беларусь, асабліва ўсходнюю яе частку, нядаўна перад гэтым далучаную (у пачатку 1924 г.). Можна смела сказаць, што самыя шырокія беларускія

масы першы раз пачулі тады сваё мастацкае слова з вуснаў маладнякоўцаў. У гэтым ёсць вялізная, яшчэ неацэненая заслуга «Маладняка». Шмат якія настаўнікі, выкладчыкі беларускае мовы і літаратуры шчыльней падыходзілі да пралетарскай ідэалогіі пасля выступленняў маладнякоўцаў у іхняй мясцовасці. Працаўнікі беларусізацыі пасля гэтых выступленняў прыціхалі. Рабоча-сялянская моладзь усіх нацыянальнасцей БССР пільней бралася за культурную працу і актыўна праводзіла беларусізацыю і працу сярод нацыянальных меншасцей.

У сваіх справаздачах на 1-м Усебеларускім з'ездзе маладнякоўцы, аднак, жаліліся, што працаваць ім было цяжка. Яны не жаліліся на цяжкасць змагання з варожымі савецкай уладзе або беларускай культуры элементамі, яны жаліліся на недастатковасць матэрыяльных сродкаў, нявытрыманасць старой крытыкі ў адносінах да маладнякоўскай творчасці, неразуменне іх з боку старых пісьменнікаў, сцюдзёныя адносіны з боку дзяржаўнага выдавецтва і да т. п.

З гэтых нараканняў трэба звярнуць асаблівую ўвагу на «нявытрыманасць старой крытыкі» і адносіны між «Маладняком» і старэйшымі пісьменнікамі. Гэтыя два моманты стаяць у сувязі з далейшым развіццём творчасці «Маладняка».

Некаторыя маладнякоўцы, у выніку сваіх творчых шуканняў, моцна захапіліся творчасцю модных тады расійскіх імажыністаў і з іхняга прыкладу пачалі ставіць у творчасці вышэй за ўсё вобраз і імкнуліся даць вобраз як мага больш арыгінальны і самабытны. Магчыма, што ад непрызвычаенасці да новае пабудовы вобразаў у паэзіі настаўнікі пачалі пісаць у газетах аб цяжкасці тлумачэння дзецям маладнякоўскіх вершаў, а некаторыя крытыкі пачалі звяртаць увагу маладнякоўцаў на тое, што падобныя вобразы цяжка ўспрымаюцца масавым савецкім чытачом, рабочымі і сялянамі, і, такім чынам, вершы ў крайне-імажынісцкай форме, як у Пушчы, не могуць лічыцца ідэалагічна вытрыманымі з боку формы, бо і форма, як і змест, ёсць тая ж ідэалогія, адно што менш выразна выяўленая. Праўда, часта пры гэтым ставілі маладнякоўцам у прыклад зразумеласці вершы Коласа і інш. нашаніўцаў, без належнага

зазначэння, што новая эпоха павінна ўсё ж мець і новыя формы, што маладнякоўцы добра робяць, шукаючы новых формаў. Часам і маладнякоўцы і іхнія крытыкі забываліся таксама зазначыць, што незразумеласць тая ў некаторых маладнякоўцаў залежыць не столькі ад якога-небудзь імажынізму, колькі ад таго, што аўтар свавольнаю незразумеласцю хоча захаваць проста сваё няўмельства пісаць лепшыя вершы, калі не зразумелыя чытачу непадрыхтаванаму, дык зразумелыя падрыхтаванаму.

Палеміка аб імажынізме, незразумеласці, а таксама і непаразуменне між маладнякоўцамі і старэйшымі пісьменнікамі скончыліся пасля 1-га з'езда «Маладняка», калі ўнутры самога «Маладняка» пачаўся крызіс і калі маладнякоўскі імажынізм, магчыма, і пад уплывам крытыкі, перайшоў у нармальнае і здаровае шуканне і стварэнне арыгінальных вобразаў, між іншым, з большаю ўвагаю і на тое фармальнае будаванне вобраза ў беларускай народнай творчасці, якое можна выкарыстаць і ў сучаснай беларускай паэзіі.

Маладнякоўцы тварылі ў беларускай літаратуры «маладнякізм» — уносілі ў яе радасць, бадзёрасць, пафас змагання, маладую «бура-пену». Але дзеля таго, што вялікую частку свае сілы яны аддавалі на «рэальнае змаганне», на арганізацыйную і масавую маладнякоўскую дзейнасць, з творчага боку яны былі ў першыя два гады свайго існавання яшчэ даволі слабымі, хоць маглі ўжо пахваліцца навізною і сучаснасцю тэматыкі, новымі прыёмамі літаратурнае творчасці, асабліва ў вершаванай форме.

Грунтоўную характарыстыку фармальна-мастацкіх дасягненняў у галіне маладнякоўскае вершаванае паэзіі за два першыя гады існавання «Маладняка» даў тав. Дубоўка *. Ён асабліва зазначае ў вершаванай паэзіі «Маладняка» «новыя метры і рытмы», кажучы: «Вольны верш — дольнікі — паўзнікі чаргаваліся адзін за адным, паступова змяняючыся, атрымліваючы, я б сказаў, беларускую афарбоўку.

* Гл. яго прамову на 1-м Усебел. з'ездзе «Маладняка» («Бюлетэнь», стар. 70—72), артыкул у «Савецкай Беларусі» за 25.XI.1925 г. і арт. «Два гады працы «Маладняка» («Маладняк», № 10(1) за 1926 г.).

У гэты час пануючыя метры — вольны верш, паўзнікі на падставе (пераважна) анапестаў і невялікая частка класічных размераў. Гэтыя апошнія вар'іруюцца з дапамогаю іпостас (замена аднаго размера другім), страфічнай пабудовы і пераносу частак сказа з аднаго ў другі радок». Зазначае тав. Дубоўка таксама ўхіленне некаторых маладнякоўцаў у размеры беларускае народнае песні *.

Маладнякоўцы звярнулі, як зазначае тав. Дубоўка, вялікую ўвагу і на мілагучнасць у сваіх вершах. «Усе прыёмы мілагучнасці,— кажа ён,— можна знайсці прыгожа перавітымі ў маладнякоўскіх творах (анафара, эпіфара і г. д.)» **.

Што да рыфмавання, дык, паводле тав. Дубоўкі, дасягненнем «Маладняка» быў адыход маладнякоўскіх паэтаў ад дзеясloўнае рыфмы і арыентацыя ў справе рыфмавання на народную беларускую творчасць, у якой, паводле яго, ёсць «рыфмоўка на дысанансы, што ўведзена ў расійскай літаратуры сімвалістамі і пашырана імажыністамі» ***.

Трэба прызнаць, што ўжыванне няпоўнае рыфмы, розных сугучнасцей, у выглядзе асанансаў і алітэрацый, безумоўна, унесла ў беларускую літаратуру арыгінальнасць, свежасць і новую музычнасць, больш увязаную з сваёй сучаснасцю, чым старыя формы вершапісання.

І толькі страфічная кампазіцыя (увязка радкоў), паводле тав. Дубоўкі, была тады ў маладнякоўцаў бедная. Чатырохрадкоўе было пануючай формаю.

Як на дасягненне паказваў тав. Дубоўка і на тое, што маладнякоўцы звярнулі вялікую ўвагу на мову ў сваіх творах. І праўда, маладнякоўцы ў большасці прыйшлі ў літаратуру з самых гушчаў беларускага сялянства і прынеслі вялікі запас сваіх народных слоў. Апрача таго, яны шукалі новыя кніжныя словы. Яны далі цікавыя новатворы, як «крынічыць», «лявоніць» ды інш. ****.

---

* «Бюлетэнь», стар. 70.

** «Бюлетэнь», стар. 71—72.

*** «Бюлетэнь», стар. 72.

**** Між іншым, гл. артыкул праф. П. Бузука [186] «Увагі аб мове і стылю маладнякоўцаў» («Маладняк», № 5, 1927 г.), дзе разглядаецца, галоўным чынам, мова і стыль М. Чарота, М. Зарэцкага і Ал. Дудара.

У 1925 г. выйшлі такія зборнікі асобных паэтаў з сучаснага складу «Маладняка».

1. Якімовіч — «Вершы»,
2. П. Трус — «Вершы»,
3. С. Хурсік[185] — «Першы паўстапак», зборнік апавяданняў.

Апрача цэнтральнага органа «Маладняк» выйшлі ў гэтым годзе — № 1 «Аршанскага Маладняка», № 1 і 2 «Маладняка Калінінічыны» і зборнік Маскоўскае філіі «Змаганне».

## Другі перыяд у жыцці «Маладняка» (1926—1927)

Першы Усебеларускі з'езд «Маладняка» адбыўся 25—27 лістапада 1925 г. Ён сведчыў аб вялікім росце маладых літаратурных сіл БССР, але ў рэзалюцыях, прынятых з'ездам, зазначалася, што далей маладнякоўцы павінны пашырыць свой марксісцкі светагляд, знаёміцца з дасягненнямі іншых літаратур у фармальна-мастацкай галіне і, пераважна, у галіне прозы і драмы. У арганізацыйным пытанні рэзалюцыя кажа, што «Маладняк» яднаецца не на прынцыпе фармальна-мастацкіх кірункаў, а на грунце пралетарскай ідэалогіі. Таксама зазначалася, што «літаратурныя студыі і літаратурныя гурткі філіі могуць арганізоўваць там, дзе ёсць рабочыя і сяляне, якія імкнуцца да выяўлення сваёй літаратурна-мастацкай здольнасці» *.

Другі перыяд у жыцці «Маладняка» прыпадае на 1926 і 1927 гг.

На працягу гэтых двух гадоў «Маладняк» перажыў два крызісы. У выніку першага крызісу адбыўся выхад з шэрагаў «Маладняка» групы сяброў, якія стварылі новае літаратурнае аб'яднанне «Узвышша» (восень 1926[187] г.). Выйшлі: Бабарэка, Дубоўка, Крапіва, Пушча, Кузьма Чорны. У выніку другога крызісу адбыўся выхад з яго шэрагаў групы сяброў, што ўвайшлі ў адно літаратурнае аб'яднанне з нашаніўцамі — «Полымя» (на мяжы 1927—1928 гг.). Выйшлі: Александровіч, Вольны, Дудар, Зарэцкі, Чарот.

---

* «Бюлетэнь», стар. 77—78.

Яшчэ і дагэтуль у беларускім друку не высветлена з належнаю ўгрунтаванасцю пытанне аб тых прычынах, якія прывялі «Маладняк» да крызісу. Можна думаць, што немалую ролю мелі тут арганізацыйныя формы «Маладняка» як згуртавання выключна маладых, пачынаючых пісьменнікаў, звязаных, апрача таго, з шырокаю масаваю і арганізацыйнаю працаю. Гэтая акалічнасць магла падказаць больш моцным з мастацкага боку маладнякоўцам думку аб выхадзе з яго шэрагаў і аб утварэнні новае групы. Але такое прыпушчэнне чамусьці ніхто з асоб, якія займаліся разглядам пытання, не бярэ сур'ёзна пад увагу. Зазвычай выстаўляюцца ідэалагічныя прычыны палітычнага характару не асабліва, аднак і ўгрунтаваныя з сацыяльна-эканамічнага боку. Пры гэтым таксама выходзіць некаторая няўвязка, калі разглядаць персанальна ідэалогію ў творчасці ўсіх тых, што выйшлі з «Маладняка» ва «Узвышша», і ўсіх тых, што засталіся былі ў «Маладняку», а потым яшчэ ў больш крытычны момант кінулі яго і аб'ядналіся з нашаніўцамі ў «Полымі». У кожным разе падзел сучасных беларускіх пісьменнікаў на «Маладняк», «Узвышша» і «Полымя» з ідэалагічнага боку не можа быць вытлумачаны тым метадам, якім тлумачыцца выхад з «Маладняка» ўзвышаўцаў. Падзел гэты не сведчыць аб ідэалагічнай вытрыманасці прынцыпаў, пакладзеных у яго аснову — як арганізатарамі «Узвышша», так і арганізатарамі «Полымя». Маладнякоўцы, што ўвайшлі ў «Полымя», безумоўна, лепш зрабілі б, каб утварылі сваё асобнае пралетарскае аб'яднанне або рэарганізавалі б «Маладняк» так, каб ім не было ўсім мулка. Бо выйшла тое, што яны не толькі абяскровілі на пэўны час «Маладняк», але ў значнай меры вынялі душу і з саміх сябе.

Узвышаўцы аб прычыне свайго выхаду з «Маладняка», пасля нападкаў на іх, выпусцілі адмысны камунікат *, з якога відаць, што думка аб стварэнні новай літаратурнай групы была ў некаторых сяброў «Маладняка» яшчэ вясною 1926 г., за паўгода да з'езда [188]. Яны пішуць: «Яшчэ летась група бела-

* «Камунікат беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання «Узвышша» («Узвышша», № 1, 1927).

рускіх паэтаў і пісьменнікаў пачала прымаць захады да арганізацыі беларускага літаратурна-мастацкага згуртавання. Канкрэтныя крокі былі ўзняты 26 траўня 1926 года і выразіліся ў падачы двух дакладаў у адпаведныя інстанцыі». Потым у камунікаце ёсць такое месца: «Мы заяўлялі, што грамадскі і палітасветны ўхіл літаратурных згуртаванняў, які быў нармальным у мінулыя гады, у кругабезе агітацыі за развіццё беларускае культуры, страціў сваю мэтазгоднасць. Сучасны момант патрабуе дыферэнцыяцыі: палітасвета — да палітасветных установаў, літаратурныя згуртаванні — да развіцця літаратуры. Гэта не выключае актыўнага ўдзелу ў грамадскім жыцці кожнага з пісьменнікаў як члена прафсаюза, як удзельніка агульнага савецкага будаўніцтва праз месцы свае службы». І яшчэ ў адным месцы камунікату ўзвышаўцы па адрасу маладнякоўцаў кажуць: «Тварыце публіцыстыку, маладнякоўцы, калі няма здольнасці тварыць мастацтва. Магчыма, што публіцыстыка і заменіць мастацкія творы. У даным выпадку мы вашымі падарожнікамі не будзем».

Цэнтральнае бюро «Маладняка», з прычыны выхаду з яго складу ўзвышаўцаў, у сваім спецыяльным паведамленні пісала:

«Развіццё і пашырэнне сацыялістычнага будаўніцтва БССР, шырокае сталае разгортванне будаўніцтва беларускай культуры пад кіраўніцтвам пралетарыяту і Камуністычнай партыі, а таксама звязаная з агульным эканамічным і палітычным развіццём нутраная эвалюцыя ў шэрагах «Маладняка»,— усё гэта прывяло яго да патрэбнасці некаторай змены, паглыблення, удасканалення метадаў працы, увяло яго ў другі перыяд існавання, пачатак якога прыпадае прыблізна на час 1-га Усебеларускага з'езда «Маладняка» ў лістападзе 1925 года.

Рост дабрабыту вёскі, узвышэнне актыўнасці ўсіх пластоў грамадства, класавае распляставанне як у вёсцы, так і ў горадзе паставіла перад «Маладняком» немінучую перспектыву дыферэнцыяцыі, патэнцыяльныя магчымасці якой былі заключаны ў наяўнасці розных класава-псіхалагічных фармацый сярод «Маладняка».

Вынікам усяго вышэйпаданага з'явілася тое, што гэты новы перыяд у жыцці «Маладняка» пачаўся зацяжлівым хваравітым крызісам, які скончыўся выхадам з «Маладняка» часткі паэтаў і пісьменнікаў і ўтварэннем новай літаратурнай групы» *.

У сувязі з выхадам з «Маладняка» групы сяброў, якія склалі «Узвышша», адбыліся змены і ў самім «Маладняку». Пасля гэтага, у 1927 г., быў зроблены перагляд складу «Маладняка», і сябрамі яго было пакінута каля 50 чалавек. Распачалася вялікая ідэалагічная крытыка з боку некаторых тагачасных маладнякоўцаў супраць сваіх нядаўніх таварышаў — узвышаўцаў. Масавая праца амаль зусім не праводзілася. Маладзейшыя сябры «Маладняка» былі незадаволены старэйшымі. Утварыліся новыя літаратурныя арганізацыі, у якія, між іншым, увайшлі некаторыя былыя маладнякоўцы.

Улетку 1927 г. арганізавалася было новае літаратурнае аб'яднанне пад назвою «Пралетарска-сялянская беларуская літаратурная суполка» («Проблiск») [189]. Арганізатарамі суполкі былі: Бобрык [190], Гурло, Звонак [191], Кляшторны, Плаўнік [192], Туміловіч [193], Хведаровіч [194] і Чарнушэвіч. У гэтым жа часе ўтварылася і «Беларуская літаратурна-мастацкая камуна» (Відук [195], Шалай [196], Шукайла [197] і інш.).

Зноў пацягнуўся ў «Маладняку» доўгі і цяжкі крызіс, прычыны якога і дагэтуль добра невядомы і ў выніку якога з «Маладняка» выйшлі Александровіч, Вольны, Дудар, Зарэцкі, Чарот і ўвайшлі ў новаарганізаванае літаратурнае аб'яднанне «Полымя» (разам з былымі нашаніўцамі). Яны нічога не напісалі аб прычынах свайго выхаду, хоць некалі так яскрава пісалі аб выхадзе ўзвышаўцаў.

Але трэба зазначыць, што на працягу гэтых двух гадоў значна ўзрасла ідэалагічная і фармальна-мастацкая якасць твораў тых маладнякоўцаў, якія ўвайшлі ў шэрагі аб'яднання пазней і знаходзяцца ў «Маладняку» і дагэтуль. Гэта важна зазначыць дзеля таго, што калі ўтваральнікі, будаўнікі і правадыры «Маладняка» блізка што ўсе павыходзілі з аб'яднання і на парозе 1928 г. кінулі сваім маладзейшым сябрам даволі цяжкую спадчыну ў арганіза-

* «Маладняк», № 9, 1926 г.

цыйным і маральным сэнсе, дык маладзейшыя сябры, ужо даволі моцныя з ідэалагічнага і фармальна-мастацкага боку, потым зноў здолелі падняць арганізацыю на належную вышыню.

У 1926 г. выйшлі зборнікі вершаў:

1. Я. Падабед — «Вершы».
2. Бобрык, Звонак, Туміловіч — «Пунсовае ранне».
3. Бандарына [198], Вішнеўская [199], Пфляўмбаўм — «Вершы».
4. Слуцкія песняры — «Вершы».
5. С. Дарожны [200] і І. Плаўнік — «Вершы».
6. В. Маракоў [201] — «Пялёсткі».
7. У. Хадыка [202] — «Суніцы».

І зборнікі мастацкае прозы:

1. Іл. Барашка — «У прасторы», абразкі і мастацкія нарысы.
2. М. Нікановіч [203] — «Золак», апавяданні.
3. —»— — «Радасць», апавяданні.
4. Р. Мурашка [204] — «Стрэл начны ў лесе», апавяданні.
5. Ю. Гаўрук — «Вясковыя рыскі», мастацкі нарыс.

У 1927 г. выйшлі зборнікі вершаў:

1. П. Трус — «Ветры буйныя».
2. В. Маракоў — «На залатым пакосе».
3. С. Фамін [205] — «Балота», паэма.

І зборнікі мастацкае прозы:

1. В. Каваль — «Як вясну гукалі», апавяданні.
2. М. Лынькоў — «Апавяданні».
3. П. Галавач [206] — «Дробязі жыцця», апавяданні.

Апрача таго, выйшаў пераклад А. Мардвілкі [207] з Рабіндраната Тагора — «Садоўнік».

На працягу 1926—1927 гг. выйшла некалькі паважных зборнікаў, выданых філіямі: «Пачатак» (1926) і «Світанне» (1927) — Віцебскае філіі, «Надзвінне» (1926) і «Росквіт» (1927) — Полацкае філіі, «Уздым» (1926) — Бабруйскае філіі, «Дняпроўскія ўсплёскі» — Магілёўскае філіі (1927). Апрача таго, выходзіў «Аршанскі Маладняк» (№ 2(4), 3 (5) за 1926 г. і № 6 за 1927 г.), «Маладняк Калінішчыны» (№ 3—4 і 5 за 1926 г.) і выйшаў адзін № «Маладняка Барысаўшчыны» (1926).

У 1927 годзе з'явіўся цікавы артыкул [...] «Маладая сучаснасць», агляд часопісаў і зборнікаў філій «Маладняка» («Маладняк», №3, 1927 г.) і адказ на яго — артыкул М. Ганчарыка «Маладая сучаснасць» («Аршанскі Маладняк», № 6, 1927 г.). У розных часопісах і газетах змяшчаліся ў 1926—1927 гг. рэцэнзіі крытыкаў-маладнякоўцаў: Аляхновіча [208], Барашкі, Баркоўскага [209], Гаўрука, Мардвілкі і інш.

## Трэці перыяд у жыцці «Маладняка» (1928)

Трэці перыяд у жыцці «Маладняка» — сучасны перыяд — пачынаецца з першых месяцаў 1928 г. і ўжо можа быць названы перыядам аздараўлення і росту.

Як выйшлі сябры згуртавання, якія аб'ядналіся з пашаніўцамі ў «Полымі», за аздараўленне «Маладняка» ўзялося новае, моцнае ядро «Маладняка» з ліку тых яго сяброў, што ўвайшлі ў «Маладняк» пазнейшым часам. Ужо з новага, 1928 года часопіс «Маладняк» пачаў выходзіць акуратна кожны месяц, пераважна з творамі гэтых новых сяброў і ў прыгожым выглядзе, пад рэдакцыяй тт. Галавача, Каваля, Моркаўкі [210], Мурашкі і Хурсіка, у выданні ЦК ЛКСМБ «Чырвоная змена». У № 2 часопіса за 1928 г. у хроніцы было змешчана такое паведамленне аб «Маладняку»: «Апошнім часам у аб'яднанні адбыліся грунтоўныя змены. У сувязі з апошнімі падзеямі і заняпадам склалася новае кіраўніцтва аб'яднання ў складзе тт.: П. Галавача, Р. Мурашкі, А. Моркаўкі, С. Хурсіка, І. Барашкі, В. Каваля, Я. Пфляўмбаўм». Тут жа пісалася, што «з апошняга часу ўзяты цвёрды курс на рэарганізацыю часопіса».

15—18 лютага 1928 г. у Мінску адбылася ўсебеларуская канферэнцыя «Маладняка», скліканая часовым кіраўніцтвам аб'яднання. Аб падзеях у «Маладняку», якія давялі да гэтай канферэнцыі, у друку пісалася мала. На канферэнцыі, між іншым, адзнак, зазначалася, што «развіццё і пашырэнне сацыялістычнага будаўніцтва, шырокае развіццё беларускай культуры, з аднаго боку, і развіццё працэсу

класавага размежавання ў вёсцы і ў горадзе — з другога,— выклікалі за сабой дыферэнцыяцыю шэрагаў «Маладняка» *. Можна было зразумець, што гэта было сказана ўжо не па адрасу былых сяброў «Маладняка», якія стварылі «Узвышша», а па адрасу былых маладнякоўскіх сяброў, якія ўвайшлі ў «Полымя».

На канферэнцыі было 28 дэлегатаў ад Аршанскай, Бабруйскай, Віцебскай, Магілёўскай, Мінскай і Полацкай філій з правам поўнага голасу, што складала палову сяброў «Маладняка».

На канферэнцыі былі прыняты пастановы, з якіх трэба адзначыць такія моманты **:

1. Галоўная ўвага аб'яднання павінна быць аддадзенай творчай працы. «Але разам з гэтым канферэнцыя выказалася за ўдзел «Маладняка» ў непасрэднай грамадскай працы пад кіраўніцтвам КПБ(б) і ЛКСМБ».

2. «Маладняк» павінен быць і ў далейшым масавай арганізацыяй «у сэнсе вядзення працы па выяўленню і выхаванню новых літаратурных сіл з рабочых і сялян. Цэнтр увагі ў гэтай працы трэба перавесці на выяўленне пісьменнікаў з рабочых праз стварэнне пры фабрыках і заводах рабочых літаратурных гурткоў, а таксама гурткоў пры школах, у вёсках. У працы літгурткоў трэба выкарыстаць наша настаўніцтва».

3. «Маладняк» павінен увайсці ва Усесаюзную Асацыяцыю Пралетарскіх Пісьменнікаў (ВАПП).

На канферэнцыі было абрана новае цэнтральнае бюро «Маладняка», у склад якога ўвайшлі: А. Вечар, П. Галавач, Ю. Гаўрук, В. Каваль, [...] М. Лынькоў і Я. Мазуркевіч [212]. Кандыдатамі — Іл. Барашка і Я. Бобрык.

Калі зліквідавалася «Беларуская літаратурна-мастацкая камуна», у склад «Маладняка» ўліліся былыя яе сябры: Відук, Гародня, Шалай.

З былых сяброў «Праблiску» ўвайшлі цяпер у «Маладняк»: Плаўнік, Туміловіч, Фамін, Хведаровіч.

Трэба сказаць, што распачынаць працу сучаснаму складу «Маладняка» было даволі цяжка. Дый ня-

---

* Гл. таксама артыкул Іл. Б.[211] у «Чырвонай змене», № 23, 1928 г.

** «Маладняк», № 3, 1928 г., стар. 104—106.

лёгка яе праводзіць і цяпер. Блізка што ўвесь маладнякоўскі актыў — студэнты універсітэта, яны мусяць налягаць на навуку. У іх мала застаецца вольнага часу не толькі на арганізацыйную і масавую працу, але і на мастацкую творчасць. Далей, калі ў першы перыяд у жыцці «Маладняка» змагацца маладнякоўцам за іхнія літаратурныя пазіцыі дапамагала савецкае грамадства, калі тады пісьменнікі-немаладнякоўцы былі неарганізаваны і ў большасці належалі да мінулае эпохі, дык цяпер увага савецкае грамадскасці да «Маладняка» аслабела, бо перанесена ўжо і на іншыя літаратурныя арганізацыі; пісьменнікі-немаладнякоўцы цяпер усе арганізаваны, і абстрэл іх з сучасных маладнякоўскіх пазіцый выклікае адпор не толькі з боку абстрэленых адзінак, але і з боку ўсёй арганізацыі, у якую яны ўваходзяць.

Узвышаўцы і палымянцы яшчэ ціснуць маладнякоўцаў сваім аўтарытэтам уваччу шырокага савецкага грамадства. Ролю і значэнне «Маладняка» ў сучасным беларускім культурным жыцці шмат хто цяпер недааццэньвае або проста не разумее. Апрача таго, і ў сучасным складзе самога «Маладняка» некаторыя таварышы яшчэ не маюць належнага маладнякоўскага выхавання. Нарэшце, патрэбен быў час, каб была зусім зжыта і забыта былая належнасць некаторых маладнякоўцаў да іншых літаратурных арганізацый. Аднак жа, хоць і з пэўнымі цяжкасцямі, патроху, але цвёрда і планава «Маладняк» усё шчыльней згуртоўваецца, мацнее, расце і заваёўвае сваё месца ў беларускай літаратуры. І ўжо цяпер у ім тэмп жыцця большы, чым у «Полымі» і ў «Узвышшы». «Маладняк» здолеў ужо гаварыць ад імя пралетарскай беларускай літаратуры ў Маскве, у ВАППе, ён завязаў шчыльную сувязь з літаратурнымі арганізацыямі Савецкай Украіны (між іншым, улетку 1928 г. група маладнякоўцаў зрабіла падарожжа на Украіну).

На працягу красавіка — жніўня 1928 г. адной Мінскай філіяй «Маладняка» было наладжана 15 літаратурных вечароў. Вечары наладжваліся пераважна ў рабочых клубах. Абслужана было звыш 4 тысяч слухачоў. Такім чынам, адпавіўся адзін з відаў слаўнай масавай працы «Маладняка» з часоў яго першага ўздыму.

Паасобныя сябры «Маладняка» далі за гэты час значную мастацкую прадукцыю. Выйшлі зборнікі:

А. Моркаўка — «Дым жыцця», вершы, 1928 г.

Ю. Гаўрук — «Кветкі з чужых палёў», пераклады з заходнееўрапейскіх паэтаў (1928).

В. Каваль — «На загонах», зборнік апавяданняў, 1928 г.

Творы «Маладняка» сучаснага складу друкаваліся ў «Росквіце» (орган «Камуны») № 1 і 2, 1928 г., у «Полымі» і ва «Узвышшы».

Выйшаў «Аршанскі Маладняк», № 7, 1928 г. Бабруйская філія выдае вельмі добры літаратурны дадатак «Вясна» (пры бабруйскай газеце «Камуніст») *.

У часопісе «Маладняк» была надрукавана вялікая аповесць Мурашкі «У іхнім доме» [...]. Іншыя маладнякоўцы таксама ўзяліся за шырокія палотны. У часопісе «Маладняк» на працягу 1928 г. з'явіўся шэраг добрых апавяданняў Галавача, Хурсіка і інш.

Цяпер «Маладняк» дзейна рыхтуецца да святкавання 10-годдзя з часу абвяшчэння незалежнай БССР і да свайго 5-гадовага юбілею.

## Сацыяльны склад сучаснага «Маладняка»

Сацыяльны склад сучаснага «Маладняка» сведчыць аб росце ў ім праўдзівага рабоча-сялянскага ядра. Цікавую статыстыку дала аб сваім складзе ўвосень 1928 г. Мінская філія (статыстыка была надрукавана ў «Савецкай Беларусі»).

Усяго ў Мінскай філіі лічыцца 38 сяброў.

Паводле сацыяльнага складу: з рабочых — 4, сялян — 28, служачых — 3, іншых — 3.

Паводле нацыянальнасці: беларусаў — 36, яўрэяў — 2.

Паводле партыйнай прыналежнасці: сяброў і кандыдатаў КП(б)Б — 6, камсамольцаў — 13, беспартыйных — 19.

---

* Калі праца гэтая была здадзена ў друк, выйшаў трэці альманах Полацкай філіі «Зарніцы» і другі альманах Бабруйскай філіі «Уздым».

Паводле адукацыі: з вышэйшай — 3, студэнтаў — 28, з сярэдняй — 7.

Паводле творчасці: паэтаў — 21, празаікаў — 12, крытыкаў — 4, перакладчыкаў з чужаземных моваў — 1. З іх маюць зборнікі — 19, з прынятымі ў БДВ зборнікамі да друку — 3, не маюць зборнікаў — 16.

Паводле маладнякоўскага стажу: з 1925 г.— 12, з з 1926 г.— 16, з 1928 г.— 10.

У іншых філіях «Маладняка» таксама шмат вучнёўскай моладзі, асабліва тэхнікумаўцаў, і шмат настаўнікаў, прычым уся гэтая моладзь, як сведчаць анкеты ў ЦБ «Маладняка», выйшла, галоўным чынам, з самых гушчаў беднага беларускага сялянства.

Маладнякоўцаў з рабочага асяроддзя, вядома, і ў сучасных беларускіх умовах яшчэ мала, але іх лік усё ж узрастае.

Характэрна, што паміж маладнякоўцаў ёсць даволі значны працэнт дзяцей леснікоў, муляраў, будачнікаў на чыгунцы, вясковых настаўнікаў, фельчараў, значыцца, выхадцаў з той сацыяльнай катэгорыі, якая папаўнялася малазямельным беларускім сялянствам і не траціла сувязі з беларускай мовай і культураю наогул. Паміж самых маладых сяброў «Маладняка» або паміж моладзі, якая гуртуецца каля «Маладняка», рыхтуючыся ўліцца ў яго шэрагі, шмат ужо людзей, якія прыйшлі ў горад непасрэдна з беднай сялянскай хаты, яшчэ не змылі на руках мазалёў ад плуга, касы і цэпа.

Як знак часу ёсць паміж маладнякоўцаў былыя беспрытульнікі, выкінутыя ў горад вёскаю сіраты, дзеці вайны і рэвалюцыі.

Таксама трэба адзначыць, што ёсць паміж маладнякоўцаў дзеці гарадскіх рамеснікаў, дзеці дробнай гарадской буржуазіі. Ёсць нават сын папа і чыноўніка — мацнейшыя адзінкі, што парвалі сувязь з сваім мёртвым класам.

Да сялян з вясковай хаты належаць: Ганна Базыленка [213], Баранаў [214], Бужан [215], Вечар, Віp (Гарасімовіч), Галавач, Каваль, Мурашка, Падабед, Салагуб [216], Сямашка [217], Трус, Хадкевіч [218], Хурсік, Якімовіч і інш. Гэта ўсё людзі, якія з сялянскай хаты, праз вясковую школу, прыйшлі ў час рэвалюцыі ва універсітэт і сельскагаспадарчую акадэмію, у розныя

тэхнікумы і працуюць ужо хто як рэдактар газеты або часопіса (Галавач, Мурашка, Сямашка), хто як адказны працаўнік у камсамоле, хто як актыўны працаўнік у студэнцкіх арганізацыях і г. д. [...] Шушкевічаў [219] бацька быў лесніком. Лынькоў і Моркаўка — дзеці будачнікаў на чыгунцы з малазямельных сялян. Бацька Звонака і Маракова займаюцца ў горадзе мулярствам. Гаўрук — сын гарадскога сталяра. Барашка — сын рабочага шпалернай фабрыкі. Фамін, Лявонны [220] і інш.— дзеці вясковых настаўнікаў. Плаўнік (яўрэй) — сын ляснога прыказчыка. Бандарына, Вішнеўская, Пфляўмбаўм (немка) [...] — дзеці гарадскіх настаўнікаў, савецкіх служачых. Мікуліч [221] — сын фельчара, Таўбін (яўрэй) — сын фармацэўта. Хв. Явар [222] — сын начальніка станцыі [...].

### Вершаваная паэзія сучасных маладнякоўцаў

У сучасным складзе «Маладняка» шмат паэтаў, але большасць іх або яшчэ не зусім аформіліся, або яшчэ толькі пачынаюць афармляцца.

Паміж іх ёсць таварышы, якія друкуюцца з 1923—1924 гг., значыцца, ад пачатку існавання «Маладняка». Да гэтай групы належаць тт. Трус, Якімовіч, Падабед, Бобрык.

З 1925 г. друкуюць вершы Бандарына, Вішнеўская, Пфляўмбаўм, Звонак, Туміловіч, Маракоў, Моркаўка, Плаўнік, Фамін, Шушкевіч, Лявонны, Маркава [223], Вечар, Гаўрук, Хведаровіч, Ал. Вясковы (Пальчэўскі) [224] і інш.

З 1926 г. друкуецца Хадыка (адразу выпусціў зборнік «Суніцы»).

У 1926—1927 гг. з'яўляецца шэраг маладых імён у філіяльных выданнях «Маладняка», як Броўка [225], Хадкевіч, Ананьеў [226], Люгоўскі [227], Катановіч [228], Прыбыткоўскі, Таўбін і інш.

Апрача таго, у сучасным складзе «Маладняка» трэба адзначыць вядомага паэта-нашаніўца Янука Журбу (Івашына) і прадстаўніка Беларусі пад польскай акупацыяй Алеся Салагуба, які піша вершы ўжо колькі год, але друкаваліся яны, галоўным чынам, у замежных выданнях і ў Савецкай Беларусі мала вядомы.

Некаторыя з паказаных таварышаў пішуць і прозу, як Відук, Лявонны, Гаўрук, Вечар, Ал. Вясковы і інш., або напісалі адно-два апавяданні, як Звонак. Некаторыя з іх усё болей пераходзяць або зусім перайшлі на прозу (Відук, Лявонны і інш.).

Уся гэта маса паэтаў зазвычай абмяжоўваецца кароценькімі лірычнымі вершамі, часта вельмі падобнымі не толькі ў коле ўсёй маладнякоўскай паэзіі, але і ў коле вершаў паэта. Паэмы піша Трус і Фамін, нахіл да эпічнай паэзіі паказвае апошнім часам Хведаровіч, часткова Гаўрук і Вечар. Зрэдку трапляюцца байкі.

У паэзіі маладнякоўцаў сучаснага складу пераважаюць грамадскія матывы, але шмат у каго з іх значнае месца займае таксама асабістая лірыка.

Найбольш сацыяльнага зместу ў паэзіі Вечара, Якімовіча, Падабеда, Труса, Моркаўкі, Фаміна, Хведаровіча, Бандарынай, Шушкевіча, Звонака, Хадыкі і інш. Найбольш асабістае лірыкі ў Маракова, Плаўніка, Маркавай, Вішнеўскай, Пфляўмбаўм, Брэскай і інш.

Галоўныя матывы ў паэзіі маладнякоўцаў сучаснага складу — заклік да новага жыцця, імкненне да яго, ленінскі шлях, камуна, камсамолія, сацыялістычнае будаўніцтва, а таксама — індывідуальныя перажыванні, асабістая лірыка, радасць жыцця, каханне і часам змаганне з сумам і дэкламацыі аб сваёй бадзёрасці.

Даволі значнае месца ў паэзіі маладнякоўцаў сучаснага складу займаюць успаміны аб рэвалюцыі, грамадзянскай вайне, польскай акупацыі, аб паходах Чырвонай Арміі, а таксама ўспаміны аб маленстве і яго радасці і горы, успаміны аб даўнейшым цяжкім, паднявольным сялянскім жыцці.

Любоў да сваёй радзімы, да вёскі, да роднай прыроды асабліва выяўляецца ў паэтаў філіяльных выданняў «Маладняка». Сялянскі прыродаапісальны элемент, які ўвязваецца з усёй творчасцю паэта, знаходзім блізу ва ўсіх паэтаў сучаснага «Маладняка».

Таксама песні працы, галоўным чынам, сялянскай працы, займаюць у маладнякоўскай творчасці даволі значнае месца — зноў жа ў паэтаў, галоўным чынам, філіяльных выданняў або ў першых па часу напісання вершах у шмат каго з паэтаў-маладнякоўцаў,

напрыклад, Відука і інш. Матывы фабрычнай працы, на жаль,— рэдкая з'ява ў беларускай паэзіі наогул; мала іх і ў творчасці сучаснага «Маладняка».

Шмат ёсць вершаў, у якіх тэмаю бярэцца адыход сялянскага хлопца з вёскі ў горад. Матывы горада, гарадскога жыцця — ёсць, але яны ўсё ж такі не з'яўляюцца яшчэ арганічнай часткай у творчасці паэтаў-маладнякоўцаў. Тут больш развагі аб злучнасці вёскі з горадам («змычка») і выяўлення кіраўнічай ролі горада ў справе будавання сацыялізма. Алесь Звонак у вершы «Цяпер радней мне гулкі горад» (1926) кажа:

Хай цяпер радней мне гулкі горад,
Яго вуліц стогалосы гул,
Ўсё ж я помню, помню я прасторы —
Не пазбыць жытнёвую тугу...

Янка Туміловіч у вершы «Завод» (1926) піша:

Зазвінела жалезнае горла,
Песняйляскочуць калёсы;
Асілак сталёвы — горнам
Пачаў распаляць новы лёс нам.

Пятрусь Броўка ў вершы «Горад» (1927) кажа: «Заводы, гудкі і машыны я спазнаў, як калісь васількі...». Ён любіць горад таму, што тут людзі з мазалямі і ў сажы «новых дзён нам саткалі зару», таму, што «для нашае зрэбнае вёскі тут куюцца плугі, лемяшы».

Заўсёды адгукаюцца маладнякоўцы вершамі, поўнымі запалу і змагання, на здзекі буржуазіі над працоўнымі ў краінах імперыялізму. Яны пішуць вершы на смерць Сака і Ванцэці, на прысуд над Беларускай Грамадою [229], на праследаванні камсамольцаў польскай уладай у Польшчы і Заходняй Беларусі і г. д. У вершы «Прыйдзе час» Станіслаў Шушкевіч яскравымі фарбамі апісвае сваё мінулае жыццё ў «панстве бізуна» і кажа тое, што з'яўляецца лейтматывам у паэзіі маладнякоўцаў аб Заходняй Беларусі:

Асвятляе шлях для нас адна паходня,
Мэта ў нас таксама ёсць адна...
Прыйдзе час: над пашаю Заходняй
Расцвіце Усходняя Зара.

Алесь Салагуб даў шэраг вершаў з лірыкай астрожнага жыцця.

Любоў да роднае культуры, жаданне адрадзіць яе і развіць на сацыялістычным шляху — адзін з матываў у паэтаў-маладнякоўцаў. Гэты матыў ёсць у вершах, прысвечаных літаратурным і інш. юбілеям, або ў вершах, напісаных з прычыны нападаў на беларускую мову з боку розных пшчолкаўцаў і да т. п.

Вершаў з іншакраёвымі вобразамі паэзіі маладнякоўцаў не шмат. Вершы гэтыя напісаны, галоўным чынам, у часе побыту паэтаў-маладнякоўцаў у экскурсіі або ў часе пядоўгага жыцця — на Каўказе, у Крыме, Ленінградзе, Сібіры, Башкірскай рэспубліцы і г. д. (вершы Брэскай, Відука, Шушкевіча, Гаўрука, Бандарынай, Пфляўмбаўм і інш.).

Індывідуальныя перажыванні найчасцей бываюць звязаны з каханнем, прычым каханне гэтае ў паэтаў філіяльных выданняў зазвычай больш, калі можна так сказаць, рабоча-сялянскае, з вобразамі працоўнага жыцця і здаровае, узаемнае і радаснае, а шмат у каго з старэйшых маладнякоўцаў яно — інтэлігенцкае, сентыментальнае, часам істэрычнае, а наогул — з розпай любоўнай бутафорыяй, перанятай ад буржуазных паэтаў.

У некаторых паэтаў трапляюцца ноткі суму і лішне частыя заявы аб тым, што яны не паддадуцца яму, што яны бадзёрыя і г. д., і г. д.

Часам пэўным матывам у паэтаў-маладнякоўцаў бывае шуканне новых шляхоў у паэзіі і разважанні на гэтую тэму.

Пятрусь Броўка ў вершы «Дайце новую музыку» кажа:

Дайце:
новую музыку!
новыя струны!
і мелодыі другія дайце!
Я хачу:
каб замест паніхіды хаўтурнай,
новы марш
Беларусі іграць.

Алесь Звонак у вершы «Ёй...» (з матывамі кахання) кажа:

Не лірык я,
Гнусавіць каб аб «шчасці»,
Ідылій кволых
Павуцень плясці.

Люблю
Няўклюжымі радкамі шастаць
І процiў плыні
У жыцці
Плысці.

Большасць сучасных маладнякоўскіх паэтаў ідуць тым фармальна-мастацкім шляхам, якім яны пайшлі яшчэ з першага перыяду ў існаванні «Маладняка» або да якога яны далучыліся пазней. У іх выразна выяўленае імкненне ставіць на першы план вобраз, пісаць вольным вершам і даваць унутраную мілагучнасць і рыфмоўку праз асанансы і алітэрацыі. Шмат у каго з паэтаў-маладнякоўцаў паказаныя фармальна-мастацкія асаблівасці выяўляюцца ўсё менш і менш выразна і заўважаецца паблiжэнне да класічнай версіфікацыі.

Ухіл у футурызм, які заўважаўся ў Відука, Прыбыткоўскага, часткова нават у Броўкі, Звонака і некаторых іншых паэтаў, у сучаснай маладнякоўскай паэзіі не мае ўжо значэння.

Расійскім канструктывістам спрабуе апошнім часам наследаваць Хведаровіч.

Наогул жа, у сучаснай паэзіі «Маладняка», як і ў паэтаў «Узвышша» і «Полымя», няма цяпер ніякае асаблівае фармальна-мастацкае плыні, яскрава выяўленай і новай у параўнанні з тым, што ўнёс у беларускую паэзію «Маладняк» у першы перыяд свайго існавання.

Найлепшымі або найбольш характэрнымі паэтамі ў сучасным складзе «Маладняка» ёсць: Маракоў, Моркаўка, Трус, Вечар, Фамін, Бандарына, Плаўнік, Хадыка і некаторыя інш.

Маракоў вызначаецца лірычнасцю, эмацыянальнаю напружанасцю і гучальнасцю сваіх вершаў. У яго шмат пачуцця, ён любіць яскравыя фарбы і гучанне. У яго, на жаль, мала сацыяльнага зместу, вузкае кола вобразаў і даволі простая тэхніка.

Моркаўка вызначаецца большай глыбінёй думкі, ухілам у філасофскія разважанні, любоўю да моцнага вобраза і адшліфаванага верша. У яго вершах менш гучання, чым у Маракова, але музычнасць у іх даволі вытрыманая. Шкодзіць Моркаўцы часам лішняя выкручанасць вобразаў і мовы. Ён — сацыялен, але грамадскіх матываў у яго творчасці мала. Філа-

софія ў яго ў пэўных момантах не зусім увязана з сучаснасцю.

Вершы Труса вызначаюцца рамантычна-рэвалюцыйным зместам і блізкасцю да народнай творчасці. Вершы яго лёгкія і даволі плаўныя. Кола матываў, аднак, у Труса не вельмі шырокае. Шмат яшчэ на яго творчасці і розных уплываў былых маладнякоўцаў, а таксама Коласа, Шаўчэнкі.

Вечару яшчэ не пашчасціла дагэтуль выдаць асобнага зборніка, і таму ён пакуль што мала вядомы грамадству. А тым часам ён — даволі самабытны паэт у сучасным складзе «Маладняка». Ён сацыялен, і матывы ў яго звязаны з грамадскай сучаснасцю. Тэматыка яго даволі значная, а галоўнае — самабытная: увязка жыцця і навукі, машынізацыя жыцця, трактарызацыя вёскі і да т. п. Творчасць яго мажорная, напорыстая. Вершы скампанаваны добра, толькі гучаць часам лішне цвёрда, без лірычнай мяккасці. Навізна формы ўвязваецца ў яго з пэўнай часткай класіцызму.

Фамін — вельмі эмацыянальны паэт, прычым эмацыянальнасць яго звязана з грамадскімі матывамі. Таксама ўласцівымі яму з'яўляюцца матывы кахання. Вершы даволі музычныя. Паэт яшчэ не зусім аформіўся.

Бандарына паміж пяснярак «Маладняка» вызначаецца большай сувяззю з грамадскасцю, з сучаснасцю і асаблівай шчырасцю пачуцця. У яе лірыцы ёсць часам элемент развагі.

У Плаўніка шмат паэтычнай квятлівасці ў мове і юнацкай настраёвасці. Верш гладкі і лёгкі, але вобраз пераважае над гучаннем.

З пералічаных паэтаў большыя надзеі можна пакладаць на Маракова, Вечара і Фаміна.

Потым можна назваць групу аўтараў, якія пішуць даволі добрыя вершы, даўно аформіліся, але поступ у развіцці сваё паэтычнае творчасці выяўляюць параўнальна не вельмі значны. Гэта — Якімовіч, Падабед, Бобрык, Туміловіч, Звонак, Вішнеўская, Пфляўмбаўм, а часткова і Хадыка. З іх паэт Звонак спрабаваў свае сілы ў мастацкай прозе і зрабіў гэта з пэўным поспехам. З гэтай групы Бобрык, Звонак, Вішнеўская, Пфляўмбаўм лішне часта пяюць аб тым, што яны не паддадуцца суму.

Таксама пераходзяць на прозу, і добра робяць, Відук, Гаўрук і інш.

Слаба афармляюцца Лявонны, Маркава, Прыбыткоўскі, Броўка. З іх асаблівыя надзеі можна пакладаць на Маркаву.

Як паэт-перакладчык вызначаецца Гаўрук. Ён даў шэраг вершаваных перакладаў з заходнееўрапейскіх паэтаў.

Яшчэ трэба зазначыць, што ў паэтаў філіяльных выданняў больш непасрэднасці пачуцця, больш народнасці і блізкасці да мас, чым у некаторых старэйшых сяброў сучаснага «Маладняка».

Сярэдні маладняковец піша цяпер вершы лепшыя, чым пісаў сярэдні нашанівец. Часам трэба проста дзівіцца, наколькі добра валодае вершавальнай тэхнікай маладняковец — вучань тэхнікума ці малады вясковы настаўнік. Гэта знак росту беларускай культуры ва ўмовах сацыялістычнага будаўніцтва.

Маладнякоўцы змяшчаюць свае вершы не толькі ў часопісе «Маладняк», але запаўняюць імі значную частку аддзела вершаў у «Полымі», друкуюцца ў «Узвышшы», літаратурных дадатках да «Савецкай Беларусі» і «Беларускай вёскі» і ў розных беларускіх выданнях.

## Мастацкая проза сучасных маладнякоўцаў

За апошнія гады значна вырасла мастацкая проза «Маладняка». Калі ў першы яго перыяд на першым месцы стаяла вершаваная паэзія, дык цяпер гэта можна сказаць аб мастацкай прозе.

Празаікаў-маладнякоўцаў таксама шмат, як і паэтаў, але паміж іх ёсць мацнейшыя аўтары, чым паміж паэтаў. І можна сказаць, што ў сучасным складзе «Маладняка» ёсць мацнейшыя празаікі, чым некаторыя празаікі ва «Узвышшы» і «Полымі».

Паміж сучасных празаікаў-маладнякоўцаў мала таварышаў, якія друкуюцца з самага пачатку існавання «Маладняка». Усё гэта — пазнейшы набор, прычым асабліва плённы быў набор 1926 г.

Яшчэ да ўтварэння «Маладняка» пачаў друкавацца Нікановіч (1922); у «Маладняку» тав. Нікановіч з 1925 г.

З 1924 г. друкуюцца як апавядальнікі: Барашка, Хурсік, [...] Мазуркевіч.

З 1925 г. друкуецца ў мастацкай прозе Лявонны.

З 1926 г.— Каваль, Лынькоў, Мурашка, Траецкі, Сямашка, Ганна Базыленка. З гэтага ж года спрабуюць свае сілы ў мастацкай прозе і паэты: Вечар, Відук, Гаўрук, Звонак.

З 1927 г. з'яўляюцца новыя імёны, галоўным чынам у філіяльных выданнях «Маладняка»: Баранаў, Гараўскі [230], Мікуліч, Губарэвіч [231], Васілеўская, Шутко, Гушчар (Жыткевіч) [232], Кавалёў [233] і інш.

З 1928 г. у «Вясне» друкуецца Хв. Явар. У той жа «Вясне» пераходзіць на прозу Верас [...].

Асабліва трэба падкрэсліць, што шмат хто з пералічаных аўтараў прыйшоў у беларускую літаратуру праз селькорства, некаторыя ж таварышы пачалі пісаць служачы ў Чырвонай Арміі.

І цяпер яшчэ шмат хто з іх абмяжоўваецца кароценькімі мастацкімі нарысамі, абразкамі, невялічкімі апавяданнямі. Але ёсць паміж сучасных маладнякоўцаў і такія аўтары, што ад чырвонаармейскіх карэспандэнцый дайшлі да аповесцей і раманаў, як тав. Мурашка.

Раманы пішуць: Мурашка, Нікановіч; аповесці і вялікія апавяданні пішуць гэтыя ж таварышы і Відук, Лынькоў і інш. Некаторыя аўтары маюць ужо напісаныя, але яшчэ недрукаваныя аповесці.

Галоўныя тэмы ў творчасці маладнякоўцаў сучаснага складу — зарысоўкі грамадзянскай вайны, апісанне польскай акупацыі і эпохі ваеннага камунізма, быт сучаснай вёскі.

Сюжэты з грамадзянскай вайны далі: [...] Лынькоў («Чыгунныя песні», «Крот», «Над Бугам», «Гой»), Нікановіч (зборнік «Золак» і інш.), Галавач («Дзве сцежкі» і інш.), Барашка («Ліпнёвыя дні», «Дэзерцір», «Дар за дар»), Мазуркевіч («Бранявік», «Здзекі»), Відук («Таіса», «Затока ў бурах»), Лявонны, Сямашка і інш. Апісваецца, галоўным чынам, вайна з палякамі і польская акупацыя. Чырвоную Армію ў паходах апісвае Лынькоў («Над Бугам») і інш. аўтары. Лынькоў закрануў і вайну з чэхаславакамі ў Сібіры («Чыгунныя песні»). Змаганне з бандамі Булак-Балаховіча закрануў Лынькоў у апо-

весці «Гой». Лявонны ў абразку «Выпадак» закрануў змаганне на Украіне з махноўшчынаю.

Вельмі часта апісваюць маладнякоўцы жыццё пад польскай акупацыяй у час вайны 1919—1920 гг. Гэтае жыццё малюецца і ў паказаных творах з грамадзянскай вайны; апрача таго, можна вылучыць творы: Мурашкі («Каваль Максім» і інш.), Нікановіча («Вы... звяры...» і інш.), Сямашкі («Пад панскай няволяй») і інш.

Змаганне беларускіх паўстанцаў з белапалякамі малююць: Каваль («Восень»), Нікановіч («Адплаціў», «У хвалях жыцця») і інш.

Сялянскія паўстанні, палітычны бандытызм, справы кантрабанды, палітычнае шпягоўства знайшлі свой адбітак у шэрагу маладнякоўскіх твораў, як «Дзве сцежкі» Галавача, «Прыгранічны манастыр» Мурашкі, «Беня-балагол» Лынькова і г. д.

Быт сучаснай вёскі яскрава малюе Каваль (апавяданне «Сяльчане» і інш. творы). У тым жа тоне спрабуе апісваць вёску і Нікановіч («Крык працы»). З класавага змагання ў сучаснай вёсцы знайшлі сваё адлюстраванне ў творчасці маладнякоўцаў забойствы кулакамі селькораў (Мурашка — «Стрэл начны ў лесе»), забойствы кулакамі-самагоншчыкамі міліцыянераў (Лявонны — «У спевах замеці»), забойствы кулакамі людзей, якія рабілі рэвалюцыю (Лявонны— «На ветры») і да т. п. Забойствы або бойкі на грунце абрэзкі зямлі ў шляхты і наогул заможнікаў апісвае Нікановіч («На начлезе»), Баранаў («На вяселлі») і інш. аўтары. Трэба зазначыць, што абмалёўка кулакоў часцей бывае даволі павярхоўная, без вытрыманага псіхалагічнага аналізу. Але той жа малады празаік Баранаў спрабуе ўжо даваць крыху глыбейшы аналіз псіхалогіі кулака («Боты», «Лявон Чэмер» і інш.).

Землеўпарадкаванне даволі часта закранаецца ў маладнякоўскіх апавяданнях (Галавач — «Рубанаўскі вузел» і іншыя творы гэтага і іншых аўтараў). Апісваючы сучасную вёску, маладнякоўцы-празаікі, зазвычай, агітуюць за калектывізацыю (Нікановіч — «К прасцягам новага»), за меліярацыю (Васілеўская — з абразкоў «Будуем» — другі абразок «Багна»), хоць з мастацкага боку тут значна слабейшыя

рэчы, чым нават меліярацыйная паэма Фаміна «Балота».

Апісваючы сучасную вёску, маладнякоўцы-празаікі даволі глыбока закранаюць яе быт і востра апісваюць усе рэшткі яе старога жыцця. Некультурнасць вёскі яскрава выступае ў творах Каваля («На вуліцы» і інш.). Бічуюць самагон Нікановіч («Так часта бывае»), Баранаў («У маладзікову нядзелю») і інш. аўтары. Баранаў наогул часта малюе і тое адмоўнае, што яшчэ не зжыта савецкаю вёскаю («Каля Гіляровай студні», «Раніцаю» і інш.). У гэтым жа кірунку з натуры спісвае сучасную вясковую моладзь Ганна Базыленка (урывак з аповесці «Гулянка»).

Твораў з просценькай агітацыяй за ліквідацыю непісьменнасці ці за тое, каб не ганялі быдла на мокрую сенажаць, як у Ал. Вясковага (Пальчэўскага) і інш. аўтараў, з'яўляюцца ўсё менш. Нават такое коўзкае пытанне, як антырэлігійнае змаганне на вёсцы, і то ўдалося Галавачу ў апавяданні «Яўленая» зачапіць без шаблоннай агітацыі, хоць і ён усё ж не ўтрымаўся, каб не павесіць папа на званічнай вяроўцы каля царквы. Нават Нікановіч у сваіх апошніх творах ужо пачынае кідаць прымітыўную агітацыю.

Малююць маладнякоўцы перадавых людзей сучаснай вёскі (Каваль — «Ноч»), людзей, якія рабілі вайну і рэвалюцыю і цяпер перайшлі на мірнае жыццё ў вёсцы (Хурсік — «Змітрок»).

Вельмі часта тэмай маладнякоўскіх апавяданняў бывае вызваленне жанчыны, галоўным чынам жанчыны-сялянкі. На гэтую тэму пісалі: Барашка («Сельсаветчыца Параска» — вясковая жанчына, «Лайдачка» — вясковая камсамолка), Хурсік («Вырвалася»), Пальчэўскі («Наста» і інш.), Каваль («Наўздагон за доляю») і інш. аўтары. Наогул жыццё жанчыны даволі часта бывае маладнякоўскай тэмай. Шутко апісвае долю вясковай дзяўчынкі (з «Малюнкаў на палітры» — першы малюнак — «За няньку») і жыццё дзяўчат-студэнтак (другі малюнак — «Праз хмаркі»). Галавач паказвае шлях вясковай дзяўчыны з беднай хаты на рабфак і яе вучобу і бытаванне па рабфаку («Дасужая»). Лявонны спрабаваў выявіць псіхалогію моцнай жанчыны — жонкі бандыта («Выпадак»). Долю батрачкі

ці беднай дзяўчыны наогул, ашуканай і пакрыўджанай, справу з аліментамі і г. д. апісвалі Галавач («Загубленае жыццё»), Звонак, пад псеўданімам П. Алесін («Сцежкі крывыя»), Губарэвіч («У вечар маўклівы»). Зазвычай сюжэты аб вызваленні жанчыны маюць даволі аднастайную развязку: студэнт, ці камсамолец, ці брат-чырвонаармеец вядуць жанчыну ў новае жыццё. Найлепш з псіхалагічнага боку малюе жанчыну Відук («Таіса», «Спатканне», «Затока ў бурах», хоць у апошняй рэчы і ён у значнай меры збіўся на шаблон).

Настаўніцкае жыццё на вёсцы закрануў Барашка ў апавяданні «Праблема», а часткова і іншыя аўтары.

Быт беларускага мястэчка часта апісвае Лынькоў («Гома», «Гой», «Беня-балагол» і інш.). Мастацкі абразок з жыцця беднага местачковага яўрэя даў Мурашка («Шлёмка-пернічак»). Ёсць сюжэты з яўрэйскага жыцця і ў іншых аўтараў (Лявонны — «Пад млынны скрып»).

Горад апісваюць маладнякоўцы не вельмі часта. Тут можна назваць некаторыя апавяданні Галавача, Баранава і інш. Найчасцей яны толькі збольшага закранаюць гарадское жыццё ў творах, у якіх галоўнае месца займае вёска. Таксама рэдка апісваюць яны і фабрыку, жыццё рабочых. Тут можна назваць такія абразкі, як «Прузына-ленінка» Барашкі, «Горад і вёска» Гушчара (Жыткевіча), з абразкоў Васілеўскай «Будуем» — першы абразок «Гулы» і другі абразок «Горад» і інш.

Жыццё на чыгунцы закранаў Лынькоў. Некалькі яскравых апавяданняў-абразкоў з жыцця чыгуначнікаў даў Хв. Явар (друкаваліся ў «Вясне»).

Унутраную эміграцыю апісаў Мурашка ў аповесці «У іхным доме». Ён жа намаляваў шлях, якім іншы раз ідзе да разлажэння слабы савецкі працаўнік («Бросня вясковая»). Тып прымазаніка ў партыі, «былога чалавека» намаляваў і Галавач у апавяданні «Абмыліліся». Тып «лішняга чалавека» даў Хурсік у апавяданні «Адам Залес».

Сюжэтаў з жыцця эміграцыі зусім няма. Нешта нейкае хацеў сказаць Траецкі аб жыцці балахоўцаў, якія цяпер працуюць наймітамі ў англійскай і польскай буржуазіі, высякаючы Белавежскую пушчу («Бор высякалі») [...].

Блізу нічога няма ў маладнякоўскай прозе аб уцякацтве ў час вайны. Схематычна закрануў гэтыя часы Барашка ў настраёвым і вельмі прыгожа напісаным нарысе «Брат, родны мой брат!..».

[...] Збольшага закранулі імперыялістычную вайну Галавач («Дзве сцежкі») і інш. аўтары.

Быт дарэвалюцыйнай, галоўным чынам перадрэвалюцыйнай вёскі апісваў Каваль («На загонах»), Відук («Зарубчык»), Галавач і інш.

Эпоху 1905 г. маляваў у мастацкіх нарысах і абразках Барашка («Пяты год», «Бяда»). Адзін ён з усіх маладнякоўцаў узяў рэвалюцыйны сюжэт і з далёкага мінулага («Іерогліфы Яэля»). Кастрычнік 1917 г. блізу яшчэ не апісаны ў маладнякоўскай прозе.

З гістарычнага жыцця ў маладнякоўскай прозе ёсць толькі адно апавяданне, гэта — «Францішак Скарына» Хурсіка.

Пытанні нацыянальнай беларускай культуры — чамусьці вельмі рэдкая тэма ў творчасці маладнякоўцаў. Аб беларусізацыі ёсць сёе-тое толькі ў «Віраплыні» Мазуркевіча.

Ёсць яшчэ ў маладнякоўцаў апавяданні з дзіцячага жыцця (у Барашкі, Баранава).

Ёсць апрацаванне народных легенд, казак і песень (у Барашкі і Каваля).

Шырока распрацаваных сюжэтаў у сучасных маладнякоўцаў яшчэ не шмат, але апошнім часам з'яўляецца іх усё болей і болей. Лепш распрацаваны сюжэты ў [...] Мурашкі, часткова ў Галавача. Фабула таксама зазвычай не асабліва багатая, але ўзятая ў моцных момантах. Шмат схематызму. Дзеянне найчасцей звязана з паступовым апісваннем жыцця аднай асобы, хоць апошнім часам з'яўляюцца шырокія палотны, у якіх гэтага ўжо няма. Замест мастацкіх тыпізацый часта даецца спісванне з натуры, але натура зазвычай бывае вельмі тыповая. Шмат пры гэтым аўтабіяграфічнасці.

Яшчэ шмат у мастацкай прозе маладнякоўцаў агітацыйнасці, разважанняў з голай тэндэнцыяй. І зноў жа ў апошніх творах тых жа аўтараў тэндэнцыя ўсё больш захоўваецца пад мастацкай формай.

Сюжэты зазвычай будуюцца на змаганні рэвалюцыі і контррэвалюцыі, беднасці і багацця, змаганні

новага з старым, калізіях між каханнем і здрадаю, рэвалюцыйным абавязкам і асабістым шчасцем і да т. п.

Часам апавяданні ўкладаюцца аўтарам у чые-небудзь вусны: (Хурсік — «Адам Залес», «Змітрок», Галавач — «Яўленая», Відук — «Зарубчык», Лявонны — «Выпадак», «Пад млынны скрып» і інш.). Пры гэтым мова асобы, у чые вусны апавяданне ўкладзена, бывае даволі вытрыманая, хоць у некаторых аўтараў яна ўсё ж збіваецца на мову самога аўтара. Асабліва па-мастацку гаворыць Змітрок у Хурсіка.

У стылі пераважае рэалістычная плынь (Галавач, Хурсік, Явар, Баранаў і інш.), але яшчэ даволі моцна трымаецца і плынь рамантычная (Лынькоў, Мурашка, Нікановіч, Лявонны і інш.). Трэба адзначыць, што ў маладнякоўцаў-рэалістаў вельмі шмат рамантызму. Маладнякоўцы, залічаныя тут да рамантычнай плыні, даюць шмат чыстага рэалізму. Але апошнім часам усё больш выяўляецца якраз плынь рэалістычная, асабліва з пераходам ад тэм з грамадзянскай вайны да тэм з сучаснага сацыялістычнага будаўніцтва.

Каваль даў асаблівы стыль: рэалістычна-рамантычны з вялікім уплывам народнай творчасці.

[...] Відук («Затока ў бурах») апошнім часам адыходзіць у бок звычайнага рэалізму.

У некаторых маладнякоўскіх творах, асабліва з часоў грамадзянскай вайны, заўважаецца значны ўхіл у бок прыгодніцтва [...]. Асабліва характарным і памысным прыгодніцкі ўхіл ёсць у Мурашкі («Прыгранічны манастыр» і інш.). Ёсць прыгодніцтва крыху ў Нікановіча (не зусім вытрыманае), у Вечара (яшчэ не аформленае) і ў іншых аўтараў.

У некаторых творах паасобных маладнякоўцаў часам шмат пафасу і стылізацыі мовы, з пэўным ушчэрбам для праўдзівай мастацкасці (Лынькоў, Нікановіч, Мурашка, часткова Відук, Барашка).

Новы ў маладнякоўскай прозе жанр — «сатырыстычную навелу» — даў Гаўрук у мастацкім апавяданні з жыцця гарадскога мяшчанства «У маткі за пазухай».

Плынь асаблівага рамантычнага псіхалагізму ўнёс быў у маладнякоўскую прозу Траецкі («Працерабіў шлях», «Апошні дзень», «Туманныя ночы»),

але чамусьці апошнім часам яго апавяданні ў друку не з'яўляюцца. Шмат псіхалагізму ў апавяданнях Відука («Таіса», «Спатканне»). Умее даць псіхалагічны аналіз Каваль («Дзед Піліп» і інш.).

Мова ў маладнякоўцаў зазвычай вельмі народная мова. Але ў некаторых з іх трапляецца шмат расіянізмаў, без якіх, тым часам, лёгка абысціся, карыстаючыся народнай беларускай мовай. Расіянізмы гэтыя асабліва шкодзяць сінтаксічнай пабудове сказа ў маладнякоўскіх аўтараў. Частая з'ява — не ўласцівае народнай беларускай мове і рэдкае ў літаратурнай мове — ужыванне маладнякоўцамі дзеепрыметнікаў, роднага склону для паказання прыналежнасці (шапка бацькі, замест бацькава шапка), «іх» на месцы «іхніх» і да т. п. Шмат расіянізмаў і ў слоўніку. Але ўсё гэта стасуецца толькі да паасобных аўтараў, якія мала яшчэ зважаюць на культуру мовы, так патрэбную для мастацкай творчасці, асабліва ў беларускіх умовах.

З асобных празаікаў-маладнякоўцаў асабліва трэба адзначыць Каваля. У яго вельмі мастацкі стыль. На фоне ўсяе сучаснай беларускай мастацкай прозы за апошні час даволі яскравымі з'явамі былі выступленні двух маладых аўтараў — гэта якраз маладнякоўца Каваля і ўзвышаўца Лукаша Калюгі. Пэўнымі хібамі ў творчасці Каваля трэба лічыць, тым часам, слабую сюжэтную пабудову, некаторую аднастайнасць тэматыкі і яшчэ не зусім зжыты сялянскі прымітывізм [...].

Лынькоў яшчэ не зусім вызваліўся з-пад некаторых уплываў (магчыма, уплываў Зарэцкага).

Мурашка дае ўжо вялікія палотны. Памысна карыстаючыся элементам прыгодніцтва, ён заўсёды дае цікавы сюжэт і характэрную фабулу.

Хурсіка дагэтуль недаацэньвалі. А тым часам ён даволі моцны мастак слова, умее ўлавіць у жыцці сутнае для свайго часу і эпохі, дае вельмі яскравыя партрэты і самую сакавітую мову. Шкодзіць яму часам ухіл у грубы натуралізм.

Пафас, стылізаваныя ўстаўкі, пагоня за эфектамі, непраўдападобнасць, часам грубаваты натуралізм у мове шкодзяць і Нікановічу. Яго апавяданні нібы разлічаны на прымітыўнага чытача. Але аўтарская шчырасць, адданасць справе, любоў да прыго-

жага вобраза і слова, захапленне сваёй тэмай і непадкупнае ідэалізаванне сваіх герояў аслабляюць недахопы ў творчасці Нікановіча і робяць іх дадатнай з'явай у сучасным стане маладнякоўскае прозы.

З іншых аўтараў асабліва вызначаецца сваёй самабытнай мастацкасцю Відук, але можна думаць, што ён яшчэ не знайшоў уласцівых сабе і памысных у беларускай літаратуры жанраў. Відук — моцны мастак слова, і ад яго, калі ён зусім аформіцца, шмат чаго можна чакаць.

З мастакоў мастацкага нарысу вызначаецца Барашка [...].

З маладых празаікаў вызначаюцца як мастакі-стылісты Гараўскі і Мікуліч.

Добра піша ў рэалістычным стылі Хв. Явар.

Умее даць моцны абразок Лявонны, хоць часам спушчаецца да поўнага прымітывізму.

## Драматычная творчасць сучасных маладнякоўцаў

Самае слабае месца ў творчасці «Маладняка», як і ва ўсёй сучаснай беларускай літаратуры,— драматычная творчасць.

Паміж усіх сучасных маладнякоўцаў ёсць толькі адзін чысты драматург — Гарбацэвіч[234], аўтар вядомай цяпер у БССР драматычнай п'есы «Чырвоныя кветкі Беларусі». На жаль, ён чамусьці вельмі мала друкуецца. У зборніку Магілёўскай філіі «Маладняка» — «Дняпроўскія ўсплёскі» (1927) надрукавана яго п'еса на 5 кароткіх дзеяў «Пад вішнёвымі садкамі». Тут — вёска, бедная дзяўчына, заможны хлопец, каханне, здрада, помста. Шмат абрадаў і песенных уставак, прычым песні ёсць вельмі характэрныя, народныя, нідзе ў этнаграфічных зборніках не змешчаныя. Шмат руху і характэрных дыялогаў. Мова вобразная, народная, хоць у некаторых выпадках не зусім па-народнаму вытрыманая, часам таксама залішне грубаватая. Шмат прыказак. Часам дзеючыя асобы гавораць сімвалічна, па-кніжнаму — паэтычна, як у «Раскіданым гняздзе» Купалы. Шмат рэдкіх слоў. П'еса фальклорная і музычная. З яе можна зрабіць прыгожую інсцэнізацыю беларускага вясельнага абраду, прычым сюжэт і распрацоўка п'есы зро-

бяць яе вельмі сучаснай, а не толькі этнаграфічнай. Адно — канец залішне жорсткі.

У зборніку Віцебскай філіі «Світанне» (1927) змешчана п'еса на чатыры кароткія дзеі маладой аўтаркі Ганны Базыленкі «Чырвоная касынка». Тут — вельмі пашыраны сюжэт у маладнякоўскай беларускай літаратуры: вызваленне вясковай дзяўчыны праз камсамол. Сюжэт нагадвае ўрывак з аповесці «Гулянка» той жа аўтаркі.

У апошняй дзеі Ганна і Алесь ужо вядуць разам актыўную працу, жывуць у горадзе, і Ганна забірае з сабой і свайго малога брата, піянера Петруся.

Быт вёскі абмалёваны вельмі праўдзівымі і яскравымі фарбамі, хоць часам прабіваецца не зусім схаваная мастацкасцю тэндэнцыйнасць. Мова народная, даволі сакавітая, толькі шкодзяць расіянізмы і некаторая вульгарызаванасць. Ганна і Алесь гавораць дужа па-кніжнаму. Хочацца мець надзею, што Ганна Базыленка падгоніць запушчаныя ў маладнякоўскай творчасці гоні драматургіі. «Чырвоную касынку» можна ставіць на нашай вясковай сцэне.

Драматычны эцюд на 4 кароткія малюнкі «Камсамолка Галя» Я. Цікавага (Язэпа Мазуркевіча), змешчаны ў першым зборніку Віцебскай філіі «Пачатак» (1926), малюе польскую акупацыю 1920 г. «на берагах рэчкі Бярозы». Тут чатыры кароткія драматычныя малюнкі, але чаго там толькі няма! Малюнак першы: каханне камсамолкі Галі, дачкі заможных людзей, да падпольніка Лёнькі. Бацькі прымушаюць яе ледзь не гвалтам выйсці замуж за польскага пана Палхоўскага. Брат Галі — камуніст — стараецца пераканаць бацькоў і польскіх жандараў, што яны — сыны працоўнага народа, і потым разам з сястрой забівае гэтых жандараў. Потым ідзе малюнак, як вясковыя дзяўчаты забіраюць у палон колькі легіянераў. Малюнак трэці: Галя, Паўлік (брат яе) і Лёнька працуюць разам і выкрываюць шпега Палхоўскага. Малюнак чацвёрты: смерць Галі ў бойцы з палякамі.

Напісаны гэты эцюд вельмі прымітыўна.

Нарэшце, у «Аршанскім Маладняку», № 7 за 1928 г., змешчана п'еса на адну дзею Язэпа Віра (Гарасімовіча) «Панскае права». Аўтар малюе жыццё ў Заходняй Беларусі.

Гэтая рэч напісана лепей, чым «Камсамолка Галя», і яе можна ставіць на вясковай сцэне, зрабіўшы некаторыя выпраўленні.

Пан — князь — з аканомам здзекуюцца над людзьмі; пан б'е старога дзеда; часова перамагаюць сяляне; князь спалохаўся, уцякае, бабы яго заплявалі. Потым напад паліцыянтаў.

Гавораць дзеючыя асобы, асабліва рабочы Ясь, вельмі кніжна і суха. Недарэчнасць: хіба дзед, які адбываў ужо прыгон, можа хадзіць у поле пасвіць быдла? Потым, калі пан ужо на полі нарабіў вэрхалу, дзед апавядае пастушкам розныя старыя былі.

## Біяграфічна-крытычны слоўнік сучасных выдатных і тыповых маладнякоўцаў

ЗІНА БАНДАРЫНА. Нарадзілася ў 1908 г., у Горадні, у сям'і вайсковага. Была на ўцякацтве ад вайны. З малых год бачыла палітычную падпольную працу, перажыла арышт маці, зверскія здзекі палякаў. Вучылася ў беларускім педтэхнікуме ў Мінску. Была настаўніцай у беларускай школе ў Сібіры (1927). Цяпер працуе ў Гомелі, у рэдакцыі «Палескай праўды».

У 1926 г. выйшаў зборнік «Вершы» — яе, Вішнеўскай і Пфляўмбаўм. Друкуецца ў «Маладняку», у «Полымі» і розных выданнях. Падрыхтавала зборнік вершаў, з іх значная частка — з сібірскімі матывамі.

У зборніку «Вершы» (1926) — услаўленне працы жнеек, успаміны аб няволі і радасць вызвалення, сацыяльная радасць у дзень жаночага свята, апяванне вёскі, матывы кахання. Невялічкая паэмка «Галя» — з жыцця дзяўчыны-паўстанкі, якая грамадска-рэвалюцыйную павіннасць ставіць вышэй за сваё каханне.

Вершы гладкія, мілагучныя.

З пазнейшых вершаў трэба адзначыць верш «Студзень, студзень...». Над маўзалеем Леніна пяснярка кажа:

Я стаю і гляджу і дзіўлюся,
Любы, родны наш, наш дарагі!
Мы прывезлі вітань з Беларусі,
І твой шлях працярэбім мы!

Яна кажа, што і «братоў з Белавежы» вабіць «промень светлы пунсовай зары».

У вершы «Да прыезду Грамады» — глыбокае пачуццё і моцная воля. Пяснярка кажа:

Стройным шэрагам шчыльна, упарта
Дэманстранты на плошчу ідуць.
Увайшла у гісторыю новая дата,
Увесь свет будзе чуць Грамаду.

У вершы «Будучыня — наша» — камсамольская лірыка.

Верш «У школе» — сібірскія матывы. Любоў да дзетак. Любоў да краіны. Дзеткі кажуць ёй: «Нам казалі, што вы нас пакінеце», і жаль агарнуў яе. Дзеткі кажуць:

Мы ў Сібіры жывём і не мерзнем,
Будзем наскія кніжкі чытаць,
Мы запішамся ўсе ў піянеры,
Мы у школу не пойдзем без вас...

У вершы «Ля коміну» — асабістая лірыка. Глыбокае пачуццё. Драматызм змагання з самой сабою, з сваім каханнем. Жаданне суняць свой жаль і крыўду.

У вершы «Апошняя вясна» — асабістыя перажыванні, каханне і развітанне з маладосцю, з каханнем. Глыбокае і далікатнае пачуццё. Элегічнасць. Прыгожая, ясная думка, разам з некаторай нервовасцю.

Строфіка звычайная, рытмы лёгкія, далікатныя. Вобразы — з прыроды і навакольнага жыцця, заўсёды вельмі далікатныя, пяшчотныя, паэтычныя, але цалкам рэалістычныя, без усякіх сентыментальных салодкасцей.

Даволі добрая мова, хоць часам трапляюцца расіянізмы.

ІЛАРЫ БАРАШКА. Нарадзіўся 12 ліпеня (ст. ст.) 1905 года ў Мінску, у сям'і рабочага. Бацька працаваў на шпалернай фабрыцы Кантаровіча. Жылося бедна і цяжка. У 1915—1916 гг. давялося зазнаць гора на ўцякацтве ад вайны. Рэвалюцыя дала доступ да навукі, і Барашка цяпер — студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Праца ў дзяржаўным архіве скіравала яго да гістарычных тэм.

З 1924 года Барашка быў сакратаром часопіса «Полымя». З 1925 па 1927 год быў рэдактарам часопіса «Малады араты». У 1927 годзе быў намеснікам рэдактара газеты «Чырвоная змена».

Пачаў пісаць з 1922 г. Піша апавяданні, мастацкія нарысы. З таго часу друкуецца ў розных беларускіх выданнях. У 1926 г. выйшаў зборнік яго мастацкай прозы «У прасторы». Некаторыя рэчы пераkладзены на ўкраінскую мову, як апавяданні «Іерогліфы Яэля» (пераклаў С. Піліпенка[235]), «Нататкі пра Украіну».

Ілары Барашка выйшаў з рабочага асяроддзя і ёсць адным з тых маладых беларускіх пісьменнікаў, якія найбліжэй стаяць да Кастрычніка і найбольш выразна выяўляюць яго ў беларускай літаратуры.

Галоўны матыў у яго творчасці — рэвалюцыйнае змаганне.

Сюжэты для выяўлення гэтага матыву ён шукае часам у самым далёкім мінулым. Так, у невялічкім апавяданні «Іерогліфы Яэля» аўтар з замілаваннем стварае вобраз Яэля, правадыра паўстанцаў у старажытным Егіпце супраць фараонаў.

Часцей, аднак, бярэ Барашка рэвалюцыю 1905 года на Беларусі («Пяты год», «Бяда»), блізка пазнаёміўшыся з гістарычнымі матэрыяламі ў архіве.

Асабліва ж блізкая Барашку тэма — грамадзянская вайна на Беларусі, крывавае змаганне з разбэшчанымі акупантамі-палякамі («Ліпнёвыя дні», «Дэзерцір», «Дар за дар»).

Той жа рэвалюцыйны матыў скрозь праходзіць у Барашкі і тады, калі ён дае схематычны агляд нядаўна мінулых гадоў у эскізе «Брат, родны мой брат».

Як барацьбіт за пралетарскую ідэалогію малюе далей Барашка сацыялістычнае будаўніцтва ў Савецкай Беларусі і змаганне за новы, савецкі быт, прычым сюжэты бярэ з сялянскага жыцця, з жыцця вясковых камсамольцаў, настаўнікаў і з жыцця фабрычных рабочых.

Абразок «Прузына-ленінка» ўзяты з жыцця рабочых на Беларусі (шпалерная фабрыка). Тут ёсць ідэалізацыя фабрычнай працы, адна з першых спроб у гэтым кірунку ў беларускай літаратуры.

Апрача таго, Барашка мае некалькі нарысаў асобнага жанру, гэта — апрацаванні сюжэтаў з народнай творчасці, напісаныя паэтычна-стылізаванай мовай («Замак на возеры» і інш.).

АЛЕСЬ ВЕЧАР. Нарадзіўся 12 сакавіка (ст.ст.) 1905 г. у в. Малыя Машчыцы, 10 в. на захад ад Слуцка. Бацькі — сяляне. Бацька памёр ад брушнога тыфу, калі Алесю было месяцаў пяць. Алесь Вечар працаваў на гаспадарцы, быў загадчыкам хатычытальні, сакратаром камсамольскай ячэйкі. Год вучыўся ў сельскагаспадарчым тэхнікуме. Цяпер — студэнт Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках.

Друкуецца з 1925 г. Піша вершы і апавяданні, якія змяшчаліся, галоўным чынам, у «Аршанскім Маладняку». Падрыхтаваў зборнік «Кола дзён».

У сваім першым друкаваным вершы «Дзве думкі» («Аршанскі Маладняк», № 3, 1925 г.) Вечар закранае тую тэму, што навука дапамагае чалавеку вызначаць сваё месца ў жыцці і ў змаганні. Ва ўсіх яго вершах — амаль выключна сацыяльныя матывы.

У вершы «Нашы акорды» ён аглядае этапы на шляхах пралетарыяту, аглядае пройдзенае і зробленае, услаўляе сацыялістычнае будаўніцтва і выказвае пагарду да буржуазіі. Тут арыгінальная форма: вольны верш, моцныя вобразы і словы, паўнагучча, тут класіцызм і фабрычны рытм, так сказаць, імкненне да пралетарскага класіцызму. Толькі выраз «Білі свету старому па мордзе» — моцны, але грубы. Тон — узвышаны, рамантычны і класічны разам.

Часта любіць пісаць паэт аб пераломе ў жыцці вёскі, ён выяўляе імкненне да машынізацыі сельскай гаспадаркі, да калектывізацыі вёскі. Яго ідэал — культурнае падняцце сельскай гаспадаркі. У вершах «Стансы» яго матыў — трактары. У вершы «Канюшынны шум» ён пяе пра гармонію жалезнага рытму машыны з прасторамі і чырванню шышак канюшынных. Ён, між іншым, кажа:

> Не кажыце мне вы, што машынны імпэт
> Знішчыць паэтычнасць, колернасць лісця.
> Ён паэта толькі з вышыні Алімпа
> Знізіцца прымусіць да крыніц жыцця.

Адчуванне хараства, імкненне да яго, выяўленне яго ў жыцці і ў паэтычнай творчасці, культ прыроды як крыніцы, з якой можна піць асалоду,— уласцівыя Вечару рысы. Яшчэ адзін яго матыў — каханне. Яно ў яго заўсёды бадзёрае, мажорнае.

У форме ён імкнецца да навізны, але дае зразумелую масам форму.

У мастацкай прозе Вечар яшчэ не аформіўся. Апавяданні ўзяты з гарадского чыноўніцкага жыцця («Папяросніца ад Эпохі»), са змагання вясковага актывіста з кулакамі-бандытамі («Перамога») і з падпольнага жыцця ў Заходняй Беларусі («Бэзавы герой»).

ЯНКА ВІДУК. Нарадзіўся 3 лістапада (ст.ст.) 1905 г. у в. Труханавічы, 3 вярсты ад м. Грозава, на Случчыне. Бацькі — сяляне, але «вёску,— кажа ён,— ведаю недасканала, бо жылі бацькі на хутары (Верхні Случ, або Хваевіца, 15 в. ад Слуцка), між лясоў і імшараў, воддаль ад людзей». Цяпер — студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Піша Янка Відук вершы і прозу. Друкаваліся яго творы ў розных беларускіх выданнях.

Матывы ў вершах Янкі Відука, змешчаных у зборніку «Слуцкія песняры» (1926): выяўленне сувязі між яго творчасцю і прыродай, вясковым жыццём і цяжкай працай, выяўленне імпэту да жыцця ў апісанні цяжкай, але раднай сялянскай працы, малацьбы, услаўленне працы, праз якую ідзем да лепшай долі, радасць маладога касца на сенажаці ад хараства прыроды, ад любові да свае працы, ад адчування свае працоўнай сілы, наогул ідэалізацыя сялянскай працы, напрыклад, сяўбы, услаўленне маладняка і да т. п. Ён пяе:

Пот, што горкасцю еўся ў вочы,
Што сцякаў па спіне ручаём,
Маю песню купаў, каламуціў...

У вершах, змешчаных у зборніку «Наддзвінне» (1926), ідэалагічны змест не дрэнны, але па форме адчуваецца моцнае наследаванне Ясеніна, Пушчы. Паэт імкнецца пісаць вольным вершам, даваць арыгінальныя вобразы, па-моднаму расстаўляе радкі, арыгінальнічае, хоць дабра ад гэтага выходзіць, аднак, не шмат (вершы «Перлы дзён», «З лейцамі сінверных дум»).

У зборніку «Росквіт» (1927) змешчаны верш «Чуцён трывожны шум», у якім паэт гаворыць пра Леніна, пра свае настроі, але выходзіць, усё праз тую ж новую ў яго форму, нешта нейкае. У вершы «Чадра» — пра ўсходніх жанчын, што ўжо зды-

маюць чадры. У гэтым вершы, у апісаннях, шмат эротыкі, і дзе яна ёсць, там ёсць і праўдзівае паэтычнае пачуццё ў Відука. Можна падумаць, што найбольш уласцівы Відуку матыў — эротыка.

Што да прозы, дык у Янкі Відука — яна мацнейшая за вершы і вызначае яго паміж празаікаў-маладнякоўцаў. Тут у яго рэалізм тонка і прыгожа пераплятаецца з рамантычным настроем. Праўда, у ідэалагічным змесце і ў форме тут адчуваецца пэўная інтэлігентнасць і буржуазныя літаратурныя ўплывы, але аўтар моцна трымаецца за сваё пралетарскае пачуццё.

У форме балючых прыгадванняў Таісе аб мінулым аўтар апісвае жудасці з польскай акупацыі на Беларусі, малюе цяжкасць паднявольнай працы, салодкасць кахання і горыч здрады, партызаншчыну, сацыяльную няроўнасць, псіхалогію жанчыны і г. д.

Заслуга аўтара, што ён пэўным літаратурным прыёмам ажывіў не новы ўжо сюжэт у беларускай літаратуры паслякастрычніцкага перыяду.

Ёсць трохі штучнасці, нервовасці, трохі недагляду ў мове.

У зборніку Полацкай філіі «Росквіт», пад псеўданімам Крушына, надрукавана Відукова апавяданне «Спатканне» — жанр і стыль, як «Таіса». Апавяданне «Спатканне» — цікавае, псіхалагічнае, добрае апавяданне.

У часопісе літаратурна-мастацкай камуны — «Росквіт», № 2, 1928 года, надрукавана аповесць Янкі Відука «Затока ў бурах». Тут — пачатак імперыялістычнай вайны, жыццё салдаткі без мужа, вайсковыя пастоі і гвалты, рэвалюцыя на вёсцы, бандытызм.

Напісана аповесць з адрывістых абразкоў, як у кінамалюнку, так што часам прыходзіцца падумаць, пра што ці каго гэта гаворыць цяпер аўтар.

У апавяданні «Зарубчык» аўтар апавядае, як ехаў ён раз улетку, уначы, спаткаўся з цікавым дзедам і выпытваў у яго розныя цікавыя падзеі з мінулага жыцця. Апавяданне цікавае, але няма ў ім цэласнасці, яно разбягаецца ў розныя падзеі. Фактычна тут два галоўных апавяданні.

ПЛАТОН ГАЛАВАЧ. Нарадзіўся 18 красавіка (н. ст.) 1903 года, у вёсцы Пабокавічы, вёрст 15 на

захад ад Бабруйска. Сын селяніна. Скончыў Беларускі камуністычны універсітэт (1926). Быўшы студэнтам, ездзіў узімку 1924—1925 г. на працу ў вёску, у Віцебшчыну. Пасля гэтага, у пачатку 1925 г., пачаў пісаць у «Савецкую Беларусь» (аб вёсцы ў Межынскім раёне). У 1927 г. выйшаў зборнік яго апавяданняў «Дробязі жыцця». Пасля таго друкаваліся яшчэ яго апавяданні ў «Маладняку» і «Чырвонай змене».

У зборніку «Дробязі жыцця» 4 вялікія апавяданні.

У апавяданні «Яўленая» — выдуманае папом цуда. Сяляне даведаліся аб ашуканстве, і поп засіліўся на вяроўцы ад звону.

У апавяданні «Загубленае жыццё» — доля беднай сялянскай дзяўчыны-парабчанкі. Паніч ашукаў яе. Яна атруцілася.

У апавяданні «Рубанаўскі вузел» — землеўпарадкаванне ў вёсцы Рубанаўцы да рэвалюцыі і пасля рэвалюцыі. Савецкая ўлада належна разблытвае вузел.

Апошняе ў зборніку апавяданне — «Абмылілася». Апісваецца жыццё дзяўчыны — дачкі гарадскога рамесніка. Яна імкнулася да новага жыцця, але абмылілася, спаткаўшы на сваёй сцежцы распуснага тыпа з былых паноў, што прымазаўся да партыі.

З пазнейшых Галавачовых твораў трэба адзначыць апавяданне «Дзве сцежкі». Тут — бацька кулак і яго сын, які пайшоў іншаю, рэвалюцыйнай і камуністычнай, сцежкай жыцця.

У апавяданні «Кнак» малюецца страшэнная сялянская цемра і адсталасць. Людзі атручаюць жыццё сваркамі і скандаламі за «кнак» — царскія грошы, якія страцілі сваю цану.

У апавяданні «Дасужая» — жыццё беднай сялянскай дзяўчыны. Рэвалюцыя адчыніла ёй дзверы да навукі. Яна — рабфакаўка. Апісваецца жыццё савецкай вучнёўскай моладзі. Супрацьстаўляецца гэтае жыццё жыццю дзяўчыны «пад капелюшом» — з мяшчанскага асяроддзя.

Галоўнае ў ідэалагічным змесце Галавачовых твораў — гэта супрацьстаўленне новага ладу жыцця старому ладу жыцця. Апавядаючы аб мінулым, аўтар малюе сялянскую беднасць, бяспраўнае стано-

вішча працоўнага чалавека, надмерную працу, цемру і забабоны, злосць, сваркі. Пераходзячы да сучаснасці, ён паказвае, як цяжка перакуліць усю гэтую спадчыну яшчэ і цяпер, у савецкіх умовах. Але ж, кажа ён сваімі апавяданнямі, у гэтых умовах рэлігійны дурнап'ян знішчаецца, і дзед выкрывае папоўскае ашуканства. У гэтых умовах паніч яшчэ можа загубіць няшчасную Ніну, бо яна цёмная, слабая, але цяжэй гэта зрабіць прымазаніку да сучаснасці Капцюру ў адносінах да Ліды, і ён будзе мець належную ўзнагароду за свае злачынствы. Ды вось ужо, у гэтых умовах, з'яўляецца моцная, свядомая і энергічная барацьбітка за новы лад, «дасужая» Надзя. У гэтых умовах бацька-кулак не завяжа свету свайму ідэйнаму сыну, а наадварот — сын-камуніст адбярэ ў гэтага бацькі зямлю і аддасць яе працоўнай беднаце. Дадатнае ў сялянскім быце Галавач бачыць найчасцей у жыцці той беднаты, якая ахвотна бярэцца цяпер будаваць новае жыццё.

Што да фармальна-мастацкіх асаблівасцей, дык трэба сказаць, што збудаваны апавяданні ў Галавача яшчэ не заўсёды з належнаю цвёрдасцю і вытрыманасцю. Заўважаецца некаторая непрапарцыянальнасць частак апавядання: ёсць часам размах на аповесць, але аўтар уціскае сябе ў асадкі апавядання. Апавяданне развіваецца паводле хронікі падзей; найчасцей падзеі звязваюцца, галоўным чынам, з жыццём адной асобы. Лепш удаюцца аўтару апавяданні карацейшыя або з кароценькімі жывымі раздзеламі. Часам у Галавача занадта шмат сур'ёзнасці, мала жывасці, слаба выяўляецца гумар і сатыра, хоць нахіл да іх у некаторых месцах ёсць зусім выразны і памысны. Аднак жа, у яго ёсць пачуццё, шчырая спагада да бяздольных людзей, ласка да маладых парыванняў, і ў гэтых месцах апавяданні яго ажыўляюцца і робяць большае мастацкае ўражанне. У яго няма лішняе голае тэндэнцыйнасці. Ён трымаецца здаровага рэалізму. Блізка што няма ў яго і ўхілу ў лішні натуралізм, што заўважаецца часам у Хурсіка, Нікановіча і інш.

ЮРКА ГАЎРУК. Нарадзіўся 23 красавіка (ст.ст.) 1905 г. у Слуцку. Сын сталяра. Вучыўся ў гімназіі ў Слуцку. Скончыў Вышэйшыя літаратурна-мастацкія курсы імя Брусава ў Маскве. Валодае не-

калькімі еўрапейскімі мовамі. Цяпер — выкладчык беларусазнаўства ў Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. Піша вершы, вершаваныя пераклады, апавяданні, навукова-крытычныя артыкулы і рэцэнзіі. У 1926 г. выйшаў асобнаю кніжкаю яго мастацкі нарыс «Вясковыя рыскі». У 1928 г. выйшаў яго зборнік «Кветкі з чужых палёў» з перакладамі з Байрана, Шэлі, Тэнісана, Лангфела, Уітмена, Шылера, Гётэ, Гейнэ, Кёрнера, Гюго, Леконт дэ Ліля, Бадлера, Верлена, Тар'е, Петраркі, Кардучы, Негры, Міцкевіча і Бранеўскага.

З яго уласных вершаў асабліва вызначаецца верш «Максім Багдановіч» («Аршанскі маладняк», № 6, 1927 г.), дзе шмат мастацкай апісальнасці і шчыра выказанага пачуцця.

З яго апавяданняў вызначаецца ў беларускай літаратуры сатырычная навела з мяшчанскага жыцця «У маткі за пазухай» («Аршанскі маладняк», № 7, 1928 г.). З крытычна-даследчых артыкулаў — «Праблемы таленту» (аб «Сымоне-музыку» Якуба Коласа, друкаваны ў «Аршанскім маладняку», № 6, 1927 г.) [...].

АЛЕСЬ ЗВОНАК. Праўдзівае імя — Пятро Звонак. Нарадзіўся 2 лютага (ст.ст.) 1907 г. ў гор. Мінску. Сын рабочага. Студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, разам — журналіст і савецкі служачы. Друкуецца з 1925 г. ў розных часопісах і газетах. У 1926 г. выйшаў калектыўны зборнік вершаў «Пунсовае ранне» — Бобрыка, яго і Туміловіча. Цяпер друкуецца яго зборнік «Буры ў граніце».

Галоўныя матывы ў вершах Алеся Звонака — рэвалюцыйна-рамантычныя песні аб грамадзянскай вайне на Беларусі, аб новым, сацыялістычным будаўніцтве ў вольнай БССР, любоў да сярмяжнае Беларусі, да беларускай культуры, жаданне вызваліць Заходнюю Беларусь, акупаваную Польшчаю, і, апрача гэтых матываў, найбольш характэрныя ў яго творчасці матывы — матывы горада («цяпер радней мне гулкі горад»). Але блізкасці да фабрычнага рабочага жыцця ў вершах паэта мала.

У пазнейшых вершах — часцей індывідуальныя перажыванні; паэт заяўляе, што ён не паддаецца суму. Не хоча развітацца з маладосцю.

Тон яго вершаў часам лішпе праставаты і грубаваты, але з захаваннем пэўнай элегантнасці. Ёсць кур'ёзныя месцы:

Ступаю цвёрда... Знаю мэту нашу —
Шляхі наперадзе няўхільныя, адны...
І, як другія, мэты не дагнаўшы,
Я не згублю дарогаю штаны.

Гэтак ён піша ў вершы «У снежнай замеці», дзе, тым часам, ёсць і паэтычнае ўспрыманне прыроды, ёсць рух, жаданне мець бадзёрасць.

У вершы «Ёй...» (з матывамі кахання) ёсць такое месца:

Не важна,
Што пашлеш паэта к чорту —
Паэтаў часта
К чорту шлюць...

Тэхніка вершаў у Алеся Звонака не вызначаецца асаблівымі дасягненнямі, хоць пэўнае шуканне, калі не сказаць поступ, у яго ёсць. Трэба адзначыць яго, мусіць, часовы, ухіл у бок так званага вольнага верша. Вершы яго наогул даволі энергічныя.

Апрача вершаў, друкаваліся два апавяданні Алеся Звонака: «Сцежкі крывыя» (у альманаху «Наддзвінне», пад псеўданімам П. Алесін) і «За бартом» (у «Маладняку»). Апавяданне «Сцежкі крывыя» лепш удалося аўтару, чым шмат якія з яго вершаў. Тут ёсць, напрыклад, такія лірычныя адступленні:

«Ночка ты мая, ночка смугая!..
Зоры вы мае, зоры брыльянтавыя!..
Землі вы мае, землі раўнінныя!..
Радзіна ты мая, палявая, ціхая!..
Ветры вы мае, ветры ласкавыя!..
Палі вы мае, палі неабсяжныя!..

Абнімаўся з вамі. Цалаваў вас. Гімны складаў вам. Душу аддаваў вам. Сэрца аддам вам. У навальніцы грозныя крычаў з ветрам разам. У дні пагожыя радаваўся з вамі. Маліўся ў сіні блакітныя, у далі зялёныя...»

Сюжэт: сын заможнага бацькі, Арцём Ліцкевіч, прыгожы, хітры і хцівы, меў поспех у дзяўчат, але не адгукалася на яго каханне маладая Юлька, вельмі паэтычная дзяўчына, бацька якой загінуў, набываючы кавалак хлеба, і жыла яна з беднай маткаю. На-

рэшце дабіўся свайго Арцём Ліцкевіч, ашукаў, скарыстаў, кінуў. Юлька нарадзіла сына. Як цяжка ёй жылося! Суд, аліменты. Падкупленыя сведкі, ашуканыя суддзі. І вось — Юлька партыйка, жанарганізатар.

Аўтар добра ведае народную мову. Дае мастацкія абразкі п'янства, суда. Добра ведае народны быт. У апавяданні ёсць вельмі моцныя, паэтычныя месцы. Вынік суда робіць моцнае ўражанне. Толькі канец апавядання скамечаны.

ВАСІЛЬ КАВАЛЬ. Нарадзіўся 4 жніўня (ст.ст.) 1907 г. у в. Саве, 12 вёрст ад Горак па дарозе ў Оршу. Сын беднага селяніна. Бліжэй да беларускай культуры падышоў Каваль у Горках, калі вучыўся па агульнаадукацыйных курсах у 1925 г. і калі выкладчыкам там быў Міхась Ганчарык, камуніст і маладняковец, беларускі дзеяч яшчэ з нашаніўскіх часоў. «Быццам свет мне адчыніўся»,— апавядае Васіль Каваль аб тым часе. У 1925—1926 гг. хадзіў Васіль Каваль, яшчэ ў сялянскай світцы, на зборкі беларускага літаратурнага гуртка ў акадэміі і на зборкі тутэйшых маладнякоўцаў. Цяпер ён — студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Пісаць пачынаў з вершаў. Друкуецца з 1926 г. У 1927 г. выйшаў зборнік яго апавяданняў «Як вясну гукалі», а ў 1928 г.— другі зборнік апавяданняў «На загонах». Творы яго друкуюцца ў «Маладняку», «Полымі» і інш. выданнях.

Літаратурная крытыка вельмі прыхільна спаткала з'яўленне твораў Васіля Каваля. Усе аўтары рэцэнзій на зборнік «Як вясну гукалі» аднагалосна прызнавалі Васіля Каваля за новую выдатную сілу ў беларускай літаратуры паслякастрычніцкага перыяду. Яго галоўную асаблівасць бачылі ў моцнай сувязі з зямлёю, з вёскаю, з сялянствам, а таксама ў асаблівай паэтычнасці стылю і блізкасці да стылістычных прыёмаў народнай творчасці. Паказваючы на пэўныя недахопы ў творах Каваля, рэцэнзенты часам крута разыходзіліся і супярэчылі адзін аднаму.

Так, рэцэнзент М. Грашч [236] у альманаху полацкай маладнякоўскай філіі «Росквіт» (1927), знаходзіў ідэалагічную нявытрыманасць у Каваля ў тым, што ён падбірае неправдападобны ці не тыповы, не характэрны дзеля нашага часу матэрыял: вёска вель-

мі бедная, сакратар камсамольскай ячэйкі, маючы сярэднюю адукацыю, пачаў п'янстваваць, калі яму не ўдалося вучыцца далей. З другога боку, рэцэнзент Р. Бунтар у «Звяздзе» (№ 145, за 29 чэрвеня 1927 г.) адзначае, што «ідэалагічная ўстаноўка зборніка зусім вытрыманая», і падкрэсліваў, што аўтар не паддаецца суму. А рэцэнзент А. М — ка[237] ў «Чырвоным сейбіце» (№ 16) пісаў: «...аўтар удала скампанаваў шэраг малюнкаў вясковага жыцця, якія даюць даволі поўнае ўяўленне аб сучаснай вёсцы», што «аўтар у захапленні ад жыватворчага росквіту маладых сіл».

А. Лясны[238] піша («Савецкая Беларусь», № 185, 12/VIII 1928 г.):

«Бадай ніхто з нашых маладых пісьменнікаў ды нават і старэйшых не ахапляе так эмацыянальна сілу зямлі і цягу да яе чалавека, самую існасць сялянскага жыцця і працы, вясковую прыроду і побыт у яго самых вострых і яскравых праявах, як Васіль Каваль».

Агулам можна сказаць, што Васіль Каваль — тыповы цяпер на Беларусі сялянскі пісьменнік з пралетарскай ідэалогіяй, але рост новага жыцця на вёсцы ў яго, сапраўды, пакуль што яшчэ мала паказаны.

Тым часам, галоўны яго матыў — імкненне да новага жыцця. Скрозь у яго веснавая юнацкая радасць і часам асаблівы прыгожы сум. Скрозь у яго — асаблівая свежасць пачуццяў.

Матывы ў яго — прырода, асаблівая вясковая прырода ўвесну і ўвосень, сялянская праца, найчасцей жніво, перадавы селянін, селянін-мастак, селянін з раздвоенай псіхалогіяй (які чагосьці хацеў бы, але не ўдаецца), нарэшце — селянін у горадзе.

Вось кароткі змест яго твораў.

«Сяльчане». Тут аўтар хацеў паказаць сучасную вёску ва ўсе поры года. Малюнак вёскі. Праца. Навы строй. Змена ў быце: камсамольская ячэйка, адыход сялян ад царквы. Імкненне зруйнаваць старое жыццё і будаваць новае. Спадчына старога: п'янства, карысць толькі дзеля сябе, супрацьстаўленне ўласных інтарэсаў агульным (Курыла, Жук і Нічыпар). Змітрок Канцавы — вясковы актывіст, правадыр сялян.

«Сіла зямлі». Аўтар малюе чалавека на фоне змагання за лепшае жыццё.

«Ноч». Аўтар паказвае перадавога чалавека з сучаснай вёскі.

«На вуліцы» — боль за некультурнасць вёскі.

«Жніво» — сувязь вёскі з горадам.

«Наўздагон за доляю» — змаганне жанчыны за новае, лепшае.

«Восень» — змаганне паўстанцаў з белапалякамі.

«На загонах». Вёска. Перадрэвалюцыйная эпоха. Імперыялістычная вайна. Стараста прыціскае беднага селяніна. Селяніна арыштоўваюць у валасці. Ён забівае старасту, уцякае ў лес і робіць самагубства.

«Дзед Пілін». Аўтар хацеў паказаць старога, якому паміраць не хочацца, але і жыць цяжка. Спісваў аўтар «Дзеда Піліпа» болей-меней з свайго дзеда.

«Як вясну гукалі». Аўтар хацеў выліць свой настрой, аздобіць сваё цяжкае жыццё.

«Жыццё і сонца» — аўтабіяграфічныя абразкі, напісаныя з адным настроем, з вельмі глыбокім і моцным пачуццём, з вялікім мастацтвам.

«Буй-вецер», «Пра кветку брат-сястра», «Легенда пра песню» — апрацоўка народнай творчасці. Усё ўзята непасрэдна з народных вуснаў, бо пра этнаграфічныя зборнікі аўтар тады, калі пісаў іх, яшчэ зусім не ведаў.

У Каваля няма яскравых, выразных, закончаных тыпізацый. Ён па-мастацку спісвае тыповае з натуры. У яго часам няма нават акрэсленых асоб. Ён апісвае іх коратка, мімаходам, як даўно знаёмых. Індывідуальныя асаблівасці яго герояў не стаяць на першым плане. У сваіх асобах ён шукае водгукаў на свае ўласныя індывідуальныя асаблівасці, на свае думкі і перажыванні. «Гэта нават не сілуэты,— піша рэцэнзент С. Дробуш [239],— гэта толькі фон, песенна-бытавая сялянская маса».

Няма ў яго і сюжэтнасці, што часам выглядае ўжо ў яго пэўным недахопам. У яго слабая кампазіцыйная ўвязка. Гэта — «лірычныя нататкі, дзе ў аснову кладзецца матыў», як кажа рэцэнзент С. Дробуш. А. Лясны піша, што «Сяльчане» — гэта «шэраг паасобных абразкоў-эскізаў, звязаных паміж сабою больш тэматычна, чым кампазіцыйна». Можна сказаць, што толькі агульная мастацкая моц у аўтара робіць яго слабасць у сюжэтнай пабудове нязначнай, непрыкметнай для чытача.

Але трэба зазначыць, што ў яго часам наглядаецца пэўная аднастайнасць, якая залежыць якраз ад слабасці ў сюжэце. Праўда, часам яна залежыць у яго і ад пэўнага сялянскага прымітывізму ў падходзе да жыцця, нават ад некаторага своеасаблівага сентыменталізму. А да гэтага часам далучаюцца яшчэ і паўторы ў вобразах і словах, некаторая пануранасць, тое, што іншым разам эмацыянальнасць у яго ні падвышаецца, ні зніжаецца.

Галоўная ж яго моц якраз у той эмацыянальнасці, у лірычнасці, у рытмічнасці мовы. Эмацыянальнасцю ў яго насычаны ўсе творы. Рэцэнзент Т. Глыбоцкі[240] лічыць недахопам у творах Каваля гэтую надмерную лірычную перагружанасць і слушна раіць аўтару звярнуць увагу на разгортванне сюжэта, на большую тыпізацыю персанажаў. Але Т. Глыбоцкі зазначае таксама «жывасць партрэтаў» у апавяданні «Сяльчане». А рэцэнзент А. Лясны наконт пазнейшага па часе напісання твора, апавядання «На загонах», зазначае, што тут ёсць «пэўны сюжэт і даволі добра развіты». Каваль — апавядальнік-лірык, і яму, безумоўна, трэба падыходзіць да выбару жанраў і сюжэтаў так, каб галоўная яго асаблівасць — лірызм — не цярпела б ад вузкасці рамак узятае формы, але і не спараджала б аднастайнасці.

На яго творчасці ёсць вялікія ўплывы народнай творчасці: казак (легенд) і песняў. Больш уплываў ад песні. Ён часта ўстаўляе песенныя ўрыўкі. Часам — не зусім моцна ўвязаўшы іх з ходам апавядання, так што прыём гэты кідаецца ў вочы. Ён любіць песню, піша, як складаюцца песні. І прыроду ён апісвае, як тонкі лірык, песенным спосабам.

Таксама трэба падкрэсліць у яго важную рысу, паказаную Т. Глыбоцкім: «Нахіл да філасофскага заглядання ў нетры жыцця».

МІХАСЬ ЛЫНЬКОЎ. Нарадзіўся 8 лістапада (ст.ст.) 1899 г. ў в. Сялюты[241] Віцебскага павета і губерні. Гады дзяцінства і юнацтва жыў на чыгунцы. Бацькі яго былі рамонтныя рабочыя. Разам з імі вандраваў ён па свеце, быў у Віцебску, Архангельску, на Далёкім Усходзе. Скончыў настаўніцкую семінарыю ў Рагачове. Быў настаўнікам на Гомельшчыне. Там жа прымаў актыўны ўдзел у партызан-

скіх аддзелах супраць палякаў, гетмана і немцаў. Аб гэтым часе Лынькоў успамінае:

«Быў «ад'ютантам» Ліпініцкага партызанскага атрада, што ўваходзіў у Роўканіцкі сектар партызанаў. Змагаліся з палякамі. Яны знаходзіліся тады ў Рагачове,— рабілі напады на наш раён, але ў большасці без поспехаў — заўсёды адбівалі іх. Мелі партызаны стычкі і з гомельскімі гайдамакамі. Асабліва крута прыйшлося пры нямецкай акупацыі. Рэгулярнымі нямецкімі часцямі нашы атрады былі разбіты. Роўканіцкі штаб расстрэлены, спалена некалькі вёсак, у тым ліку каля 300 двароў сяла Кашалёва. Многіх пабралі ў палон і парасстралялі. Арганізатары і актыўныя ўдзельнікі партызаншчыны нямецкім камандаваннем былі абвешчаны па-за законам. Папаўшы толькі на адзін дзень у нямецкія кіпцюры, мне пашанцавала своечасова ўцячы і выбрацца з занятага немцамі раёна».

У 1919 г. па мабілізацыі прафсаюзаў Міхась Лынькоў паступіў у Чырвоную Армію, у якой і прабыў да 1923 года. Удзельнічаў у паходах на Варшаву і на Булак-Балаховіча. Пасля варшаўскага паходу вандраваў з чырвонаармейскімі часткамі па Урале і Заходняй Сібіры.

Маці пасля смерці бацькі працавала рамонтнай рабочай да 1923 г., пакуль не загінула пад цягніком, пакінуўшы на рукі Міхасю досыць вялікую сям'ю.

У 1923—1925 гг. зноў быў настаўнікам у мястэчку Свержань Рагачоўскага павета, дзе добра пазнаёміўся з яўрэйскім местачковым бытам. З 1925 г. т. Лынькоў рэдагуе бабруйскую газету «Камуніст».

Першая ў яго друкаваная рэч — апавяданне «Гой» у зборніку бабруйскай філіі «Маладняка» «Уздым» (1926). Апавяданні яго з таго часу з'яўляліся ў розных выданнях. У 1928 г. выйшаў зборнік «Апавяданні».

У апавяданні «Цыгунныя песні» — сюжэт хаваецца за фразеалогіяй і стылізацыяй мовы. Пафасам і стылізацыяй хоча зрабіць аўтар мастацкае ўражанне на чытача. А без патрэбы. Сюжэт тут сам па сабе моцны: у Сібіры, на глухой станцыі, чэхаславакі, адступаючы, забіваюць стрэлачніка і гвалцяць да смерці яго дачку Арынку. Потым едуць чырвонаармейцы, знаходзяць гэта жудаснае злачынства і ха-

ваюць нябожчыкаў. І піша аб усім гэтым аўтар з глыбокім пачуццём і з праўдзівым рэвалюцыйным уздымам. І вобразы і словы ўмее часам даць ён такія простыя і такія моцныя ў сваёй прастаце. Апавяданне, безумоўна, цікавае і моцнае. Але стылізацыя, нарэшце, дакучае. Бо вось чамусьці падабаецца аўтару, праз меру падабаецца, каб песні былі «чыгунныя», гукі — «медныя і чыгунныя», поступ — «чыгунны», накіп — «сталёвая» і г. д. Усё гэта добра дзеля выяўлення нашай эпохі, эпохі «железных потоков», але добра, калі ўжываецца на сваім месцы, у належнай меры і ў пэўным жанры. Апавяданне ж «Чыгунныя песні», хоць і робіць цяпер на нас, сучаснікаў, моцнае ўражанне, бо мы самі шмат ведаем аб тым, што хоча сказаць аўтар, але яно, напэўна, не зможа па-мастацку ўзрушыць нават трошкі пазнейшага за нас чытальніка, якому патрэбна будзе не столькі фразеалогія, колькі належная ў гэтым жанры апавядальнасць і апісальнасць.

Лепшае, найбольш вытрыманае апавяданне ў зборніку — трэцяе, «Над Бугам». Аўтар добра ведае і ўмее паказаць паходны быт чырвонаармейцаў, па-мастацку дае іхнія размовы, трапна выяўляе адносіны іх адзін да аднаго. Аўтар не ідэалізуе чырвонаармейца, а паказвае нам яго такім, якім ён ёсць у праўдзівым жыцці. Чытач, па волі аўтара, зжываецца з яго сябрамі-чырвонаармейцамі, пераймаецца іхнімі інтарэсамі, жыве іхнімі надзеямі, — і таму так шкода яму, калі пасля гэтых надзей, пасля смехаў і жартаў, гінуць яны за вызваленне пралетарыяту, над далёкім Бугам. Аўтар дае тып чырвонаармейца-селяніна (Ванька разанскі) і тып чырвонаармейца з горада (Васька Шкетаў, быў кухарам, чалавекам у рэстаўрацыі, басяком, кахаў прастытутку). Больш ён цікавіцца Васькаю, але лепш яму ўдаўся Ванька. У апісанні драбніц паходнага чырвонаармейскага жыцця Лынькоў часам пакідае за сабой і Коласа, і Нёманскага, і Зарэцкага.

Можна заўважыць, што ўсе апавяданні ў зборніку М. Лынькова напісаны па дзвюх пэўных схемах. Па першай схеме напісаны апавяданні «Чыгунныя песні», «Крот», «Гой» і «Гома». У гэтай схеме звычай маем: бацькоў, дачку, каханка, змаганне чырвоных з белымі, паходны быт чырвонаармейцаў,

драматычную развязку і лірычнае заканчэнне. Бацька бывае добры (стрэлачнік), нядобры (Зяленскі), добры, але несвядомы (Мотэль). Маці заўсёды бывае паказана менш выразна, чым бацька. Дачка найчасцей добрая (Арынка, Яніна, Рыва), толькі ў адным выпадку трохі добрая, трохі нядобрая (Лэя). Каханак заўсёды добры (нейкі Алесь, што паказаны ў Арынчыных думках, потым аўтар ці асоба, ад якой вядзецца апавяданне, далей — шчаслівы Міхась, нарэшце — нешчаслівы Гома). Развязка залежыць ад змагання чырвоных з белымі (у схеме апавядання «Гома» месца чырвоных займае Гома і яго бацька, а месца белых — мяснік Хаім і Лэіны бацькі; у апавяданні «Гой» змаганне вядзецца ўжо часткаю і на культурна-бытавым фронце). Калі перамагаюць белыя — развязка трагічная, калі чырвоныя — развязка шчаслівая. Заканчэнне выконваецца зазвычай рэвалюцыйнай фразеалогіяй або якім чулым абразком. Па другой схеме напісана толькі адно апавяданне «Над Бугам». Але і ў гэтай другой схеме шмат момантаў агульных для абедзвюх схем (белыя — чырвоныя; паходны быт чырвоных; Васька Шкетаў і яго каханка; Іван і яго жонка; трагічная развязка; чулы абразок на заканчэнне).

У зборніку ёсць вельмі ўдалыя месцы, напрыклад, пра гузік (стар. 36): «Іван шые старанна, аж пот выступае на лысіне, але ж гузік цяпер не адарвеш паўротай салдат, прышыў гузік навек, штаны падзяруцца, а гузік цэлы будзе». Але залішняя любоў да стылізацыі даводзіць аўтара да лішне квятлівых сказаў, напрыклад (стар. 29): «Закрыеш вочы — і дзіўныя вобразы адзін за адным лунаюць у карагодзе бясконцым, у карагодзе, сатканым з красак стагоддзяў, з магутных подыхаў людской грамады, з вобразаў даўно мінулых дзён, прашумеўшых з жалезнага рокату расквітаючых дзён будучыні, з чалавечых дум і жаданняў...»

У мове Лынькова шмат расіянізмаў і неўласцівых народнай і паэтычна-літаратурнай беларускай мове дзеепрыметнікаў, родных склонаў для паказання прыналежнасці (шапка бацькі) і г. д.

З апошніх твораў Лынькова вельмі маляўніча напісаны і ўзорна скампанаваны абразок «Беня-ба-

лагол» (друкаваўся ў літаратурным дадатку да «Савецкае Беларусі»).

ВАЛЕРЫ МАРАКОЎ. Нарадзіўся 14 сакавіка (ст. ст.) 1909 г. у вёсцы Акалонія, шэсць вёрст пад Мінскам. Бацька — расіец, родам з вёскі Азяроўка Холмскага павета Пскоўскай губерні, быў меншы сын і мусіў шукаць кавалак хлеба ў свеце. Ён быў рабочым у Пецярбурзе. Маці Валерыя — беларуска, вельмі музычная жанчына, добра спявае. У часе імперыялістычнай вайны сям'я Мараковых выязджала і жыла ў Расіі і на Украіне.

У 1919 г. вярнуліся ў Мінск. З Акалоніі Валеры хадзіў вучыцца ў Мінск, пехатою, кожны дзень 6 вёрст туды і назад. Скончыўшы сямігодку, гады тры не вучыўся зусім. Хадзіў з бацькам на муලярскую працу. Жылі ў вельмі цяжкіх умовах. Пачаў пісаць вершы Валеры Маракоў, шукаючы ў іх адпачынку ад цяжкага жыцця і працы. Потым пазнаёміўся з Пушчаю і іншымі маладнякоўцамі. Працаваў, дзякуючы Якімовічу, у рэдакцыі «Беларускага піянера», нейкі час у рэдакцыі «Маладняка». Стараннямі Александровіча і Дудара трапіў у Беларускі педагагічны тэхнікум, дзе цяпер і вучыцца. З літаратурных уплываў самыя моцныя меў ад творчасці Лермантава: паэму «Демон» Лермантава Валеры ведае ўсю на памяць. Любіў Надсана, Някрасава, Нікіціна. Пазней зачытваўся «Завірухаю» Чарота і захапляўся вобразнасцю Пушчы.

Друкавацца Валеры Маракоў пачаў з 1925 г. Выйшлі зборнікі яго вершаў: «Пялёсткі» (1926) і «На залатым пакосе» (1927).

Рэцэнзенты даволі ўважліва адгукнуліся на выйсце з друку яго зборнікаў, але зборнік «Пялёсткі» спатканы быў даволі сурова за ідэалогію паэта. Рэцэнзенты зазначалі вялікі суб'ектывізм паэта, адсутнасць грамадскіх матываў, замкнутасць у сваім «я», пэўны песімізм.

Пасля выхаду зборніка «На залатым пакосе», у якім ёсць ужо і грамадскія матывы, гэтае ўражанне ў справе ідэалагічнае нявытрыманасці паэта трохі зменшылася.

Галоўныя матывы ў творчасці Валерыя Маракова — змаганне паэта са сваімі настроямі, любоў да

хараства, каханне. Шмат прыродаапісальнага элементу, які, аднак, з'яўляецца толькі дэкарацыяй.

Настроі ў Маракова — даволі няроўныя. То паэт вельмі галосіць аб сваёй радасці, юнацтве, жаданні абняць і сагрэць увесь свет, то ён наракае невядома на якіх злоснікаў, шукае супакою на ўлонні прыроды, у шырокіх прасторах, але і там чагосьці яму бракуе, і ён пачынае журыцца і выліваць свой сум у вершах. І, зноў жа, то ён вельмі імкнецца да кахання, то пачынае сумна разважаць аб ім. Некаторыя рэцэнзенты бачылі ў гэтых зломах маладой душы «стан дэкласаванасці», «адарванасць ад сацыяльнае масы», уплывы Ясеніна і г. д. Пры гэтым не ўсе рэцэнзенты бралі пад увагу, што Валеры Маракоў хацеў вучыцца і не мог, за цяжкаю працаю не бачыў свету, у паэзіі шукаў забыцця ад штодзённасці і рэалізаваў свой творчы настрой так, як навучыўся па творах Лермантава і Надсана. І вершы яго — гэта вершы юнака, які ўспрымае жыццё з запалам маладых сваіх гадоў, але без глыбіні дарослага чалавека. Ён гарыць, але раскідаецца ва ўсе бакі без належнай агульнай і палітычнай свядомасці. Ён часам мімаволі прымае позу тых герояў, аб якіх чытаў у сваіх улюбёных аўтараў. А натура ў яго вельмі чулая і ўспрымальная, ён лёгка захапляецца і траціць пачуццё меры. І таму ў яго вершах трапляюцца «наіўныя», паводле рэцэнзентаў, месцы; аднак жа гэтыя месцы гавораць не аб паэтычнай яго слабасці і не аб дэкласаванасці, а проста аб тым, што ён малады паэт, які яшчэ не знайшоў сваіх пэўных сцежак у жыцці і творчасці.

У далейшым, безумоўна, Валерыю Маракову трэба вызваліцца ад непатрэбнага ўдавання ў позу, ад паэтычнай дэкламацыі, не звязанай з адпаведным яму пачуццём, ад сляпога наследавання паэтам не нашае эпохі, ад наіўнага ў сучасных умовах плакання і сентыментальнічання, хоць бы і самага прыгожага.

Ён моцны ад прыроды паэт, і ён можа даць больш самабытныя вобразы і словы, чым даў у выпушчаных зборніках. Аб гэтым сведчыць тое, што вершы яго робяць моцнае ўражанне, хоць кола вобразаў і слоў у яго досыць абмежаванае, і не асабліва арыгінальнае. Метры і рытмы звычайныя, форма не

асабліва багатая. Але ў яго гэтулькі эмацыянальнай напружанасці і гэтулькі лірызму, што і небагатыя пры бліжэйшым іх аналізе мастацкія сродкі даюць шмат дасягненняў.

Амаль не ў кожным вершы ў Маракова такія вобразы і словы: раздолле, прыволле, шырокія прасторы, поле, дуброва, бярозы, асіны, ноч, месяц, рака, ветры, золак, зара, гарэнне, згаранне, дагаранне, перагаранне, спевы, перапевы, малітва, калені, укленчыць, грудзі, паланне на ўсе лады, піць, выпіць, упіцца, цвець, боль, разгул і г. д., і г. д. Камбінуючы на розныя лады гэтыя вобразы і словы, ён насычае свае вершы настраёвасцю, эмацыянальнасцю, лірызмам — і дасягае мастацкага ўражання.

Ён любіць яскравыя фарбы і звонкасць. У гэтым яго слабасць, у гэтым жа і яго моц. Бо яго, напрыклад, такія звычайныя эпітэты, ужытыя з пачуццём, не толькі лёгка кожным успрымаюцца, але і ў кожнага варушаць пачуццё. Аднак жа ў далейшым яму, безумоўна, трэба зменшыць такую аднастайнасць у мастацкіх сродках.

АРКАДЗЬ МОРКАЎКА. Нарадзіўся 26 студзеня (ст. ст.) 1900 г. у вёсцы Зазер'е, 15 вёрст ад мястэчка Рудзенска, на Чэрвеншчыне. Бацька — селянін, быў будачнікам на чыгунцы. Аркадзь Моркаўка быў тэлеграфістам, потым скончыў электрамеханічны тэхнікум у Віцебску. Цяпер працуе ў палаце мерак і вагаў у Мінску. Друкавацца пачаў з 1922 г. Піша вершы. Улетку 1928 г. выйшаў зборнік яго вершаў «Дым жыцця».

Галоўны матыў у творчасці Моркаўкі — філасофскі разгляд розных з'яў жыцця. Ён закранае і сацыяльнае змаганне, і сацыялістычнае будаўніцтва, і адносіны між горадам і вёскаю, і адносіны да каханай жанчыны і г. д., але скрозь у яго пры гэтым з'яўляюцца філасофскія разважанні, галоўны матыў якіх: хоць няма нічога вечнага, але свет прыгожы, жыццё патрабуе змагання, і таму будзем жыць і змагацца. На яго творчасці ёсць значны след інтэлігенцкай замкнутасці, у яго шмат пэўнага індывідуалізму і туманнага інтэлігенцкага касмізму. Але ў яго вершах ёсць, тым часам, і непасрэдная радасць жыцця, бадзёрасць, дзейнае класавае пачуццё. Ён піша («Крык вуліцы»):

Над намі кпілі, здзек над намі
Тварылі ўсе, забыўшы грэх.
Цяпер мы робім над панамі
Апошні суд, суд не на смех.

Ён цешыцца з культурнага росту вёскі (верш «У дарозе») і зазначае, што «са твараў сялянскіх змываюцца кросны доўгай сялянскай тугі» (тамсама). У адным лепшым сваім вершы ён піша аб сабе так:

Я не маю роскашы чырвонцаў,
Не заўсёды нават маю медзь,
Неваджу я залатога сонца,
Каб цябе, мой край, агнём сагрэць.

Але, кажа ён, у яго ёсць у сэрцы «звоны веча», у яго ёсць «пчолак-песень рой», тое, што ён «падслухаў у калядны вечар», «збіраў роснаю зарой», і ён кажа:

Ды і гэта я аддам балотам,
Ды і гэта я пушчу ў аўсы;
Хай паслухае вясковая галота,
Аб чым звоніць яе брат і сын.

Самае моцнае ў вершах Моркаўкі — вобраз і фраза. Ён стараецца даць моцны, арыгінальны вобраз і моцную, з малой колькасцю слоў, але з вялікім зместам фразу. Прыгожых вобразаў у яго шмат. Часам, аднак, трапляюцца вобразы, лішне адарваныя ад вобразнасці мас, часам нават не зусім зразумелыя. Верш свой Моркаўка старанна шліфуе, але таксама часам дае лішне выкручаныя фразы. Строфіка, рытміка і рыфмаванне ў яго даволі звычайныя, але верш наогул мілагучны і прыгожы.

РЫГОР МУРАШКА. Нарадзіўся 3 лютага (ст. ст.) 1902 г. у вёсцы Бязверхавічы, 7 вёрст ад Слуцка, у беднай сялянскай сям'і. Скончыў два класы настаўніцкай семінарыі ў Нясвіжы. Незвычайна многа чытаў і ўпарта займаўся самаадукацыяй. Асабліва шмат чытаў французскіх класікаў.

У 1920—1921 гг., па партыйнай мабілізацыі, служыў 18-гадовым хлапцом у Чырвонай Арміі. Ляжыўся ад тыфу ў Ленінградзе. Потым служыў у Вологдзе. Там тады быў страшны голад. «Давалі,— апавядае тав. Мурашка,— па $^3/_4$ аўсянага хлеба, на які цяпер не зірнула б свінчо». Затое кніг быў поўны

рынак, прадаваліся на паперу. І ён, аддаўшы за гэтыя кнігі ўсе свае рэчы, якія мелі хоць якую цану, у маі 1921 г., у адной гімнасцёрцы, калі на Валагодчыне мароз уначы на 12°, паехаў па мабілізацыі «халодны, галодны, але з поўным мяшком кніг», на родную Случчыну.

У 1922 г. на польскай мяжы забілі яго малодшага на 2 гады брата — «майго палітычнага выхаванца і бліжэйшага памочніка ў падпольнай працы з палякамі»,— кажа т. Мурашка. Брат паехаў на небяспечную работу ў мытніцу з даручэннем выкрыць хеўру злачынцаў. Абодва ведалі, што чакае яго там на мяжы. Падкуплены чырвонаармеец з прыкардоннай варты ў белую ліпнёвую ноч застрэліў яго... Р. Мурашка моцна любіў брата за яго здольнасці, рухавасць, маладую сур'ёзнасць (было яму толькі 18 год).

Не задаволілі асірацелага брата ні суд, ні мора людскога спачування, і Р. Мурашка знайшоў выхад у літаратуры, каб гэтым памсціцца за яго смерць і паставіць помнік на яго забытую, разбураную ўжо магілку.

Пачаў пісаць пераходзячы з невялічкіх допісаў на нарысы, фельетоны, малюнкі, абразкі — і гэтак да першага апавядання. Быў карэспандэнтам «Белорусской деревни», «Звязды», «Савецкай Беларусі», «Красноармейской правды».

У 1926 годзе выйшаў зборнік яго апавяданняў «Стрэл начны ў лесе». У 1928 г. у «Маладняку» друкавалася яго вялікая аповесць «У іхным доме». Цяпер рыхтуе да друку раман «Сын» — з эпохі рэвалюцыі 1905 г.

Творы Мурашкі задуманы і напісаны заўсёды цікава. У іх часам ёсць пэўны элемент прыгодніцтва. Стыль вобразны і дынамічны. Часам шкодзіць не зусім схаваная ідэалагічная тэндэнцыя і ўхіл у падкрэсліванне эфектаў. Галоўныя яго тэмы — змаганне з класавым ворагам, услаўленне працоўнага чалавека, барацьбіта за сацыяльнае вызваленне, а з другога боку — аналіз псіхалогіі «былых людзей», унутранай эміграцыі, выяўленне прычын, якія вядуць да маральнага раскладу слабых адзінак з савецкіх працаўнікоў.

МІКОЛА НІКАНОВІЧ. Нарадзіўся 2(15) красавіка 1902 г., у в. Клянік Смалявіцкага раёна на

Міншчыне. Бацькі — бедныя сяляне. Бацька ў 1910 г. застрэліўся, пакінуўшы вялікую сям'ю. У 1920 г. Мікола Нікановіч браў актыўны ўдзел у змаганні з палякамі. Потым настаўнічаў на вёсцы.

У 1926 г. выйшлі два зборнікі яго прозы «Золак» і «Радасць». У 1928 г. выйшаў трэці зборнік «Крык працы».

Найчасцей апісвае Нікановіч польскія гвалты на Беларусі і класавае змаганне ў сучаснай вёсцы. Сюжэты зазвычай аздабляюцца каханнем. Уласцівы Нікановічу літаратурны прыём — устаўкі з прыгожым апісаннем прыроды і падкрэсліванне драматычных момантаў і розных чулых месцаў.

Але, напрыклад, у зборніку «Радасць» паказана вельмі многа радасці, тым часам жыццё выходзіць нейкае аднабокае, нібы мёдам памазанае. Усё і ўсюды так радасна, так добра, нібы не ідзе яшчэ такое ўпартае змаганне за новы быт, нібы людзі працуюць дзеля адной весялосці. І ўся тая радасць жыцця, якая, магчыма, поўніла істоту аўтара, калі ён пісаў гэтыя свае апавяданні, выйшла вельмі салодка і, апрача фразеалогіі, нічога ад радасці не асталося.

У шмат якіх іншых апавяданнях Нікановіча таксама стылізацыя і фразеалогія. Пагоня за прыгожымі словамі і зваротамі, яскравымі вобразамі. Але яны не выцякаюць арганічна з творчасці, а з'яўляюцца пэўным літаратурным прыёмам. Скрозь у яго — гіпербалічнасць, перабольшванне, падкрэсліванне, не схаваная тэндэнцыя, агітацыйнасць і павучальнасць, крайнасць, неpraўдападобнасць, нетыповасць. Часам лішні натуралізм, жудасныя сцэны, біццё, кроў, слёзы і сентыментальнасць, павярхоўнае пачуццё.

Але аўтар сам праймаецца сваім пачуццём і не заўважае, як траціць мастацкую меру [...].

АЛЕСЬ САЛАГУБ. Нарадзіўся 5 кастрычніка 1906 г. у в. Зарудзічы Маладзечанскага павета на Віленшчыне. У 1915 г. уцякаў з бацькамі ад вайны. Пажылі нейкі час у Ратамцы пад Мінскам. Потым, не зважаючы ўвагі ні на кулі, ні на газы, вярнуліся ў родную вёску, дзе бачылі ўсе жахі імперыялістычнай вайны, перажылі акупацыю нямецкую і польскую.

У 1922 г. Салагуб паступіў у III клас Віленскай беларускай гімназіі. Скончыў гімназію ў 1927 г.

Польская паліцыя часта адрывала яго ад кніжак і кідала ў астрог.

Першага жніўня 1924 года ў вёску Зарудзічы налятае паліцыя і арыштоўвае Салагуба пад закідам, што ён у сваім павеце і ў Смаргонях раскідаў камуністычную «бібулу».

У дэфензіве спачатку дапытваліся досыць ласкава і запрапанавалі зрабіцца правакатарам. Але гэтая прапазіцыя так яго перапалохала, што ён расплакаўся. Тады дэфензіўшчык ударыў яго пад бараду так, што ён і слова вымавіць не мог. Нічога яны ад яго не даведаліся. Потым, завёўшы ў падвал, білі па вушах, у грудзі і зусім непрытомнага прымусілі падпісаць пратакол, у якім ён ні слова не цяміў. Калі сядзеў на Лукішках, добрыя людзі праз сцяну параілі яму адмовіцца ад пратакола. Сядзеў ён у камеры-адзіночцы. Два месяцы не давалі яму паперы і адбіралі шпільку, калі пісаў на сцяне. Віленскі акруговы суд даў яму два гады крэпасці, абвінавачваючы ў прыналежнасці да КПЗБ.

Праз чатыры месяцы яго былі вызвалілі пад заклад (3000 польскіх злотых), потым неўзабаве зноў пасадзілі, зноў выпусцілі пад заклад...

У часе стыхійнага росту Беларускай грамады Салагуб быў актыўным арганізатарам яе гурткоў у сваім павеце. Там яго паліцыя не чапала. Але калі ён перакінуўся на Ашмяншчыну, зараз яго схапілі і ўкінулі ў Стафанаўскі астрог у Вільні. Там сядзець было горш, чым на Лукішках. Пасадзілі яго ў камеры з «інтэлігентамі». Але «інтэлігенты» гэтыя былі: скарбовыя зладзеі, шпегі, якія сваімі «баданнямі» забівалі людзей насмерць, афіцэры-гвалтаўнікі, якія перабралі крайнюю мерку сваімі гвалтамі. Салагуба яны цкавалі як грамадаўца. Прасядзеў ён там два месяцы, і вельмі яны здаліся яму даўгімі, бо не мог ні з кім словам перакінуцца, хоць астрог быў бітма набіты грамадаўцамі і часта ён чуў гукі спеву «Ад веку мы спалі».

Выйшаўшы з Стафанаўкі, Салагуб канчаў ужо гімназію, здаў быў ужо колькі экзаменаў, каб атрымаць матуру (атэстат сталасці), аж зноў яго кідаюць у астрог на Лукішках. Сядзеў ён гэтым разам дзевяць месяцаў, да вясны 1928 г.

Цяпер Салагуб — у Мінску, студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Астрожнае жыццё ў сучаснай Польшчы Салагуб яскрава апісаў у нарысе «Галадоўка» («Маладняк», № 7, 1928 г.).

Вершы пачаў пісаць даўно, у гімназіі. Шмат напісаў іх, седзячы ў астрогах. Друкаваліся яны ў розных заходнебеларускіх выданнях (псеўданім — Лявон Чачотка). Цяпер Салагуб пачаў друкавацца ў «Маладняку» і ў «Полымі». Падрыхтаваў да друку зборнік вершаў з астрожнага жыцця «На хвалях змагання».

У вершах, якія друкаваліся ў мінскіх выданнях, Салагуб выяўляе свае астрожныя настроі. У вершы «Два другі» («Полымя», № 5, 1928 г.) ён параўноўвае сваю долю з жыццём куста малачаю:

Ў мурох, на цэменце глухім
Кусток разросся малачаю,
І ён, як я, сарваны з краю
Віхуры посвістам глухім;
Дзянькі юнацтва каратаю
На грунце чахлым і скупым...

Але ён верыць у «прыход вялікіх, светлых дзён».

У вершы «У турме» («Маладняк», № 6, 1928 г.) ён, між іншым, піша:

У чорнае неба праз краты
Расчулены кідаю зірк
Туды, дзе раскінуліся хаты,
Дзе сонечны плёскае вір.

. . . . . . . . . . . . . . .

І жудасна ціха навокал —
Маўчыць, як магіла, турма,
А хвілі паўзуць так павольна,
Як з багны вячэрняя ймгла.
З сусветам зліваюцца думкі.
І рытм я сусвету лаўлю.
І цёмнае ночкі лятункі
Падслухаць з-за кратаў магу.
Я чую, як зоркі гавораць
Аб дзецях нікчэмных зямлі.
Я чую сарказмы прастору
Над зацвіллю вузкай турмы...

ПАЎЛЮК ТРУС. Нарадзіўся ў 1904 г. ў в. Нізок Уздзенскага раёна на Міншчыне, у беднай сялянскай сям'і. Дзед яго, чалавек непісьменны, хацеў, каб і ўнук такім астаўся і працаваў на гаспадарцы.

І бацька, хоць і пісьменны чалавек, згаджаўся з дзедам, толькі маці настоіла: «Чужыя ж дзеці вучацца, няхай і ён працазіць у людзі».

Скончыўшы сямігодку, Паўлюк Трус год прасядзеў дома. Пачалася грамадзянская вайна, польская акупацыя. У час наступлення Чырвонай Арміі на Варшаву яго забралі ў абоз; прабыў там тры месяцы.

Седзячы дома, ён шмат чытаў і збіраў народную творчасць.

У 1923 г. паехаў паступаць у Мінскі педтэхнікум. Выпадкова пазнаёміўся з Коласам, прачытаў яму свае вершы, і Колас вельмі падтрымаў яго і дапамог паступіць у Беларускі педагагічны тэхнікум.

Цяпер Паўлюк Трус — студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Друкуецца з 1923 г. Піша вершы. У 1925 г. выйшаў з друку першы яго зборнік «Вершы». У 1927 г. выйшаў другі зборнік «Ветры буйныя».

У рэцэнзіі на зборнік «Вершы» А. Бабарэка піcаў *: «Паўлюк Трус — гэта буйная крыніца з *беларускіх нетраў*, гэта буйны вецер *ад маладога жыццця*». Бабарэка далей піша: «Тая народная музычнасць і тая насычанасць народнымі вобразамі, параўнаннямі, сакавітымі эпітэтамі і іншымі ўкрасамі, якія робяць верш П. Труса лёгкім, пявучым, мяккім і пяшчотным,— усё гэта кажа, што паэт мае грунт для сваёй творчасці і выкіроўваецца на свой уласны творчы шлях» **.

У зборніку «Вершы» (1925) Паўлюк Трус, як і Чарот у першы перыяд маладнякоўскай творчасці, пяяў аб тым, што «бор старажытны зруйнаваны», «мы спарахнелае спалім» («Пасля буры»). У вершах «Юны змаганец» Паўлюк Трус дае лірыку змагання, услаўляе паўстанцаў. У вершах «Астрожнік» — услаўленне паўстанца, камсамольца, якога расстрэльваюць палякі; тут у паэта — шчырае пачуццё і пафас змагання.

У другім раздзеле зборніка «Вершы» — любоўная лірыка. Каханне ў творчасці Паўлюка Труса — здаровае сялянскае каханне. Тут жа адчуваюцца моцныя ўплывы народнай творчасці; у вершах «З паэмы

* «Маладняк», № 10(1), 1926 г., стар. 110.

** Тамсама.

«Сірата Алеся» ёсць добрыя апрацаванні народных песень.

Трэці раздзел зборніка — «Хараство прыроды». Тут — любоў да прыроды і сялянскай працы.

У зборніку «Ветры буйныя» (1927) — ветры буйныя, просінь, залаты вечар, туман, лісты пажоўклыя, поле... Настроі засмучоныя. Смуткам вее і ад ніцых лоз і ад постаці жанчыны, што з разбітымі ў кроў нагамі варочаецца на сяло між жытнёвага мора і калыскай за плячыма; журыцца і сасна на кургане. Шмат рамантыкі (з паэмы «Цыганка»). Матчын дар у паэта — песні, якія пела яна яму малому ў часе жніва; ён успрыняў пералівы песень, водгулле іх і цяпер гучыць у яго душы, і ён сам хоча пець пра цыганку-чараўніцу Марыулу і дае малюнак табару ўначы, пераказвае цыганскія думкі-мары.

І ў гэтым зборніку — наследаванне народным песням. Тут — слёзы, брусніцы, ветры буйныя, крыніцы, ніцыя лозы... Сумны малюнак: белыя бярозы ў марозе і слёзы ў дзяўчыны. Ва ўсё гэтае ўплятаюцца асабістыя перажыванні песняра, лірыка кахання і да т. п. Сінь, крыніца, туман і даліны — і так да канца зборніка. Занадта шмат слёз і сіні, яны ёсць ледзь не ў кожным вершы.

Тым часам — вершы добрыя, прыгожыя, мілагучныя, напісаныя з вялікім адчуваннем хараства, пра якое паэт пяе.

Трэба яшчэ адзначыць, што Паўлюк Трус піша трыялеты, санеты, ронда і інш. Шкада, тым часам, што масавы чытач, незнаёмы з вершаскладальнай тэрміналогіяй, напэўна, не зразумее, чаму, напрыклад, верш мае назву «Трыпціх» (стар. 109), дый не знойдзе тлумачэння не толькі ў кароткім слоўніку чужаземных слоў, але нават і не ў кожным курсе паэтыкі. Калі М. Багдановіч даваў некаторым сваім вершам назвы паводле формы вершаў, дык ён гэтым хацеў звярнуць увагу, што па-беларуску можна пісаць ронда, тэрцыны і г. д. Дубоўка, здаецца, першы з нашых паэтаў даў «трыпціх». Але ці варта далей у нашых масавых зборніках надпісваць, што гэта санет, а гэта трыялет, а гэта трыпціх? Лепш даваць назву паводле зместу, ці паводле галоўнага матыву, ці паводле настрою, з якім ён пісаны, а не паводле формы, аб якой 99 % чытачоў ніколі не чулі.

СЯРГЕЙ ФАМІН. Нарадзіўся 16 красавіка (ст. ст.) 1906 г. у в. Пепелеўцы б. Магілёўскай губ., Мсціслаўскага павета Любавіцкай воласці (цяпер гэта — за межамі БССР). Бацька — настаўнік у расійскай школе, родам селянін. Маці — сялянка, непісьменная і гаварыла з сынам па-беларуску. Скончыў Сяргей Фамін педтэхнікум у Магілёве. Цяпер ён — студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Пачаў друкавацца з карэспандэнцый у «Красной газете», «Бедноте». Па-беларуску друкуецца з 1925 г. у «Маладняку» і ў розных беларускіх выданнях.

У 1926 г. выйшла яго паэма «Балота». У паэме новы змест і новая форма. Вольны верш, гармонік, песенны склад, народны размах пачуцця, пафас новага будаўніцтва, радасць, што «на балоце грае маем сталь», успаміны аб нядобрым мінулым дзеля параўнання яго з новым жыццём: голад, рэлігійны дурнап'ян, а цяпер — «начамі свеціць Ленін», «вечарамі перазвон антэны» і г. д. Скрозь — вялікая любоў да роднага балота, але нязломнае жаданне бачыць яго новым, меліяраваць яго... Потым — сюжэт: пастух Мікола, ён пабыў у Маскве, прыйшоў назад у вёску камуністам, адчыніў школу, арганізаваў з хлопцаў камсамол, паставіў радыё, адчыніў чытальню, адбіў людзей ад царквы, завёў на палях жняярку, асушыў балота... Да гэтага далучаецца ідэалізаванне аўтарам Ганны, яго сяброўства з Ганнаю. Ганна — дэлегатка, Ганна — бязбожніца... Праўда, каханне тут уплецена не зусім удала, бо мала звязана з першым ходам дзеяння ў паэме.

Такім чынам, у паэме галоўныя матывы: класавае змаганне, сацыялістычнае будаўніцтва і каханне. Гэтыя матывы змяшчаюцца і ва ўсіх вершах Сяргея Фаміна.

Вершы ў яго — плаўныя, мілагучныя, у апошніх вершах — адшліфаваныя. Вобразнасць — прыгожая і эмацыянальная. У яго вершах — выразны ўхіл у навізну, у мадэрнізацыю старых класічных форм. Паэма «Балота» напісана вольным вершам, як «Босыя на вогнішчы» і некаторыя іншыя паэмы М. Чарота. Часам, аднак, вольная форма верша, падмацаваная графічна, пэўнай расстаноўкай радкоў, не адыходзіць далёка ад старых канапічных форм.

Напрыклад, напісана:

Раніцою
Пухавым туманам
Серабрыцца
На балоце торф...
Эх!
Пайду,
Пайду ў туманы гляну;
Ой, пайду,
Пайду за касагоры.

Можна было б напісаць:

Раніцою пухавым туманам
Серабрыцца на балоце торф...
Эх! Пайду, пайду ў туманы гляну
Ой, пайду, пайду за касагоры.

Шмат было ў Фаміна агульнай маладнякоўскай аэтычнай бутафоры! з першага перыяду ў творчасці «Маладняка» («сінь», «пунсавела ранне» і г. д.). Цяпер ён узыходзіць на самабытны шлях. У першых вершах шмат было ў яго расіянізмаў і некаторых няправільнасцей наогул. Цяпер ён — адзін з тых маладнякоўцаў, што звярнулі сур'ёзную ўвагу на культуру мовы.

УЛАДЗІМІР ХАДЫКА. Нарадзіўся 21 снежня (ст. ст.) 1904 г. у сяле Цітва на Чэрвеншчыне, 7 вёрст ад ст. Рудзенск Заходняй чыгункі. Сын беднага селяніна. Настаўнік. Працуе ў Мінску.

Піша выключна вершы. Першы раз друкаваўся ў 1926 г.— адразу выпусціў зборнік вершаў («Суніцы»).

Матывы ў зборніку «Суніцы»:

1. Радасць, што прыйшло новае жыццё («Суніцы» і інш. вершы). Сацыяльна-рэвалюцыйныя матывы («Раніца») і ўспаміны аб грамадзянскай вайне («Ліпень»). Матывы сацыялістычнага будаўніцтва, асабліва ў вёсцы, хоць тут больш фразеалогіі, чым рэальных фактаў, але ёсць, напрыклад, паказанне на антырэлігійнае змаганне і інш. («Агні», «Бурлячае», «Хлопцы, дуй!»).

2. Любоў да Беларусі, яе прыроды і г. д., у духу нашаніўства, але з падменаю «Роднай Беларусі» Савецкай Беларуссю, «сацыялістычнаю бацькаўшчынаю».

Бываюць наіўныя для сучаснай паэзіі разважанні:

І цяпер мне не верыцца ў моц гаманін,
Што пякней Беларусі Швейцарыя...

3. Індывідуальныя перажыванні, часам тужлівыя, звязаныя з апісаннем прыроды, сялянскага жыцця, сялянскай працы, нават з сялянскім падыходам да цыклаў года («Вясна», «Жнівень», «Восень», «Ой, восень!», «Скрыпіць туга»).

З боку формы на зборніку «Суніцы» адчуваецца моцны ўплыў імажынізму.

Але даволі часта выкручаная вобразнасць і фразеалогія замяняе глыбіню пачуцця. Напрыклад:

Каляіны плятуцца за возам,
На калёсах слюнявіцца жарт...
Эх, каб жыцце яздою цвярозай
На лясцы не тупіла нажа!..

Або:

Жыццем п'яная думак каса
Весяліцца на розмаху клёпам...
Ах, мой сад, мой нязгледжаны сад.
Маіх дзён ён кудравіць галёпы.

Часам трапляюцца і такія вобразы:

Як бы сон дзіўны — сніш — водзіш зрэнкамі воч
Ўкол — і здэцца,— калі наглядзішся?..
Падатром яму мы праўдай уздымнай
Нос.

Заўважаецца імкненне даць багацейшую строфіку, што аўтару часта і ўдаецца. Але рытмы даволі цяжкія. У справе рыфмы — імкненне да сугучнасцей, часам удалае. Мілагучнасць псуецца дрэнным ужываннем гукаў і, у («шоўкам узялася», «голаў у плечы»).

Мова — народная, часам няправільнасці граматычныя («плынь дзянны» і інш.).

Лепшыя месцы ў зборніку — у вершах, напісаных пад уплывам імажынізму, але з большай самастойнасцю, і ў вершах з лягчэйшым рытмам («Вясна», «Ліпень», «Скрыпіць туга» і інш.).

Пазнейшыя вершы ў Хадыкі вызначаюцца своеасаблівай імпрэсіяй («Снапок аўса» і інш.), пэўнай настраёвасцю і адшліфаванай формаю. Яго пазнейшыя вершы часам набліжаюць яго да Моркаўкі.

СЫМОН ХУРСІК. Нарадзіўся 31 студзеня (ст. ст.) 1902 г. у в. Снусцік Пухавіцкага раёна Мінскай акругі. Бацькі — сяляне. Аб сваім маленстве Хурсік кажа:

«З малых дзён спазнаўся з гораччу цёмнага, непрыветнага жыцця. Калі я цяпер аглядаюся на сваё дзяцінства — яно мне прадстаўляецца халодным, суровым і нават вусцішным...

Добра памятаю паасобныя сцэны вобыскаў і арыштаў сялян — маіх сваякоў і бацькі ў 1905 г. Майму стрэйняму[242] брату такі прыйшлося і загінуць у выгнанні...»

У 1925 г. Хурсік скончыў беларускі педагагічны тэхнікум у Мінску. Цяпер — студэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Друкуецца з 1924 г. У 1925 г. выйшла першая яго кніжка: «Першы паўстанак».

Герой змешчанага ў гэтым зборніку апавядання «Адам Залес» — сын селяніна, але жыў пры дзядзьку ў горадзе, вучыўся ў гімназіі і зрабіўся панам, змагаўся супраць рабочых і сялян. Потым ён пераходзіць да бальшавікоў, але тут ён ужо чужы, «лішні чалавек». Нават бацька глядзіць на яго як на «лішняга чалавека» і адпраўляе ад сябе, з вёскі ў горад. Так і цягаецца Залес, жыве, як «гніль».

У першым зборніку віцебскай філіі «Маладняка» «Наддзвінне» (1926) змешчана даўгое апавяданне Хурсіка «Францішак Скарына». Яно вызначаецца ўжо тым, што гістарычнае, бо гістарычных твораў у беларускай літаратуры вельмі мала. Апісваецца тут 1530 год у Вільні. Сюжэт у ім вельмі цікавы, тыпы выразныя, гістарычны фон даволі вытрыманы. Недахопы: грубы натуралізм і вульгарнасць некаторых месцаў, залішняя шаржыроўка ў апісанні жыцця манахаў і некаторая, не зусім мастацкая, тэндэнцыйнасць у аўтарскім падыходзе наогул.

У апавяданні «Барвяныя бляскі» («Маладняк», № 10, 1927 г.) Хурсік дае малюнак рэвалюцыі на вёсцы, як паны думалі застацца на Беларусі, прыводзячы на абарону польскіх легіянераў, і як сяляне разбівалі панскія двары. Абразок моцны, але часам ёсць лішні натуралізм. Добра змалёваны тыпы паноў. Добрыя кароткія апісанні прыроды.

Далей асабліва трэба адзначыць апавяданне «Змітрок» («Маладняк», № 1, 1928 г.). Змітрок апавядае аўтару аб сваім жыцці. Як ён вёў польскага афіцэра, як той хацеў уцячы, як ён пабіў яго. Сваркі з бацькам — яскравае месца на сацыяльна-бытавыя

тэмы. Псіхалагічны момант — няўдалае каханне. Настулю аддаюць за нейкага аліментшчыка, яна ідзе, Змітрок у роспачы страляў па ёй. Ён цяпер працуе на млыне. Чырвоная Армія была яму роднаю сям'ёй. Аўтар дае тут і прыгожыя апісанні прыроды, але яны лішнія і задоўгія ў пачатку апавядання.

У гэтым апавяданні — сакавітая народная вобразнасць і мова. Дасканалыя параўнанні і прыказкі. Мастацкі дыялог, у якім нічога лішняга і кожнае слова падмацоўвае ўражанне. Веданне народнага жыцця вельмі добрае. Калі бацька сарваў са сценкі Змітраковага правадыра і Змітрок за гэта бразнуў на падлогу абраз з бацькавым богам, дык аўтар ведае і маляўніча паказвае, што «па падлозе, хто куды, у розныя бакі, прусы кінуліся наўцёкі».

Шмат тут і псіхалагізму. Змітраковы перажыванні перадаюцца вельмі тонка.

У гэтым апавяданні Хурсік выявіў сябе значным майстрам малюнкаў з яскравымі, свежымі і моцна пакладзенымі фарбамі.

У тым жа тоне і стылі напісаны апавяданні «Янка з Палесся», «Пільнікі» і інш. Па натуральнасці, цікавасці і жывасці апавядання Сымон Хурсік у маладнякоўскай прозе займае першае месца.

Творчасць яго — вельмі блізкая рабоча-сялянскім беларускім масам.

## Маладнякоўцы-крытыкі

Беларуская крытыка і гісторыя літаратуры былі да апошняга часу шчыльна звязаны. Тлумачыцца гэтая «навуковая адсталасць» тым, што да развіцця беларускай навукі ў Савецкай Беларусі беларуская гісторыя літаратуры і беларуская крытыка былі ў зачаткавым стане. Шмат якія творы беларускіх пісьменнікаў засталіся ў свой час без крытычнага даследавання і нават без хоць якога-небудзь разгляду. І цяпер гісторыку беларускай літаратуры прыходзілася адначасна быць і крытыкам у тым сэнсе, што яму трэба было першаму гаварыць аб тых ці іншых вартасцях і недахопах твору з фармальна-мастацкага боку. У сучасны момант гэтая праца болей-меней прааблена ў адносінах да твораў ранейшых перыядаў і, апрача таго, кожны новы твор знаходзіць ця-

пер сваю ацэнку на старонках беларускіх часопісаў і газет.

Аднак жа і цяпер беларуская крытыка знаходзіцца ў самым убогім стане дзеля шмат якіх прычын. Па-першае, спаміж старэйшага пакалення беларускіх камуністаў няма ніводнага прызнанага і аўтарытэтнага крытыка ў беларускай літаратуры. Што да моладзі, дык ёй яшчэ не хапае на выконванне ролі крытыкаў належнай веды і наогул навуковай і мастацкай падрыхтоўкі. Часта ролю крытыкаў бралі на сябе ў адносінах да сваіх таварышаў самі ж паэты і пісьменнікі. Галоўны недахоп сучаснай беларускай крытыкі ў тым, што яна, даволі добра разбіраючыся ў ідэалагічных якасцях твору, не можа даць належнага разгляду з фармальна-мастацкага боку, што было б у сучасны момант асабліва карысна і пісьменніку, і чытачу. Другі недахоп — поўная неналаджанасць крытычных аддзелаў у сучасных беларускіх часопісах і газетах. Часта бывае, што малады аўтар не бачыць крытыкі на свае творы, пішучы год, два і тры. Часта бывае, што які-небудзь твор выклікае шмат рэцэнзій, але ўсе яны толькі пераказваюць яго змест і ставяць пытанне аб яго ідэалогіі, зусім не закранаючы яго з фармальна-мастацкага боку. Крытыка мае выпадковы і аднабокі характар, пераходзячы іншы раз у гурткавыя і групавыя спрэчкі і асабістыя нападкі.

«Маладняку» асабліва не шанцавала на крытыку. Крытыкі-немаладнякоўцы мала пісалі аб маладнякоўскай творчасці часам дзеля самых недарэчных прычын, якія тым часам у беларускіх умовах былі няўхільнай рэчаіснасцю. Часам усё, што не падабалася маладому аўтару і немаладнякоўскай крытыцы, магло быць залічана як непрыхільныя адносіны да «Маладняка». Разам з тым, сам «Маладняк» не высунуў з сваіх шэрагаў у першы перыяд існавання ніводнага чыстага крытыка, апрача Бабарэкі, дый той пачынаў як пісьменнік-апавядальнік і толькі пазней перайшоў на становішчы маладнякоўскага крытыка і тэарэтыка літаратуры. Найлепшы фармальна-мастацкі крытычны разгляд мог даць Дубоўка, і ён, паэт, зрабіў сёе-тое ў адносінах да творчасці «Маладняка».

асобных лістках. Можа, у вас няма паперы, дык я вам прышлю вучнёўскіх сшыткаў, у мяне ёсць. Прыслаць? Як жа гэта ты, Лёня, злавіў птушку? А я, калі ў нас былі вялікія маразы, бачыў каля паштовае скрынкі, каля паштамту, нежывога верабейчыка на снезе,— мусіць, змёрз. Тут кажуць, што сёлетняя зіма ў іх — вельмі лютая. А я не заўважаў. Былі маразы нейкі час троху большыя, чым бываюць у нас, і ўсё. Цяпер ужо і ў нас кожны дзень на вуліцы макравата, тратуары ачысціліся. Вось, Лёля, заклапаціла ты мяне сваім баленнем галавы ад таго няшчаснага выбуху ў лабараторыі (у якой, я і дагэтуль не ведаю). Зразумела, я навучыўся быць спакойным, але ж гэта справа сур'ёзная. Трэба было б схадзіць да якога спецыяліста. Таксама — ці ёсць у цябе на руках які дакумент, што няшчасны выпадак здарыўся на рабоце? Гэта ж павінны былі б даць табе нейкі адпачынак. Я не ведаю, як гэта робіцца. Ты спытайся там у людзей. Найлепей, вядома, каб галава болей не балела, і ўсё мінулася б. Я нядаўна таксама хварэў на грып. Ездзіў абмяраць руіны манастырскага сабора на цэглу для новай ФУП (цяпер ужо ФУП № 5), трохі застудзіўся, а потым хадзіў даведвацца Чарнушэвіча, ён хварэў на грып. Дык во адно к аднаму. Ну, я ўжо здароў, толькі сцерагуся, захінаюся ходзячы.

[...] А пад канец адкрытачкі — прыемнасць. Гэта, каб ты не клапаціла, што я «ва ўсім уразаю сябе, каб прыслаць вам». Мне будуць плаціць яшчэ болей. Інжынер гаманіў з дырэктарам, і пастаноўлена давесці маю стаўку да 180 руб. Ну, бывайце здаровы, Цалую моцна. Максім.

29/IV. 1932. Вятка.

Добры дзень! Учора атрымаў вашу адкрытку, пісаную 22/IV. Як відаць, адна адкрытка мая да вас не дайшла. Ну нічога. [...] З Смаленскам згаджаюся,— каб толькі дазволілі. Я там жыў бы ўжо й заўсёды, бо ў Мінск мяне зусім не цягне. Але ці дазволяць? Можа, прыйдзецца бавіць час у Вятцы ці яшчэ дзе далёка, аж пакуль не адчыніцца простая дарога да Вільні. Туды б я таксама паехаў. Але, ізноў жа, калі тая дарога будзе? Падаў заяву накопт кватэры. Цяжкая тут справа з кватэрамі. І клапоціць мяне,

што трывога пануе ў свеце. Хто ведае, куды трапіш... Але нічога. Усё нічога. Усё добра будзе. [...] Каб толькі мне напісаць гэтую сваю «Кроніку». Гэта была б рэч, што на працягу пэўнага часу нейкую цану мае. Працую на службе многа. Ну, прыедзеце,— вядома, «будзе лягчэй і весялей», як ты пісала. А калі што якое,— можаце ж і назад паехаць. Пінжак прыстараўся Іван. Можа, напішаш, якую кніжку перакладаць, дык я дапамог бы? Як ведаеш... Заўтра выхадны, і святкуем 1-га і 2-га. Тры дні адпачынку. Рака разлілася дужа, на вярсту, увесь той бераг, дзе купаліся, і лесазавод,— пад вадою.

[...] Дык дзякую табе, што падала заяву. З Багацькаўкі пісалі. Цалую. Максім дурны саўсім.

2/V. 1932 г.

Вяцкі народ хвацкі.

Першы май і вялікдзень у гэтым годзе прыйшліся на адзін дзень. Яны пяклі, смажылі — хто іх ведае, да якога свята. Усе добрапарадачныя абывацелі, вядома, для свайго свята, але гэта, як здавалася Лявону [271], не заўсёды было так у змесце, як у форме. Гаспадары запрасілі яго ўвечары да сябе (раптоўна, калі ён лапіў кашулю і штаны). Пачаставалі пірагом з рыбаю і коўшыкам бражкі. Так спаткаў ён з добрымі людзьмі Першы май. Памыцца к святу не ўдалося, бо тут праз усю зіму заўсёды была чарга ў лазні, а ў гэты дзень яна была велізарная. Стрымаўшы свой нялюдскі апетыт, каб не зменшыць лічбу яе ватрушак і не папсаваць яе гумар, ён развітаўся і выйшаў у свой пакой. І надумаўся крыху прайсціся на свежым паветры, хоць у гэткую пару на вуліцах Крутагорска могуць распрануць — як піць даць. Ну, а сёння ж на вуліцах мнагалюдна. Вось — Цараўская царква (ад яго кватэры толькі праз мост). Бітма набіта. І людзі розных станаў. І ўва ўсіх свечачкі ў руках. Гэта табе не цёмны закутак у палескай глушы, дзе чалавека не зацягнеш у царкву, калі верыць аўтару той повесці пра Ядвісю. Ну, ладна. І п'яных ужо вядуць і вядуць. Але трэба выспацца. Заўтра ж маніфестацыя. І Лявон вярнуўся, выспаўся — і назаўтра хадзіў, як і ўсе людзі. Гэтак як і ў вас там. Заўважце: жаляцца, наракаюць... часам і тыя, ад каго не спадзяешся. А ўсе добра прыбраныя

(вядома, не па-панску), і твары ва ўсіх здаровыя, як і ў звычайны сыты час.

Надвор'е добрае, уражанне прыгожае. Па абедзе на пляцы — вайсковыя практыкаванні. Ну, самая праўдзівая вайна: грукат, страляніна, агонь, дым, газы, выбухі. Лявон ніколі нічога падобнага на практычных занятках не спадзяваўся ўбачыць, і стаяў доўга, і ўспамінаў свой 1914 год. Сёння ён шыў, чысціў, варыў бульбу, сушыў сухары. Заўтра на работу. І думаў пра вас.

Сніў Гапначку, чаго ўжо даўно-даўно не было...

8/V. 1932.

Добры дзень, жонка і дзеткі! Атрымаў вашы першамайскія лісты, і Лёнеў, і Галін, і твае прыпіскі. Ну, дзякую вам вельмі. А вас, дзеткі, і віншую з прэміямі. Так, сёлетні май быў лепшы, чым леташні, хоць і не былі мы разам, як і летась. Ну, можа, хутка будзем. Не ведаю толькі, як уладзіцца з кватэраю. Да вашага прыезду, пэўна, не дадуць вялікага пакоя, а дадуць метраў на дзесяць, толькі асобны. Так абяцалі. І ў паўночным раёне, гэта бліжэй мне да фабрыкі, але вельмі далёка ад вакзала. Фурман возьме дорага за перавозку. Навін у мяне няма. Хоць — не, ёсць. Выдалі ўсім прадуктовыя картачкі, і мне за маю работу далі 1-ю катэгорыю! Вось бачыце, і я маю як бы прэмію. Гэта ў маім бюджэце вялікае падтрыманне. Праўда, працаваць прыходзіцца здорава. А я таму і рад. Толькі што малавата застаецца часу на пісанне. Але тое-сёе раблю і з сваёю «Кронікаю». Упарадкаваў «1915 год». Надоечы пісалі мне з Багацькаўкі. Ліст нешта невясёлы,— што «няма з бацькамі ніводнага сына»,— але я не зразумеў, куды ж паехаў Іван. Паслаў маме бацінкі на разінках, як ёй трэба. Хоць дужа грубыя, але паслаў. Яны пісалі, каб не грошы, а лепей ёй бацінкі. І вам паслаў пасылачку — што выдалі па авансах, па эканамічнай цане, матэрыю. Пісаў Гурык. Ён працуе, не хапае часу і не бядуе, жывецца яму добра. Вельмі радуецца, што мае магчымасць займацца геалогіяй. У нас цёпла, і нават горача, хаджу ўжо і я ў адным пінжаку. Сеюць. Дрэўцы ўчора, пасля дожджыку, зазеляненіся. Ну, бывайце. Цалую. Ваш Максімішча.

Усе гэтыя выкрутасікі ў адрасе зрабіў я дурэючы[272]. Цяпер думаю: нашто я зрабіў? Але шкода адкрыткі. Не гневайцеся. Больш не буду. Як прыедуць дзеці, буду балавацца з імі, а выкрутасікаў гэтых рабіць больш не буду. Ну, не гневайцеся, проста Гарэцкія, без «горе» і без «горы». Цалую. Ваш Максім — дурны саўсім.

Лявох! Дзякую за малюнак.

14/V. 1932 г.

Добры дзень! Атрымаў ваш ліст ад 8/V. Вядома, дровы варта было ўзяць. Але ці ёсць у цябе грошы? Ці не залязаеш ты ў даўгі? І хто табе пазычае? (Калі не сакрэт, а сакрэт, дык не пішы,— як я і заўсёды табе казаў.) І потым яшчэ хочаш ехаць у Маскву, а з Масквы да мяне. Усё гэта мяне палохае, што вельмі многа патрэбна грошы. А сваю кніжачку ты мне так і не прыслала. Хіба яна яшчэ не выйшла? Да каго ж ты паедзеш у Маскву? Хіба да жонкі М. Горкага («Чырвоны крыж»). Дык завязі ёй мой пераклад «Чалкаша», «Канавалава» і «Озорника». А ці маеш ты мой артыкул (1928) у «Маладняку» (агляд белар. літар. пасля «Наш. н.»)[273]? Там у раздзеле аб польскай акупацыі я характарызую польскую шляхту. У падполлі выдана кніжачка майго перакладу «Хто такія камуністы?» (Мініна,[274] здаецца),— з даручэння Міцк.-Капсук.[275] [...] Хаджу ўжо на пабудову, далёка, але маю картку 1-е катэгорыі. І жыццём сваім задаволены, адно што не хапае часу пісаць. Цалую і цябе, і Галю, і Лёню. Ма.

22/V. 1932.

Добры дзень!

Дзён колькі таму атрымаў тваю адкрытку, у якой дакляруеш напісаць аб усім больш падрабязна. Чакаў-чакаў, не дачакаўся. Дык пішу сам. Навін няма. Ходзім ужо на пабудову. Гадзіну іду туды, гадзіну назад. Працы многа. Але нічога. Жыву, радуюся. Гэтыя дні стаяў холад. Трохі пацяплела, але яшчэ не надта. (Між іншым і тут сяляне кажуць: надта, абутак, лоніс, дапамагчы, прыйдзеш, ідзецé і да т. п. Прыродныя мясцовыя сяляне,— мусіць, патомкі старадаўных наўгародскіх крывічоў, ці якіх прыгонных, ці палонных перасяленцаў). Тут іншы год бывае

«азі́мі́ца» — у маі, калі зацвітае бэз: часамываліць снег у паўметра. А сёлета нічога, толькі халаднавата, як і ў нас у маі бывае. Гэта таму, што я тут. З кватэраю пакуль што спыніўся, бо ўсё роўна вялікага пакоя на аднаго не дадуць, а прасіць потым другі раз — горш. Дазволу на Смаленск, мусіць, не дачакаемся доўга,— можа, да разгляду ўсяе справы ў цэлым, там, каля восені. А нарэшце — хто іх ведае. Кніжкі прадавай усе. А не прадасі,— аддай каму на сховы. Між іншым, тут мне казалі людзі, што на чыгунцы могуць не прыняць мэблі. Даведайся. І ліквідуй усё, а тут зробім драўляненькае. А нарэшце — як ведаеш, бо ты разумнейшая. Рукапісы перабяры: кроніку прывязі (17—21 гады прышлі поштаю, маючы час), а копіі чарнавікоў аддай каму, калі возьме, і накажы, што даеш, а непатрэбнае знішчы, з чым не вазіцца. Вось. Ну, цалую. Твой стары дурань.

Што ж дзеткі мае, галубяняткі мае, парабляюць? І бацькі мае ці пішуць?

27 мая 1932 года, горад Вятка, а паводле Салтыкова-Шчадрына — г. Крутагорск. Па-мойму, горы не надта крутыя, а толькі крутаватыя. Можа, таму так мне здаецца, што ўцягнуўся ў хадню, ходзячы на пабудову. Ужо трохі пацяплела, а як вы прыедзеце, будзе вельмі цёпла. Кватэру дакляруюць, але, мусіць, прыйдзецца пажыць у гэтым пакойчыку. Што ж такое, нічога. Цяпер лета, і суседзі добрыя, прытулак будзе не благі. Вязіце толькі самыя патрэбныя рэчы: вёдры, посуд, адзенне. Ложкаў, мусіць, не прымуць на станцыі. Рэчы прадавайце, а калі не прадасцё (не за бясцэн жа аддаваць), дык падкіньце каму паляжаць (ці пастаяць, бо я не ведаю, што там яшчэ ў вас ёсць, а чаго ўжо няма). Парфіру аддайце, калі возьме. Ці даручыце забраць, калі ў яго яшчэ няма кватэры. Кніжкі везці не варта. А каму іх там прадаць і як — не ведаю. Па этнаграфіі купіла б бібліятэка [...]. Ці хопіць жа вам грошы на дарогу? Я вышлю вам толькі рублёў 60, бо болей не маю. Вышлю 30-га мая, выхадным днём. Ліст ваш, дзе піша і Лёня і пасылае вітанне Галя, я надоечы атрымаў, а той першы, пра які ўспаміналі, мусіць, прапаў. Пісалі мне з Багацькаўкі, што «Іван шчу ў горыдзі»[276]. Пэўна, сумуюць яны там цяпер. Паслаў ім паця-

шальную адкрытачку, але не дужа вясёлая напісалася. Памерла Піліпіха. Хварэюць свінні, адзін у нас здох. Ці атрымалі ж вы матэрыю,— чаму не пішаце? Пра спыткі Лёня піша, дзякуй яму, «Лявончыку-дурончыку». Шырокі ложак не будзе дзе й паставіць у гэтым пакойчыку. Ехаць будзеце беспперасядачным. Кажуць, што цяпер цесна дужа ехаць. Я сёння быў у лазні. А гэтыя дні замардаваў мяне інжынер складаннем генеральнага каштарысу на будаўніцтва. А ўсё нічога: жыву і радуюся. І вы радуйцеся. Ці надоўга паехала Лара? Цалую. Ваш М. Г.

31/VIII. 35. Ст. Смаленск.

Добры дзень! Як вы здаровы, як жывіцё? Я атрымаў у аблано Зах. вобласці прызначэнне — выкладчыкам мовы і літаратуры ў поўнай сярэдняй школе ў г. Пясочню [277]. Заўтра а 7-й раніцы буду там і напішу вам, што гэта за месца. Загадчык Пясочнінскага райана, з якім я еду з Смаленска разам, вельмі хваліць. Кажа, што там чыгунна-ліцейны завод, вялікія будынкі, бары, азёры, яблыкі. Гэта на ўсход ад Рослаўля кілам. 60, а ехаць па лініі на Казлоў. Пры чыгунцы. Станцыя Фаянсавая.

Цалую. Максім.

25/IX. 35. 4 1/2 г. дню.

Добры дзень! Прынёс паперы. Паехаць я думаю ў пачатку кастрычніка, калі цябе выпішуць і калі я перавязу цябе дамоў. Я помню, калі ў часе маёй такой жа хваробы (на фронце) мне пачалі даваць бульбяное пюрэ і два-тры сухары ў дзень, дык гэта я ўжо папраўляўся, самае горшае засталося адзаду. [...] І вынікам хваробы было толькі тое, што я з галадухі страшэнна аслабеў, сам ледзь увайшоў у вагон, насілу падняўся на прыступкі. А тады хутка ачуняў, дужа хацелася есці. Толькі есці трэба дужа-дужа асцярожна. Дык я, вось, і думаю, што мы з Лёнем паедзем, а ты пабудзеш з Галяю, пакуль добра не ачуняеш. Наконт рэчаў я думаю — наляпіць абвестку ў акне і патроху прадаваць, калі знойдуцца ахвотнікі,— стол, шафку, ложак і цюфяк (бо цюфяк цяжка прадаць, дык каб вам меней клопату, а паспаць можна на тапчане), крэслаў з пару. Вось і ўсё.

Можна будзе зрабіць так, каб вам нічога не здаваць у багаж ці здаць невялікія рэчы.

[...] У Маскве заедзеце да Ул. Іванавіча [278], ён вельмі прасіў, там пераначуеце і адпачнеце. А можна і на вакзале, нядорага, і ложкі, і душ. Адным словам, усё «ўтрамбуецца». Грошы хопіць. А не хопіць, пашлю тэлеграму Гурыку, каб прыслаў. Будзеш папраўляцца,— ні ў чым сабе не адмаўляй. З бюлетэнем — не пільна, гэта твае сяброўкі хацелі гэтым дапамагчы. Потым жа ты можаш, як устанеш, падаць заяву ў свой камсод [279], каб прадаць троху аблігацый, бо з прычыны хваробы дазваляюць. Мне дадуць пад'ёмныя, 100 р. ужо далі. Адносіны там да мяне вельмі добрыя. І жыць там добра будзе. А галоўнае,— зачапіцца хоць там і з год папрацаваць. Ну, годзе. Хворай нельга ні шмат чытаць, ні шмат пісаць. Сёння я кухаварыў, а Галя адпачывала, толькі не паспеў зварыць да адходу ў школу. Дык пілі малако і елі хлеб з маслам.

Развесяліся! Цалуем. Ма.

Я прывёз яблыкаў. Дзеці ядуць асцярожна.

28/X. 1935 г.

[...] Новы дырэктар — малады, добры працаўнік. Адносіны да мяне ладныя. Мала часу. Гурткі, палітзаняткі, канец чвэрці, падрыхтоўка. Надвор'е папсавалася. Увечары ідзеш на кватэру — то й глядзі: калёшу згубіш. А наогул — добра. Прывязіце Лёні камеру, трыкутнік (чарціць). Вязіце лыжы, сякеру, наогул усё. З тым, што я прывёз, больш 200 кг не набярэцца. Заязджайце да Ул. Ів. (Остоженка-Метростроевская па-новаму — дом 7, кв. 8). І начуйце ў іх. Цалуем. М.

24/VI. 36. Багацькаўка.

Добры дзень! Мы паслалі вам са Смаленска пасылку, а потым я паслаў адкрытку і Галя адкрытку. Ад вас яшчэ нічога не атрымалі. Жыць тут нішто, толькі няма чаго рабіць, дык нудна. Ужо дзве начы спаў я на сене пад павеццю. Сена накасілі ў садзе. Гэтымі днямі паспела шура́ [280]. Адно што — няма дзе купацца. Я два разы купаўся ў Курманаве, а Галя нідзе не купалася. Яблыкі будуць, хоць і не дужа многа: мароз пабіў вясною. Доўгі час стаяла вялікая

суш, людзі дужа клапацілі, а цяпер перападаюць дажджы. Грыбоў яшчэ няма. Харчуемся мы нішто, хоць і пераважае малако ў розных відах. Галя спіць з Ліляю («Лілія»), дачкою Аніссінага [281] брата Гаўрылы, вельмі слаўнаю дзяўчынкаю, 8 гадоў. Скора будзе больш сена, можна будзе спаць пад павеццю (у сухое надвор'е). Тут яйцы 1 р. 50 — 1 р. 80 к. дзесятак, сала 9—10 руб. кілаграм. Я нават здзівіўся. Пішыце, як жывіцё вы? М. Г.

23/VII.36.

Добрае ранне! Забыўся чысло,— здаецца, 22. Пад'язджаем к Цёмнаму Лесу. З Падпісной выехалі а 1-й гадзіне ночы. Да Крычава ехалі ў дамскім вагоне і ўсю дарогу спалі. У Крычаве — з поезда на поезд, наш прыйшоў на хвілін 15 раней.

Тата пайшоў купляць канфет (гэта ўжо ў Цёмным Лесе) [282].

Знайшоўся падводчык (хлопчык) з Пуцят, з ім і паедзем.

Ага, а назад ехаць, дык чакаць у Крычаве аж 8 гадзін; можа, лепей — і на Смаленск. Раніца ціхая, сонечная. $7^1/_2$ г. Цалуем. М. Лёня.

23/VII. 36.

Добры дзень! Даехалі добра. З Цёмнага Лесу паслалі адкрытку. Галя і ўсе здаровы. Сямейка нічога сабе: дзед, Аніссіна матка, Домна, і 2 Таццяніных [283] дзяцей, Анісся з дзецьмі і нас трое — 11 чал. Але нічога тым часам. Лявох у добрым гумары. Галя да нас была ў добрым (па-свойму), а цяпер у горшым. А за кніжкі брацца не хоча. Іванавы не прыехалі, жыве адна Галя, у Клаўдзі [284]. Тата казаў, што ждаў усіх нас, і ўжо хацеў браць ключы ў Клаўдзі ад Іванавае хаты. Гарачыня. Жнуць жыта, возяць, бяруць лён. І свацця з Домнаю ўзяліся выбіраць гектар. У Ганны (Гапкінае [285]) радзілася дзяўчынка. У калодзежы мала вады. Цалуем. М.

# *Леанід Гарэцкі*

## З ФРАНТАВЫХ ЛІСТОЎ (1941—1944) [286]

### Да маці

16.9. 1941 г.

[...] Часто вспоминаю прошлое, и тяжело от мысли, что отца уж нет.

22.11. 1941 г.

[...] У нас зима. Прошел день 4-го ноября. Четыре года назад я помню дождливый осенний день. В ночь тогда я последний раз был с самым родным и дорогим человеком. Как бы рад был бы и сейчас увидеть, побыть с отцом. Но действительность спокойной стеной встает, говоря: не воротишь того, что свершилось, и только очень «сумна становіцца ад успамінаў». Но жизнь — это сегодняшние будни, и они заставляют забывать о прошедшем.

3.12. 1941 г.

[...] Иногда думаешь, как много Вы старались и страдали, трудились ради меня, как надеялась ты с татам сделать из меня человека, похожего, например, на дядю Гурика. Помнишь, как Вы не жалели для меня ничего, как бегала ты в мороз, нося передачу, когда я болел скарлатиной. В глазах у меня всплывают картины всей хорошо прожитой вместе с отцом жизни. Помню, как встречали Вы меня из пионерлагерей, помню, когда в последний раз тата взглянул на меня, в глазах его была любовь и надежда.

[...] И вот теперь предстоит перенести жестокие морозы. Это не шутка. Но я верю в лучшее время, буду сохранять бодрость духа, чтобы пережить легче трудности и остаться здоровым, дабы не пропали труды дорогих людей, поддерживавших до сих пор мою жизнь.

Мы не знаем, что будет с нами впереди, но я хочу, чтобы ты не падала духом и верила в лучшее время, когда окончится война и мы будем жить вместе.

1 мая 1942 г.

[...] и как хотел бы я невозможного — повторить эти деньки вместе с отцом, вместе с тобой: сырое утро, был дождь, но так приятно, когда, к моему удивлению, тата кладет коробку мармелада на стол, есть печенье — вещи еще редкие после 1932 года. А вот майский вечер в Кирове. Сверкают часы на Вятской почте под лучами заходящего майского солнца. Тепло, сухо на улицах. Дома ласковый тата играет на балалайке замечательные мелодии.

3.6. 1943 г.

[...] Вперед на Запад, где я родился и провел детство, полюбил белорусскую природу, где отец приучил меня любить литературу и музыку и таких людей, как он и Гурик.

28.6. 1943 г.

[...] И дядя Гурик задержался в Москве. [...] увидел много знакомых, даже Коласа. Наверно, у него и достал он газеты, которые выслал мне. Давно я уже не читал белорусской речи, но понял все и даже легко переводил товарищам.

4.7. 1943 г.

[...] Я как вспомню солнечный жаркий кировский июль, свою свободу и далекое детство, тебя и тату, всю нашу тогдашнюю, полную надежд и утешений жизнь. А когда я приезжал из Ленинграда, эти месяцы самые лучшие в моей безотцовской жизни [...]

12.11. 1943 г.

[...] 8-го надел я новые погоны и уехал. Новое место — хорошее.

6.12. 1943 г.

[...] Вчера получил я интереснейшую открытку от дяди Гурика, где он пишет, что дед наш жив.

18.12. 1943 г.

[...] Я написал деду и теперь жду от него письмо.

21.1. 1944 г.

[...] работы ей[287] очень много, я думаю, но весь наш род не боялся работы, пусть она вспомнит отца.

## Да Г. І. Гарэцкага

2.10. 1942 г.

[...] С каждым часом близится зима. Когда-то в детстве ее встречал с восторгом, доставались лыжи и

коньки. Накатавшись, шел в теплый дом, там было самое близкое — отец, мать и школа. Школа играет в жизни огромную роль. И если я говорю, что и дома ждала школа, то это так. Дома о школе не забывал: ее боялся, но ее любил и боялся потерять. Тогда сознание того, что урок выучен отлично, наполняло душу веселостью и радостью; все тревоги спадали, и с чувством полной свободы бежал к конькам, затем на пруд, уже покрытый льдом, но гладким и блестящим, так как снега не было. Сумерки спускались незаметно, в домах загорались огни, и в своем теплом доме мать тоже зажгла лампу; еще красный, шел к столу, брал книгу, а как был рад, когда отец достанет книгу, которую еще ты не видал, но знаешь, что раз отец принес ее тебе, значит, книга хорошая, интересная.

1.3. 1943 г.

[...] Порой бывают неприятные минуты, когда ноги сырые и негде согреться, или нет сухарей в мешке, или товарищ ушел из мира, или спать охота смертно. Но эти минуты, часы и дни проходят [...]

13.3. 1943 г.

[...] Но борьба за жизнь у меня, например, усложнена.

[...] Я сейчас сержант-разведчик, но и этого я достиг умелой борьбой за жизнь, завоевав себе доверие и авторитет.

Сейчас я живу хорошо. С лучшими ребятами. Условия быта хорошие. Живём в шалаше. Погода здесь теплая, днем уже тает.

1.4. 1943 г.

[...] Нас прислали на курсы младших лейтенантов.

[...] Погода ясная, солнце уже заливает площадь теплом. Снег на ней стаял, и песок желтеет по-летнему. Но сильны еще морозы по ночам, чисты снега в поле.

6.4. 1943 г.

[...] Тяжело маме сейчас работать, но пусть крепится ради меня. ...Если счастливая звезда оставит меня в живых, после войны мы постараемся жить как можно лучше.

8.4. 1943 г.

[...] Удар по семье, когда не стало таты, я сумел

захоронить в далекий угол души. Тата заложил во мне качества, оказавшиеся сильнее удара.

Так же сейчас я люблю природу, культуру настоящую, под которой я понимаю *всё* — всё, что любите и Вы. Люблю я жизнь, люблю и вспоминаю: много солнечных дней я видел в жизни и еще больше б увидал в дальнейшем, если б не война.

Незаметная, серая северная весна согнала снег. На пороге стоит теплая пора, долгожданная солдатом.

Апрель 1943 г.

[...] Я бы сейчас почитал пушкинскую лирику, и грусть, что «не совсем так» переменилась жизнь для многих и для меня. Давно ушел тата, но те качества, которые перешли от него, более окрепли.

9.5. 1943 г.

[...] Начались теплые дни. Уже крепко спится на земле в летней форме. Зазеленела земля. Маленькие листочки видны на кустах. Зеленеют деревья, и ветер несет молодой, свежий запах. Эх, хорошо ходить в одних гимнастерках, легко дышать.

[...] Не забыть мне лета западных областей, двух-трех незабываемых годов настоящей жизни, когда был отец. Кипевшая жизнь СССР и весь мир интересовали меня каждым своим вопросом. А их было волнующее море.

[...] Помню лето на Беларуси. Жаркий тихий день. Синее небо надо мной. Зеленый сад кругом. Дышишь запахом яблок-медуничек, лип, трав и думаешь: «Хораша ж беларускае лета». Глянешь вдаль: дубы одиноко стоят среди полей. Раскинулись просторы жита, ветер пробежит волною по его желтому морю, дойдет до темного леса. Зашумят вверху высокие сосны, затрепещут осины, колыхнутся зеленые березы, а внизу в лесу свежая зеленая травица, тихо, чисто, сухо.

31.5. 1943 г.

[...] Мало пришлось мне пожить в родных любимых местах, но любовь не остыла. Она живет и будет жить. Она в воспоминаниях рождает печаль, надежду. Я убежден, что несправедливости и подлости, сделанные человеку, отмщаются со временем. После всякого горя, тяжести положения, неудачи — впереди и радость и не одна удача.

Быть человеком, действительно человеком, значит ценить хорошее в людях и в жизни, не падать духом от ударов судьбы [...]

[...] И я не пойму, почему ж судьба нанесла отцу смертельный удар. За что она отмстила человеку, справедливей, честней которого я не видал. Человеку с открытой и прямой душой, лишенной всяких мелких чувств и заполненной большими чувствами любви и заботы к своей Родине и народу. Может быть, за то, что много правды и ласки говорил он, забыв, что души черствы и природный инстинкт руководит желанием многих.

Но прошли года. Забылось многое. Мысли заняты тем, что есть сегодня и было вчера. А сегодня и вчера жизнь идет своим порядком, заботы приходят и уходят, отгоняя воспоминания печальных дней.

Несмотря на все, жизнь хороша и жить хорошо, особенно ранним летом. Когда-нибудь же кончится и война [...]

1.6. 1943 г.

[...] Каждый день я, глядя на голубое небо, на стадо коров, вспоминаю сад в Богатьковке. Сейчас больше всего мне хочется идти туда, увидеть ее без немцев, целую, зеленую.

19.6. 1943 г.

[...] Вечером принесли мне письмо от мамы и от Вас белорусские газеты.

[...] Прочитал я газеты, и как-то тепло, радостно сделалось на душе. На миг наша славная жизнь прошлых годов, тата, мой дед и все места, где мы жили, встали передо мной со всей ясностью.

16.8. 1943 г.

[...] Когда-то Вы были в Песочне Смоленской области. Вот в это время там я каждый день ходил с тат(ой) по грибы. В смешанных лесах там встречается могучий дуб, клен, граб, ясень. Это были самые чудесные часы в моей жизни. Краснеет стройная высокая осиновая роща. Внизу густой зеленый орешник — орехи поспели и падают вниз на желтый ковер осыпающегося листа. Трудно найти их средь этого желтого, имеющего непередаваемый запах осени, запах умирающей зелени, опавшего листа. Так же трудно было заметить многочисленные красавцы-грибы — твердые, молодые подосиновики, высовыва-

ющие средь опавшей листвы красные головы, но мы находили их целыми корзинами, набирали орехов, и дома вечером мама варила нам замечательный грибной суп. Наплывали тучи, за окном шел осенний дождь, а в нашем доме звенела балалайка, тата умел замечательно на ней играть. Он пел волнующие песни или читал мне лирику Пушкина. Вот почему я полюбил западную осень и западные смешанно-лиственные леса.

Сейчас в тех местах гремит битва. Взята ст. Занозная и Спас-Деменск. Фронт выпрямляется.

3.9. 1943 г.

[...] В Песочне же такими днями ходил я по угрюмым, тихим лесам, собирая самые лучшие, крепкие белые грибы.

[...] Но я вспоминал 1 октября 1935 г. в гор. Москве. Было тепло. Высоко вверху синева неба. Ясный, солнечный день. Звенят трамваи, блестит чистотой асфальт. Сверкают магазины. Кругом чистота, простор, свежесть осени. Как ясно помню я памятник Пушкину, маленького москвича на велосипеде около него, опрятно одетых людей столицы. Со мной тогда был отец. То было чудесное время. Я был в метро. Мы ходили в магазины, купили тетрадей, карандашей, прошли по Красной площади. Я видел громаду гостиницы «Москва». На площади у Большого театра мы пили воды, какой-то ликер. Так по улице Горького, через Красную площадь дошли мы до проф. Пичеты. Ночевали у него. Он необыкновенно гостеприимно встретил нас со своей женой, предложил нам свою постель, угощал лучшими антоновскими яблоками. Наутро солнечная осенняя Москва осталась позади, гудели самолеты в синем небе, и поезд мчал нас уже через Бородино на запад, на Вязьму. Думал ли тата, что здесь будут такие битвы, но свидетелем их ему не пришлось быть. Он вложил в меня много замечательных своих качеств, он передавал мне их настойчиво, и кое-что от него у меня есть.

[...] С радостью слышу я сообщения радио. Вечером захожу я в темный зал, где никого нет, сажусь у репродуктора. Москва музыкой радуется победам. Я тоже рад им. Я рад каждой новой деревне. Я подхожу к большой карте 1 : 100 000, я вижу обозначен-

ные Курманово и Мстиславль, смотрю, много ли до их.

26.9. 1943 г.

[...] Вечером я был рад, как никогда. Взяли Смоленск и Рославль. Хорошо. Даже решил пойти в кино. Я его сейчас люблю не так, как раньше. Правда, вот на днях я смотрел хороший фильм. Партизанский дневник. Там все правдиво.

10.10. 1943 г.

[...] Богатьковка уже наша. Что с ней? Осталась ли она таким же зеленым садом или же от нее осталось черное пепелище, одно из многих на путях войны. Что с моим дедом, Володей и всеми родными?

27.11. 1943 г.

[...] Вспоминаю я Песочню: наш домик, чугунолитейный завод, школу, начало зимы — чудное было время. Мама моя не любит Песочню. Но у меня там была самая лучшая жизнь [...] Если будет можно, я там побуду, в тех местах я лучше всего вспомню тату. Ушел он — но в Песочне мне все его напоминает. Там прожил я замечательные дни. Разнообразнейшая местность. Школа со своей, шумной жизнью, городишко с веселым базаром, рядом магазинов, заводом, клубом, в который я ходил в кино, лес с дубами и кленами, озеро с богатыми берегами, лыжи и коньки. Дома отец, который заставил меня любить Пушкина, политику, лес и всю жизнь. Там мне нехватало времени, никогда не было скучно, было много радостных волнений. И это время не могу не вспоминать я с грустью.

24.12. 1943 г.

[...] Начальник мой [...] считает меня еще за очень молодого, зеленого юнца и заставляет меня работать с утра и до ночи, обещая мне всякие блага в будущем. Однако я его насквозь вижу и стараюсь работать хорошо, пусть и в жертву своей свободе и личным выгодам, и только потому, что у меня кровь моего отца, который во всем очень добросовестно относился к любой работе.

28.12. 1943 г.

[...] Готовясь к зачетам, кругом меня хлопцы разбирают и собирают всевозможное оружие. Я сам должен часть времени выделить на повторение того, что призабыл здесь, работая у топографа.

[...] Я вижу, что на днях будет освобожден Витебск. Можно ждать удара на Могилев.

13.2. 1944 г.

[...] После больших переходов попал я, наконец, на фронт и сейчас стоим в лесу. Позавчера весь день занимались и сразу сделали большой переход, так что я проспал сегодня всю ночь у костра. Погода теплая и снег неглубокий в лесу — это нам на руку. Хуже всего, если ты мокрый и нельзя разводить костры.

# БІБЛІЯГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК ТВОРАЎ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА І ЛІТАРАТУРЫ ПРА ЯГО

## Мастацкія творы

Выбраныя творы: У 2-х т. [Рэд. калегія: Д. Я. Бугаёў і інш. Уступ. артыкул і каментарыі Д. Бугаёва]. Мн.: Маст. літ., 1973.

Т. 1. Апавяданні і драматычныя абразкі. 510 с.; 1 л. партр. Камент.: с. 493—508.

Т. 2. Аповесці, дакументальна-мастацкія запіскі, раман. 478 с. Камент.: с. 472—477.

Рэц.: Мушинский М. Неувядаемый талант.— Неман, 1974, № 7, с. 174—178; Золава Э. Свет далёкі, свет блізкі...— Літ. і мастацтва, 1974, 5 снеж., с. 4—5.

Рунь (Зб. апавяданняў). Вільня: Выд. Беларускага выдавецкага таварыства. Друкарня М. Кухты, 1914, 135[1] с.

Дзве душы. Аповесць. Вільня, 1919, 192 с. (Беларус. выдавецкае т-ва ў Вільні).

Рэц.: З. Бядуля.— Беларусь, 1920, № 112(168), 114(170), 28 і 30 мая.

Антон (Абразы жыцця). Вільня: Друкарня «Šviturіs», 1919. 129 с.

Мутэрка [драматычны абразок]. Адбітак з газеты «Наша думка». Вільня, 1921. 20 с.

Досвіткі. Апавяданні. Мн.: Дзярж. выд-ва Беларусі, 1926. 102 с.

Рэц.: П. Жарскі.— Полымя, 1926, № 2, с. 181—182; С. Дробуш [Ю. Гаўрук].— Аршанскі маладняк, 1926, № 2, с. 47—49; Хв. Шынклер.— Сав. Беларусь, 1926, № 88, 18 крас.; Звязда, 1926, № 74.

На імперыялістычнай вайне (Запіскі). Мн.: Дзярж. выд-ва Беларусі, 1926. 185 с.

Рэц.: Аліч [М. Аляхновіч].— Маладняк, 1926, № 9, с. 103—104.

Ціхія песні. Апавяданне. Мн.: Дзярж. выд-ва Беларусі, 1926. 88 с.

Рэц.: А. Лясны [А. Мардвілка]— Маладняк, 1926, № 5(14), с. 105—106; П. Б. [П. Бузук].— Полымя, 1926, № 5, с. 143—144.

У чым яго крыўда. Апавяданне. Мн.: Дзярж. выд-ва Беларусі, 1926. 73 с.

Рэц. Ал. [М. Аляхновіч].— Маладняк, 1926, № 4(13), с. 123—124.

Атрута. Кароткі жалобны абразок у 1-м акце. Вільня: Бел. выдавецкае таварыства, 1927, 16 с.

Жартаўлівы Пісарэвіч. Сцэнкі і размовы. Мн.: Белдзяржвыд, 1928. 40 с.

Ціхая плынь [Аповесць. 2-е выданне аповесці «Ціхія песні». З прадмоваю выдавецтва]. Мн.: Белдзяржвыд, 1930. 104 с.

Выбранае [Уступ. арт. А. Семяновіча]. Мн.: Дзяржвыд БССР, 1960. 215 с. 1 л. партр.

Віленскія камунары. Раман-хроніка [Уступ. артыкул Ю. С. Пшыркова. Іл.: В. Шаранговіч]. Мн.: Беларусь, 1965. 355 с. з іл.

Рэц.: Наўмовіч У. Другое нараджэнне.— Літ. і мастацтва, 1965, 13 крас.; Мальдзіс А. Аповесць пра віленскіх камунараў.— Чырвоны штандар (Вільнюс), 1965, 24 чэрв.— На польск. мове; Ляпіч А. Раман аб віленскіх камунарах.— Беларусь, 1965, № 10, с. 25; Brаron T. H. [Норберт Рандаў].— Sonntag, 1968, № 5, 4 лют.

Віленскія камунары. Раман-хроніка [Уступ. артыкул М. Лужаніна. Пер.: А. Жукаўскас. Іл.: В. Шаранговіч]. Вільнюс: Вага, 1965. 316 с. з іл.

Рэц. Курляндчыкас Ш. Кніга пра віленскіх камунараў.— Ціеса, 1965, 12 чэрв.— На літ. мове.

Виленские коммунары. Роман-хроника.— Тихое течение. Повесть. Пер. А. Гатова. [Предисл. М. Лужанина. Илл.: В. Е. Валериус]. М.: Сов. писатель, 1966. 281 с. с илл.

Рэц.: Бугаев Д. Сыны батрацкого роду.— Неман, 1967, № 7, с. 171—174.

Віленскія камунары. Раман-хроніка. [Пер. Г. Вігурскай]. Кіеў: Молодь, 1969. 318 с. з іл.

Виленские коммунары. Роман-хроника. (Библиотека «Пятьдесят лет советского романа). Пер. А. Гатова. М., 1970.

Красные розы. Избранное. Пер. Л. Соловья. [Вступит. статья М. Мушинского]. Мн.: Маст. літ., 1976. 496 с.

Рэц.: Ляпич А. Глубины народной жизни.— Неман, 1977, № 5, с. 172—175.

На імперыялістычнай вайне [Аповесць]. Віленскія камунары [Раман]. Пер. Талрыдса Руліса. Маст. Х. Пурвіньш.— Рыга: Ліесма, 1978.

Рэц.: Алькіс І. Гартаючы старонкі гісторыі.— Яунас граматас, 1978, № 5, с. 19—20.— На латыш. мове.

## Навуковыя працы (асобныя выданні)

Руска-беларускі слоўнік. Смаленск. 1918. 108 с. (з Г. Гарэцкім).

Рэц.: А-ч.— Чырвоны шлях (Петраград), 1918, № 5—6, с. 28; Я. Л.— Вольная Беларусь, 1918, № 29; Дзянніца, 1918, № 19, 12 ліп.

Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнічак. Вільня. 1919, 264 сл.

Гісторыя беларускае літаратуры. Вільня: Выд. Знамяроўскага і Будзькі, 1920. 208 с. з іл., партр. і факсіміле.

Рэц.: Адраджэнне. Мн., 1922, сш. 1, с. 322—323.

Маскоўска-беларускі слоўнік (Выд. 2-е, з папраўкамі і вялікімі дадаткамі). Вільня: Выд. У. Знамяроўскага, 1920. 144 с. (з Г. Гарэцкім).

Рэц.: М. Байкоў.— Вестник Народного Комиссариата просвещения ССРБ, 1922, № 5—6(7—8), бел. аддзел, с. 22—24.

Гісторыя беларускае літаратуры (Выд. 2-е, папраўленае). Вільня: Выд. Віленскага выдавецтва Б. Клецкіна, 1921. 208 с. з іл.

Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік (Выд. 2-е, стэрэатыпнае). Вільня: Выд. Беларускага выдавецкага таварыства, 1921. 264 сл.

Krótki zarys historji literatury białoruskiej. Tłómaczenie z białoruskiego. Wilno: Wyd. Nowin Wileńskich. Druk. «Żaibas», 1921, 28s.

Хрэстаматыя беларускае літаратуры. XI век — 1905 год. Для вышэйшых, пачатковых і сярэдніх школ, папаўняючых вучыцельскіх курсаў і курсаў беларусазнаўства. Вільня: Выд. Б. Клецкіна, 1922. 264 с. з партр.

Гісторыя беларускае літаратуры (Выд. 3-е, папраўленае). М.— Л., 1924.

Рэц.: Я. К — іч [Ц. Гартны].— Полымя, 1925, № 2, с. 196—198.

Практычны расійска-беларускі слоўнік. Мн.: Выд. Белтрэстдрук, 1924. 261 с.

Рэц.: Грамыка М.— Асвета, 1924, № 2, с. 117—118.

Беларуска-расійскі слоўнічак (Выд. 3-е, перапрацаванае). Мн.: Дзяржвыд БССР, 1925. 175 с.

Практычны расійска-беларускі слоўнік (Выд. 2-е, выпр. і дап.). Мн.: Дзяржвыд БССР, 1926. 192 с. (з М. Байковым).

Рэц.: Бузук П.— Маладняк, 1926, № 7—8(16—17), с. 176—178.

Гісторыя беларускае літаратуры (Выд. 4-е, перапрацаванае). Мн., 1926. 255 с.

Рэц.: Дорндорф [Ц. Гартны].— Полымя, 1926, № 8, с. 224—229.

«Маладняк» за пяць гадоў. 1923—1928 г. Мн., Белдзяржвыд, 1928, 123 с.

Народныя песні з мелодыямі. Мн.: Выд. Ін-та бел. культуры, 1928. 157 с.; 54 с. нот (Ін-т беларус. культуры. Аддз. гуманітарных навук. Кафедра этнаграфіі. 500 экз. Бел. этнаграфія ў доследах і матэрыялах. Кн. 4) (з А. Ягоравым).

## Пераклады Максіма Гарэцкага

Арсеньеў У. У нетрах Усурыйскага краю. Скарочаны пераклад. Мн.: Дзяржвыд БССР, 1929. 194 с. з іл. (Вакол свету).

Горкі М. Збоднік. Канавалаў. Чалкаш. [Апавяданні]. Мн.: Дзяржвыд БССР, 1930. 156 с. (Мастацкае слова — масам).

Лібядзінскі Ю. Камісары. [Аповесць]. Мн.: Дзяржвыд БССР, 1930. 337 с.
Лібядзінскі Ю. Тыдзень. [Аповесць]. Мн.: Дзяржвыд БССР, 1930. 135 с.
Фадзееў А. Разгром. [Раман]. Мн.: Дзяржвыд БССР, 1930. 260 с.
Ярслаўскі Е. Падручнік для антырэлігійных рабочых гурткоў. Мн.: Дзяржвыд БССР, 1929.

## Літаратура пра жыццё і творчасць Максіма Гарэцкага

Адамовіч А. «Браму скарбаў сваіх адчыняю...». Мн.: Выд-ва БДУ імя У. І. Леніна, 1980, 224 с.
Рэц.: Бугаёў Д. Вяртанне класіка.— Літ. і мастацтва, 1981, 9 студз., с. 6—7.
Бугаёў Дз. Я. Максім Гарэцкі. Мн.: Навука і тэхніка, 1968. 162 с.
Рэц.: Яшкін І. З тых, хто пачынаў.— Літ. і мастацтва, 1968, 14 чэрв.; Ляпіч А. Шчырае слова.— Полымя, 1968, № 9, с. 240—241; Базарэвіч М. Добры пачатак.— Вяч. Мінск, 1968, 14 лістап.; Ахрыменка П. Удумлівае і цікавае даследаванне.— Гомел. праўда, 1969, 14 сак.; Чыгрын І. Па дарозе да людзей.— Нар. асвета, 1969, № 4, с. 91—92.
Адамовіч А. «Браму скарбаў сваіх адчыняю...».— Полымя, 1975, № 8, с. 217—235; № 9, с. 207—226; № 10, с. 187—212; № 11, с. 202—241; у яго кн.: Здалёк і зблізку. Мн., 1976, с. 99—339.
Арнаткявічутэ Л. Ва ўдзячнай памяці.— Літ. і мастацтва, 1983, 18 лют., с. 8.
Атрашкевіч В. Прысады яго жыцця...: Да 85-годдзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага.— Магілёўск. праўда, 1978, 25 лют.
Атрашкевіч В. І. Аб аўтабіяграфізме ранніх твораў М. І. Гарэцкага.— Весці АН БССР. Сер. грамад. навук, 1979, № 2, с. 108—116.— Бібліяграф. спасылкі ў тэксце.
Азгур З. Водсвет дабрыні і розуму. Старонкі ўспамінаў.— Літ. і мастацтва, 1979, 12 кастр., с. 8—9.
Атрашкевіч В. І. Ля вытокаў «Камароўскай хронікі» Максіма Гарэцкага.— Бел. літаратура, 1983, вып. 11, с. 42—50.
Баркоўскі С. Спадчына М. Гарэцкага.— Літ. і мастацтва, 1959, 19 снеж.
Брыль Я. Пасля лемантара.— Літ. і мастацтва, 1981, 2 студз.
Бугаёў Дз. Вырас колас з маладой руні. Да 75-годдзя з дня нараджэння М. Гарэцкага.— Літ. і мастацтва, 1968, 16 лют.
Бугаёў Дз. З вялікай творчай аддачай.— Полымя, 1973, № 2, с. 221—228.
Гарэцкі Г. Успаміны пра брата.— Полымя, 1963, № 2, с. 177—182.
Гарэцкі М. Аўтабіяграфія.— У кн.: Выпісы з беларускае літаратуры XIX—XX ст. Мн., 1926, с. 446; Пра час і пра сябе.

Аўтабіяграфіі беларускіх пісьменнікаў. Мн.: Беларусь, 1966, с. 94—95.
Гарэцкі Максім.— У кн.: Пісьменнікі Савецкай Беларусі. Кароткі біябібліяграфічны даведнік. Мн.: Беларусь, 1970, с. 88—89; Пісьменнікі Савецкай Беларусі. Кароткі даведнік / Складальнік А. К. Гардзіцкі. Мн.: Маст. літ. 1981, с. 86—87.
Золава Э. Самабытнасць. Да 80-годдзя з дня нараджэння М. Гарэцкага.— Літ. і мастацтва, 1973, 16 лют., с. 14.
«Зоннтаг» пра беларускі раман [М. Гарэцкага «Віленскія камунары»].— Літ. і мастацтва, 1968, 5 сак.
Іофе М. Штрыхі да партрэта.— Маладосць, 1973, № 2, с. 150—153.
Иоффе М. «Максим Белорус».— Знамя юности, 1973, 16 февр.
Карамазаў В. Чалавек і ўвесь народ.— Літ. і мастацтва, 1983, 18 лют., с. 8.
Кенька М. «Укладзецца ў душу беларускую...» — Полымя, 1983, № 2, с. 194—201.
Лашкевіч В. А. Максім Гарэцкі для дзяцей.— У кн.: Бел. літаратура і літаратуразнаўства. Міжвузаўскі зборнік. Мн.: Выд-ва БДУ імя У. І. Леніна, 1974, вып. 2, с. 126—139.— Бібліяграф. спасылкі ў тэксце.
Лебедзеў У. А. Аб некаторых тэндэнцыях рамантызацыі ў прозе Максіма Гарэцкага 20-х гадоў.— Бел. літаратура, 1983, вып. 11, с. 50—58.
Ліс А. Кніга пра пісьменніка.— Літ. і мастацтва, 1983, 18 лют., с. 6.
Лойка А. Максім Гарэцкі.— У кн.: Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Мн.: Вышэйш. школа, 1980, ч. II, с. 357—373.
Лужанін М. Лёс пісьменніка і твора.— Полымя, 1963, № 3, с. 14—17; у яго кн.: З ранку да вечара. Роздумы. Водгукі. Накіды партрэтаў.— Мн., 1978, с. 78—103.
Лужанін М. Слухаючы Максіма Гарэцкага.— Полымя, 1983, № 2, с. 202—206.
Ляпіч А. М. Аб эвалюцыі станоўчага героя ў творчасці Максіма Гарэцкага.— Веснік БДУ. Сер. 4. Філалогія, журналістыка, педагогіка, псіхалогія, 1972, № 3, с. 16—20.
Ляпіч А. М. Стылёвыя асаблівасці дакастрычніцкіх апавяданняў Я. Коласа і М. Гарэцкага.— У кн.: Народныя песняры. Да 90-годдзя з дня нараджэння Я. Купалы і Я. Коласа. (Зб. артыкулаў). Мн.: Выд-ва БДУ імя У. І. Леніна, 1972, с. 92—99.
Ляпіч А. М. Аб мастацкім стылі прозы М. Гарэцкага.— Веснік БДУ. Сер. 4, 1976, № 2, с. 12—16.
Мішчанчук М. Нататкі пра прозу Максіма Гарэцкага.— У кн.: Зборнік навуковых прац. Мн., 1973, т. 5. Філалогія, вып. 1, с. 144—150.
Мішчанчук М. І., Адамовіч Я. К. У кроплі — цэлы свет (Пытанні паэтыкі апавяданняў М. Гарэцкага).— У кн.: Филологические исследования. Сб. науч. трудов. Мн., 1976.
Мішчанчук М. Максім Гарэцкі.— У кн.: Гісторыя беларускай літаратуры. XIX — пачатак XX ст. Мн.: Вышэйш. школа, 1981, с. 379—410.
Мушынскі М. Максім Гарэцкі.— У кн.: Гісторыя белару-

скай дакастрычніцкай літаратуры. Мн.: Навука і тэхніка, 1969, т. 2, с. 532—561.
Мушынскі М. Вытокі.— У кн.: Каваленка В., Мушынскі М., Яскевіч А. Шляхі развіцця беларускай савецкай прозы. Агульны рух і галоўныя тэндэнцыі. Мн.: Навука і тэхніка, 1972, с. 3—74.
Мушинский М. Максим Горецкий.— У кн.: История белорусской дооктябрьской литературы. Мн.: Наука и техника, 1977, с. 601—619.
Мушынскі М. Скарбы душы чалавечай... Да выхаду збору твораў М. Гарэцкага.— Літ. і мастацтва, 1983, 18 лют., с. 6.
Навуменка І. Адно апавяданне [«Літоўскі хутарок» М. Гарэцкага].— Маладосць, 1968, № 2, с. 140.
Падгайскі Л. Жывая спадчына [Пра мову твораў М. Гарэцкага].— Полымя, 1969, № 6, с. 217—221.
Пшыркоў Ю. Працаўнік на роднай ніве.— Полымя, 1968, № 2, с. 178—181.
Смольянова Л. Писатель, ученый, педагог.— Заря (Брест), 1973, 17 февр.
Стральцоў М. Чалавек з Малой Багацькаўкі.— Маладосць, 1975, № 6, с. 173—180; у яго кн.: У полі зроку. Зб. літ.-крытычных артыкулаў, эцюдаў, эсэ. Мн.: Маст. літ., 1976, с. 39—54.
Стральцоў М. Спадчыннасць.— Літ. і мастацтва, 1983, 18 лют., с. 5.
Сяргееў Г. Прыроджаны апавядальнік.— Магілёўск. праўда, 1976, 9 студз.
Танк М. У истоков новой культуры.— Лит. газета, 1983, 4 мая.
Усікаў Я. Таленавіты празаік і літаратуразнаўца.— Магілёўск. праўда, 1963, 19 лют.
Хромчанка К. Р. Беларуская мастацкая проза (канец XIX — пачатак XX ст.). Мн.: Выд-ва БДУ імя У. І. Леніна, 1979, с. 162—186.
Шаранговіч В. Чыстая крыніца.— Літ. і мастацтва, 1983, 18 лют., с. 7.
Шушкевіч С. Жыццё ў натхнёнай працы.— Літ. і мастацтва, 1963, 19 лют.; у яго кн.: Вяртанне ў маладосць. Успаміны і нататкі. Мн.: Беларусь, 1968, с. 165—168.
Шушкевіч С. Летапісец незабыўных падзей.— Звязда, 1973, 17 лют.

# КАМЕНТАРЫІ

## Успаміны

1. Гарэцкі Гаўрыла Іванавіч (н. 1900) — брат М. І. Гарэцкага. Геолаг. Акадэмік АН БССР (1928), доктар геолага-мінералагічных навук (1946). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1971). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1972). Успаміны друкаваліся ў «Полымі», 1963, № 2.

2. Гарэцкі Іван Кузьміч (1856—1945).

3. Гарэцкі Якаў Кузьміч (1851—1924) — дзядзька М. І. Гарэцкага, брат яго бацькі.

4. Гарэцкая Хрысцёна (? —1925) — жонка Я. К. Гарэцкага.

5. Гарэцкая Ефрасіння Міхайлаўна (1863 ці 1864—1935).

6. Гарэцкі Іван Іванавіч (1889—1939).

7. Гарэцкі Парфір Іванавіч (1896—1980).

8. Сяло Вольша Аршанскага павета.

9. Гарэцкая Ганна Іванаўна (1902—1922).

10. Адным з іх быў сябар М. І. Гарэцкага Андрэй Мікалаевіч Сухі, які друкаваўся ў «Нашай ніве» пад псеўданімам «Мікалай Мокры». Пра яго гл. заўвагу 90.

11. Курманава — вёска па суседству з Багацькаўкай.

12. Бядуля Змітрок (Плаўнік Самуіл Яфімавіч; 1886—1941) — беларускі савецкі пісьменнік.

13. Гмырак Лявон — псеўданім беларускага крытыка рэвалюцыйна-дэмакратычнага кірунку Мечыслава Бабровіча (1891—1915). У прозе выступаў пад псеўданімам «Б. Заяц».

14. Кнорын Вільгельм Георгіевіч (1890—1939) — савецкі партыйны дзеяч, гісторык, публіцыст і літаратурны крытык. Адзін з стваральнікаў і першых рэдактараў газеты «Звязда». Адыграў пэўную ролю ў стварэнні БССР і Камуністычнай партыі Беларусі.

15. Луцэвіч Уладзіслава Францаўна (1891—1960) — жонка Янкі Купалы, педагог. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1959).

16. Чарвякоў Аляксандр Рыгоравіч (1892—1937) — дзяржаўны дзеяч. Сярод 5 членаў Часовага рэвалюцыйнага рабоча-сялянскага ўрада БССР 1.1.1919 г. падпісаў у Смаленску Маніфест пра абвяшчэнне БССР. У 1920—1924 гг.—

старшыня ЦВК БССР і СНК БССР, у 1924—1937 гг.— старшыня ЦВК БССР.

17. Чарняўская-Гарэцкая Леаніла Усцінаўна (1893—1976) — жонка М. І. Гарэцкага, беларуская савецкая пісьменніца. У 1919—1923 гг.— настаўніца малодшых класаў Першай Беларускай гімназіі ў Вільні. У 1923 г. пераехала з мужам у Мінск. У 1932 г. пераехала да яго ў Кіраў (былая Вятка), працавала выхавацельніцай у дзіцячым садзе, потым жыла ў пасёлку Пясочня Заходняй вобласці, а з 1947 г. у Ленінградзе. Друкавалася з 1919 г., калі выдала ў Вільні зборнік «Дзяціныя гульні». Аўтар чытанкі «Родны край» (для 1, 2, 3—4 гадоў навучання). У Мінску выйшлі кніжкі прозы: «Апавяданні», «Валуй — камісар часоў Кераншчыны», «Падарожніца», «Бяздзетуха» (усе 1930), а таксама кнігі для дзяцей «Варка» (1928), «Кот Знайдзён» (1929), «Андрэйка» (1930), «Перамога» (1932), «Лявонка» (1932), «Сталёвы конь» (1933), «Жук» (1960), «Казёл Мэка і Кудла» (1979). Шмат перакладала на беларускую мову.

18. «Беларускія ведамасці» — штотыднёвая грамадска-палітычная і літаратурная газета. Выдавалася ў Вільні на беларускай мове з 14.9.1921 г. да студзеня 1922 г. Выйшла 16 нумароў. За апазіцыйны кірунак закрыта ўладамі Сярэдняе Літвы. Рэдактар-выдавец М. Гарэцкі быў пасаджаны ў турму на Лукішках, потым высланы з Вільні.

19. Пакроўскі Міхаіл Мікалаевіч (1868—1932) — савецкі гісторык, партыйны і дзяржаўны дзеяч. Акадэмік АН СССР (1929) і АН БССР (1928). З мая 1918 г.— намеснік наркома асветы РСФСР.

20. «Дзянніца» — першая савецкая газета на беларускай мове. Выходзіла з 1.3.1918 г. у Петраградзе, з 6.4.1918 г. (з № 6) да 24.2.1919 г. у Маскве.

21. Гартны Цішка (Жылуновіч Зміцер Хведаравіч; 1887—1937) — беларускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН БССР (1928).

22. «Павукі і мухі» — брашура В. Лібкнехта. Была выдадзена ў Смаленску (1920) выдавецтвам ЦК Камуністычнай партыі Літвы і Беларусі. Пераклаў на беларускую мову Ф. Ш. (Шантыр Фабіян Гіляравіч; 1887—1920).

23. «Хто чым жыве?» — брашура польскага сацыяліста і вучонага-прыродазнаўца Шымана Дыкштэйна (1859—1884). На беларускай мове выдавалася некалькі разоў.

24. «Курс беларусазнаўства» — дапаможнік для настаўнікаў школ Беларусі, выдадзены ў Маскве ў 1920 г. на рускай мове. Склаў Ф. Ф. Турук. У зборнік увайшлі лекцыі, што чыталіся ў Беларускім народным універсітэце ў Маскве ў ліпені-жніўні 1918 г. Надрукавана «Этнаграфічная карта беларускага племені» Я. Ф. Карскага, лекцыя З. Х. Жылуновіча «Беларуская літаратура», М. А. Янчука «Этнаграфічны нарыс Беларусі» і інш.

25. Мацей Мышка — галоўны герой «Віленскіх камунараў», адзін з псеўданімаў М. І. Гарэцкага.

26. Аладаў Мікалай Ільіч (1890—1972) — беларускі савецкі кампазітар. Народны артыст БССР (1955).

27. «Народныя песні з мелодыямі».— Мн., 1928.

28. Прамова Г. І. Гарэцкага ў Саюзе пісьменнікаў БССР

24.2.1968 г. на пасяджэнні, прысвечаным 75-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага.

29. Прамова Г. І. Гарэцкага ў Саюзе пісьменнікаў БССР 13.2.1973 г. на пасяджэнні, прысвечаным 80-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага.

30. Апублікаваны ў часопісе «Полымя», 1963, № 3 і 4.

31. Гарэцкая Галіна Максімаўна (н. 1921) — дачка М. І. Гарэцкага. Успаміны цалкам друкуюцца ўпершыню. Выкарыстаны часткова ў працы А. Адамовіча «Браму скарбаў сваіх адчыняю...».

32. Зберагаецца ў Рукапісным аддзеле фундаментальнай бібліятэкі АН БССР імя Якуба Коласа. Фонд 7.

33. Апавяданне Л. У. Гарэцкай «Мікітка» апублікава[illegible] ў газеце «Наша думка», 1921, № 6, 11 лютага за подпісам «Л. Г.».

34. Галомбак Юзаф (1889—1939) — польскі філолаг-славіст, які даследаваў беларускую літаратуру (манаграфія «Вінцэнты Дунін-Марцінкевіч — польска-беларускі паэт». Вільня, 1932), фальклор і этнаграфію. Гаворка з М. І. Гарэцкім адбылася пад час Акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі (14—21.11.1926 г.), у якой Ю. Галомбак удзельнічаў.

35. Сакалова-Лекант Алена Кірылаўна (1895—1960).

36. Рак-Міхайлоўскі Сымон Аляксандравіч (1885—1937) — дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі, педагог. З 1922 г. быў паслом польскага сейма, дзе бараніў правы беларускага народа. Адзін з ініцыятараў стварэння і намеснік старшыні ЦК Беларускай сялянска-рабочай грамады, адзін з кіраўнікоў Таварыства беларускай школы ў былой Заходняй Беларусі. У 1927 г. арыштаваны польскімі ўладамі і засуджаны на 12 гадоў астрогу. У 1931 г. у выніку абмену палітвязнямі пераехаў у БССР.

37. Тарашкевіч Браніслаў Адамавіч (1892—1938) — беларускі грамадскі і палітычны дзеяч, філолаг. Акадэмік АН БССР (1928). Аўтар першай «Беларускай граматыкі для школ» (1918). З 1922 г. быў паслом польскага сейма, узначальваў беларускую парламенцкую фракцыю. З трыбуны сейма выступаў у абарону працоўных Заходняй Беларусі, выкрываў палітыку буржуазнага ўрада Польшчы. Быў старшынёй ЦК Беларускай сялянска-рабочай грамады. Не раз арыштоўваўся, зазнаў зняволенне ў астрогах. У 1933 г. у выніку абмену палітвязнямі пераехаў у СССР. Пераклаў на беларускую мову «Іліяду» Гамера, паэму А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш» (выйшла ў Мінску асобнай кніжкаю ў 1981 г.).

38. Урублеўскі Тадэвуш (1858—1925) — адвакат. Пляменнік генерала Парыжскай Камуны В. Урублеўскага. На многіх судовых працэсах бараніў рэвалюцыянераў.

39. Драздовіч Язэп Нарцызавіч (1888—1954) — беларускі графік, жывапісец, педагог.

40. Якімовіч Алесь (Аляксандр Іванавіч; 1904—1979) — беларускі савецкі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1968).

41. Дубоўка Уладзімір Мікалаевіч (1900—1976) — беларускі савецкі паэт, празаік, перакладчык.

42. Міровіч (Дунаеў) Еўсцігней Афінагенавіч (1878—

1952) — беларускі савецкі рэжысёр, акцёр, драматург, педагог. Народны артыст БССР (1940). Прафесар (1945).

43. Слаўнава — сяло недалёка ад Багацькаўкі.

44. Шкатэлаў Уладзімір Віктаравіч (1861—1940) — беларускі савецкі хімік, заснавальнік лесахіміі ў БССР. Акадэмік АН БССР (1929).

45. Гаўрук Юрый Паўлавіч (1905—1979) — беларускі савецкі паэт і перакладчык. Выдаў зборнік краязнаўчых нарысаў «Вясковыя рыскі» (1926), першы на Беларусі зборнік паэтычных перакладаў «Кветкі з чужых палёў» (1928), кніжку арыгінальных вершаў і перакладаў «Іскры з крэменя» (1969), выбраных перакладаў паэзіі «Агні ў прасторах» (1975). Перакладаў з англійскай, французскай, нямецкай, польскай, рускай, украінскай на беларускую мову. У 1925—1931 гг. быў дацэнтам кафедры беларускай мовы і літаратуры Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі.

46. Шумякіна — вёска каля Малой Багацькаўкі.

47. Шолам-Алейхем (Рабіновіч Шолам Нохумавіч; 1859—1916) — класік яўрэйскай літаратуры.

48. Судовы працэс пад італьянскімі эмігрантамі, рабочымі-рэвалюцыянерамі Н. Сака і Б. Ванцэці пачаўся ў чэрвені 1920 г. у г. Плімут (ЗША). На падставе паказанняў ілжэсведак суд абвінавадціў Сака і Ванцэці ў забойстве касіра, двух ахоўнікаў абутковай фабрыкі ў г. Саўт-Брэйнтры і вынес смяротны прысуд. Перадавая грамадскасць ЗША і ўсяго свету арганізавала (1921) «Камітэт абароны», каб выратаваць жыццё барацьбітоў супраць капіталістычнага ладу. Вярхоўны суд ЗША 11.1.1926 г. усё ж зацвердзіў несправядлівы прыгавор, і 23.8.1927 г. Сака і Ванцэці пакараны смерцю на электрычным крэсле.

49. «Дні Турбіных» — п'еса рускага савецкага пісьменніка М. Булгакава (1891—1940).

50. Франс (Цібо) Анатоль (1844—1924) — французскі пісьменнік.

51. Буржэ Поль Шарль Жазеф (1852—1935) — французскі пісьменнік.

52. Кіплінг Джозеф Рэдзьярд (1865—1936) — англійскі пісьменнік. На беларускай мове выходзілі яго кнігі для дзяцей «Рыкі-Цікі-Таві» (1938), «Казкі» (1939), «Маўглі» (1940, 1981).

53. Сетан-Томпсан Эрнест (1860—1946) — канадскі пісьменнік, мастак-анімаліст, даследчык прыроды. Напісаў каля 40 кніг, пераважна пра жывёл.

54. Змудзінскі Генадзь Яўгенавіч (1897—1938) — беларускі савецкі мастак.

55. Праслаўскі Емяльян Міхайлавіч (Губельман Міней Ізраілевіч; 1878—1943) — прафесійны рэвалюцыянер, савецкі партыйны дзеяч, гісторык і публіцыст. Акадэмік АН СССР (1939).

56. Уладамірскі (Малейка) Уладзімір Іосіфавіч (1893—1971) — беларускі савецкі акцёр. Народны артыст СССР (1955).

57. Грамыка Міхайла (Міхаіл Аляксандравіч; 1885—1969) — беларускі савецкі паэт, драматург, вучоны.

58. Гётэ Іаган Вольфганг (1749—1832) — нямецкі паэт

і мысліцель. Асноўны твор паэта — трагедыя ў вершах «Фаўст».

59. Гейнэ Генрых (1797—1856) — нямецкі паэт і публіцыст.

60. Флабэр Гюстаў (1821—1880) — французскі пісьменнік. Яго раман «Пані Бавары» (1856) — адзін з найлепшых у французскай літаратуры 19 ст.

61. Дадэ Альфонс (1840—1897) — французскі пісьменнік. Аўтар трылогіі «Тартарэн з Тараскона».

62. Твэн Марк (Клеменс Сэмюэл Ленгхарн; 1835—1910) — амерыканскі пісьменнік і публіцыст, адзін з заснавальнікаў крытычнага рэалізму ў літаратуры ЗША.

63. Дэ Кастэр Шарль (1827—1879) — бельгійскі пісьменнік, заснавальнік рэалістычнага кірунку ў літаратуры Бельгіі.

64. Бакачыо Джавані (1313—1375) — італьянскі пісьменнік.

65. Васарман Якаб (1873—1934) — нямецкі пісьменнік.

66. Сержпутоўскі Аляксандр Казіміравіч (1864—1940) — беларускі этнограф і фалькларыст.

67. Бабарэка Адам Антонавіч (1899—1938) — беларускі савецкі крытык.

68. Лужанін Максім (Каратай Аляксандр Амвросьевіч; н. 1909) — беларускі савецкі паэт, празаік, перакладчык. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1964). Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1969).

69. Лангфела Генры Уодсуарт (1807—1882) — амерыканскі паэт.

70. Лібядзінскі Юрый Мікалаевіч (1898—1959) — рускі савецкі пісьменнік.

71. Арсеньеў Уладзімір Клаўдзіевіч (1872—1930) — савецкі пісьменнік, даследчык Далёкага Усходу, этнограф.

72. Міцкевіч Марыя Дзмітрыеўна (1891—1945) — жонка Якуба Коласа.

73. Лявіцкая (Лёсік) Ванда Антонаўна (1895—1969) — беларуская савецкая пісьменніца. Дачка Ядвігіна Ш.

74. Шашалевіч Васіль Антонавіч (1897—1941) — беларускі савецкі драматург.

75. Іваноўская Марыя Раманаўна (н. 1912) — перадавік харчовай прамысловасці. Герой Сацыялістычнай Працы (1966).

76. Маўр Янка (Фёдараў Іван Міхайлавіч; 1883—1971) — беларускі савецкі пісьменнік. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1968).

77. Лынькоў Міхась (Міхаіл Ціханавіч; 1899—1975) — беларускі савецкі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1953).

78. Пальчэўскі Алесь (Александр Восіпавіч; 1905—1979) — беларускі савецкі пісьменнік. У 20-я гг. выступаў пад псеўданімам «Ал. Вясковы».

79. Гарэцкі Усяслаў Гаўрылавіч (н. 1924) — загадчык сектара пачатковай адукацыі Навукова-даследчага інстытута школ Міністэрства асветы РСФСР. Галоўны рэдактар часопіса «Начальная школа».

80. Гарэцкая Ларыса Восіпаўна (н. 1901) — жонка Г. І. Гарэцкага.
81. Пічэта Уладзімір Іванавіч (1878—1947) — савецкі гісторык. Акадэмік АН СССР (1946, член-карэспандэнт з 1939), АН БССР (1928). У 1921—1929 гг.— рэктар Беларускага дзяржаўнага універсітэта.
82. Чарнушэвіч Нічыпар Фёдаравіч (1900—1967) — беларускі савецкі паэт. Аўтар зборнікаў вершаў «Дзіва» (1927), «Нясу надзею» (1962), «Гаворка дум» (1966), «Выбраныя вершы» (1975). У Вятцы (Кіраве) жыў у 1931—1935 гг.
83. Паленаў Васіль Дзмітрыевіч (1844—1927) — рускі жывапісец.
84. Саўрасаў Аляксей Кандратавіч (1830—1897) — рускі жывапісец.
85. Гарэцкая Анісся Грыгор'еўна (н. 1901) — жонка П. І. Гарэцкага.
86. Шамава — мястэчка каля Малой Багацькаўкі.
87. Успаміны П. І. Гарэцкага напісаны для гэтага зборніка. Друкаваліся: Полымя, 1983, № 2, с. 207. Гл. заўвагу 7.
88. Урыўкі з чарнавых накідаў-успамінаў Л. У. Чарняўскай-Гарэцкай друкуюцца ўпершыню. Гл. заўвагу 17.
89. Грыневіч Антон Антонавіч (1877—1937) — збіральнік беларускага музычнага фальклору, выдавец, педагог.
90. Сухі Андрэй Мікалаевіч (1892—1981) — аграном, сябра М. Гарэцкага. Успаміны друкаваліся: Літ. і мастацтва, 1983, 18 лют., с. 7.
91. Друкаваўся ў «Нашай ніве» (1914) пад псеўданімам «В. П. Дняпроўскі».
92. Аўчыннікаў Іван Рыгоравіч друкаваўся ў «Нашай ніве» (1914—1915) пад псеўданімам «І. Дабрынец».
93. Ганчарык Міхаіл Мікалаевіч (н. 1899) — вучоны-фізіёлаг раслін. Член-карэспандэнт Акадэміі навук БССР (1969), доктар біялагічных навук (1960), прафесар (1960). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1972). Першыя вершы апублікаваў у 1914 г. у газеце «Наша ніва» пад псеўданімам «Ландыш». Успаміны друкуюцца ўпершыню.
94. Ядвігін Ш. (Лявіцкі Антон Іванавіч; 1868—1922) — беларускі пісьменнік.
95. Гарун Алесь (Прушынскі Аляксандр Уладзіміравіч; 1887—1920) — беларускі паэт.
96. Буйло (Калечыц) Канстанцыя Антонаўна (н. 1899) — беларуская савецкая паэтэса.
97. Паўловіч Альберт Францавіч (1875—1951) — беларускі паэт-сатырык.
98. Мядзёлка Паўліна Вікенцеўна (1893—1974) — беларуская савецкая дзяячка культуры, педагог. Заслужаны дзеяч культуры БССР (1966). Адна з першых выканаўцаў (1913 г., Пецярбург) ролі Паўлінкі ў камедыі Я. Купалы «Паўлінка».
99. Кляшторны Тодар Тодаравіч (1903—1938) — беларускі савецкі паэт.
100. Каваль (Кавалёў) Васіль Пятровіч (1907—1937) — беларускі савецкі пісьменнік.
101. Вечар Аляксандр Сцяпанавіч (н. 1905) — вучоны-біяхімік. Акадэмік Акадэміі навук БССР (1966), доктар бія-

лагічных навук (1951), прафесар (1951). Заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі БССР (1975). Літаратурнай працай займаецца з 1926 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Кола дзён» (1930), «Зварот да слова» (1977), паэмы «Мая гімназія» (1979). Пераклаў на беларускую мову паэму А. С. Пушкіна «Домік у Каломне» (1937).

102. Прыбыткоўскі Уладзіслаў. Член Горацкай студыі Аршанскай філіі «Маладняка». Вершы друкаваў у часопісах «Маладняк», «Аршанскі маладняк» (тут публікаваў таксама рэцэнзіі і літаратуразнаўчыя артыкулы).

103. Язэп Гарасімовіч. Сакратар Горацкай студыі Аршанскай філіі «Маладняка». Пісаў вершы, апавяданні, п'есы. Псеўданім — «Язэп Вір». У 1928 г. выдаў зборнік апавяданняў для дзяцей «Маленькі балагол».

104. Таўбін Юлі Абрамавіч (1911—1937) — беларускі савецкі паэт.

105. Успаміны напісаны для гэтага зборніка. Друкуюцца ўпершыню. Гл. таксама заўвагу 101.

106. Успаміны — запіс на магнітафонную стужку прамовы Ю. П. Гаўрука 13.2.1973 г. у Саюзе пісьменнікаў БССР на пасяджэнні, прысвечаным 80-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага — друкуюцца ўпершыню. Гл. заўвагу 45.

107. Тарыч (Аляксееў) Юрый Віктаравіч (1885—1967) — рускі і беларускі савецкі кінарэжысёр, сцэнарыст. Паставіў першы беларускі мастацкі фільм «Лясная быль» (1926).

108. Маслоўская Вера (1898—1981), настаўніца, удзельніца рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі. Выступала ў заходнебеларускім друку з вершамі пад псеўданімамі «Мурашка», «Беларуская мурашка». Успаміны друкаваліся: Літ. і мастацтва, 1983, 18 лют., с. 6.

109. Кулакоў (Рутштэйн) Кузьма Львовіч (1901—1979) — акцёр Рускага драматычнага тэатра БССР імя М. Горкага. Успаміны друкаваліся: Літ. і мастацтва, 1983, 18 лют., с. 7.

110. Ждановіч Фларыян Паўлавіч (1884—1942) — беларускі савецкі акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч. Адзін з заснавальнікаў беларускага прафесійнага тэатра.

111. Улашчык Мікалай Мікалаевіч (н. 1906) — беларускі савецкі гісторык і археограф. Доктар гістарычных навук (1964). Аўтар даследаванняў «Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии» (М., 1965), «Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода» (М., 1973). Пераклаў на рускую мову і выдаў «Хроніку Быхаўца» (1966), падрыхтаваў да выдання і пракаменціраваў 2 тамы беларускіх летапісаў. Успаміны друкуюцца ўпершыню.

112. Александровіч Андрэй Іванавіч (1906—1963) — беларускі савецкі паэт. Адзін з арганізатараў літаратурнага аб'яднання «Маладняк».

113. Вольны Анатоль (Ажгірэй Анатоль Іўсцінавіч; 1902—1937) — беларускі савецкі паэт, празаік, кінасцэнарыст. Заслужаны дзеяч мастацтва БССР (1935).

114. Барашка Іларыён Мацвеевіч (1905—1968) — беларускі савецкі пісьменнік.

115. Пецюкевіч Мар'ян Язэпавіч (1904—1983) — беларускі этнограф. Жыў у Торуні. Успаміны друкуюцца ўпершыню.

116. Янкоўскі Антон Рафаілавіч (1901—1982) — аграном, збіральнік беларускага фальклору. Жыў у в. Адамчукі Вільнюскага раёна. Успаміны друкаваліся: Літ. і мастацтва, 1983, 18 лют., с. 7.

117. Якімовіч Алесь. Гл. таксама заўвагу 40. Успаміны напісаў для гэтага зборніка. Друкаваліся: Полымя, 1983, № 2, с. 208—209.

118. «Беларускі піянер» — часопіс для дзяцей. Выходзіў у Мінску ў 1924—1929 гг. Першым рэдактарам яго быў У. М. Дубоўка.

119. Піятуховіч Міхайла (Міхаіл Мікалаевіч; 1891—1938) — беларускі савецкі літаратуразнавец. Прафесар (1926).

120. Апавяданне «Бірка» ў першы зборнік М. І. Гарэцкага не ўваходзіла. Упершыню апублікавана ў газеце «Наша думка», 1920, № 2, 31 снежня.

121. Трагубаў Якаў Ісаевіч (н. 1905), настаўнік. Успаміны друкуюцца ўпершыню.

122. Азгур Заір Ісакавіч (н. 1908) — беларускі савецкі скульптар. Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Народны мастак СССР (1973). Правадзейны член Акадэміі Мастацтваў СССР (1958). Успаміны друкаваліся ў газеце «Літаратура і мастацтва», 1979, 12 кастрычніка.

123. Правіянцкая — вуліца ў Мінску ў раёне цяперашняй вуліцы Захарава.

124. Чарот Міхась (Кудзелька Міхась Сямёнавіч; 1896—1938) — беларускі савецкі пісьменнік, грамадскі і культурны дзеяч.

## Слова пра пісьменніка і яго творчасць

125. Пшыркоў Юльян Сяргеевіч (1912—1980) — беларускі савецкі літаратуразнавец і крытык. Доктар філалагічных навук (1962), прафесар (1964). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1978). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа (1980). Друкуецца паводле выдання: Гарэцкі М. Віленскія камунары.— Мн., 1965, с. 5—14.

126. Міцкявічус-Капсукас Вінцас Сіманавіч (1880—1935) — адзін з арганізатараў і кіраўнікоў кампартыі Літвы, дзеяч міжнароднага камуністычнага руху, першы літоўскі крытык-марксіст.

127. Дзікенс Чарлз (1812—1870) — англійскі пісьменнік.

128. Брыль Янка (Іван Антонавіч; н. 1917) — беларускі савецкі пісьменнік. Народны пісьменнік БССР (1981). Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР (1952), Літаратурнай прэміі імя Я. Коласа (1963), Дзяржаўнай прэміі БССР імя Я. Коласа (1982). Матэрыял друкаваўся ў газеце «Літаратура і мастацтва», 1981, 2 студзеня.

129. Чытанку «Родны край» склала жонка М. І. Гарэцкага Л. У. Чарняўская-Гарэцкая.

130. Над Янкам шумелі бярозы.

131. У часопісе «Маладосць», 1974, № 9 друкаваліся пісьмы Леаніда Гарэцкага з фронту.

132. Навуменка Іван Якаўлевіч (н. 1925) — беларускі савецкі пісьменнік і літаратуразнавец. Акадэмік АН БССР (1981). Доктар філалагічных навук (1969), прафесар (1971). З 1982 г. віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР. Друкуецца паводле публікацыі ў часопісе «Маладосць», 1968, № 2.

133. Адамовіч Алесь (Аляксандр Міхайлавіч; н. 1927) — беларускі савецкі пісьменнік і крытык. Член-карэспандэнт АН БССР (1980). Доктар філалагічных навук (1962), прафесар (1964). Урыўкі друкуюцца паводле яго манаграфіі «Браму скарбаў сваіх адчыняю...» (1980), с. 157—159, 162—165, 171—175, 192, 193.

134. Бугаёў Дзмітрый Якаўлевіч (н. 1929) — беларускі савецкі крытык і літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1960). Дацэнт БДУ імя У. І. Леніна. Аўтар манаграфіі «Максім Гарэцкі» (1968). Артыкул друкуецца паводле публікацыі ў часопісе «Полымя», 1973, № 2.

135. Гл.: Наша ніва, 1914, № 39, 2 кастрычніка.

136. Два варыянты рукапісу гэтага твора зберагаюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР (ф. 66), а трэці ў архіве М. І. Гарэцкага ў Рукапісным аддзеле Фундаментальнай бібліятэкі АН БССР імя Якуба Коласа.

137. Друкуецца паводле кнігі М. Лужаніна «З ранку да вечара» (1978), с. 78—82, 85—86.

138. Лойка Алег Антонавіч (н. 1931) — беларускі савецкі паэт, крытык і літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1969), прафесар (1971). Урыўкі друкуюцца паводле яго кнігі «Гісторыя беларускай літаратуры. Дакастрычніцкі перыяд. Частка II.» — Мн., 1980, с. 357—358, 361—365.

139. Мушынскі Міхась (Міхаіл Іосіфавіч; н. 1931) — беларускі савецкі крытык і літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1978). Артыкул напісаны для гэтага зборніка. Друкуецца ўпершыню.

140. Слоўнік друкаваўся ў «Гісторыі беларускай літаратуры» М. І. Гарэцкага.

141. Сачанка Барыс Іванавіч (н. 1936) — беларускі савецкі пісьменнік. Артыкул напісаны для гэтага зборніка. Друкаваўся: Маладосць, 1982, № 12.

142. Шутовіч Іван Язэпавіч (1904—1974) — беларускі журналіст.

143. Стральцоў Міхась (Міхаіл Лявонавіч; н. 1937) — беларускі савецкі пісьменнік і крытык. Артыкул друкуецца паводле яго зборніка літаратурна-крытычных артыкулаў, эцюдаў, эсэ «У полі зроку».— Мн., 1976, с. 39—54.

144. Рорых (Рэрых) Мікалай Канстанцінавіч (1874—1947), рускі жывапісец, тэатральны мастак, археолаг. Ініцыятар міжнароднага руху ў абарону помнікаў культуры (1940-я гг.). З 1920 г. жыў за мяжою, пераважна ў Індыі.

145. Чыгрын Іван Пятровіч (н. 1931) — беларускі савецкі крытык і літаратуразнавец. Кандыдат філалагічных навук (1968). Урывак друкуецца паводле яго аўтарэферата «Становление белорусской прозы и фольклор (Дооктябрьский период)». Минск, 1968, с. 16—18.

146. Друкуецца паводле «Каляднай пісанкі». Вільня, 1913, стар. 13—26, дзе ўпершыню апублікаваны.

147. Ляцкі Яўген Аляксандравіч (1868—1942) — гісторык рускай літаратуры, этнограф. Збіраў і даследаваў беларускі фальклор: «Материалы для изучения творчества и быта белорусов, [т.] 1 — Пословицы, поговорки, загадки».— М., 1898.

148. Насовіч Іван Іванавіч (1788—1877) — беларускі лексікограф, фалькларыст і этнограф. Аўтар «Слоўніка беларускай мовы» (1870). Выдаў «Зборнік беларускіх прыказак» (1867), зборнік «Беларускія песні» (1873) і інш.

149. Раманаў Еўдакім Раманавіч (1855—1922) — беларускі этнограф і фалькларыст, археолаг. Асноўная праца — «Беларускі зборнік» (вып. 1—9, Кіеў — Віцебск — Магілёў — Вільня, 1886—1912).

150. Шэйн Павел Васілевіч (1826—1900) — беларускі і рускі фалькларыст і этнограф. Выдаў зборнікі «Беларускія народныя песні» (1874), «Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» (т. 1—3, 1887—1902) і інш.

151. Карскі Яўхім Фёдаравіч (1861—1931) — савецкі філолаг-славіст, заснавальнік беларускага мовазнаўства, філалогіі і фалькларыстыкі. Акадэмік (1916), правадзейны член Інстытута беларускай культуры (1922), Чэшскай АН (1929). Асноўная праца — «Беларусы» (т. 1—3, вып. 1—7, 1903—1922).

152. Друкуецца паводле часопіса «Маладняк», 1928, № 4, дзе ўпершыню апублікаваны з заўвагаю ад рэдакцыі: «Рэдакцыя не згаджаецца з дадзенай аўтарам ацэнкай некаторых пісьменнікаў».

153. Каганец Карусь (Кастравіцкі Казімір Карлавіч; 1868 — 1918) — беларускі пісьменнік, мастак і скульптар.

154. Галубок (Голуб) Уладзіслаў Іосіфавіч (1882—1942) — беларускі савецкі акцёр, рэжысёр, драматург, мастак, тэатральны дзеяч. Народны артыст БССР (1928).

155. Гурло Алесь (Аляксандр Кандратавіч; 1892—1938) — беларускі савецкі паэт.

156. «Родныя гоні» — грамадска-культурны і літаратурна-мастацкі ілюстраваны часопіс дэмакратычнага кірунку, які выдаваўся на беларускай мове ў Вільні з сакавіка да кастрычніка 1927 г.

157. «Маланка» — сатырычны ілюстраваны часопіс прагрэсіўнага кірунку, які выходзіў у Вільні з 15.1.1926 г. да 26.12.1928 г.

158. Жылка Уладзімір Адамавіч (1900—1933) — беларускі савецкі пісьменнік. Вучыўся на гісторыка-філалагічным факультэце Карлава універсітэта ў Празе (1923—1926).

159. Чорны Кузьма (Раманоўскі Мікалай Карлавіч; 1900—1944) — беларускі савецкі пісьменнік.

160. Пушча Язэп (Плашчынскі Язэп Паўлавіч; 1902—1964) — беларускі савецкі паэт.

161. Нёманскі Янка (Пятровіч Іван Андрэевіч; 1890—1937) — беларускі савецкі пісьменнік, вучоны-эканаміст і грамадскі дзеяч. Акадэмік АН БССР (1928).

162. Зарэцкі Міхась (Касянкоў Міхаіл Яўхімавіч; 1901—1941) — беларускі савецкі пісьменнік.

163. Дудар Алесь (Дайлідовіч Аляксандр Аляксандравіч; 1904—1946) — беларускі савецкі паэт. У крытыцы выступаў пад псеўданімам «Тодар Глыбоцкі».

164. «Беларуская літаратурна-мастацкая камуна» — аб'яднанне беларускіх савецкіх пісьменнікаў. Створана ў верасні 1927 г. у Мінску. Выдала 2 нумары часопіса «Росквіт». У красавіку 1928 г. самаліквідавалася.

165. Вазнясенскі Аляксандр Мікалаевіч (1888—1966) — рускі і беларускі савецкі літаратуразнавец. Доктар філалагічных навук (1944). У 1921—1930 гг. прафесар Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Даследаваў беларускую літаратуру і тэатр.

166. Бярозка Юры (Георгій Сяргеевіч; 1905—1982) — рускі савецкі пісьменнік. У 1920-я гг. пісаў па-беларуску, выступаў як крытык.

167. Друкуецца паводле газеты «Савецкая Беларусь», 1925, № 5, 7 студзеня, дзе ўпершыню апублікаваны.

168. Самахвалаў Аляксандр Рыгоравіч — у 1920-я гг. сакратар ЦК ЛКСМБ.

169. Вальфсон Сямён Якаўлевіч (1894—1941) — беларускі савецкі філосаф. Акадэмік АН БССР (1928).

170. Друкуецца паводле газеты «Звязда», 1927, № 243, 23 кастрычніка, дзе ўпершыню апублікаваны.

171. У «Дзянніцы» (1918, № 37, 7 лістапада) было надрукавана апавяданне М. І. Гарэцкага «Знібеіць сэрца».

172. Травень — май.

173. Друкуецца паводле газеты «Звязда», 1927, № 231, 9 кастрычніка, № 233, 12 кастрычніка, дзе ўпершыню апублікаваны.

174. Ігнатоўскі Усевалад Макаравіч (1881—1931) — беларускі савецкі гісторык і грамадскі дзеяч. У 1921—1926 гг. нарком асветы БССР. З 1928 г. правадзейны член АН БССР, у 1929—1931 гг.— яе прэзідэнт.

175. А. Б.— крыптанім А. А. Бабарэкі.

176. Л. Трыер — псеўданім М. Лужаніна.

177. Музычная драма М. Чарота «На Купалле» была пастаўлена 20 лістапада 1921 г. Беларускім дзяржаўным тэатрам. Надрукавана тады не была. Тэкст п'есы адноўлены К. Пуроўскім і К. Кулаковым і апублікаваны ў часопісе «Полымя», 1982, № 2, с. 117—143.

178. Друкуецца паводле манаграфіі, выдадзенай у 1928 г. у Мінску.

179. Трус Паўлюк (Павел Адамавіч; 1904—1929) — беларускі савецкі паэт.

180. Падабед Язэп Тодаравіч. Нарадзіўся ў лістападзе 1905 г. у в. Ванікоўшчына Самахвалавіцкага раёна. Друкавацца пачаў у 1924 г. («Савецкая Беларусь», «Радавая рунь», «Беларускі піянер», «Маладняк» і інш.). Выступаў таксама пад псеўданімам «Аркадзь Чабор». У 1926 г. выдаў зборнік «Вершы». Быў старшынёй Калінінскай філіі «Маладняка», членам Полацкай філіі.

181. Пфляўмбаўм Яўгенія Эдгардаўна (н. 1907) — паэтэса.

182. Журба Янка (Івашын Іван Якаўлевіч; 1881—1964) — беларускі савецкі паэт.

183. У Магілёве філія «Маладняка» створана 15 лютага 1925 г. (ЦДАКР БССР. Ф. 256, воп. 1, адз. зах. 14, арк. 5).

184. У Мазыры філія створана 29 кастрычніка 1925 г. (ЦДАКР БССР. Ф. 256, воп. 1, адз. зах. 17, арк. 2).

185. Хурсік Сымон Аляксеевіч (1902—1972) — беларускі савецкі пісьменнік.

186. Бузук Пётр Апанасавіч (1891—1943) — беларускі савецкі мовазнавец. Доктар філалагічных навук (1924), з 1925 г.— прафесар БДУ.

187. Тут яўная апіска, бо «Узвышша» створана 26 мая 1926 г., як пра гэта М. Гарэцкі і піша далей.

188. Тут, відаць, апіска ў даце, бо з'езд «Маладняка» адбыўся 25—27 лістапада 1925 г.

189. «Пробліск» («Пралетарска-сялянская беларуская літаратурная суполка») — аб'яднанне беларускіх савецкіх пісьменнікаў. Створана ў ліпені 1927 г. у Мінску. 28.1.1928 г. заявіла пра далучэнне да «Маладняка», а ў лістападзе 1928 г. увайшло ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў і паэтаў (БелАПП), створаную на базе «Маладняка».

190. Бобрык Янка (Іван Іванавіч; 1905—1942) — беларускі савецкі паэт.

191. Звонак Алесь (Пётр Барысавіч; н. 1907) — беларускі савецкі паэт.

192. Плаўнік Ізраіль (1904 ці 1905— ?) — паэт, брат З. Бядулі.

193. Туміловіч Янка (Іван Людвігавіч; 1905—1938) — беларускі савецкі паэт.

194. Хведаровіч Мікола (Чарнушэвіч Мікалай Фёдаравіч; 1904—1981) — беларускі савецкі паэт.

195. Відук — псеўданім Янкі Скрыгана (н. 1905).

196. Гл. с. 298 гэтага зборніка.

197. Шукайла Паўлюк (Павел Захаравіч; 1904—1937).

198. Бандарына Зінаіда Аляксандраўна (1909—1959) — беларуская савецкая пісьменніца. Гл. таксама с. 265—266 гэтага зборніка.

199. Вішнеўская Наталля Вячаславаўна (н. 1907) — беларуская савецкая паэтэса.

200. Дарожны Сяргей (Серада Сяргей Міхайлавіч; 1909—1943) — беларускі савецкі паэт.

201. Маракоў Валерый Дзмітравіч (1909—1940) — беларускі савецкі паэт.

202. Хадыка Уладзімір Марцінавіч (1905—1940) — беларускі савецкі паэт.

203. Нікановіч Мікола (Мікалай Уладзіміравіч; 1902—1944) — беларускі савецкі пісьменнік.

204. Мурашка Рыгор Данілавіч (1902—1944) — беларускі савецкі пісьменнік.

205. Фамін Сяргей Уладзіміравіч (1906—1941?) — беларускі савецкі паэт.

206. Галавач Платон Раманавіч (1903—1937) — беларускі савецкі пісьменнік і грамадскі дзеяч.

207. Мардвілка Аркадзь Пятровіч (н. 1904) — беларускі савецкі крытык і перакладчык.

208. Аляхновіч Мікола (Мікалай Мікалаевіч; 1903—1959) — беларускі савецкі крытык.

209. Баркоўскі Сцяпан Андрэевіч (1905—1966) — беларускі савецкі крытык, гісторык, этнограф і краязнавец. Скончыў педфак БДУ (1926). У 1926—1937 гг. працаваў у Інбелкульце, Інстытуце гісторыі АН БССР (у 1927—1930 гг. адначасова займаўся ў аспірантуры АН БССР). У 1956—1966 гг. у сектары этнаграфіі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Аўтар даследавання «Першае Мая на Беларусі» (1927, 3-е выданне 1933).

210. Моркаўка Аркадзь Андрэевіч (1900—1957) — беларускі савецкі паэт.

211. Іл. Б.— Ілары Барашка.

212. Мазуркевіч Язэп Ігнатавіч. Нарадзіўся ў 1887 г. ва ўрочышчы «Падкрыжыкі» каля сяла Целякова Уздзенскай воласці Ігуменскага павета ў сям'і лесніка. Вучыўся ў Багушэвіцкай двухкласнай школе. З 1904 г. настаўнічаў на Ігуменшчыне. У 1906—1915 гг.— у Навагрудскім павеце. Пасля — каля Баранавіч, у Саратаўскай губерні, на Случчыне. З 1924 г. быў выкладчыкам Віцебскай Савецка-партыйнай школы. Друкавацца пачаў у 1922 г. у «Савецкай Беларусі». Аўтар апавяданняў «Здзекі» [«Полымя», 1924, № 3 (11)], «Бранявік» («Маладняк», 1925, № 9), п'ес «Камсамолка Галя» (альманах «Пачатак». Віцебск, 1926, пад псеўданімам «Я. Цікавы»), «За калгас» (альманах «Рытмы будавання». Віцебск, 1930) і інш.

213. Базыленка Ганна Мартынаўна (1908—1980) — выкладчыца рускай мовы ў БДУ імя У. І. Леніна.

214. Баранавых (Баранаў) Сымон Якаўлевіч (1900—1942) — беларускі савецкі пісьменнік.

215. Бужан Хведар Сілавіч (1896— ?). Скончыў Беларускі лесатэхнічны інстытут (1932, Гомель). Працаваў леснікам, аб'ездчыкам, памочнікам ляснічага, ляснічым на Бабруйшчыне. У гады Вялікай Айчыннай вайны працаваў начальнікам участка Маслянінскага леспрамгаса Новасібірскай вобласці, у трэсце «Новасіблес». З 1921 г. быў селькорам газеты «Беларуская вёска». У сярэдзіне 1920-х гадоў друкаваў вершы ў бабруйскіх выданнях (газета «Камуніст», альманах «Уздым»). У 1932 г. выдаў аповесць «Леснікі».

216. Салагуб Алесь Феафілавіч (1906—1941) — беларускі паэт і літаратуразнавец.

217. Сямашка Сцяпан Пятровіч (1898—1965). У 1926—1929 гг. працаваў рэдактарам газеты «Чырвоная Полаччына», потым — у часопісе «Шляхі калектывізацыі», у газеце «Звязда». Друкаваўся пад псеўданімам «Сцяпан Чуткі». Аўтар кнігі апавяданняў «Пералом» (1932).

218. Хадкевіч Тарас Канстанцінавіч (1912—1975) — беларускі савецкі пісьменнік. Заслужаны работнік культуры БССР (1972).

219. Шушкевіч Станіслаў Пятровіч (н. 1908) — беларускі савецкі паэт.

220. Лявонны Юрка (Юркевіч Леанід Мікалаевіч; 1908—1943) — беларускі савецкі паэт.

221. Мікуліч Барыс Міхайлавіч (1912—1954) — беларускі савецкі пісьменнік.

222. Явар. Хв.— псеўданім Хвядоса Сяргеевіча Шынклера (1903—1942).

223. Маркава Настасся Паўлаўна. Нарадзілася 25 снежня 1906 г. у в. Хатоўні Журавіцкага раёна Магілёўскай акругі. Вучылася ў Магілёўскім педтэхнікуме. Вершы друкавала ў «Маладняку», у альманаху «Ранне» (Магілёў, 1929) і інш.

224. Гл. заўвагу 78.

225. Броўка Пятрусь (Пётр Усцінавіч; 1905—1980) — беларускі савецкі паэт і грамадскі дзеяч. Народны паэт БССР (1962). Акадэмік АН БССР (1966). Герой Сацыялістычнай Працы (1972). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1975).

226. Ананьеў Паўлюк. Нарадзіўся ў 1907 г. Настаўнічаў, вучыўся ў БДУ. Друкаваўся ў Віцебскіх альманахах «Світанне» (1927), «Рытмы будавання» (1930). У 1932 г. выдаў зборнікі паэзіі «Героіка дзён» і «Рабочы пульс» (разам з А. Ушаковым).

227. Люгоўскі Браніслаў. Нарадзіўся ў 1908 г. Працаваў токарам на Віцебскім заводзе «Чырвоны металіст». Друкаваўся з 1926 г. У альманаху «Рытмы будавання» (Віцебск, 1930) апублікаваў паэму «На рыштаванні».

228. Катановіч Ахрэм Як. Нарадзіўся 18 мая 1904 г. у в. Зайрудзь Аршанскага раёна. У 1915—1920 гг. батрачыў. З 1922 г. вучыўся ў Віцебскім педтэхнікуме. Быў членам Віцебскай філіі «Маладняка». Друкаваў вершы ў газеце «Заря Запада».

229. Беларуская сялянска-рабочая грамада — масавая легальная рэвалюцыйна-дэмакратычная арганізацыя ў Заходняй Беларусі ў 1925—1927 гг.

230. Гараўскі Вільгельм. Нарадзіўся ў 1908 г. на Барысаўшчыне. Скончыў польскі педтэхнікум у Мінску. Настаўнічаў. Пісаў апавяданні.

231. Губарэвіч Кастусь (Канстанцін Лявонавіч; н. 1907) — беларускі савецкі драматург. Заслужаны дзеяч мастацтва БССР (1966).

232. Гушчар — псеўданім Жыткевіча Зміцера Максімавіча (1904—1955). Працаваў сакратаром газеты «Віцебскі пралетарый». Пісаў вершы і апавяданні. Друкаваўся з 1924 г. у газеце «Савецкая Беларусь». Публікаваўся ў газеце «Чырвоная Полаччына», віцебскім альманаху «Світанне» (1927) і інш.

233. Гл. заўвагу 100.

234. Гарбацэвіч Васіль Савіч (н. 1893) — беларускі савецкі драматург і педагог. Заслужаны настаўнік БССР (1947).

235. Піліпенка Сяргей Уладзіміравіч (1891—1943) — украінскі савецкі пісьменнік. Перакладаў на ўкраінскую мову творы Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі, Ц. Гартнага, М. Чарота і інш.

236. М. Грашч.— псеўданім Грашчанкі Макара Іванаві-

ча. Нарадзіўся ў 1905 г. Настаўнічаў. Быў кіраўніком Гомельскай філіі «Маладняка».

237. А. М — ка — крыптанім А. П. Мардвілкі.

238. А. Лясны — псеўданім А. П. Мардвілкі.

239. С. Дробуш — псеўданім Ю. П. Гаўрука.

240. Т. Глыбоцкі — псеўданім Дайлідовіча Аляксандра Аляксандравіча (Алеся Дудара; 1904—1946), пад якім ён выступаў у крытыцы і выдаў зборнік артыкулаў «Пра літаратурныя справы» (1928).

241. Міхась Лынькоў нарадзіўся ў в. Зазыбы Лёзненскага р-на Віцебскай вобл.

242. Стрэчняму (абласное) — дваюраднаму.

## Пісьмы

243. Ліст М. І. Гарэцкага ў рэдакцыю газеты «Наша ніва» друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які зберагаецца ў Рукапісным аддзеле Цэнтральнай бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР у Вільнюсе. Фонд 21, справа 149, арк. 1. Там зберагаецца і ліст М. І. Гарэцкага ад 16 чэрвеня 1913 г. Выяўлены І. У. Саламевічам.

244. Друкуецца ўпершыню паводле аўтографа, які зберагаецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР у Мінску. Ф. 4, вопіс 1, справа 19, арк. 38. Выяўлены В. У. Скалабанам.

245. Друкуюцца ўпершыню паводле аўтографаў, якія зберагаюцца ў Архіве Акадэміі навук СССР у Ленінградзе. Ф. 292, воп. 2, адз. зах. 37, арк. 1—5. Выяўлены І. У. Саламевічам.

246. Владимиров П. В. Доктор Франциск Скорина. Его переводы, печатные издания и язык (1888).

247. Чачот Ян (1796—1847) — беларускі і польскі паэт, фальклярыст. Сабраў і апублікаваў у 6-ці зборніках (у перакладзе па-польску і ў арыгінале) каля 1000 беларускіх народных песень.

248. Пацей Іпацій (1541—1613) — дзяржаўны, палітычны і царкоўны дзеяч Вялікага княства Літоўскага. Аўтар палемічных твораў на польскай і беларускай мовах, накіраваных супраць абаронцаў праваслаўя.

249. Зязюля Андрэй (Астрамовіч Аляксандр Сцяпанавіч; 1878—1921) — беларускі клерыкальны паэт.

250. Зямкевіч Рамуальд Аляксандравіч (1881—1943 ці 1944) — беларускі бібліяфіл, бібліёграф, публіцыст і гісторык беларускай літаратуры.

251. Даўгяла Дзмітрый Іванавіч (1868—1942) — беларускі савецкі гісторык, археограф, крыніцазнаўца.

252. Рэцэнзія ў «Полымі» падпісана «Дорндорф», што па-нямецку азначае «Вясковая калючка».

253. У Германіі выйшла кніжка Я. Ф. Карскага «Geschichte der weisrussischen Volksdichtung und Literatur. Slavischer Grundriss. Berlin und Leipzig, 1926.

254. Друкуюцца ўпершыню паводле рукапісаў, якія зберагаюцца ў Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Фундаментальнай бібліятэкі імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР. Ф. 7, воп. 1, адз. зах. 45; ф. 7, воп. 2, адз. зах. 34.

У сям'і Лёню Гарэцкага звалі Ле́ня. У пісьмах бацькі яго імя так найчасцей і перадаецца. Але трапляюцца і напісанні праз «ё» — Лёня. Тут ва ўсіх выпадках імя Леаніда Гарэцкага перадаем праз «ё».

255. Гурык — Гаўрыла Іванавіч Гарэцкі, брат М. І. Гарэцкага.

256. Ліст адрасаваны бацькам у Багацькаўку.

257. Вяцкі сусед М. Гарэцкага.

258. Ганначка — сястра пісьменніка, якая трагічна загінула ў Маскве ў верасні 1922 г. Гл. заўвагу 9.

259. Гаворка пра ўзрыў у лабараторыі, дзе працавала Леаніла Усцінаўна — жонка М. Гарэцкага.

260. «Сямейная кроніка» — «Камароўская хроніка».

261. Гл. заўвагу 81.

262. Старэйшы брат М. Гарэцкага Іван (1889—1939).

263. Старэйшы сын Гаўрылы Іванавіча Гарэцкага. Гл. заўвагу 79.

264. Герой аднайменнай п'есы М. Гарэцкага.

265. Герой задуманага пісьменнікам твора, які не быў напісаны.

266. Пляменніца М. Гарэцкага, дачка яго старэйшага брата Івана.

267. У «Камароўскай хроніцы» жонка М. Гарэцкага Леаніла Усцінаўна паслужыла прататыпам гераіні Ласкі (яна ж — Міла, Лёля).

268. Крушняю М. Гарэцкі называе Вольшу ў Магілёўскай вобласці, дзе ён вучыўся, а Норкамі — Горы-Горкі.

269. «Беларусь калгасная» — штомесячны літаратурна-мастацкі часопіс, які выдаваўся ў Мінску ў 1932 г. Аб'яднаннем пралетарска-калгасных пісьменнікаў Беларусі. Выйшла 8 нумароў.

270. Газета «Літаратура і мастацтва» пачала выходзіць у Мінску з 26 лютага 1932 г.

271. Лявон — герой «Камароўскай хронікі». Прататып яго — сам М. Гарэцкі. Крутагорскам у «Камароўскай хроніцы» названа Вятка.

272. На паштоўцы М. Гарэцкі так напісаў адрас: Белорусская ССР, г. Минск, Заслявская улица, д. 5, кв. 1 Леониле Устиновне Горе-Го́рецкой і свой адваротны: От Левониуса Задумекуса г. Крутогорск, ул. Свободы, 109, кв. 4.

273. У «Маладняку», 1928, № 4 друкаваўся артыкул М. Гарэцкага «Беларуская літаратура пасля «Нашае нівы». Гл. с. 193—209 гэтага зборніка.

274. Мінін Сяргей Канстанцінавіч (1882—1962) — удзельнік рэвалюцыйнага руху ў Расіі.

275. Гл. заўвагу 126.

276. Мясцовае багацькаўскае: яшчэ ў горадзе.

277. Пясочня — г. Кіраў цяперашняй Калужскай вобл.

278. У. І. Пічэта.

279. Камсод — камітэт садзеяння.
280. Садовыя ягады — ірга.
281. Жопка Парфіра Гарэцкага — Максімавага брата.
282. Гэты сказ дапісаў Лёня Гарэцкі.
283. Домна і Таццяна — сёстры Анісі Гарэцкай.
284. Галя і Клаўдзя — пляменніцы М. Гарэцкага, дочкі яго брата Івана.
285. Ганка — дваюрадная сястра М. Гарэцкага Агата Раманцэвіч.
286. Гл. заўвагу 131.
287. Гаворка пра сястру Л. М. Гарэцкага Галіну Максімаўну.

*Янка Саламевіч*

# ЗМЕСТ

## Са спадчыны Максіма Гарэцкага



## Пісьмы



## Бібліяграфічны паказальнік і каментарыі

**Максім** Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, да-
М 15 кументы/[Склад. А. С. Ліс, І. У. Саламевіч; Бібліягр. паказ. і камент. І. У. Саламевіча].— Мн.: Маст. літ., 1984.— 366 с., 8 л. іл.
У пер.: 1 р. 90 к.

Друкуюцца ўспаміны людзей, якія асабіста ведалі класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага, працавалі ці сустракаліся з ім у розныя гады яго жыцця.

Значнае месца ў зборніку займаюць дакументы, біяграфічныя матэрыялы, лісты і літаратурна-крытычныя артыкулы Максіма Гарэцкага, а таксама бібліяграфічны спіс друкаваных твораў і артыкулаў даследчыкаў яго творчасці.

$М\frac{4603010202-053}{М302(05)-84}$ 95—83

ББК 83.3Бел7

Составители

АРСЕНЬ СЕРГЕЕВИЧ ЛИС
ИВАН ВЛАДИМИРОВИЧ СОЛОМЕВИЧ

---

**МАКСИМ ГОРЕЦКИЙ**

*Воспоминания,
статьи, документы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

*Рэдактар А. С. Разанаў*
*Мастак В. П. Масцераў*
*Мастацкі рэдактар А. І. Труханава*
*Тэхнічны рэдактар Т. М. Сокал*
*Карэктар Т. М. Собалева*

ІБ № 1797

Здадзена ў набор 18.04.83. Падп. да друку 26.01.84. АТ 05511. Фармат 84×100¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 17,94+0,78 укл. Ум. фарб.-адб. 19,94. Ул.-выд. арк. 18,74. Тыраж 3000 экз. Зак. 3537. Цана 1 р. 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.